# ЗАВОЧН
# КОМВУЗ

ЗАВОЧНІК БЕЛАРУСІ

ШТОМЕСЯЧНА
ЧАСОПІСЬ
ІНСТЫТУТУ
МАСАВАГА
ЗАВОЧНАГА
НАВУЧАНЬНЯ
ПАРТАКТЫВУ
пры ЦК КП(б)Б



КУРС
ПАДРЫХТОЎЧЫ
І ПЕРШЫ

БЕЛАРУСКАЕ
ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА

## № 7

ІНСТЫТУТ МАСАВАГА ЗАВОЧНАГА НАВУЧАНЬНЯ
ПАРТАКТЫВУ пры ЦК КП(б)Б

ЗАВОЧНІК БЕЛАРУСІ




СЭРЫЯ

# ЗАВОЧНЫ КОМВУЗ

№ 7
ЖНІВЕНЬ



МЕНСК

БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА 1931

Аддзяленьні падрыхтоўчыя.
*Курс вядзе І. Ю. МІЦКЕВІЧ.*

# ЗАДАНЬНЕ СЁМАЕ.

## А. З МОРФОЛЁГІІ.

### ЧАСЬЦІНЫ МОВЫ І ІХ ПАДЗЕЛ.

### § 103. Дзеяслоў.

Пра дзеяслоў мы ведаем наступнае:

1) Дзеяслоў—гэта форменае зьменнае слова, канчаткі-флексіі якога маюць уласьціваськь зьмяняцца ў залежнасьці ад асобы і ліку.

**Прыклады:**

| *Адзіночны лік.* | | *Множны лік.* | |
|---|---|---|---|
| Я вяз-*у* | маўч-*у* | Мы вяз-*ем* | маўч-*ым* |
| Ты вяз-*еш* | маўч-*ыш* | Вы вез-*яце* | маўч-*ыце* |
| Ён вяз-*е* | маўч-*ыць* | Яны вяз-*уць* | маўч-*аць* |

2) Дзеяслоў звычайна вызначае дзеяньне ці стан прадмета: *працую, сяку, маўчу, сплю.*

3) У сказе дзеяслоў адказвае на пытаньне—*што раблю?, што робіць?, што рабілі, і г. д.* і заўсёды зьяўляецца там выказьнікам.

Вось што мы ўжо ведаем пра дзеяслоў, як часьціну нашае мовы.

Але-ж гэтымі данымі далёка ня вычэрпваюцца ўсе ўласьцівасьці дзеяслова, усе яго асаблівасьці. Дзеяслоў, як мы ведаем, зьяўляючыся выказьнікам, адыгрывае ў мове выключна важную ролю. Без дзеяслова, наяўнага ці хоць-бы мысьлімага, нельга пабудаваць сказу. А тым часам адным дзеясловам, адным дзеяслоўным словам мы можам часта выказаць усю сваю думку, усе свае пажаданьні ў поўнай меры: *Вечарэе. Раздажджылася. Стой! Садзецеся і г. д.*

І, разумеецца, выключна важнаму стану дзеяслова ў мове адпавядае разнастайнасьць і багацьце дзеяслоўных форм. Да разгляду іх мы і приступаем зараз.

## § 104. Дзеяслоўныя станы.

Разгледзьце табліцу спражэньня двух паданых ніжэй дзеясловаў і адкажэце, што ў іх ёсьць агульнага як з боку формы, так і значэньня, і чым яны між сабою розьняцца?

*Адзіночны лік.*

| | | |
|---|---|---|
| 1 асоба | умыва-*ю* | умыва-*ю*-ся |
| 2 „ | умыва-*еш* | умыва-*еш*-ся |
| 3 „ | умыва-*е*(ць) *) | умыва-*ец*-ца |

*Множны лік.*

| | | |
|---|---|---|
| 1 асоба | умыва-*ем* | умыва-*ем*-ся |
| 2 „ | умыва-*еце* | умыва-*еце*-ся |
| 3 „ | умыва-*юць* | умыва-*юц*-ца |

Што-ж у іх ёсьць агульнага з боку формы?

Па-першае, аснова—*„умыва“* і, па-другое, асабовыя канчаткі—*ю, еш, е(ць)*—адзіночнага ліку, *ем, еце, юць*—множнага ліку.

А што ў іх агульнага з боку зьместу, з сэнсавага боку?

Абодвы дзеясловы азначаюць адно і тое-ж дзеяньне, зьвязанае з мыцьцём каго-небудзь ці што-небудзь.

У чым-жа розьніца між данымі дзеясловамі?

З боку значэньня розьніца ў наступным:

1) Першы дзеяслоў гаворыць нам аб пераходзе дзеяньня ад аднаго прадмета (**дзейніка**) на другі прадмет (**на дапаўненьне**).

**Я** ← умываю → **галаву** *(каго-што?).*
**Ты** ← умываеш → **твар** *(каго-што?).*
**Ён** / **Яна** / **Яно** ← умывае(ць) *) → **рукі** *(каго-што?).*

2) Другі-ж дзеяслоў гаворыць аб пераходзе дзеяньня на дзеячы-ж прадмет, чаму пасьля яго ці зусім нельга паставіць пытаньня залежнага склону *(каго-што?)*, ці можна паставіць пытаньне толькі **творнага склону**—*кім-чым?*

1.

**Я** ← умываю-*ся*
**Ты** ← умываеш-*ся*
**Ён** / **Яна** / **Яно** ← умываец-*ца*

*Паставіць пытаньне залежнага склону нельга.*

*) „ЦЬ“, узяты ў дужкі, паказвае, што некаторыя формы дзеясловаў у трэцяй асобе адзіночнага ліку могуць канчацца на галосную (е, э, а), а могуць канчацца, як іншыя дзеясловы, на „ць“ (ець, эць, аць). Аб гэтым належна будзе сказаць далей—у § 111 заўвага 1-я.

II.

Я ← умываю-*ся* → рукамі (*кім-чым?*).
Ты ← умываеш-*ся* → вадою (*кім-чым?*).
Ён, Яна, Яно ← умываец-*ца* → губкаю (*кім-чым?*).

Значыць, уся розьніца між першым дзеясловам і другім з сэнсавага боку заключаецца ў накіраванасьці дзеяньня, што выражаецца тым ці другім дзеясловам, у стане гэтага дзеяньня. Так, пры дзеясловах першае формы (*бяз „ся“, „ца“*) дзеяньне ад дзеячае асобы (дзейніка) пераходзіць на другі прадмет (дапаўненьне); дык пры дзеясловах-жа другое формы, пры дзеясловах з *„ся“—„ца“*, дзеяньне ў тым ці іншым сэнсе пераходзіць на дзеячы-ж прадмет—на дзейнік. Вось у чым сэнсавая розьніца паміж дзеясловамі першае формы і дзеясловамі другое.

Чым-жа, якою формальнаю адзінкаю абумоўліваецца гэтая сэнсавая розьніца двух разгледжаных дзеясloў?

Выключна тым, што другі дзеяслоў у канцы, пасьля асабовага канчатку-флексіі, мае дадатак для першае і другое асобы—*„ся“*, а для трэцяе асобы—*„ца“* (параўнай адзіночны і множны лік).

Відавочна, што ўся розьніца ў значэньні нашых дзеясloў і абумоўліваецца вось гэтым дадаткам, гэтаю спэцыфічнаю часткаю слова, якая і прыдае другому дзеяслову сэнс зваротнасьці дзеяньня на дзеячы-ж прадмет.

Увага: Дзеяслоўны дадатак (*ся, ца*) ёсьць па істоце сваёй скарочанае называльнае слова *„сябе“—„ся“*, якое раней заўсёды пры дзеясловах з зваротным станам дзеяньня ўжывалася, як самастойнае слова, пры чым знаходзілася ня толькі пасьля дзеяслова, а і перад дзеясловам. Дый зараз гэтае *„ся“—„ца“* можа ўжывацца і ўжываецца, як самастойнае слова, бо мы зможам сказаць: 1) *Я сябе ўмываю.* 2) *Я ўмываю сябе.* 3) *Я ўмываюся.* Сэнс усіх трох фраз абсолютна аднолькавы, ня гледзячы на рознае палажэньне *„сябе“—„ся“* і на рознае яго афармленьне.

Што-ж датычыцца *„ца“*, якое ў трэцяй асобе адзіночнага і множнага ліку замяняе сабою *„ся“*, дык яно ёсьць вынік зьявы чыста фонэтычнае, вынік прыпадабненьня, ці асыміляцыі, пра якую ў нас была гутарка ў 4 заданьні. Тут у трэцяй асобе адбываецца па істоце зьбег зычных *„цься“* („ён *мыець-ся*“, яны *мыюць-ся*), злучэньне-ж *ць*+*ся* дае ў вымаўленьні, і на пісьме *ца*: *мыецца, сьмяецца, змагаецца і г. д.*

Які-ж з усяго сказанага вывад?

**Заўважце:**

1) Сярод дзеясловаў сустракаюцца такія дзеясловы, якія канчаюцца толькі асабовымі канчаткамі-флексіямі, і ёсьць такія, якія, апроч асабовых канчаткаў, маюць суфікс *„ся“—„ца“*, што знаходзіцца не перад канчаткам, а за канчаткам, у самым канцы слова: *вучу-вучуся-вучыцца, чышчу-чышчуся-чысьціцца, валю-валюся-валіцца.*

2) Гэтаю дваістасьцю свае формы дзеясловы вызначаюць стан, накіраванасьць дзеяньня, што мысьліцца ў зьмесьце дзеяслова, чаму і тая і другая форма дзеясловаў (з *„ся“—„ца“* і бяз *„ся“—„ца“*) называецца дзеяслоўным станам: дзеясловы з *„ся“—„ца“*—зваротнага стану, а дзеясловы без *„ся“—„ца“*—незваротнага стану.

3) Большасьць дзеясловаў, як і ўсе вышэй паданыя, могуць быць і ў форме зваротнага і ў форме незваротнага стану: *будую-будуюся-будуюцца, прызнаю-прызнаюся-прызнаюцца.*

Але-ж поруч з гэтымі дзеясловамі ёсьць такія, якія ня злучаюцца з *„ся“*: *працую, гуляю, плаваю, сплю, сяджу, ляжу, і г. д.* а, з другога боку—і такія, якія бяз *„ся“* не ўжываюцца: *баюся, сьмяюся, стараюся, спадзяваюся і інш.*

4) Частка слова *„ся“*, стоячы ў першай асобе, часом скарачаецца і перадаецца цераз *„сь“*. Гэта бывае выключна ў вершаванай мове, калі такога скарачэньня патрабуе рытм верша.

*ЗАДАЧА 135.*

Ніжэй паданы тэкст перадаць пісьмова, падмяняючы першую асобу *„я“* што спатыкаецца ў тэксьце, спачатку другою асобаю адзіночнага ліку *(ты)*, а потым трэцяю *(ён)* мяняючы адпаведным чынам і асабовыя формы дзеясловаў. Дзеяслоўныя канчаткі і суфікс *„ся“* вылучайце рыскамі па ўзоры першае табліцы.

ЛІСТ.

У першы раз у маім жыцьці я пішу ліст. Я цяпер працую на заводзе. Я вучуся сьлясарнай справе і добра ў гэтым пасьпяваю. Пасьля работы ў мяне ёсьць час і для адпачынку. Прыходжу я з работы, умываюся, пераадзяюся, адпачываю, а потым іду ў вячэрнюю школу пры заводзе. Там я вучуся ленінізму, тэхнолёгіі і пазнаю многа цікавага. У вольны час вучу нават свайго малога брата грамаце.

## § 105. Дзеяслоўныя часы.

Разьбярэцеся ў табліцы і выяўце характэрныя асаблівасьці ніжэй паданых дзеясловаў:

*Адзіночны лік.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 асоба | чыта-*ю* | *па*-чыта-*ю* | чыта-*ў* |
| 2 „ | чыта-*еш* | *па*-чыта-*еш* | чыта-*ў* |
| 3 „ | чыта-*е(ць)* | *па*-чыта-*е(ць)* | чыта-*ў* |

*Множны лік.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 асоба | чыта-*ем* | *па*-чыта-*ем* | чыта-*л-і* |
| 2 „ | чыта-*еце* | *па*-чыта-*еце* | чыта-*л-і* |
| 3 „ | чыта-*юць* | *па*-чыта-*юць* | чыта-*л-і* |

Чым падобны між сабою гэтыя тры дзеясловы?

Усе яны маюць адну і тую-ж аснову *„чыта“* і ўсе яны, у сілу гэтага, гавораць пра адзін і той-жа процэс дзеяньня, зьвязаны іменна з разуменьнем пра чытаньне. У гэтым іх падабенства.

А ў чым-жа іх асаблівасьці?

Разьбярэцеся спачатку з боку формы, г. зн. выяўце спачатку, якія формальныя часткі ў адных дзеясловах ёсьць, а ў другіх няма.

Супастаўляючы ўсе тыя дзеясловы з дзеясловам першага слупка, мы бачым, наступнае:

1) Дзеясловы другога слупка супроць першага ва ўсіх асобах маюць только адну лішнюю формальную частку—прыстаўку *„па“* працу-ю, *па*-працу-ю. Усе-ж астатнія часткі слова—аснова, канчаткі—зусім у іх аднолькавыя (прасачэце па табліцы).

2) Дзеясловы-ж трэцяга слупка ў параўнаньні з дзеясловамі першага маюць толькі ім уласьцівыя суфіксы: *„у“* для адзіночнага ліку і *„лі“* для множнага. Апроч таго, дзеясловы трэцяга слупка зусім ня маюць асабовых канчаткаў, якія ёсьць у дзеясловах першых двух слупкоў. Значыць, яны зусім не зьмяняюцца ў асобах, яны не спрагаюцца.

Вось якая розьніца між трыма нашымі дзеясловамі з формальнага боку.

А зараз прааналізуем, які зьмест укладваюць у кожны дзеяслоў адзначаныя намі формальныя асаблівасьці: які, значыць, сэнс прыдае прыстаўка *„па“* дзеясловам другога слупка, і які сэнс уносяць суфіксы *„ў-„л“* ў дзеясловы трэцяга.

Лёгка заўважыць, што розьніца ўсіх трох дзеясловаў з сэнсавага боку выключна ў вызначэньні часу, да якога адносіцца дзеяньне, выяўленае тым ці іншым дзеясловам.

Першы дзеяслоў, апрача ўсяго іншага (г. зн. апрача асобы, стану, ліку), сваёю асабовою формаю адначасова сьведчыць, што дзеяньне адбываецца зараз, у сучасны момант, у цяперашні час *(чыта-ю цяпер, чыта-юць цяпер, чыта-еце цяпер і г. д.)*.

Другі дзеяслоў сваею формаю, іменна прыстаўкаю *„па“*, паказвае, што дзеяньне зараз, у цяперашні час не адбываецца, але што яно будзе адбывацца ў часе будучым *(па-чытаю потым, разумеецца, па-чытаеце потым, калі-небудзь і г. д.)*.

Увага: 1. Прыстаўкі для ўтварэньня будучага часу могуць быць разнастайныя, а ня толькі *„па“*: пра-чытаю, вы-чытаю, зачытаю, на-чытаюся і інш.

Нарэшце, трэці дзеяслоў таксама сваею формаю, сваімі суфіксамі *„у“-„л“*, і адсутнасьцю асобавых канчаткаў, паказвае, што дзеяньне не адбываецца цяпер, што яно ня будзе адбывацца ў часе будучым, а што яно ўжо адбылося, значыць, выканана ў часе мінулым, **прошлым** часе *(чыта-ў—ужо, чыта-лі раней і г. д.)*.

Які-ж з усяго сказанага вывад?

**Заўважце:**

1. Акрамя асобы, ліку і стану, дзеясловы сваёю формаю могуць выражаць яшчэ *цяперашні, будучы* і *прошлы час*.

2. Дзеясловы **цяперашняга** часу паказваюць, што дзеяньне адбываецца зараз, у сучасны момант: *думаем, змагаюся, вучымся і г. д.*

Дзеясловы **будучага** часу паказваюць, што дзеяньне яшчэ будзе адбывацца: *падумаю, пазмагаюся, навучымся.*

Нарэшце, дзеясловы **прошлага** часу паказваюць, што дзеяньне ўжо адбылося: *думалі, падумалі, змагаліся, пазмагаўся, вучыліся, навучыліся і г. д.*

### *ЗАДАЧА 136.*

Выпісаць з тэксту ўсе дзеясловы, разьмеркаваўшы іх па прызнаках часоўнасьці.

1. Цяперашні час . . . . . . . . . . .
2. Будучы час . . . . . . . . . . . .
3. Прошлы час . . . . . . . . . . . .

Сябры!

У будайнічых рашучых паходах,
дзе сэрцы палаюць любімай зарой,
на карце вялікіх жывых пяцігодак
мы творчыя справы акрэсьлім мяжой . . . .

Хай новыя людзі назаўтра пабачаць,
як сэрцы імкнуліся край будаваць —
праз золь, праз мяцелі, паволі, па частках
гады ўслаўляла магутная раць . . . .

Пачуюць вялікую песьню заводаў,
убачаць няведаны росквіт зямлі,
і разам на карце жывых пяцігодак
пазнаюць, чым нашыя сэрцы жылі . . . . . .

А дні прабягаюць, а дні праміналоць,
а дні пераходзяць у творчы наступ,—
і з кожнай комунай, станком і трамваем
імклівыя сэрцы агнісьцей цьвітуць . . . . .

Адзінай комунай, ячэйкай адзінай,
пад крок пяцігодак, пад грукат гадзін
ўздымем краіну, уславім краіну,
у творчай, вялікай красе адрадзім. . . . . .

**Куляшоў.**

## § 106. Форма дзеясловных часоў.

### I. Форма цяперашняга часу.

З прыведзеных у папярэднім параграфе прыкладаў мы бачым, што формаю цяперашняга часу зьяўляецца форма асабовая. Гэта значыць, што канчатак дзеяслова тае ці іншае асобы аднгачасова вызначае і цяперашні час:

Цяперашні час.

*Адзіночны лік.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 асоба | няс-*у* | крыч-*у* | дума-*ю* | хвал-*ю* |
| 2 „ | няс-*еш* | крыч-*ыш* | дума-*еш* | хвал-*іш* |
| 3 „ | няс-*е (ць)* | крыч-*ыць* | дума-*е(ць)* | хвал-*іць* |

*Множны лік.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 асоба | няс-*ом (ём)* | крыч-*ым* | дума-*ем* | хвал-*ім* |
| 2 „ | нес-*яце* | крыч-*ыце* | дума-*еце* | хвал-*іце* |
| 3 „ | няс-*уць* | крыч-*аць* | дума-*юць* | хвал-*яць* |

Як бачыце, вылучаныя намі канчаткі ўсіх чатырох дзеясловаў — канчаткі асабовыя. Кожная з іх прыдае спэцыфічную форму дзеяслову, якая і паказвае на прыналежнасьць яго да пэўнае асобы. Але-ж мы адчуваем, што кожная асабовая форма, ці належыць яна да першае, ці да другое, ці да трэцяе асобы, да адзіночнага, ці да множнага ліку, аднгачасова выражае і цяперашні час; кожная з іх паказвае, што дзеяньне адбываецца іменна цяпер у сучасны момант. Значыць, форма цяперашняга часу ёсьць аднгачасова і асабовая форма дзеяслова.

## II. Форма будучага часу.

### а) Будучы просты час.

У папярэднім параграфе мы ўжо адзначылі, што розьніцы ў канчатках цяперашняга і будучага часу ніякае няма. Адгэтуль вынікае тое, што і для будучага часу характэрнаю формаю зьяўляецца форма асабовая.

Чым усё-ж такі мы выражаем будучы дзеяслоўны час, карыстаючыся асабовою формаю цяперашняга часу?

А тым у большасьці выпадкаў, што да формы цяперашняга часу дадаем тую ці іншую прыстаўку, часьцей усяго прыстаўку *„па“*. Вось гэтыя прыстаўкі і прыдаюць асабовай форме дзеяслова характар будучага часу—так званага *будучага (простага)* часу:

Будучы час (просты).

*Адзіночны лік.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 асоба | *па*-няс-*у* | *за*-крыч-*у*, | *пра*-дума-*ю*, | *па*-хвал-*ю* |
| 2 „ | *па*-няс-*еш* | *за*-крыч-*ыш*, | *пра*-дума-*еш*, | *па*-хвал-*іш* |
| 3 „ | *па*-няс-*е* | *за*-крыч-*ыць*, | *пра*-дума-*е*, | *па*-хвал-*іць* |

*Множны лік.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 асоба | *па*-няс-*ом* | *за*-крыч-*ым* | *пра*-дума-*ем* | *па*-хвал-*ім* |
| 2 „ | *па*-няс-*яце* | *за*-крыч-*ыце* | *пра*-дума-*еце* | *па*-хвал-*іце* |
| 3 „ | *па*-няс-*уць* | *за*-крыч-*аць* | *пра*-дума-*юць* | *па*-хвал-*яць* |

Параўнайце даную табліцу з табліцай дзеясловаў цяперашняга часу, і вы пабачыце, што будучы час ва ўсіх узятых намі дзеясловах утварыўся ад формы цяперашняга часу праз тую ці іншую прыстаўку.

Але-ж ёсьць дзеясловы будучага часу, якія пры асабовай форме ня маюць прыставак: *буду, дам, куплю, сяду, выну, вазьму, стукну, гляну* і г. д.

Будучы час у такіх дзеясловах выражаецца рознымі спосабамі, а іменна: часам зусім новым гукавым складам усяго дзеяслова:

ёсьць——буду
бяру——вазьму;

часам чаргаваньне суфіксаў:

грук-*а*-ю——грук-*н*-у
стук-*а*-ю——стук-*н*-у;

часам чаргаваньнем зычных асновы:

ля-*ж*-у——ля-*г*-у
ся-*дж*-у——ся-*д*-у і г. д.

Разгледжаная намі форма будучага часу, не залежна ад спосабу яе ўтварэньня, называецца простаю формаю будучага часу, ці скарочана—**просты будучы час.**

Але ёсьць яшчэ складаная форма будучага часу, так званы—**будучы складаны час**, да разгляду якога мы зараз і пераходзім.

б) Будучы складаны час.

Разгледзьце ніжэй паданую табліцу і вызначце самі, ці маем мы тут будучы час і якім спосабам гэты будучы час утвараецца?

*Адзіночны лік.*

| | | |
|---|---|---|
| 1 асоба | працу-*ю* | буд-*у* працаваць |
| 2 „ | працу-*еш* | будз-*еш* працаваць |
| 3 „ | працу-*(е)ць* | будз-*е(ць)* працаваць |

*Множны лік.*

| | | |
|---|---|---|
| 1 асоба | працу-*ем* | буд-*ем* працаваць |
| 2 „ | працу-*еце* | буд-*еце* працаваць |
| 3 „ | працу-*юць* | буд-*уць* працаваць |

Што-ж мы ў гэтай табліцы бачым?

Спражэньне дзеяслова „*працую*", па-першае, у форме **цяперашняга** часу (гл. першы рад) і, па-другое, спражэньне таго-ж дзеяслова „працую" ў форме **будучага часу** (гл. другі рад).

Якім-жа чынам, мы тут дзеяслову „*працую*" прыдалі адзнаку **будучага часу**?

А так: Сам дзеяслоў „*працую*"—яго спрагальную форму—мы паставілі ў форме зусім **нязьменнай, неспрагальнай**—„*працаваць*" (што рабіць?)—і дадалі да яго ў якасьці дапаможніка спрагальны дзеяслоў **будучага простага часу**—„*буду*". Вось, такім чынам, два дзеясловы разам—„*буду* і *працаваць*" і ўтварылі адну форму будучага часу, „*буду працаваць*", якая і завецца **будучым складаным** часам. Гэтая форма будучага часу завецца складанаю таму іменна, што заўсёды складаецца з двух дзеясловаў: з асноўнага дзеяслова, які ў даным выпадку набывае зусім неспрагальную форму—так званую форму неазначальную—і з дапаможнага дзеяслова „*буду*" ў форме будучага простага часу, які спрагаецца, як і ўсякі дзеяслоў з асабоваю формаю.

Прагледзьце яшчэ раз табліцу спражэньня дзеяслова „*працую*" ў форме будучага складанага часу, і вы пабачыце наступнае:

1) ва ўсіх асобах, у абодвых ліках асноўны дзеяслоў „*працую*" мае адну нязьменную, т. зв. **неазначальную форму** дзеяслова—„*працаваць*".

і 2) звычайную асабовую зьмену канчаткаў дапаможнага дзеяслова „*буду*": *Я* буд-у *працаваць, ты* будз-еш *працаваць і г. д.*

Дык вось як утвараецца форма будачага складанага часу і вось якая розьніца паміж простаю і складанаю яго формаю.

Але-ж тут неабходна азначыць яшчэ наступнае:

1) Дзеяслоў *„буду“*, зьяўляючыся дапаможным дзеясловам пры ўтварэньні будучага складанага часу, можа ўжывацца і ўжываецца зусім самастойным спрагальным дзеясловам, самастойным выказьнікам, у форме будучага простага часу: Мы скора *будзем* дома. Ты заўтра *будзеш* дакладчыкам. Я калі-небудзь *буду* ў лесе.

2) Дзеяслоў *„буду“* ў справе ўтварэньня будучага складанага часу можа замяняцца і часта замяняецца ў нас яшчэ дзеясловамі *„маю“*, *„мушу“*, а часом старажытным дзеясловам *„іму“* (*„імею“*).

3) Пры дапаможных дзеясловах *„маю“*, *„мушу“* будучы складаны час выражаецца таксама, як і пры дзеяслове *„буду“*, г. зн., сам асноўны дзеяслоў набывае неазначальную, неспрагальную форму, а паказьнікамі асобы і будучага часу зьяўляюцца яго дапаможныя дзеясловы *„маю“* *„мушу“*.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 асоба | ма-*ю* | муш-*у* | пісаць |
| 2 „ | ма-*еш* | мус-*іш* | пісаць |
| 3 „ | ма-*е(ць)* | мус-*іць* | пісаць і г. д. |

Што-ж тычыцца да дзеяслова *„іму“*, дык яго ўжываньне ў форме будучага складанага часу некалькі напамінае ўжываньне слова *„сябе“* ў дзеясловах зваротнага стану, дзе *„сябе“* спрашчаецца да *„ся“* і прылучаецца, як суфікс, да канчатку дзеяслова.

Тое-ж з знадворнага боку адбываецца і з дзеясловам *„іму“* і ён траціць пачатковы гук *„і“* і далуечацца да канчатку неазначальнае формы асноўнага дзеяслова: глядзець-*му*, чытаць-*му*, гаварыць-*му* і г. д. Але-ж гэтым і канчаецца падабенства *„сябе“* і *„іму“*. *„Сябе“*—*„ся“*, як вядома, пры ўсякіх зьменах самага дзеяслова застаецца нязьменным, ня лічачы прыпадабненьня *„цс“*—*„цц“*. Дзеяслоў-жа *„ім“*—*„му“* у далейшым спрагаецца, зьмяняючы свае асабовыя канчаткі, як і ўсякі асабовы дзеяслоў:

*Адзіночны лік.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 асоба | глядзецьм-*у* | чытацьм-*у* | гаварыцьм-*у* |
| 2 „ | глядзецьм-*еш* | чытацьм-*еш* | гаварыцьм-*еш* |
| 3 „ | глядзецьм-*е* | чытацьм-*е* | гаварыцьм-*е* |

*Множны лік.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 асоба | глядзецьм-*ем* | чытацьм-*ем* | гаварыцьм-*ем* |
| 2 „ | глядзецьм-*еце* | чытацьм-*еце* | гаварыцьм-*еце* |
| 3 „ | глядзецьм-*уць* | чытацьм-*уць* | гаварыцьм-*уць* |

Як бачыце, асноўныя дзеясловы ў будучым складаным часе—*глядзець, чытаць, гаварыць*—ва ўсіх асобах і тут застаюцца нязьменнымі,

як дзеясловы неазначальнае формы. Спрагаецца толькі дапаможны дзеяслоў *„іму“*, які заняў той сваясаблівы стан, аб якім *толькі-што* была гутарка.

4) Дзеяслоў *„іму“*—дыялектычная асаблівасьць беларускае жывое мовы, далёка не распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі, чаму і мала вядомы. Тым часам у беларускай мастацкай літаратуры ён—далёка ня рэдкая зьява:

Дружа! Твой шлях
не закінуць другія
горда сігаць-мучь
у творчую высь.

**Ліхадзіеўскі.**

### III. Форма прошлага (мінулага) часу.

Вярнецеся да табліцы спражэньня дзеяслова *„чытаю“*, прыведзенае ў пачатку § 105, і разгледзьце трэці рад яе—*спражэньне дзеяслова ў форме прошлага часу.*

Як бачыце, дзеясловы прошлага часу не спрагаюцца, г. зн. яны ня маюць канчаткаў-флексій дзеля выяўленьня асобы, чаму і дапасуюцца ў аднолькавай форме да ўсіх асоб.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 | асоба | глядзе-*ў* | чыта-*ў* | гавары-*ў* |
| 2 | „ | глядзе-*ў* | чыта-*ў* | гавары-*ў* |
| 3 | „ | глядзе-*ў* | чыта-*ў* | гавары-*ў* і г. д. |

Чым-жа, якою формаю вызначаецца ў іх час?

Прыгледзьцеся да формы ўсіх прыведзеных вышэй дзеясловаў прошлага часу. Вы бачыце, што ўсе яны маюць аднолькавы на канцы гук *„ў“*. Вось гэтае *„ў“* у даным выпадку прыдае дзеясловам форму прошлага часу. Але гук *„ў“* будзе паказальнікам прошлага часу пры адзіночным ліку. Ва множным-жа ліку (гл. табліцу § 105) на месцы гука *„ў“* мы маем *„л“*, *глядзе-л-і, чыта-л-і, гавары-л-і.* Таксама на месца *„ў“*—адзнакі дзеясловаў прошлага часу—мы спатыкаем *„л“* калі дзеяслоў будзе жаночага ці ніякага роду: *глядзе-л-а, чыта-л-а, гавары-л-а, зайш-л-о і г. д.*

Такім чынам, формальнай адзнакаю дзеясловаў прошлага часу зьяўляецца не асабовы канчатак, а гук *„л“*, які пасьля галосных у канцы слова, як вядома, пераходзіць у *„ў“*. Гэтае *„л“*—*„ў“* ёсьць ня што іншае, як суфікс, які і прыдае дзеясловам форму прошлага часу.

Значыць, форма дзеясловаў прошлага часу выражаецца суфіксам *„л“*: нес-*л*-і, гавары-*л*-а, сьмяя-*л*-іся, і г. д.

Пасьля галосных у канцы слова гук *„л“* па закону нашае мовы дае *„ў“*: гавары-*ў*, сьмяя-*ў*-ся, абараня-*ў* і г. д.

Але-ж спатыкаюцца такія дзеясловы, у якіх перад суфіксам *„л“* будзе не галосны гук, а зычны: нес-*л*-а, вязь-*л*-і, памаг-*л*-а, памер-*л*-і і г. д. Такія дзеясловы ў адзіночным ліку мужчынскага роду тра-

цяць *„л“—„ў“*, бо пасьля зычнага ў канцы слова гук *„ў“* утварыцца ня можа. Такім чынам, сярод дзеясловаў прошлага часу можна спаткаць такія дзеяслоўныя формы, якія тым і будуць вызначаць прошлы час, што ў іх іншы раз няма ніякае часоўнае формы: *нёс, вёз, памёр, памог, прарос, замёрз і інш.* У множным лікі ,а таксама ў жаночым і ніякім родзе гэтыя-ж дзеясловы заўсёды будуць мець характэрны для прошлага часу суфікс *„л“:* нес-*л*-а, везь-*л*-і, прарас-*л*-а, замерзь-*л*-і і г. д:

Дык так, дзеясловы прошлага часу ня маюць формы асобы; яны, значыць, дзеясловы неспрагальныя. Затое яны маюць іншую форму зьменнасьці, якая, агулам кажучы, не ўласьціва дзеясловам: яны **зьмяняюцца па родах.**

Мы, напрыклад, гаворым:

Я **ішоў** полем,
Ты **сьпяваў** песьні,
Ён **клікаў** нас да сябе.

А поруч з гэтым, можна гаварыць і так:

Я **ішла** полем,
Ты **сьпявала** песьні,
Яна **клікала** нас да сябе.

У тым і другім прыкладзе—дзеясловы прошлага часу. А чым-жа можна растлумачыць розьніцу іх дзеяслоўных форм: *ішоў—ішла, сьпяваў—сьпявала, клікаў—клікала?* Выключна прыналежнасьцю гэтых дзеясловаў да розных родаў.

У іншых прыкладах, акрамя часоўнага прызнаку *„л“*, ёсьць яшчэ канчатак *„а“*: *іш-л-а, сьпява-л-а.* Гэта форма жаночага роду прошлага часу. Такую форму дзеясловы пройшлага часу набываюць заўсёды, калі яны, як выказьнікі, дапасоўваюцца да назоўніка — дзейніка жаночага роду: *Прыйшла* вясна. *Зашумела* вада. *Зазелянела* трава. *Закіпела* на палёх работа.

Форма дзеясловаў першых прыкладаў называецца формаю мужчынскага роду, бо такую форму набываюць дзеясловы прошлага часу заўсёды, калі ў сказе дапасуюцца да назоўнікаў мужчынскага роду: *Налящеў* віхар. *Зашумеў* лес. *Заграхатаў* гром. *Лінуў* дождж.

Форма мужчынскага роду, як бачна з усіх прыкладаў, акрамя агульнае для прошлага часу адзнакі *„у“*, ніякага спэцыфічна родавага канчатку ня мае.

Поруч з формамі мужчынскага і жаночага роду дзеясловы прошлага часу маюць форму з канчаткам *О* (не паднаціскам *А*): *прыйшло, прынясло, узышло.* Гэта форма ніякага роду. Яна зьяўляецца ў дзеясловаў пройшлага часу, калі яны дапасуюцца ў сказе да назоўнікаў ніякага роду.

*Узыйшло* сонейка. *Прынясло* яно на зямлю сьвет і цяпло.

Усе тры дзеясloўныя роды адносяцца да адзіночнага ліку. Множны-ж лік ня мае і родовае формы, а толькі лікавую і канчаецца заўсёды на *„і“*: мы, вы, яны—*ішлі, сядзелі, гаманілі* і г. д.

Такім чынам, прошлы час, ня маючы асабовых канчаткаў, мае ў адзіночным ліку форму роду, зьмяняецца ў родзе, чаму прошлы час носіць яшчэ назву **родавае формы дзеяслова**. Цяперашні-ж і будучы просты называюцца **асабоваю формаю дзеяслова**.

### IV. Агульны вывад пра дзеясloўныя часы.

**Заўважце.**

1. Дзеясловы сваёю формаю могуць вызначаць ня толькі асобу, лік і стан, а яшчэ і час: 1) **цяперашні**, 2) **будучы**: а) **просты** і б) **складаны** і 3) **прошлы**.

2. **Цяперашні** час дзеяслова паказвае, што дзеяньне ці стан адбываецца зараз, у час, калі аб гэтым дзеяньні ці стане ідзе гутарка: *стаю, ходзім, вучыцца, спрачаюцца, піша, разумеюць* і г. д.

Будучы час гаворыць, што дзеяньне ці стан будуць адбывацца потым, пасьля таго часу, калі гаворыцца аб гэтым дзеяньні ці стане: *пастаю, пахаджу, буду вучыцца, будзем спрачацца* і г. д.

Прошлы час выражае дзеяньні ці стан, якія адбыліся да моманту гутаркі аб іх: *стаяў, стаяла, хадзілі, вучыўся, спрачалася* і г. д.

3. **Форму цяперашняга часу** складаюць асабовыя канчаткі дзеяслова: *дума-ю, дума-еш, дума-е(ць), дума-ем, дума-еце, дума-юць*.

4. **Формаю будучага простага часу** зьяўляюцца тыя-ж асабовыя канчаткі, што і часу цяперашняга, а к таму яшчэ і прыстаўкі, пры дапамозе якіх ад формы цяперашняга часу ўтвараецца форма будучага простага: *думаю—надумаю; спрачаюся—паспрачаюся.*

Спатыкаюцца, аднак, дзеясловы, якія выражаюць будучы просты час бяз прыстаўкі: *буду, стану, вазьму, лягу, сяду, і інш.* (глядзі аб іх § 106, II).

5. **Будучы складаны** час утвараецца злучэньнем двух дзеясловаў:

а) асноўнага, які прымае неазначальную форму, і

б) дапаможнага асабовага дзеяслова, якім у пераважнай большасьці зьяўляецца дзеяслоў **„буду“**, або дзеясловы—**„маю“**, **„мушу“**, **„іму“**.

Спражэньню падлягае толькі дапаможны дзеяслоў, пры чым дзеяслоў **„іму“** бяз гуку *„і“* далучаецца да канчатку неспрагальнае формы асноўнага дзеяслова і складае з ім як-бы адно слова: *гаварыцьму, гаварыцьмеш, гаварыцьме, гаварыцьмем, гаварыцьмеце, гаварыцьмуць.*

6. Адзнакаю дзеясловаў прошлага часу зьяўляецца тое, што яны ня маюць асабовых канчаткаў, значыць не спрагаюцца; яны зьмяняюцца толькі ў ліку і ў родзе—маюць, значыць, родавую форму.

Формальнаю адзнакаю прошлага часу зьяўляецца суфікс „л“—„ў“ *(думала, сядзелі, думаў, сядзеў).*

*ЗАДАЧА 137.*

З ніжэй паданых вершаў выпісаць дзеясловы, разьмеркаваўшы іх па графах такое табліцы.

| Цяперашні час | Асоба, лік | Будучы час: а) просты б) складаны | Асоба, лік | Прошлы час | Род, лік |
|---|---|---|---|---|---|
| Думае | 3, адз. | Паглядзім | 1, мн. | вырашала | ж., адз. |
| Чытаем | 1, мн. | Будзе журыцца | 3, адз. | чакалі | —мн. |
| Выдумляеце | 2, мн. | Пагаворань | 3, мн. | Загуло | н., адз. |

## САСНА.

Стаяў курган па-над ракою,
на ім высокая сасна
хістала буйнай галавою,
аб нечым думала яна.
Калі-ж над водамі пярсьцёнкам
ўзыходзіў месяц малады,
тады глядзелася сасонка
ў люстэрка сіняе вады.
Усё цьвіце... і адцьвітае...
тане на дно... плыве са дна!
Таму й галінамі хістае
ў смутку й радасьці сасна.

Трус.

## МУЗЫКА БАЛОТ.

На балоце, на балоце—чорны торф,
на балоце, на балоце—ячмяні.
Звонка, гучна прагудзеў матор,
сьпеў былога, сьпеў старога замяніў.
Шум чаротаў, трысьнікоў і шэпт асок
па расе расплыўся, парадзеў.
І чамусьці з востраю касой
гурт вясковых воінаў ня йдзе.

Маладое пакаленьне сочных траў
Зарунела, забуяла, узрасло.
А шырокая канава—магістраль
воду сьцягвае настойліва бяз слоў.
У балотным шалясьценьні—новы тон,
мілагучны, стройны консананс.
А ці мала знойдзецца выток
сьвежых песень, што ўзбадзёраць нас?!
На балоце, на балоце чорны торф,
а на торфе маладая рунь.
Прывітаньне пасылае-шле матор
моцнаму і новаму гаспадару.—
Тоны музыкі ня зрушаны нікім,
і прымаюць нівы зноў гасьцей.
А на ўзьмежку зацягнулі былінкі,
напяваюць: „Беларусь расьце!"

**Ліхадзіеўскі.**

## § 107. Неазначальная форма дзеяслова.

*(Інфінітыў).*

Зададаных урыўкаў выпішце вылучаныя дзеясловы і вызначце іх асаблівасьці ў параўнаньні з дзеясловамі, разгледжанымі намі раней.

1.

Т а в а р ы ш ы!
Прад намі задача
(Мы *не адступім* назад):
Краіну наноў,
*пераіначыць*
на соцыялістычны лад.
*Узьняць* у паднябесьсе
Заводаў гмахі,
*стварыць* усесаюзны колгас,
*рушыць* падзеі
ударным размахам,
нязьмерным энтузіязмам мас!

**Ракіта.**

2.

Заўсёды ўранку, уночы, на зьмерканьні
гатоў *стаяць* на варце нашых дзён,
гатоў, як акцябронак-галаштаньнік,
*пабегчы* ўдаль—жыцьцю на перагон.

**Звонак.**

3.

Мы ўмеем чэсна *ваяваць*,
мы ўмеем *плакаць* і *сьмяяцца*,
а ня ўмеем слабых *катаваць*
і законам моцных *закрывацца*.

**Кляшторны.**

Знаёмых нам дзеясловўных форм мы спатыкаем тут мала: *не адступім, умеем* і толькі. Усе-ж вылучаныя дзеясловы маюць для нас зусім новую форму.

| | | |
|---|---|---|
| ствары-ць | узьня-ць | ісь-ці |
| рушы-ць | стая-ць | пабег-чы |
| скончы-ць | ваява-ць | сьмяя-цца |
| | | закрыва-цца |

Вызначце, ці маюць усе даныя дзеясловы форму асобы?, форму часу?, форму ліку?, родавую форму? Не, нічога таго, што маюць раней разгледжаныя намі дзеясловы даныя дзеясловы ня маюць: ні асобы ні часу, ні роду, ні ліку яны не вызначаюць.

Заўважце:

1) Такая форма дзеяслова, якая ня мае ні асабовых, ні часоўных, ні родавых, ні лікавых адзнак, называецца **неазначальнаю формаю ці інфінітыў**.

2) Дзеясловы неазначальнае формы адказваюць на пытаньне што рабіць? *(ваяваць, катаваць, сьмяяцца, ісьці)* ці што зрабіць *(перайначыць, стварыць, пабечгы)* і канчаюцца: пасьля галосных на *„ць“*, а пасьля зычнае на *„ці* і *чы“*. Гэта і ёсьць нязьменныя канчаткі дзеясловаў неазначальнае формы.

3) Апошнія два дзеясловы неазначальнае формы маюць канчатак *„цца“ (сьмяяцца, закрывацца)*. У гэтым *„цца“* нам выразна адчуваецца зваротнасьць дзеясловўнага стану. Значыць, дзеясловы неазначальнае формы могуць прымаць суфікс *„ся“* ў форме *„ца“* і выражаць стан: з *„ца“*—зваротны, бяз *„ца“* незваротны.

4) З неазначальнаю формаю дзеяслова мы ўжо спатыкаліся пры азнаямленьні з формамі часу. Там неазначальная форма асноўнага дзеяслова ў злучэньні з адным з дапаможных дзеясловаў *(буду, маю, мушу, іму)* утварае будучы складаны час.

5) Неазначальная форма дзеяслова, як слова называльнае, уваходзіць не мяняючы сваёе формы і ў іншыя словазлучэньні, пра што гутарка будзе ў сваім месцы.

6) Ад неазначальнае формы заўсёды можна ўтварыць тую ці іншую асабовую і родавую форму дзеяслова і, наадварот, ад тае ці іншае асабовае і родавае формы тэй ці іншы інфінітыў.

## *ЗАДАЧА 138.*

1) Ад кожнай пары дзеясловаў, ніжэй паданых, утварыць і напісаць наступныя формы:

а) асабовую *(цяперашні час і будучы просты)*

б) Родавую *(прошлы час).*

*Пісаць, напісаць; думаць, падумаць; гаварыць, пагаварыць; плесьці, заплесьці; радавацца, парадавацца; несьці, вынесьці; паліць, запаліць.*

2) Адказаць на пытаньні:

а) Якую форму маюць усе вышэйпаданыя дзеясловы?

б) Ці можна ўтварыць форму цяперашняга часу ад кожнага дзеяслова? Ад якіх дзеясловаў можна, а ад якіх нельга?

в) Тое-ж скажэце і адносна форм будучага простага часу.

г) Ці ад усіх дзеясловаў можна ўтварыць родавую форму (прошлы час)?

д) Якая формальная і сэнсавая адменнасьць дзеясловаў прошлага часу, утвораных ад кожнае паасобнае пары даных дзеясловаў?

## *ЗАДАЧА. 139.*

1. Выпішце з тэксту вершаў дзеясловы неазначальнае формы і ўтварэце ад іх родавыя і асабовыя формы па ўзоры папярэдняе задачы разьмеркаваўшы ў табліцу:

| а) Асабовая форма цяперашняга часу | б) Асабовая форма будучага простага | в) Родавая форма |
|---|---|---|
| | | |

Працоўную радасьць ня зьмерыць,
Бунтоўны парыў ня суняць
Трэ' ў змогу вялікую верыць,
трэ' з вераю жыць, будаваць.

Мы сьцежкі жыцьця адшукалі—
вялікае заўтра тварыць,
таму так і песьня ў аддалях
высока і горда зьвініць.

Бадзёрыя гукі свавольна
плывуць над абуджаным полем.
То—гімн упартае працы,
то—заклік тварыць і змагацца.

Ракіта.



2. Адкажэце і тут на пытаньні, настаўленыя ў папярэдняй задачы.

## § 108. Безасобныя дзеясловы.

Прачытайце ўрывак, зварочваючы ўвагу на вылучаныя дзеясловы.

Здорава **падмарозіла** сёньня. Не **сядзіцца** ў душнай хаце. Так і **хочацца** выбегчы на рэчку і спрабаваць першы лядок. Ня **верыцца**, што ўжо зіма пачалася. Маркотна **жывецца** зімою бяз сонца: позна **сьвітае**, рана **зьмяркаецца**; ні папрацаваць, ні пагуляць не **ўдаецца** за кароткі зімні дзень.

Да якіх вядомых нам дзеясловаў падобны вылучаныя дзеясловы?

Усе яны, за выключэньнем першага *(падмарозіла)*, сваёю формаю зусім падобны да асабовых дзеясловаў, што стаяць у трэцяй асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу, а першы дзеяслоў *падмарозіла* да родавых дзеясловаў, што стаяць у ніякім родзе—*„яно падмарозіла“*

Два з усіх дзеясловаў—*„падмарозіла“*, *„сьвітае“*—незваротнага стану, а астатнія ўсе зваротнага.

Цяпер прыкіньце, ці можна гэтыя дзеясловы дапасаваць да якое-небудзь асобы так, як дапасуецца любы асабовы дзеяслоў? Вазьмеце для гэтага, напрыклад, дзеясловы: *„хочацца“*, *„сьвітае“*.

| | | |
|---|---|---|
| 1 асоба | — я хочуся | сьвітаю |
| 2 „ | —ты хочашся | сьвітаеш |
| 3 „ | —ён хочацца | сьвітае і г. д. |

Ці ёсьць у гэтым дапасаваньні хоць які-небудзь сэнс?

Ці можна наогул сказаць так: *я хачуся, сьвітаю, ты хочашся, сьвітаеш і г. д.?*

Разумеецца, дапасаваньне да любое асобы ўзятых намі дзеясловаў дае відавочную бяссэнсіцу, бо сказаць: *я хочуся, я сьвітаю, ты хочашся, ты сьвітаеш*—гэта значыць нічога не сказаць ці сказаць іменна бяссэнсіцу.

Што-ж гэта значыць? Аб чым гэты факт сьведчыць? А гэта значыць тое, што вылучаныя намі ва ўрыўку дзеясловы зусім не дапасуюцца да асабовых займеньнікаў, як дапасуюцца да іх усе асабовыя дзеясловы. А гэта выразна сьведчыць пра тое, што вылучаныя намі дзеясловы, хоць і маюць выгляд дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага ліку, у сапраўднасьці ніякое асобы ня маюць, ні да якое асобы не належаць. Яны таксама, як і дзеясловы неазначальнае формы, неспрагальныя дзеясловы, пры чым у адзнаку ад неспрагальных дзеясловаў незначальнае формы яны называюцца дзеясловамі **безасабовымі**.

Разьбярэцеся цяпер у сказах з безасабовымі дзеясловамі. Разумеецца, безасабовыя дзеясловы, як і ўсякі іншы дзеяслоў, зьяўляецца ў сказе—*чым?*—Выказьнікам. А ці ёсьць у гэтых сказах дзейнік? А ці можна дзейнікі падставіць калі іх няма? Як бачыце, ні ў водным сказе з выказьнікам—безасабовым дзеясловам дзейніка няма і падставіць яго нельга. Што-ж гэта значыць? А гэта значыць тое, што безасабовыя дзеясловы заўсёды зьяўляюцца выказьнікамі ў безасабовых сказах і, наадварот, у безасабовых сказах выказьнікам зьяўляецца безасабовы дзеяслоў-

**Вывад (заўважце).**

1) Акрамя дзеясловаў асабовых, родавых і неазначальнае формы, у нашай мове існуюць яшчэ так званыя безасабовыя дзеясловы: *зьмерклася, раздаждждылася, дрэмлецца, хочацца, сьвітае, марозіць і г. д.*

2) Характэрнаю адзнакаю гэтых дзеясловаў зьяўляецца тое, што яны, як і дзеясловы неазначальнае формы, не спрагаюцца, бо ў злучэньні з якою-небудзь пэўнаю асобаю ўтвараюць бяссэнсіцу, *я хочуся, ён хочацца і г. д.* А тым часам па форме сваёй гэтыя дзеясловы зусім падобны ці да асабовых дзеясловаў 3-е асобы адзіночнага ліку, ці да родавых дзеясловаў ніякага роду: *сьвітае, расьсьвіло, зьмяркаецца, зьмерклася, зьмеркнецца.*

3. Безасабовыя дзеясловы могуць належыць, як бачна з прыкладаў, да цяперашняга, будучага простага ці прошлага часу і быць зваротнага ці незваротнага стану: *думаецца—думалася, падумаецца, сьвітае,—сьвітала, вечарэе—вечарэла.*

4. У сказе, заўсёды безасабовым, безасабовыя дзеясловы, як і ўсякія дзеясловы, зьяўляюцца выказьнікам. Пры іх няма дзейніка і быць ня можа.

5. Безасабовымі дзеясловамі звычайна абазначаюць розны стан прыроды *(вечарэе, раздаждждылася, падмарозіла, расьвітае)*, ці выражаецца ў большасьці якое-небудзь перажываньне, настрой чалавека: *ня сьпіцца, жывецца, хочацца, ня верыцца.*

*ЗАДАЧА 140.*

З заданьня 2-га, § 13 прагледзьце п. 4, задачу 36-ю і 27 і выпішце адтуль усе безасабовыя дзеясловы, якія там толькі спаткаеце.

## § 109. Дзеяслоўныя трываньні.

Разгледзьце наступныя пары дзеясловаў і вызначце асаблівасьці кожнае пары як з боку формы, так і сэнсу.

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Касіў | Скасіў |
| | Мыўся | Вымыўся |
| 2 | Падмазваў | Падмазаў |
| | Заслухваў | Заслухаў |
| 3 | Высыпаў | Вы́сыпаў |
| | Вымераў | Вы́мераў |

Якую розьніцу мы знаходзім з боку формы ў першых дзьвёх парах?

У першых дзьвёх парах дзеясловы з формальнага боку розьняцца тым, што першыя з іх (глядзі першую калёнку) ня маюць прыставак—*касіў, мыўся,* а другія (гл. другую калёнку), наадварот, маюць іх—*скасіў, вымыўся.*

А якая розьніца з таго-ж формальнага боку ў другіх дзьвёх парах дзеясловаў?

У другіх дзьвёх парах—розьніца толькі ў суфіксах, а іменна: абодва дзеясловы першае калёнкі ў параўнаньні з дзеясловамі другое (гл. і дзеясловы) маюць суфікс *„ва“ (заслухваў, падмазваў)*, а дзеясловы другое калёнкі гэтага суфіксу ня маюць *(заслухаў, падмазаў)*.

А якія, нарэшце, формальныя асаблівасьці маюць дзеясловы трэціх дзьвёх пар?

Трэція дзьве пары з боку формы абсалютна аднолькавыя. Розьніца-ж між імі толькі ў націску: у дзеясловах першае калёнкі націск на апошнім складзе, а ў дзеясловах другое калёнкі—на першым складзе: высыпа́ў, вымера́ў—вы́сыпаў, вы́мераў.

Цяпер прачытайце ўсе дзеясловы першай калёнкі і скажэце, якое дзеяньне яны азначаюць—**закончанае**, ці **незакончанае?**

А дзеясловы другое калёнкі? (Прачытайце іх і скажэце ня чытаючы далей тэксту).

Так, усе дзеясловы першай калёнкі абазначаюць дзеяньне, якое адбывалася, але невядома, закончылася яно ці не: *касіў, мыўся, паказваў, заслухваў, высыпа́ў, вымера́ў.* Усе-ж дзеясловы другое калёнкі, наадварот, паказваюць, што дзеяньне ня толькі адбывалася, але адбылося, закончылася: *скасіў, вымыўся, паказаў, заслухаў, вы́сыпаў, вы́мераў*

Гэта першы вывад, які можна зрабіць з нашых назіраньняў.

**Заўважце.**

1. Дзеясловы сваім зьместам (абсалютна не канчаткамі) могуць выражаць дзеяньне ці закончанае, ці незакончанае.

2. Уласьцівасьць дзеяслова паказваць закончанасьць ці незакончанасьць дзеяньня ці стану называецца **трываньнем.**

3. Асноўных трываньняў, як можна бачыць з прыведзеных намі прыкладаў, два:

а) **незакочанае трываньне:** *думаў, жартаваў, змагаўся, абараняў, падаваў, выклікаў, высыпа́ў і г. д.*

б) **закончанае трываньне:** *падумаў, задумаў, выдумаў, пажартаваў, змогся, абараніў, падаў, вы́клікаў, засы́паў і г. д.*

Першае з іх гаворыць пра незакончанасьць дзеяньня ці стану, а другое пра закончанасьць яго.

Цяпер разьбярэмся ў тых элемэнтах, якія ўносяць у зьмест дзеяслова характар закончанасьці ці незакончанасьці.

Першыя дзьве пары дзеясловаў, якія мы ўжо адзначылі, адрозьніваюцца тым, што ў адных з іх ёсьць прыстаўкі, а ў другіх няма (глядзі першую і другую калёнку). Далей мы вызначылі, што дзеясловы з прыстаўкамі будуць адносіцца да **закончанага** трываньня, а без прыстаўкі да **незакончанага** трываньня. Значыць, у даным выпадку характар закончанасьці, ці незакончанасьці трываньня выражаецца адсутнасьцю ці наяўнасьцю прыстаўкі: *насіў, жадаў, гаварыў,*—дзеясловы **незакончанага** трываньня, бо ў іх няма прыстаўкі; *выносіў, пажадаў, загаварыў*—дзеясловы **закончанага** трываньня і гэту закончанасьць надалі ім іменна прыстаўкі.

Другія дзьве пары дзеясловаў розьняцца тым, што ў адных з іх ёсьць той ці іншы суфікс, а ў другіх гэтага іменна суфіксу няма, хоць іншыя суфіксы і могуць быць (глядзі першую і другую калёнку другіх пар). Дзеясловы з пэўным суфіксам адносяцца да незаканчанага трываньня, а дзеясловы бяз гэтага іменна суфіксу будуць адносіцца да трываньня заканчанага:

*даваў, змагаўся, абараняў*—незаканчанае трываньне,

*даў, змогся, абараніў*—заканчанае трываньне.

Нарэшце, з параўнаньня трэціх дзьвёх пар мы бачым, што заканчанасьць ці незаканчанасьць трываньня можа вызначацца выключна палажэньнем гукавога націску:

высыпа́ў—вы́сыпаў,

вымера́ў—вы́мераў.

Што-ж з усяго гэтага вынікае?

Заўважце:

1. Трываньні дзеясловаў выражаюцца не канчаткамі, а рознымі іншымі формальнымі часткамі слова: прыстаўкаю, суфіксам і нават простаю пераменаю націску. Значыць, трываньні—формы не словазьменныя, не морфолёгічныя, а формы словавытворныя, формы этымолёгічныя.

2. Прыстаўкі звычайна прыдаюць дзеясловам заканчанае трываньне.

| Трываньне незаканчанае: | Трываньне заканчанае: |
|---|---|
| Казаць . . . . . . . . . | Сказаць<br>Выказаць<br>Расказаць<br>Пераказаць |
| Глядзець. . . . . . . . . | Паглядзець<br>Разглядзець<br>Праглядзець<br>Выглядзець. і. г. д. |

3. Суфіксы могуць прыдаваць дзеяслову часам заканчанасьць, а часам незаканчанасьць трываньня.

Так, напрыклад, суфікс *„ну“* прыдае дзеяслову ня толькі заканчанасьць трываньня, а яшчэ і яго аднаразовасьць: *стукнуў, сьвіснуў, кашлянуў, скалануў.* Суфікс-жа *„ыва“ „іва“*, наадварот выражае ня толькі незаканчанасьць, а яшчэ і шматразовасьць трываньня: *падыгрываў, запэўніваў, падсьмейваўся, абдумваў.*

Увага: Галосныя *„ы“ „і“* ў суфіксах *„ыва“, „іва“*, як нам вядома, выпадаюць, калі суфікс не знаходзіцца між трыма зычнымі, чаму ў дзеясловах *адыгрываць, адрозьніваць* мы будзем мець поўны суфікс *„ыва“—„іва“*, а ў большасьці толькі *„ва“* (глядзі заданьне 3-е, § 25, п. III).

4. Удзел націску ў зьмене трываньня выражаецца **ў тым**, што ён з канцавога палажэньня пры трываньні **незакончаным** перасоўваецца бліжэй да пачатку слова пры трываньні **закончаным**:

| **Трываньне незакочанае:** | **Трываньне закончанае:** |
|---|---|
| пазнаю | пазна́ю |
| засыпа́ў | засы́паў |
| забяга́ў | забе́гаў |
| вымяра́ў | вы́мераў |
| высыпа́ў | вы́сыпаў |

У тых выпадках, калі ад націску залежыць выяўленьне таго ці іншага трываньня, патрэбна абавязкова адзначыць націск пры пісьме слова ў фразе: Я пазнаю *ў тваёй асобе найлепшага свайго друга.* Я пазна́ю *ў тваёй асобе найлепшага свайго друга.*

*ЗАДАЧА 141.*

1. Выпісаць з урыўку дзеясловы, разьмеркаваўшы іх на дзеясловы закончанага трываньня і на дзеясловы незакончанага трываньня.

2. Ад кожнага дзеяслова закончанага трываньня ўтварыць дзеяслоў незакончанага і наадварот: утвораныя дзеясловы падкрэсьліць.

Вайна адышла наперад. Цяпер ужо фронт ні гадзіны ня трымаўся на адным месцы. Палякі адыходзілі шпарка, і лесавая дарога вось ужо тры дні жыла нашым паходам. Мы прайшлі Наваградчыну за хмурыя дні, а на Гарадзеншчыне адчулі сухую сьпёку ліпеньскага сонца. Цэлую ноч мясілі мы сухі пясок, жорсткі, калючы. Па дарозе гэтай гублялі мы свае сілы і чулі, як вырастае ў нас непераможная патрэба кінуцца на зямлю і тут-жа забыцца на ўсё. Але мы ішлі, думаючы, калі скончыцца пясок. Цьвёрдая зямля ўжо здавалася нам за той самы салодкі сон на зямлі. З самага вечара мы кінулі мястэчка Ражанае ці Ражаны—наш зводны таварыш Скабакоў глядзеў на карту, але не знайшоў яго і сказаў назву гэтак, як сам пачуў—нявыразна. За воўнач пясок пачаў мінацца, а на пярэдадні зачарнелі лясы і над імі месяц. Мы-б адчулі гэтае хараство (ціхае хараство ў вайну), але дрымота і здранцьвеласьць цела туманілі нам галовы і зацягвалі сэрцца карою абыякавасьці. Чацьвертую пору мы ня сталі!

К. Чорны „Беларуская літаратура" пад рэдакцыяй Бэндэ, ст. 261.

Узор выкананьня работы:

| Закончанае трыв. | Незакончан. | Незакончан. | Закончанае |
|---|---|---|---|
| Адышла | Адыходзіла | Трымаўся | Пратрымаўся |

## § 110. Дзеясл оўныя лады.

Прачытайце ніжэй паданы тэкст, выпішце падкрэсьленыя дзеясловы і вызначце, чым яны падобны да раней разгледжаных дзеясловаў і што ў іх ёсьць новага, вам яшчэ невядомага.

1. Куля, пушчаная з вінтоўкі ўверх, *ляцела-б* бясконца, калі-б яе ня прыцягвала да сябе зямля.

2. Пасьля напружанай працы я *супачываў-бы* з асобым задавальненьнем, каб ня быў заклікан на сход.

3. Я песьні-б слухаў, я-б сам сьпяваў, калі-б меў харошы слых і добры голас.

Па сваёй форме, калі ня лічыць дапаможнага слова *„бы"(б)*, вылучаныя дзеясловы зусім падобны да дзеясловаў мінулага часу жаночага ці мужчынскага роду: *паляцеў, ляцела, спачываў і г. д.* Яны як і ўсякі дзеяслоў мінулага часу, не спрагаюцца, могуць зьмяняцца і зьмяняюцца толькі ў родзе і ліку. Вось і ўсё тое, чым яны падобны да ўжо вядомых нам дзеясловаў.

Новае-ж у даных дзеясловаў—гэта дапаможнае слова *„бы" (пасьля галосных „б")*, якое вымаўляецца разам з дзеясловамі, калі стаіць поруч і зараз-жа пасьля яго, ці разам з іншым словам, пры якім яно можа знаходзіцца: *песьні-б* слухаў, *я-б* сам сьпяваў іх. Гэта асаблівасьць фармальнага парадку.

Цяпер прааналізуйце і вызначце, які сэнс мае гэтае *„бы"(б)*, гэтае дапаможнае прыдзеяслоўнае слова? Які лёгічны момант адбіваецца ім у самым дзеяслове?

Для досьледу прачытайце кожны вылучаны дзеяслоў спачатку без дапаможніка, а потым з дапаможнікам *„бы"* (абавязкова зрабеце гэта, ня чытаючы далейшага).

Мы ўжо адзначылі, што без дапаможніка *„бы"* даныя дзеясловы ёсьць дзеясловы мінулага часу, г. зн. без дапаможніка ўсе яны адбіваюць той час, калі адбывалася дзеяньне, дзеясловамі вызначанае.

А вось ці адбіваецца ў дзеясловах пэўны час, калі да іх далучыць дапаможнае слова *„бы"*: *ляцела-б, спачываў-бы, слухаў-бы, сьпяваў-бы.*

Разумеецца не. Ва ўсякім выпадку час мінулы з зьместу даных дзеясловаў зусім зьнікае. І калі можна тут гаварыць наогул пра час, дык не пра мінулы, а пра якісь неазначальны час, у які магло-б адбывацца тое ці іншае дзеяньне, калі-б пры гэтым былі зьдзейсьнены нейкія пэўныя ўмовы.

Вось, які сэнс уносіць у зьмест дзеясловаў гэта дапаможнае слова *„бы"(б).*

Яно, па-першае, пазбаўляе дзеяслоў яго пэўнае часоўнасьці—разуменьня мінулага іменна часу—і, па-другое, прыдае дзеяслову характар выразнае ўмоўнасьці.

**Заўважце.**

1. Такая дзеяслоўная форма, якая ўносіць у зьмест дзеяслова характар умоўнасьці, называецца ў граматыцы **ладам,** пры тым **ладам умоўным.**

2. Умоўны лад, як мы бачылі з вышэйпаданых прыкладаў і развважаньняў, з формальнага боку вызначаецца тым, што пры дзеяслове ў форме мінулага часу знаходзіцца дапаможнае слова *„бы“(б),* якое і прыдае дзеяслову сэнс умоўнасьці, пазбаўляючы яго разуменьня пэўнага часу—мінулага іменна часу: *„глядзеў-бы, сьмяялася-б, выдумлялі-б, дужаліся-б, нясло-б і г. д.*

3. Дапаможнік *„бы“*, як бачна з прыкладаў, пасьля галосных губіць *„ы“* і перадаецца цераз адно *„б“: сьпявала-б, касілі-б, але сьпяваў-бы, касіў-бы і г. д.*

4. Дапаможнік *„бы“(б)* можа стаяць непасрэдна за дзеясловам і поруч з ім, а можа знаходзіцца і перад дзеясловам *(Песьні-б слухаў),* аддзеленае адным ці нават некалькімі ад яго словамі: Як-*бы* ўсім нам *было* выгадна, *калі-б* мы ўсе разам і дружна *выконвалі* нашу вялікую справу.

5. Дапаможнік *„бы“(б)* пішацца праз злучок з тым словам, за якім непасрэдна ён знаходзіцца (гл. усе папярэднія прыклады).

6. Дзеясловы ўмоўнага ладу, як і дзеясловы мінулага часу— *неспрагальныя* дзеясловы. Яны, як і дзеясловы мінулага часу, асабовых форм ня маюць, а зьмяняюць свае канчаткі толькі ў родзе і ліку: *узяў-бы, узяла-б, узяло-б, узялі-б.*

*ЗАДАЧА 142.*

Прачытаць тэкст верша, дзеясловы ўмоўнага ладу выпісаць, прыдаўшы разам з тым ім і форму з *„бы“.*

Узор:

Несла-б——нёс-бы
Лягла-б——лёг-бы

Мільёнам заяўляю
Сёньня я:
была-б векавая
Беларусь калонія.
Каб ня ўздыблены наш гарт,
мела-б губэрнскі пашпарт.
Савецкага Саюзу ня было каб,
была-б заплесьненай затокай
і славілася-б на Эўропу
сэльтэрскаю вадою з сыропам.

Але сёньня—
выраўнівай стан ты!
Мы маем
імя ім
гіганты!
І чаго-б было варта
каб ня было
ў Беларусі компартыі!

Александровіч.

*ЗАДАЧА 143.*

Напісаць фразы з дзеясловамі ўмоўнага ладу, пры чым у фразах павінна быць выяўлена:

1) Просьба прыехаць сёньня на той ці іншы сход.
2) Нарада наконт паступленьня на завочны сэктар Комвузу.
3) Свае меркаваньні наконт ураджаю ў сувязі з станам пагоды.
4) Сваё пажаданьне таварышу найдасканалей выканаць адказнае даручэньне.

### II. Загадны лад.

Прачытайце вершы, вылучаныя дзеясловы выпішце і дасьледуйце, якія ў іх ёсьць асаблівасьці ў параўнаньні з раней разгледжанымі дзеясловамі.

1. Гары, агонь
поэтавых умкненьняў!
Запал жыцьця,
спалі мой творчы сум!
Прыдзі, прыдзі,
вялікі творчы гені,
каб разам апяяць
вялікіх дзён красу!

Федаровіч.

2. Зазьвінеце, струны — сэрца майго дзеці,
разьвейце дрымоту з вачэй маіх сон,
ня дайце засохнуць маладому ў цьвеце,
песьняй абудзеце бацькаўскі загон!

Салагуб.

Пытаньні для досьледу:

1. Ці адчуваецца ў зьмесьце вылучаных дзеясловаў элемэнт часоўнасьці? Інакш кажучы, ці можна хоць адзін з даных дзеясловаў далучыць да таго ці іншага з трох часоў?

2. Ці адчуваецца ў вылучаных дзеясловах элемэнт умоўнасьці? Інакш кажучы, ці ёсьць падстава далучыць даныя дзеясловы да дзеясловаў умоўнага ладу?

3. Якія-ж вядомыя нам дзеясло̆ўныя ўласьцівасьці ёсьць і ў даных дзеясловах?

Вывад з досьледу:

1. Вылучаныя дзеясловы ня маюць формы часу і не выражаюць сваім зьместам ні цяперашняга, ні мінулага, ні будучага часу.

2. Гэтыя дзеясловы ня маюць пры сабе дапаможнага слова „бы" (б), чаму ня могуць быць прылучаны да групы дзеясловаў умоўнага ладу.

3. Даныя дзеясловы маюць форму асобы і формы ліку. Усе яны належаць да другое асобы, толькі дзеясловы першага верша да другое асобы адзіночнага ліку (ты *гары, спалі, прыдзі)*, а другога—да другое асобы множнага ліку (вы *зьвінеце, разьвейце, ня дайце, абудзеце)*.

Цяпер вызначце, ці не выражаюць усе даныя дзеясловы сваею формаю, акрамя асобы і ліку, яшчэ чаго-небудзь, раз яны не выражаюць ні часу, ні ўмоўнасьці?

Так, апроч асобы і ліку ўсе даныя дзеясловы выражаюць яшчэ заклік, просьбу, загад, пажаданьне і г. д.

Вось тое новае, што маюць даныя і ім падобныя дзеясловы.

Заўважце:

1. Здольнасьць дзеяслова выражаць сваею формаю загад *(устань, адгукніся, падай, ідзі)* просьбу, *(пашкадуй, зьмілуйся, палячы)*, пажаданьне і т. пад. называецца таксама ладам, але ладам ня ўмоўным, а ладам загадным.

2. Значыць, дзеясловы, якія сваёю формаю, а адгэтуль і зьместам выражаюць загад, пажаданьне, просьбу і таму падобнае, будуць належаць да дзеясловаў загаднага ладу.

3. Фармальныя-ж адзнакі дзеясловаў загаднага ладу наступныя:

а) Першае асобы адзіночнага ліку няма, бо загадваць сабе не выпадае.

б) Другая асоба адзіночнага ліку можа мець адну з такіх трох форм:

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| гар-ы | разьвей | ляж |
| прыдз-і | (ня)дай | устань |
| спал-і | пастой | кінь |
| крыч-ы | раскуй | адмер |

Гэта значыць, што дзеясловы загаднага ладу ў другой асобе адзіночнага ліку могуць канчацца ці на *„ы-і" (кажы, крычы, дары, нясі, прасі)*, ці на зычны *„й"*, які будзе заўсёды пасьля галоснага *(падай, пастой, раскуй)*, ці на зычны мяккі, ці на зацьвярдзелы зычны *(устань, кінь, адрэж, адмер)*.

в) Першая асоба множнага ліку можа мець такую форму:

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| гар-э-м | разьвей-ма | ляж-ма |
| прыдз-е-м | ня дай-ма | устань-ма |
| спал-е-м | пастой-ма | кінь-ма |
| крыч-э-м | раскуй-ма | адмер-ма |

Значыцца, дзеясловы, што маюць у адзіночным ліку другое асобы канчатак *ы-і* (глядзі першы рад), у першай асобе множнага ліку набываюць канчатак *м,* а галосныя *ы-і* падмяняюцца галоснымі *э-е,* якія пры гэтым падпадаюць пад націск. Гэтымі націскнымі *э-е* і выражаецца загаднасьць дзеясловаў данае формы гар-*эм,* крыч-*эм,* няс-*ем,* спал-*ем.* Калі націск на іх не прыпадае, дык і загаднасьць зьнікае: *пойдзем, возьмем, вымем і г. д.* Усе гэтыя дзеясловы тады нагадваюць будучы просты час, а не загадны лад, дзякуючы толькі таму, што на *э-е* не прыпадае націск.

Дзеясловы-ж, што ў 2 асобе адзіночнага ліку канчаюцца на чыстую аснову з зычным на канцы (гл. табл. б) 2 і 3 рад), у першай асобе множнага ліку будуць мець канчатак *ма,* які непасрэдна, бяз усякага галоснага, дадаецца да асновы (гл. табл. в) 2 і 3 рад). Загаднасьць у даным выпадку перадаецца асноваю дзеяслова *давай*-ма, *кінь*-ма, *адрэж*-ма, а канчатак „*ма*“ прыдае толькі форму множнага ліку і форму першае асобы.

г) Другая асоба множнага ліку будзе мець адну з такіх форм:

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| гар-э-це | разьвей-це | ляж-це |
| прыдз-е-це | (ня)дай-це | устань-це |
| спал-е-це | пастой-це | кінь-це |
| крыч-э-це | раскуй-це | адмер-це |

Загаднасьць і тут, як і ў першай асобе множнага ліку, выяўляецца ці націскным *э-е:* гар-*э*-це, прыдз-*е*-це (глядзі першы рад), ці самаю асноваю: *разь-вей*-це, *пастой*-це (глядзі 2 і 3 рад). Канчатак-жа *це,* як і канчатак „*м*“, „*ма*“ у першай асобе, прыдае дзеяслову толькі яго асабовую і лікавую форму.

д) Што-ж тычыцца 3-е асобы як адзіночнага, так і множнага ліку, дык дзеясловы загаднага ладу асобнае загаднае формы тут ня маюць. Яны звычайна выражаюцца формаю трэцяе асобы цяперашняга ці будучага простага часу *(гарыць, прыдзе, гараць, прыдуць)* у злучэньні з загадным дапаможнікам „*няхай*“ (скарочана „*хай*“). Гэтым дапаможнікам і выражаецца загаднасьць дзеяслова, пры якім ён будзе знаходзіцца: *няхай* гарыць, *хай* ляжа, *няхай* ляжыць і г. д.

Усе разнавіднасьці ў справжэньні дзеясловаў загаднага ладу можна бачыць з наступных трох узорных табліц:

Узор першы:

| | *Адзіночны лік.* |
|---|---|
| 1 асоба | |
| 2 асоба | вяз*і*, бяр*ы*, кас*і*, маўч*ы* |
| 3 асоба | *няхай* вязе(ць), бярэ(ць), косіць, маўчыць. |
| | *Множны лік.* |
| 1 асоба | нясем, бярэм, касем, маўчэм. |
| 2 асоба | нясеце, бярэце, касеце, маўчэце. |
| 3 асоба | *няхай* нясуць, бяруць, косяць, маўчаць. |

Асаблівасьць данае формы:

1. У канчатку 2-е асобы адзіночнага ліку—галосныя *ы-і*: няс-*і*, крыч-*ы*, вазьм-*і*, скач-*ы*, круц-*і*, гавар-*ы*.

2. Перад канчаткам 1 і 2 асобы множнага ліку націскное *э(е)*, якое разам з націскам і прыдае данай форме характар загаднасьці: бяр-э́-м, дзярж-э́-м, няс-*е́*-м, крыч-э́-м, вяз-*е́*-м, таўч-э́-м.

Узор другі:

| | *Адзіночны лік.* |
|---|---|
| 1 асоба | |
| 2 асоба | стой, куй, мый, пі, лі. |
| 3 асоба | *няхай* стаіць, куе(ць), мые(ць), п'е(ць), льле(ць). |
| | *Множны лік.* |
| 1 асоба | стой-ма, куй-ма, мый-ма, пій-ма (пе-м), лій-ма(лем). |
| 2 асоба | *стой*-це, *куй*-це, *мый*-це, *пій*-це, (*пе*-це), *лій*-це, (*ле*-це). |
| 3 асоба | *няхай* стаяць, куюць, мыюць, п'юць, льлюць. |

Асаблівасьці данае формы:

1. Канчатак *й* пасьля галоснае ў 2 асобе адзіночнага ліку і „*і*" ў дзеясловах—пі*(пій)*, лі*(лій)*, бі*(бій)*, ві*(вій) і. г. д.*

2. Канчатак „*ма*" ў 1 асобе множнага ліку, які непасрэдна далучаецца да формы 2 асобы адзіночнага ліку: *куй*-ма, *давай*-ма, *пій*-ма (пем), *лій*-ма (лем).

3. Канчатак *це* ў 2 асобе множнага ліку, які таксама непасрэдна (бяз *э-е)* далучаецца да формы 2 асобы адзіночнага ліку.

4. Аднаскладовыя дзеясловы—*пі, лі, бі, ві,* у 1 і 2 асобе множнага ліку могуць мець двáякую форму:

а) *пій*-ма, *лій*-ма, *бій*-ма, *вій*-ма,
*пій*-це, *лій*-це, *бій*-це, *вій*-це,
што адпавядае форме дзеясловаў узору 2-га (гл. вышэй).

б) *пе*-м, *ле*-м, *бе*-м, *ве*-м.
*пе*-це, *ле*-це, *бе*-це, *ве*-це,
што адпавядае форме дзеясловаў узору 1-га (глядзі ўзор першы).

Узор трэці:

*Адзіночны лік.*

| | |
|---|---|
| 1 асоба | |
| 2 асоба | *кінь, устань, адмер, ляж.* |
| 3 асоба | *няхай* кіне(ць), устане(ць), адмерае(ць), ляжа(ць). |

*Множны лік.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 асоба | *устань*-ма, | *кінь*-ма, | *адмер*-ма, | *ляж*-ма. |
| 2 асоба | *устань*-це, | *кінь*-це, | *адмер*-це, | *ляж*-це. |
| 3 асоба | *няхай* устануць, | кінуць, | адмераюць, | ляжуць |

Асаблівасьць тут толькі тая, што ўсе дзеясловы гэтае формы ў 2 асобе адзіночнага ліку маюць чыстую аснову з мягкім ці зацьвярдзелым зычным у канцы.

У множным-жа ліку форма даных дзеясловаў зусім падобна да дзеясловаў з асноваю на *„й“* (глядзі ўзор другі). І тут, як і там, асабовы канчатак *ма*—першая асоба—і асабовы канчатак *це*—другая асоба—непасрэдна далучаюцца да асновы бяз усякае яе зьмены; і тут, як і там, мяккая аснова застаецца мяккаю, а зацьвярдзелая зацьвярдзелаю.

На пісьме мяккая аснова адзначаецца, разумеецца, мяккім знакам, на што патрэбна зьвярнуць увагу, і дзеясловы з мяккаю асноваю ў загадным ладзе пішуцца так: *кінь—кінь*-ся, *кінь*-ма, *кінь*-це, *сядзь—сядзь*-ма, *сядзь*-це, *пасунь, пасунь*-ся, *пасунь*-ма, *пасунь*-цеся і г. д.

*ЗАДАЧА 144.*

Прыдумайце і запішэце сказы, у якіх вылучаныя дзеясловы сталі-б у загадным ладзе ў форме 2 асобы адзіночнага ліку і ў форме 1 і 2 асобы множнага ліку.

Майце толькі на ўвазе, што сказы з загаднаю формаю—клічныя сказы, чаму ў канцы іх абавязкова ставіць клічнік; імя-ж тае асобы, да якое адносіцца загад-просьба, на пісьме выдзяляецца коскаю.

**Узор:**

**Мы дружна крочылі на дэманстрацыю.**

1. **Крочу ногу з сучаснасьцю!**
2. **Дружна крочце, таварышы, да сьветлых даляў!**
3. **Крочма, таварышы, да сьветлых даляў!**

1. Я кінуў жыцьцё ў адзіноцтве.
   1 . . . . . . . . .
   2 . . . . . . . . .
   3 . . . . . . . . .
2. Ты даеш мне многа карысных нарад.
   1 . . . . . . . . .
   2 . . . . . . . . .
   3 . . . . . . . . .
3. Мы не паддаліся прывабным зманам.
   1 . . . . . . . . .
   2 . . . . . . . . .
   3 . . . . . . . . .
4. Дзеці бяруць прыклады з дарослых і сваіх сяброў.
   1 . . . . . . . . .
   2 . . . . . . . . .
   3 . . . . . . . . .
5. Вы несяце вялікую адказнасьць за свае ўчынкі.
   1 . . . . . . . . .
   2 . . . . . . . . .
   3 . . . . . . . . .
6. Дзе п'юць, там і льлюць.
   1 . . . . . . . . .
   2 . . . . . . . . .
   3 . . . . . . . . .

*ЗАДАЧА 145.*

З вершаваных урыўкаў выбраць дзеясловы загаднага ладу і скласьці з іх табліцу сказаў на ўзоры паданых вышэй табліц (гл. узор I, II, III).

1. Вйцеся, песьні, вы сокалам,
Гордымі ўзмахамі слоў...
Ноч, ня шумі ты асокаю,
жудасным уплёскам балот?
2. Кіпі-ж ты, моладасьць,
ўздымайся ў парываньнях:
бадзёрым поступам
мы крочым ў новы век!

**Федаровіч.**

3. Бярэце
сусьвет за горла,
пролетарыяту пальцы!
Грудзі наперад брава!
Сьцягам неба аклейвай!
Хто там закрочыў правай?
Левай!
Левай!
Левай!

**Маякоўскі.**

## В. МАРАКОВУ.

*Урывак.*

4. Не хадзі пяскамі,
Не хадзі балотам,
Дзе ня ходзяць людзі,
Дзе туман ды мхі.
Мы з табою пойдзем
раньняй пазалотай,
адшукаем лепшыя
новыя шляхі!
Толькі глянь ты сьмела,
шырай грудзі—шырай!
Праканайся ў сілу,
праканайся ў лёс.
І няхай пуціны
ўсе пасланы жвірам,
сустрымайся плачу,
сустрымайся сьлёз.

Федаровіч.

*ЗАДАЧА 146.*

Сьпісаць урыўкі вершаў, замяняючы, дзе можна, дзеясловы другой асобы адзіночнага і множнага ліку першаю асобаю множнага ліку.

1. Рэжце рыдлёўкамі,
чорнае золата,
глыбей і глыбей
капайце рыдлёўкамі.
Гучным ударам
стотоннага молата
куйце жалеза
індустрыі коўкае.

Федаровіч.

2. Сёньня біся, рэволюцыянэр,
машынамі
не карабінамі.
Разьдзьмухвай
колектыўныя
грудзі
мяхамі.
Лёзунгі імчы
па рабочых узводах.
Ня губляй тэмпу!
Трымай крок!
Накручвай
наварочвай,
гані ходу
бесьперапынным тыднем!

Захапленьне,
узрастай
і жыві на зямлі.
фабрычным
зьзяньнем
весялковым!...
Гэты
лёзунг
нясі
вершаваным сьмехам,
афарбуй
у колеры
плякатнага
роду! **Маякоўскі.**

### III. Абвяшчальны лад.

Выпішце вершаваны ўрывак, дзеясловы падкрэсьліце і вызначце характэрныя іх адзнакі.

Наш дзень прышоў...
Вялікім творчым словам
уславім час прыгожы на зямлі.
О, любы друже, поступам сталёвым
Ідзе нязнаны росквіт на палі. **Куляшоў.**

Ці можна даныя дзеясловы далучыць да груп дзеясловаў умоўнага ці загаднага ладу?

Разумеецца, не, бо ніводзін з іх не выражае ні ўмоўнасьці, ні загаду, бо ніводзін з іх ня мае патрэбных для таго формальных частак (бы, канчаткаў ці суфіксаў загаднасьці).

Якімі-ж асаблівасьцямі тады яны самі вызначаюцца?

Дзеслоў *„прышоў“*—належыць да прошлага часу, *„уславім“* да будучага простага, а *„ідзе“* да часу цяперашняга.

Выражэньне часу, такім чынам, зьяўляецца тою выключную асаблівасьцю, якою даныя дзеясловы адзначаюцца ад дзеясловаў і ўмоўнага і загаднага ладу.

Заўважце:

1. Тыя дзеясловы, якія маюць форму часу, належаць да трэцяга ладу—**ладу абвяшчальнага.**

2. Дзеясловы абвяшчальнага ладу, значыць, сваёю формаю ня могуць выражаць ні ўмоўнасьці *(вывучаў-бы, прынесьлі-б),* ні загаду *(вывучай, прынясеце),* а толькі ўстанаўляюць факт прыналежнасьці дзеяньня да таго ці іншага часу *(вывучаў, вывучаю, буду вывучаць, вывучу).*

3. Дзеясловы абвяшчальнага ладу зьмяняюцца: а) (у **асобах,** б) **у ліку** і г) **родзе,** калі набываюць форму прошлага часу адзіночнага ліку.

Такім чынам, дзеясловы абвяшчальнага ладу маюць найбольш складаную форму спражэньня, што можна бачыць з ніжэйпрыведзенае табліцы:

### ТАБЛІЦА

спражэньня дзеясловаў абвяшчальнага ладу.

| | Трываньне | Незакончанае | Закончанае |
|---|---|---|---|
| | Інфінітыў | Несьці, радзіцца | Вынесьці, парадзіцца |
| Асабовыя формы | Цяперашні час | *Адзіночны лік*<br>1 асоба нясу раджуся<br>2 „ нясеш радзішся<br>3 „ нясе(ць) радзіцца<br>*Множны лік*<br>1 „ нясём(ом) радзімся<br>2 „ несяце радзіцеся<br>3 „ нясуць радзяцца | *закончанае трываньне формы цяпераіпняга часу ня мае* |
| Асабовыя формы | Будучы час | *Адзіночны лік*<br>1 „ буду<br>2 „ будзеш<br>3 „ будзе } несьці радзіцца<br>*Множны лік*<br>1 „ будзем<br>2 „ будзеце<br>3 „ будуць } несьці радзіцца | <br>1 ас. вынесу, параджуся<br>2 „ вынесеш, парадзішся<br>3 „ вынесе, парадзіцца<br><br>1 ас. вынясем, парадзімся<br>2 „ вынясеце, парадзіцеся<br>3 „ вынесуць, парадзяцца |
| Родавая форма | Прошлы час | *Адзіночны лік*<br>Муж. нёс, радзіўся<br>жан. нясла, радзілася<br>ніяк. нясло, радзілася<br>*Множны лік*<br>усіх родаў } несьлі, радзіліся | <br>м. вынес, парадзіўся<br>ж. вынесла, парадзілася<br>и. вынесла, парадзілася<br><br>вынесьлі, парадзіліся |

З табліцы бачна наступнае:

1) Форму ўсіх трох часоў, г. зн. асабовую і родавую форму, маюць толькі дзеясловы незакончанага трываньня. Пры гэтым трэба заўважыць і памятаць, што будучы час у гэтых дзеясловаў заўсёды— будучы складаны (глядзі графу „незакончанае“ трываньне).

2) Дзеясловы-ж закончанага трываньня ня маюць формы цяперашняга часу і будучы час у іх—будучы просты (глядзі графу „закончанае“ трываньне).

3) Кожнай форме абвяшчальнага ладу адпавядае пэўная форма інфінітыву (форма неазначальная).

Такім чынам, усе дзеясловы, якія толькі ёсьць у нашай мове, па характары трываньня разьмяркоўваюцца на дзьве групы: група з незакончаным трываньнем і група з трываньнем закончаным. Пераход з аднае групы ў другую ў парадку словазьменнасьці не адбываецца. Ад інфінітыва з незакончаным трываньнем можна ўтварыць формы абвяшчальнага ладу, як і іншых ладоў, толькі з незакончаным трываньнем, а імення: формы цяперашняга, будучага складанага і прошлага незакончанага часу. Ад інфінітыва-ж з закончаным трываньнем утвараюць іншыя формы таксама толькі закончанага трываньня, а імення: будучы просты і прошлы закончаны час (глядзі адпаведныя калёнкі графы табліцы).

*ЗАДАЧА 147.*

З паданых ніжэй двух урыўкаў выбраць дзеясловы і скласьці з іх табліцу спражэньня дзеясловаў абвяшчальнага ладу па ўзоры вышэй паданае табліцы.

1. Мы ўсе захапляемся працай будзённай,
   і ў працы штодзеннай шуміць галава;
   разьмераным строем праходзяць калёны,
      калёны. . . . . .
         калёны. . . .
      ідуць будаваць.

2. Калі прыдзе час вялікай змогі,
   ўсе пойдзем:
   рабочы і поэт—
   пазакрэсьлім чорныя дарогі,
   разьмяцём варожы нам сусьвет.

Куляшоў „Росквіт зямлі".

## § 111. Два спражэньні:

Разьглядзьце табліцу спражэньня дзеясловаў, зварочваючы ўвагу на вылучаныя іх граматычныя часткі, і вызначце характэрныя асаблівасьці дзеясловаў першага раду, з аднаго боку, і дзеясловаў другога раду—з другога боку.

| | Першае спражэньне: | | | Другое спражэньне: | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | *Адзіночны лік.* | | | |
| | I рад | | | II рад | |
| 1 асоба | пяк-у, | да-ю, | піш-у | крыч-у, | сядж-у |
| 2 „ | пяч-эш, | да-еш, | піш-аш | крыч-ыш, | сядз -іш |
| 3 „ | пяч-э(ць), | да-е(ць), | піш-а(ць) | крыч-ыць, | сядз -іць |
| | | *Множны лік.* | | | |
| 1 асоба | пяк-ом | да-ём, | піш-ам | крыч-ым | сядз-ім |
| 2 „ | печ-аце | да-яце, | піш-яце | крыч-ыце | сядз-іце |
| 3 „ | пяк-уць | да-юць, | піш-уць | крыч-аць | сядз-яць |

Пры разглядзе табліцы перш за ўсё зьвярнеце ўвагу на форму першае асобы адзіночнага ліку.

Што мы тут бачым?

Мы бачым, што ў форме першае асобы адзіночнага ліку паміж усімі дзеясловамі як першага, так і другога роду ніякае розьніцы няма: усе яны канчаюцца на *у(ю)*: пяк-*у*, да-*ю*, піш-*у*, крыч-*у*, сядж-*у*.

Далей, разгледзьце формы другое асобы адзіночнага ліку. Заўважце, якія галосныя маюць месца перад асабовым канчаткам у дзеясловаў першага раду і якія ў дзеясловаў другога раду.

Што мы тут бачым?

Перш усяго бачым тое, што сам асабовы канчатак усіх дзеясловаў 2-е асобы адзіночнага ліку адзін і той-жа *„ш“*: *пячэ-ш, дае-ш, піша-ш, сядзі-ш*. Але-ж галосныя, што знаходзяцца перад канчаткам для першага і другога раду зусім розныя. У першым радзе дзеясловаў такімі галоснымі зьяўляюцца *э (е)* і *а*, што паходзіць з ненаціскнога *э (пяч-э-ш, да-еш, піш-а-ш)*; у другім-жа радзе такімі галоснымі зьяўляюцца *ы-і*: *крыч-ы-ш, сядз-і-ш*.

Разгледзьце *трэцюю* асобу адзіночнага ліку. Галосныя, што знаходзяцца ці павінны знаходзіцца перад канчаткам, тыя-ж самыя, што і ў другой асобе: *э(е) а* для дзеясловаў першага раду,—*ы-і* для дзеясловаў другога раду. Тут цікавы сам канчатак—*ць*.

У той час, вы гэта заўважце, калі дзеясловы другога роду (крыч-ы-*ць*, сядзе-і-*ць*) ні ў якім разе ня могуць ужывацца без канчатку *ць*, бо нельга сказаць: ён крычы, ён сядзі, дзеясловы першага раду могуць ужывацца і часьцей ужываюць зусім без канчатку *„ць“* (ён пяч-*э*, ён да-*е*, ён піш-*а* і г. д.), хоць могуць прымаць і прымаюць часам гэты канчатак (у табліцах ён пастаўлен усюды ў дужках). Такім чынам, узятыя і ім падобныя дзеясловы могуць мець дваякую форму для 3-е асобы адзіночнага ліку: без канчатку *„ць“*: *пячэ, сячэ, думае, нясе, піша* і з канчаткам *„ць“*: *пячэць, думаець, нясець, пішаць і г. д.* Права на ўжываньне абедзьвюх гэтых форм зусім аднолькавае.

Цяпер праглядзім канчаткі і галосныя перад імі ў дзеясловах 1-ае асобы множнага ліку.

Асабовы канчатак для ўсіх дзеясловаў тут *„м“*. Галосныя-ж для дзеясловаў 1-га раду будуць такія: пад націскам *о-ё* (не пад націскам тут будзе *е—думаем*), а пасьля зацьвярдзелых не пад націскамі пяк-*о*-м, таўк-*о*-м, няс-*о*-м, няс-*ё*-м да-*ё*-м, чыта-*е*-м, піш-*а*-м.

Для дзеясловаў-жа 2-га раду—усё тыя-ж *ы-і*, што і ў 2 і 3 асобе адзіночнага ліку: крыч-*ы*-м, бяж-*ы*-м, гавор-*ы*-м, сядз-*і*-м кос-*і*-м нос-*і*-м і г. д.

У другой асобе множнага ліку асабовы канчатак для ўсіх дзеясловаў *„це“*. Галосныя-ж перад канчаткам для дзеясловаў другога раду зноў тыя-ж *„ы-і“*: крыч-*ы*-це, дзярж-*ы*-це, сядз-*і*-це, нос-*і*-це, воз-*і*-це, для дзеясловаў-жа першага раду—*а—я*: печ-*а*-цё, таўч-*а*-цё, да-*я*-цё, нес-*я*-цё, вез-*я*-цё, калі канчатак пад націскам; *і а-е*, калі канчатак не пад націскам: дума-*е*-це, чыта-*е*-це, піш-*а*-це.

Нарэшце, зьвярніце ўвагу на канчаткі трэцяе асобы множнага ліку. У дзеясловах першага раду мы маем канчаткі *„уць“-„юць“*, а ў дзеясловах другога раду *„аць“-„яць“*.

Такія характэрныя асаблівасьці дзеясловаў першага і другога раду прыведзенае намі табліцы.

Агулам кажучы, яны зводзяцца да розьніцы тых галосных, якія знаходзяцца перад асабовым канчаткам, пачынаючы з 2-е асобы адзіночнага ліку і да розніцы канчаткаў 3-е асобы множнага ліку. Пры гэтым выразна вызначаюцца два тыпы дзеясловаў, а значыць і два тыпы спражэньня іх.

Першы тып спражэньня, ці проста першае спражэньне мае такія адзнакі (глядзі табліцу I рад).

Заўважце:

1) Канчатак *„уць“-„юць“* для 3-е асобы множнага ліку.

2) Дапушчальнасьць дваякае формы для 3-е асобы адзіночнага ліку:

а) без канчатку *„ць“*: думае, чытае, піша і

б) з канчаткам *„ць“*: думаець, чытаець, пішаць.

3) пры-канчатковыя галосныя—*(эе)*, *(оё)*, *(ая)*, і ні ў якім разе ні *„ы“-„і“*.

Другое спражэньне мае такія асаблівасьці (глядзі табл. II рад).

Заўважце:

1. Канчатак *„аць“-„яць“* для 3-е асобы множнага ліку.

2. Абавязковы адзіны канчатак *„ць“* для 3-е асобы адзіночнага ліку з галоснаю *ы* ці *і* перад канчаткам.

3. Галосныя *„ы-і“* перад канчаткамі 2 і 3, асобы адзіночнага ліку, 1 і 2 асобы множнага ліку.

Паводле I і II спражэньня зьмяняюць сваю форму амаль усе дзеясловы нашае мовы і, разумеецца, адны строга па ўзоры I-га спражэньня, а другія строга-ж па ўзоры II-га спражэньня. Толькі ёсьць адзінкі дзеясловаў, напрыклад, *„бегці“*, якія спрагаюцца часткова па ўзоры I, часткова па ўзоры II спражэньня, ды яшчэ дзеясловы *„ісьці“* і *„даць“*, якія захавалі ад старажытных часоў сваю асаблівую, як кажуць, архаічную форму спражэньня.

Форма спражэньня дзеяславаў *„есьці*, даць“ наступная:

| | *Адзіночны лік.* | | *Множны лік.* | |
|---|---|---|---|---|
| 1 асоба | ем, | дам, | ямо, | дамо |
| 2 асоба | ясі, | дасі | яськце, | дасьце |
| 3 асоба | есьць, | дасьць | ядуць, | дадуць |

Як бачыце, у дзеясловах—*есьці, даць* толькі форма трэцяе асобы як адзіночнага, так і множнага ліку падобна да асобовае формы іншых дзеясловаў. Што-ж тычыцца першае і другое асобы адзіночнага ліку і першае асобы множнага, дык асабовая іх форма нічога агульнага ня мае з асабоваю формаю звычайных дзеясловаў, а ў другой асобе множнага ліку зусім няма перадканчаткавай галоснай, якая ўласьціва гэтай асобе ўсіх іншых дзеясловаў.

Трэба адзначыць, што характэрныя асаблівасьці першага і другога спражэньняў выразна выступаюць толькі тады, калі канчаткі дзеясловаў знаходзяцца пад націскам: *сячэш - сякуць, даеш-даюць, крычыш-крычаць, сядзіш-сядзяць.*

Калі-ж канчатак дзеясловаў не пад націскам, дык характэрныя асаблівасьці некаторых асабовых форм скрадваюцца, нявыразна выступаюць, а то і проста зьмешваюцца так, што замест формы другога спражэньня ўжываецца форма першага і наадварот. Так, могуць сказаць і нават напісаць *гаворуць, косюць, носюць, просюць* у той час, калі трэба сказаць і напісаць: **гавораць, косяць, носяць, просяць,** бо гэта дзеясловы другога, а ня першага спражэньня. Таксама можна пачуць, як гавораць: ты *ведаіш, маіш, думаім, чытаім, кажым, мажым,* а тым часам трэба казаць і пісаць: ты **ведаеш, маеш, думаеш, чытаеш, кажам, мажам,** бо гэта дзеясловы I спражэньня, а ня другога.

Нарэшце, можна пачуць, як кажуць: *гавора, просе, косе, носе* форма I спражэньня), або: ён *сеіць грэіць* (форма II спражэньня), а трэба (казаць і пісаць: ён **гаворыць, просіць, косіць, носіць,** бо гэта дзеясловы II спражэньня; **сее** *(ць)*, **грэе** *(ць)*, бо гэта дзеясловы I спражэньня.

Такія непаразуменьні, асабліва пры пісьме, магчымы з усімі дзеясловамі, асабовыя канчаткі якіх знаходзяцца не пад націскам.

І вось, каб ня блытаць у гаворцы, а асабліва пры пісьме форм дзеясловаў I спражэньня з дзеясловамі II і наадварот, трэба, па-першае, добра разумець і ўяўляць сабе тыя асаблівасьці, якімі вызначаюцца дзеясловы першага спражэньня ад дзеясловаў другога спражэньня, па-другое, аўладаць тымі прыёмамі, пры дапамозе якіх можна выкрыць прыналежнасьць дзеяслова да таго ці іншага спражэньня пры нявыразнасьці яго асабовых форм (галосных пры канчатку).

У гэтых адносінах лепш за ўсё перавесьці дзеяслоў у неазначальную форму, пры каторай дзеясловы II спражэньня маюць зусім выразныя прыметы, а іменна:

З а ў в а ж ц е:

1) Канчатак *іць*, а пасьля зацьвярдзелых зычных *ыць*,

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
|ралі*ць* | круці*ць* | хвалі*ць* | песці*ць* | прасі*ць* |
| валі*ць* | малаці*ць* | хадзі*ць* | насі*ць* | трывожы*ць* |
| крочы*ць* | дары*ць* | гавары*ць* | мешы*ць* | тачы*ць* |

Усе паданыя дзеясловы другога спражэньня. Значыць, у другой асобе адзіночнага ліку іх форма будзе на *іш-ыш:* ты *паліш, валіш, гаварыш, дорыш, малоціш, ходзіш і г. д.;* у 3 асобе адзіночнага ліку на *іць-ыць:* ён *паліць, валіць, дорыць і г. д* ў 3 асобе множнага ліку на *аць-яць: паляць, валяць, гавораць, дораць і г. д.*

Але-ж аднаскладовыя дзеясловы: *біць, ліць, піць, віць, крыць, шыць, мыць, рыць, жыць*—адносяцца да I спражэньня, бо ў іх *і-ы* не пры канчатку, а ў корані. Таму іх формы ў адпаведных асобах будуць такія:

2 асоба адз. ліку: *б'еш, льлеш, крыеш, шыеш і г. д.*

3 „ „ „ : *б,е(ць), льле(ць), крые(ць), мые(ць) і г д.*

3 „ множн. ліку: *б'юць, льлюць, крыюць, шыюць і г. д.*

2) Канчатак у неазначальнай форме *„ець“*, а пасьля зацьвярдзелых *„эць“* пры ўмове, калі галосны *е-э* выпадае ў цяперашнім часе: *глядзець-гляджу-глядзіш-глядзяць; грымець-грымлю, грыміш-грымяць; гарэць-гару-гарыш-гараць.*

Калі-ж *е-э* ў цяперашнім часе не выпадае, дык дзеясловы, што ў неазначальнай форме маюць канчатак *ець-эць*, належаць не да другога, а да I спражэньня.

*бялець-бялею, бялееш, бялее, бялеюць;*

*грэць-грэю, грэеш, грэе(ць), грэюць.*

3) Канчатак *„аць“* з зычным перад канчаткам, які ў цяперашнім часе не чаргуецца з іншымі, зычнымі, і, акрамя таго, *„а“* ў цяперашнім часе выпадае: *ляжаць-ляжу, ляжыш; маўчаць-маўчу, маўчыш; пішчаць-пішчу, пішчыць і г. д.*

А вось дзеясловы: *казаць, пісаць, таптаць*—першага спражэньня, бо зычныя *з, с, т* у цяперашнім часе чаргуюцца з іншымі зычнымі: *з-ж, с-ш, т-ч:* казаць-кажаш, пісаць-пішаш, таптаць-топчаш. Таксама і дзеясловы *вешаць, назіраць, даганяць*—першага спражэньня, бо гук *„а“* ў цяперашнім часе не выпадае: *вешаць-вешаю, пазіраю-пазіраць; даганяць-даганяю.*

Умець вызначыць спражэньне дзеяслова мае вялікае практычнае значэньне, бо на прыналежнасьці дзеяслова да таго ці іншага спражэньня залежыць тое ці іншае яго напісаньне, напісаньне іменна прыканчатковых галосных, якія не пад націскам гучаць зусім нявыразна. Зьмешчаныя ніжэй задачы і маюць на ўвазе даць рад практыкаваньняў, па-першае, для сталага ўсваеньня характэрных асаблівасьцяй першага і другога спражэньня і, па-другое, для сталага практычнага ўсваеньня правапісу дзеясловаў.

## *ЗАДАЧА 148.*

Паданым ніжэй дзеясловам, якія маюць неазначальную форму, прыдаць форму дзеясловаў 3-е асобы множнага ліку.

Увага: Для выкананьня данае задачы, трэба помніць:

1) што дзеясловы I спражэньня ў 3-е асобы множнага ліку канчаюцца на *уць-юць*, а дзеясловы II спражэньня на *аць-яць* (глядзі табліцу);

2) што дзеясловы другога спражэньня можна вызначыць па іх неазначальнай форме (глядзі правіла).

*Лавіць, калоцца, плаціць, малаціць, прымаць, выкідаць, карміць, вызначаць, перасьцерагаць, смаліць, паліць, выганяць, працаваць, гаварыць, палажыць, гарэць, глядзець, ненавідзець, цярпець, адшукваць, дыхаць, пісаць, пішчаць, спаць, казаць, пазіраць, даганяць маўчаць.*

## *ЗАДАЧА 149.*

Ніжэй паданыя дзеясловы, пастаўленыя ў неазначальнай форме, паставіць у форме 1, 2 асобы адзіночнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу.

Увага: Для выкананьня данае задачы трэба ведаць і памятаць:

1) што дзеясловы I спражэньня ў 2 асобе адзіночнага ліку канчаюцца на *эш-еш*, а пасьля зацьвярдзелых зычных на *аш;* дзеясловы-ж другога спражэньня канчаюцца на *ыш-іш* (глядзі табліцу і тлумачэньне да яе).

*Узяць, прылажыць, паехаць, ухваліць дастаць, напісаць, прыставіць, папрацаваць, зрабіць, палажыць, вымесьці, вывезьці, засеяць, вычасаць, узважыць, памагчы, пахадзіць, паглядзець, ведаць, прасіць, гаварыць, пытаць, перавярнуць, даганяць, выказаць, зьвязаць.*

## *ЗАДАЧА 150.*

Дзеясловы, паданыя ў папярэдняй задачы, запісаць у форме 3-ае асобы адзіночнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу.

Увага: Дзеясловы I спражэньня ў 3-й асобе адзіночнага ліку цяперашняга і будучага простага часу канчаюцца на „*е*", а пасьля зацьвярдзелых на „*а*"; дзеясловы-ж 2 спражэньня на *ыць-іць* (глядзі табліцу і тлумачэньне да яе).

*ЗАДАЧА 151.*

Прачытаць верш, выбраць з тэксту ўсе дзеясловы і запісаць кожны з іх у форме першае асобы множнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу.

Увага: Першая асоба множнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу мае канчаткі:

а) для 1 спражэньня пад націскам—*ом-ём,* не пад націскам—*ем,* пасьля зацьвярдзелых—*ам,* б) для 2 спражэньня—*ым-ім* (глядзі табліцу І і II спражэньня і тлумачэньне да яе).

Панясу свае імкненьні
у прасторы, на прасьцяг.
На нябесным прыгуменьні
хай, як зоры, шалясьцяць.
Раскажу, што знаў і знаю,
прапяю, што чуў калісь,
і рассыплю ў шумным гаю
звонка-струнны пераліў.
Не абняць, ня зьмерыць вокам
шыр палёў і неба сінь.
Заліліся дзесьці звонка
разьліўныя галасы.
Я вітаю сэрцам чулым
гэты сьпеў і гэты дзень.
Струны звоняць, бо пачулі,
што вясна ізноў ідзе.
Льлецца радасьць, соладзь вісьне;
я стаю, к зямлі прырос.
Чую песьні—новы песьні
дзень вясны да нас прынёс.
Разам, разам—з ветрам, з сонцам
так і хочацца ў прасьцяг
і пяяць, пяяць бясконца
песьні новыя жыцьця.
Гаварыць, сьмяяцца, плакаць,
песьні пець—зьвінець, зьвінець—
расьцьвісьці чырвоным макам,
каб заўсёды ружавець.

Федаровіч. „Настроі".

*ЗАДАЧА 152.*

Тыя-ж дзеясловы, што і ў задачы 151, запісаць у форме 2 асобы множнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу.

Увага: 2-ая асоба множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу мае канчаткі:

а) для І спражэньня *еце,* пасьля зацьвярдзелых зычных *аце* і яшчэ *яце,* калі націск прыпадае на апошні склад—на *це.*

б) Для II спражэньня ва ўсякім выпадку *ыце-іце.*

*ЗАДАЧА 153.*

Сьпішэце тэкст, замест шматкроп'я ўстаўце патрэбную літару.

Увага: Для выкананьня данае задачы прагледзьце: 1) канчаткі дзеясловаў 2 асобы адзіночнага ліку і 2) з заданьня 4-га, § 31 „Прыпадабненьне шыпячых і сычачых".

Добра ў лесе восеньню. Расьсядз . . . ся на палянцы і любу . . ся разнаколернымі лістамі на дрэвах. Паветра ўдыха . . . поўнымі грудзьмі і ўвесь захапля . . . ся цішынёю і хараством лесу. Дадому не сьпяша . . . ся, ня гледзячы на змрок. Варочаш . . . ся-ж заўсёды бадзёрым жыцьцярадасным, з ахвотаю потым бяр . . . ся за кніжку, за штодзенную працу і ўвесь адда . . . ся сваім службовым і грамадзкім абавязкам.

---

## Б. З СЫНТАКСУ.

### § 112. Сынтаксычная сувязь дзеяслоўных форм.

У папярэдніх заданьнях, а галоўным чынам у заданьні 2, мы ўжо гаварылі, што словы ў нашай мове не зьяўляюцца ізаляванымі адно ад другога, наадварот, што яны прадстаўляюць сабою арганізаваныя рады закончаных граматычных сувязяй, складаючы як простыя, так і складаныя сказы, пры дапамозе якіх мы і можам выказваць свае думкі.

Граматычныя сувязі слоў мы назіралі на шматлікіх прыкладах і ў заданьні 2 (гл. § „Як будуюцца сказы) і ў заданьні 6, дзе гэтаму пытаньню спэцыяльна прысьвечаны §§. Але-ж там мы толькі выкрывалі граматычную сувязь слоў і законы гэтае сувязі, не датыкаючыся таго, якія іменна граматычныя тыпы слоў і якім спосабам могуць уваходзіць ва ўзаемную сувязь, каб арганізаваць правільны граматычны рад.

І вось зараз, калі мы азнаёміліся з найважнейшаю часьцінаю нашае мовы—дзеясловам, калі мы даведаліся, як гэтыя самыя дзеясловы могуць мяняць сваю форму і дзеля чаго патрэбна ім гэтая зьмена форм, будзе своечасова і мэтазгодна азнаёміцца і з усімі тымі граматычнымі сувязямі, якія могуць мець дзеясловы ў сказах.

Калі мы вывучаем формы слоў і іх зьмену, дык гэта завецца **морфолёгіяй.** Морфолёгія—слова, запазычанае з грэцкае мовы, яно азначае вучэньне аб формах.

Калі-ж мы вывучаем граматычныя сувязі слоў у сказах, дык гэта называецца **сынтаксам** (сынтакс—таксама слова грэцкае і азначае вучэньне аб пабудове мовы). Вось чаму граматычныя сувязі слоў завуцца яшчэ і сынтаксычнымі сувязямі.

У даным параграфе мы разгледзім сынтаксычныя сувязі дзеясловаў. У далейшым-жа, па меры дэтальнага азнаямленьня з новымі тыпамі слоў і іх формамі, мы будзем усвойваць таксама і новыя іх тыпы сынтаксычных сувязяй.

I.

Прачытайце ніжэй паданы тэкст, зварочваючы ўвагу на вылучаныя словы і на іх граматычную узаемную сувязь у сказе.

Наш колектыў *спадзяецца* ў самы кароткі час *уцягнуць* у соцыялістычнае будаўніцтва ўсю бядняцка-серадняцкую масу нашай вёскі. Ён *спадзяецца* на працягу гэтага-ж году *перабудаваць* усе аднаасобныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ў адну гаспадарку колектыўную і, на аснове гэтага, *ліквідаваць* у нашай мясцовасьці кулацтва, як клясу.

У парадку ўдарнасьці пры шырока разгорнутым соцспаборніцтве мы *бярэмся* ўдвое *пашырыць* засеў тэхнічных культур, так патрэбных нашай соцыялістычнай індустрыі. У парадку ўдарнасьці мы *пачынаем паляпшаць* і наш культурна-бытавы стан. На апошнім сходзе мы аднагалосна *ўхваляем арганізаваць* колектыўную кухню, пральню і дзіцячы сад. На наступным агульным сходзе мы *абавязваемся адчыніць* у калгасе школу дарослых, клюб з бібліотэкаю-чытальняю і абарудаваць радыё-прыёмнік з гучна-гаварыльнікам.

Адкажэце на пытаньні:

1) Якою часьцінаю мовы зьяўляюцца ўсе вылучаныя словы?

2) Колькі такіх вылучаных слоў мае кожны сказ?

3) Якім членам сказу зьяўляюцца вылучаныя словы?

4) Ці ёсьць між вылучанымі словамі граматычная сувязь і якая іменна?

Адказы:

1) Усе вылучаныя словы зьяўляюцца дзеясловамі.

2) У кожным сказе два дзеясловы, з якіх адзін асабовы дзеяслоў (*спадзяецца, пачынаем, бярэмся* і інш), а другі—інфінітыў (*уцягнуць, перабудаваць, ліквідаваць, пашырыць, паляпшаць* і інш.).

3) Кожная пара дзеясловаў (адзін—асабовы, другі — інфінітыў) разам зьяўляецца адным выказьнікам так званым падвойным выказьнікам.

Увага. 1. Выказьнік, што выражаецца адным дзеясловам, называецца простым выказьнікам, а што выражаецца двума, а часам і трыма дзеясловамі, падвойным.

2. Выказьнік, які выражаецца будучым складаным часам (гл. заданьне 7-е § 106, п. II) хоць і складаецца з двух дзеясловаў лічыцца простым, а не падвойным выказьнікам.

4) Граматычная сувязь між кожнай параю дзеясловаў бязумоўная, і відавочная, бо толькі ў шчыльнай граматычнай сувязі яны разам абодвы здольны выразіць патрэбную думку:

**спадзяецца** *ўцягнуць*
**спадзяецца** *перабудаваць*
**ухваляем** *арганізаваць*
**пачынаем** *паляпшаць*
**абавязкамся** *адчыніць*
**бярэмся** *пашырыць*

Цяпер—якая-ж гэта граматычная сувязь? Ці будзе сувязь гэта дапасаваньня? кіраваньня? прымыканьня?

Бязумоўна, гэта сувязь прымыканьня да асабовага дзеяслова інфінітыву, як часьціны мовы, якая ня здольна зьмяняць сваіх канчаткаў чаму ня здолена ні дапасавацца, ні кіравацца.

Вось гэта ёсьць першы тып граматычнай сувязі дзеясловаў. Гэтую сувязь можна выразіць так:

**Асабовая форма дзеяслова + неазначальная форма дзеяслова**
*(цяперашні ці будучы просты час).* *(інфінітыў)*

II.

Прачытайце тэкст, разьбярэцеся ў вылучаных словах і вызначце як палажэньне іх у сказе, так і іх узаемную граматычную сувязь.

Даўно рабочы *пачаў весьці* ўпартую барацьбу за сваё вызваленьне з-пад ярма прыгнечаньня і эксплёатацыі. Доўга *прышлося бароцца*, покуль рабочы пад кіраўніцтвам сваёй комуністычнай партыі і ў шчыльным саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства *не хапіўся ўзяцца* за аружжа. І *пайшла* рабочая дружына *зьнішчаць* царскія троны і *разбураць* усё, што *магло перашкаджаць* пабудове новага ладу, пазбаўленага зьдзеку чалавека над чалавекам.

І тут, як і ў папярэднім прыкладзе, мы маем справу з дзеясловамі. І тут, як і там, дзеясловы граматычна злучаны па-парна спосабам дапасаваньня, складаючы ў кожным сказе падвойны выказьнік.

пачаў *весьці*
прышлося *бароцца*
хапіўся *ўзяцца*
пайшла *зьнішчаць*
пачалі *рваціца*
пайшла *разбураць* і г. д.

Розьніца толькі ў тым, што ў даных прыкладах інфінітыў (гл правую калёнку) граматычна злучан не з асабовым дзеясловам, а з родавао яго формаю (гл. левую калёнку).

Вось гэта і будзе другі тып граматычнае сувязі дзеясловаў у сказе, якую можна выразіць так:

**Родавая форма дзеяслова + неазначальная форма дзеяслова**
*(прошлы час)* *(інфінітыў)*

III.

Возьмем і разгледзім яшчэ прыклады:

*Дазвольце* прачытаць вам цікавую кніжку.

*Ідзеце змагацца* з клясавымі ворагамі пролетарыяту.

Дружней, напорней *бярэмся будаваць* соцыялізм.

*Заклікайце* лепшых колгасьнікаў, вясковую беднату *ўступаць* у рады КП(б).

Выпішма ўсе злучэньні дзеяслоўных форм і мы атрымаем наступнае:

дазвольце *прачытаць*
ідзеце *змагацца*
бярэмся *будаваць*
заклікайце *ўступаць*

У правай калёнцы—усё тыя-ж інфінітывы, а ў левай—дзеяслоўныя формы загаднага ладу, пры чым і ў гэтых сказах, як і ў папярэдніх, кожная пара дзеясловаў дае адзін падвойны выказьнік.

Такім чынам, трэці тып граматычных дзеяслоўных злучэньняў будзе складаць:

**Загадны лад + неазначальная форма**
**дзеяслова** *(інфінітыў)*

IV.

Прыклады:

Мне *хацелася-б паступіць* на рабфак. Дзеля гэтага *прышлося-б пакінуць* на некаторы час маю цяперашнюю грамадзкую працу. Затое мне *ўдалося б узброіцца* ведамі. З новымі сіламі *вярнуўся-б* я *працаваць* зноў сюды, дзе з найбольшаю карысьцю я *змог-бы прыкладзіць* да жыцьця набытыя мною ў навучальнай установе веды.

У даных сказах мы назіраем граматычнае злучэньне інфінітыву з формай умоўнага ладу:

хацелася-б *паступіць*
прышлося-б *пакінуць*
удалося-б *узброіцца* і г. д.

Такім чынам, чацьвертым відам граматычнага злучэньня дзеясловаў будзе:

**Умоўны лад + неазначальная форма**
**дзеяслова** *(інфінітыў)*

V.

Прыклады:

Мы *прасілі прыслаць* інструктара *абсьледваць* наш коопэратыў. Ён *даклярываў прыехаць азнаёміцца* з нашаю работаю ў наступную дэкаду. Наша культкамісія *будзе* таксама *прасіць* яго *прачытаць* лекцыю пра „ножніцы“.

У даным урыўку мы назіраем граматычнае злучэньне ня двух, а трох дзеясловаў, якія ўсе разам зьяўляюцца ў сказе адным па-„двойчым“ выказьнікам.

Справядлівей будзе прызнаць тут падвойнае злучэньне аднаго інфінітыву: адно злучэньне з асабоваю ці родаваю формаю дзеяслова, а другое з інфінітывам-жа.

| | |
|---|---|
| 1) Просім *прыслаць*<br>даклярываў *прыехаць*<br>будзе *прасіць* | *Злучэньне інфінітыву з асабоваю і родаваю формою.* |
| 2) прыслаць *азнаёміцца*<br>прыехаць *абрэвізаваць*<br>прасіць *прачытаць* | *Злучэньне інфінітыву з інфінітывам.* |

Гэты апошні від граматычнага злучэньня дзеясловаў выражаецца, значыць, так:

**Неазначальная форма дзеяслова + неазначальная форма дзеяслова**

Калі-ж выпадае карыстацца злучэньнем ня двух, а, напрыклад, трох дзеясловаў, дык і граматычная сувязь атрымоўвае такі выгляд:

**Любая дзеяслоўная форма + неазнач. форма + неазначальная форма.**

VI.

Прыклады:

Мы *барамся*, каб *дабіцца* лепшага грамадзкага жыцьця. Мы шпаркім тэмпам *праводзім* індустрыялізацыю краіны, каб завяршыць пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі.

Ува ўсіх папярэдніх прыкладах мы назіралі непасрэднае граматычнае злучэньне любое дзеяслоўнае формы з інфінітывам. У апошніх-жа прыкладах мы бачым, што інфінітыў далучаецца да другога дзеяслова *(працуем, арганізуем, праводзім)* пры дапамозе злучніка *„каб“*:

барамся, *каб* дабіцца
праводзім, *каб* завяршыць

У даным выпадку кожная пара дзеясловаў ужо не складае аднаго хоць-бы і падвойнага выказьніка, а кожны з іх зьяўляецца самастойным выказьнікам двух простых сказаў, злучаных злучнікам *„каб“* у адну складаную фразу. Сказ з злучнікам *„каб“*—залежны сказ, пры чым сказ безасабовы. Перад злучнікам *„каб“* у такіх выпадках абавязкова трэба ставіць коску.

Такія ў агульных рысах віды граматычных сувязяй дзеяслоўных форм.

Акрамя гэтага, дзеясловы ўступаюць, разумеецца, у граматычнае злучэньне і з іншымі называльнымі часьцінамі мовы. Так, мы ўжо ведаем, што дзеяслоў і назоўнік у назоўным склоне заўсёды граматычна злучаюцца спосабам дапасаваньня, даючы сказу яго асноўныя члены— дзейнік і выказьнік (гл. зад. 6-е, § 73); да дзеяслова ў сказе прымыкаюць прыслоўі, значыць граматычна злучаюцца з ім спосабам прымыканьня, як і інфінітыў; дзеясловы прымаюць чынны ўдзел і ў кіраваньні залежным склонам назоўнікаў.

Аб усіх відах гэтых іншых граматычных сувязяй дзеяслова больш грунтоўна будзе высьветлена пры дэтальным азнаямленьні з морфолёгіяй кожнае паасобнае часьціны мовы.

Вывад:

1) У граматыцы мы вывучаем ня толькі формы слоў і іх зьмены, але і сувязі гэтых слоў у граматычных радох, якія мы называем сказамі, ці фразамі.

2) Тая частка граматыкі, якая вывучае формы слоў і іх зьмены, называецца морфолёгіяй.

3) Тая частка граматыкі, якая вывучае граматычныя сувязі слоў у сказах, называецца сынтаксам.

4) Пэўным граматычным тыпам слоў адпавядае звычайна і пэўны тып граматычнае сувязі ў сказах.

5) Дзеяслоўныя формы могуць уваходзіць ва ўзаемную граматычную сувязь такога тыпу:

Любая дзеяслоўная форма + інфінітыў *(зьбіраемся + чытаць; разьлічваем + паехаць + супачыць).*

6) Часам для сувязі дзеяслоўнае формы і інфінітыву ўжываецца злучнік „каб“ *(сьпяваем,* каб *павесяліцца).*

*ЗАДАЧА 154.*

Напішэце па два сказы на кожнае з наступных граматычных сувязяй дзеяслоўных форм.

1. Асабовая форма + інфінітыў.
2. Родавая форма + інфінітыў.
3. Загадная форма + інфінітыў.
4. Умоўная форма + інфінітыў.
5. Інфінітыў + інфінітыў.

6) Любая дзеяслоўная форма + інфінітыў + інфінітыў.

7) Граматычная сувязь дзеяслоўных форм пры дапамозе злучніка „каб“.

## РАЗЬДЗЕЛ ДРУГІ.

(Праца над кнігаю).

### § 113. Укладаньне конспэкту.

Да гэтага часу мы азнаёміліся з такімі відамі прац над прачытаным тэкстам кнігі:

1. Разьмеркаваньне прачытанага тэксту, згодна асноўных яго палажэньняў, на больш дробныя часткі—абзацы (гл. заданьне 2-е і 3-е).

2. Вылучэньне ў межах абзацу асноўных і другарадных да іх палажэньняў, калі апошнія ёсьць у абзацы.

3. Пастаноўка да кожнага асноўнага палажэньня пытаньня—а б чым гаворыцца? і запіс кароткіх адказаў у выглядзе тэкстуальных выпісак з тэксту, адпаведных пастаўленаму пытаньню (гл. заданьне 2-е, § 17, п. 5).

4. Укладаньне простага пляну да прачытанага артыкулу (глядзі заданьне 4 і 5).

5. Укладаньне складанага пляну (глядзі зад. 6-е).

Пераважная большасьць гэтых прац была накіравана, як адзначалася ўжо ў заданьні, на тое, каб паказаць, што і як трэба рабіць, каб грунтоўна разабрацца ў кнізе, каб дасканала зразумець чытанае. І сапраўды, толькі тады, калі чытач здолее разьмеркаваць чытаны тэкст на складаныя яго часткі—асноўныя палажэньні; толькі тады, калі чытач здолее вылучыць гэтыя асноўныя палажэньні з шэрагу іншага матар'ялу, што можа мець месца ў тэксьце; нарэшце, толькі тады, калі чытач здолее правільна наставіць да таго ці іншага палажэньня пытаньне і ўкласьці, такім чынам, просты, а тым больш складаны плян,—толькі тады ён мае права быць упэўненым, што прачытаны ім артыкул прапрацаван грунтоўна і што ён разумее яго дасканала.

Усё гэта нязвычайна каштоўная, нязвычайна патрэбная праца. Але-ж яна прыводзіць, як мы адзначылі, галоўным чынам, толькі да дасканалага ўразуменьня чытанага. А тым часам пры вывучэньні таго ці іншага пытаньня нам бывае патрэбна ня толькі зразумець, а і ўсвоіць увесь той кніжны матэрыял, якім высьвятляецца цікавае для нас пытаньне, на доўгі час захаваць яго ў памяці. Гэтага-ж можна дасягнуць толькі адпаведнымі запісамі, загатаваньнем тых ведаў, якія мы атрымоўваем ад чытаньня кнігі, прамовы, артыкулу і г. д. Мы ўжо казалі, што ў гэтых адносінах некаторае значэньне маюць пляны прачытанага, асабліва складаны плян. Яны нязвычайна каштоўны ў тых выпадках, калі няма часу на больш грунтоўныя запісы прачытанага і калі прачытаны матэрыял мы маем скарыстаць зараз-жа на сьвежую, як гавораць, памяць: для чарговага дакладу, лекцыі, для тэрміновае здачы заліку і г. д.

Пры іншых-жа ўмовах, калі, напрыклад, нам прыгадалася-б скарыстаць запісы па прачытаным, скажам, праз год часу, а мо' і далей аднаго складанага пляну, хоць-бы бездакорна ўкладзенага, далёка не дастарчальна, бо ў пунктах яго зьмешчана толькі назва таго, аб чым гаворыцца ў артыкуле, бо гэта ёсьць ня што іншае, як толькі загалоўкі часам і досыць значных урыўкаў артыкулу. Па загалоўках-жа аднавіць у памяці даўно прачытанае досыць такі цяжка, а часта і зусім немагчыма.

У такіх выпадках патрэбны ўжо запісы, больш грунтоўныя, з якіх бачна было-б ня толькі тое, аб чым гаворыцца, але і тое, што імена гаворыцца.

З адным відам такога грунтоўнага запісу мы ўжо знаёмы. Гэта—тэкстуальныя выпіскі палажэньняў, зафіксаваць якія мы лічылі-б патрэбным; гэта так званы тэкстуальны конспэкт. У сваім агуле, як мы ўжо адзначылі ў заданьні 2, тэкстуальныя выпіскі павінны-б даць яснае ўяўленьне аб тым, пра што гаворыцца ў прачытаным намі тэксьце.

Трэба, аднак, адзначыць, што далёка не заўсёды зручна бывае карыстацца спосабам тэкстуальных выпісак, бо тут многае залежыць і ад характару кніжнага матар'ялу, і ад способу яго ўкладаньня, не гаворачы пра конспэктыўны запіс лекцыі ці прамовы, якія выпадае ня чытаць, а слухаць. І вось тут на дапамогу нам зьяўляецца таксама конспэкт, але ўжо не тэкстуальны, а так званы вольны конспэкт.

Што такое „вольны конспэкт"? Прызначэньне яго, разумеецца, тое-ж самае, што і конспэкту тэкстуальнага—даць у самым найсьцісьлейшым выглядзе поўнае прадстаўленьне аб тым, пра што мы чыталі. Значыць, ён як і тэкстуальны конспэкт, ёсьць запіс сьціслага зьмесгу прачытанага, толькі запіс ня словамі артыкулу, не тэкстуальны запіс, а запіс зьместу сваімі ўласнымі словамі. Па істоце ў гэтым і ёсьць розьніца між конспэктам тэкстуальным і конспэктам вольным. На практыцы з аднолькавым правам можна карыстацца як тым, так і другім конспэктам, мяркуючы на тое, які з іх зручней укласьці.

Уменьне ўкладаць конспэкт—нязвычайна каштоўнае ўменьне, і яго патрэбна набыць усякаму, каму выпадае вывучаць рознага роду жыцьцёвыя пытаньні па кнігах, а тым больш, калі прыходзіцца прыступаць да сыстэматычнага вывучэньня цэлага курсу розных навуковых дысцыплін. Укладаньне конспэкту больш, чым які-небудзь іншы запіс, дапамагае нам усвоіць і захаваць на доўгі час у памяці ўсё тое, што мы чытаем, што мы вывучаем. Вось чаму ўсякай сур'ёзнай прапрацоўцы кніжнага матар'ялу абавязкова павінна спадарожнічаць укладаньне конспэкту, і толькі належна ўкладзены конспэкт будзе сьведчыць аб грунтоўнасьці і сталасьці нашае працы над кнігаю, артыкулам, лекцыяй і т. пад.

Пасьля ўсяго сказанага астаецца толькі ўстанавіць, як прыступіць да ўкладаньня вольнага конспэкту і як яго ўкладаць.

Разумецца, прыступаць да ўкладаньня конспэкту выпадае толькі тады, калі ўвесь кніжны матар'ял, што мае быць праконспэктаваным, будзе прачытаны і калі аб усім прачытаным складзецца ўжо яснае і пэўнае прадстаўленьне. Апошняя акалічнасьць вымагае чытаць тэкст часта ня раз, а некалькі раз перш, чым прыступаць да конспэктаваньня. Усё тут будзе залежыць, разумеецца, як ад характару кніжнага матар'ялу, так і ад ступені падрыхтаванасьці да аўладаньня гэтым матар'ялам самога чытача. Ва ўсякім выпадку перш, чым прыступаць да конспэктаваньня, неабходна ясна ўяўляць сабе ня толькі пачатак, а і канец конспэкту і ўвесь яго аб'ём. Вось чаму абсолютна ня раіцца прыступаць да конспэктаваньня часткі прачытанага, хоць-бы нават і закончанае часткі, калі не дачытан матар'ял да канца.

Раіцца-ж тут трымацца такога парадку:

1) Чытаецца павольна тэкст і адначасова пры першым-жа чытаньні робяцца адзнакі (карандашнае падчыркваньне ці адчыркваньне на палёх) самага істотнага, самых галоўных палажэньняў, паасобных цікавых фраз і нават асобных сказаў. І ў такім парадку вядзецца ўдумлівае чытаньне аж да канца артыкулу, а то і цэлае кнігі.

2) Далей матар'ял прачытваецца паўторна, але ўжо гледзячы па патрэбе: ці ўвесь, калі першае чытаньне не дало поўнага і дасканалага ўяўленьня аб прачытаным, ці толькі адзначаных раней важнейшых месц з мэтаю іх праверкі і цьвёрдае ўстаноўкі парадку і пасьлядоўнасьці асноўных палажэньняў артыкулу.

3) Трэці этап—гэта ўкладаньне пляну прачытанага. Папярэдняе ўкладаньне пляну перад конспэктаваньнем карысна наогул, а для асоб, якія мала спрактыкаваны ў укладаньні конспэктаў, гэта зьяўляецца проста неабходным. Плян, па-першае, пакажа, на колькі сьвядома ўспрынят прачытаны матар'ял, на колькі ён падрыхтаваны да конспэктаваньня, па-другое, плянам будуць намечаны пункты і палажэньні, якія павінны знайсьці сабе месца ў конспэкце, і, нарэшце, плянам-жа будзе ўстаноўлен парадак і пасьлядоўнасьць гэтых палажэньняў у самым конспэкце.

Застаецца толькі вырашыць, які плян—складаны ці просты—патрэбен у дапамогу да конспэкту.

Разумеецца, чым дэтальней будзе распрацаваны плян, тым лягчэй укласьці па ім конспэкт, бо гэтым будзе ўчынена больш ґрунтоўная падрыхтоўчая да конспэктаваньня праца.

Тым ня менш, маючы на ўвазе, што конспэктаваньне адбываецца зараз-жа пасьля ўважлівага і паўторнага чытаньня, пасьля ўважлівага аналізу ўсіх складаных частак чытанага, часта будзе зусім мэтазгодным, калі абмежавацца ўкладаньнем аднаго толькі простага пляну, які патрабуе значна меншае затраты часу.

Выбар таго ці іншага пляну к таму-ж залежыць яшчэ і ад характару самога прачытанага. Чым складаней па сваім зьмесьце прачытаны артыкул, кніга, тым больш дэтальнае папярэдняе апрацоўкі яны патрабуюць. Пры такіх умовах распрацоўка складанага пляну перад конспэктаваньнем будзе вельмі пажаданаю. Наадварот, калі справу маеш з артыкулам ці кніжкаю, проста і ясна ўкладзенымі, калі пасьля чытаньня іх ясна прадстаўляюцца ўсе дэталі прачытанага, дык укладаньне складанага пляну будзе залішнім, тады мэтазгодней абмежавацца ўкладаньнем аднаго простага пляну.

Дык вось якая падрыхтоўчая праца павінна быць выканана перад тым, як укладаць конспэкт, а іменна (яшчэ раз перакажам):

1) Раз і другі раз, а калі трэба, дык і трэці раз чытаецца матар'ял, прызначаны для конспэктаваньня, пры чым у час чыткі робіцца адбор тых пунктаў і палажэньняў, якія павінны ў тым ці іншым выглядзе знайсьці сабе месца ў конспэкце.

2) Апошні раз чытаньне абмяжоўваецца толькі адабранымі месцамі з мэтаю высьвятленьня, што і ў якім парадку павінна быць унесена ў конспэкт.

3) Укладаецца складаны ці просты плян, пасьля чаго пішацца ўжо і самы конспэкт.

Цяпер, як весьці само конспэктаваньне?

Першае, што пры конспэктаваньні патрэбна заўсёды мець на ўвазе, дык гэта тое, што конспэкт—гэта самы сьціслы зьмест артыкулу, кнігі ці лекцыі. Таму ў конспэкт уносіцца з прачытанага толькі самае неабходнае, самае важнае, аб чым там гаворыцца. Конспэкт па істоце сваёй павінен быць самым сьціслым адказам на пункты пляну і толькі. Ніякіх пабочных заўваг, а тым больш сваіх уласных меркаваньняў у конспэкт ня ўносіцца.

Далей, конспэкт укладаецца ў тым самым парадку, у якім укладзен артыкул, пры чым кожнае асноўнае палажэньне артыкулу, якое адпавядае асобнаму пункту простага пляну, пішацца і ў конспэкце з чырвонага радку. Такім чынам, і конспэкт, як і просты плян, будзе складацца з асобных пунктаў—кароценькіх, сьціслa ўкладзеных абзацаў. Толькі гэтыя абзацы ўжо не нумаруюцца, як нумаруюцца пункты пляну, бо кожны з іх лёгічна і стылістычна ўвязваецца з суседнімі пунктамі-абзацамі, утвараючы разам з імі адно стройнае лёгічнае і нават стылістычнае цэлае.

Нарэшце, само ўкладаньне конспэкту лепей усяго весьці па частках, з якіх складаецца конспэктуемы матар'ял: па разьдзелах, калі гэта тычыцца вялікага артыкулу ці кніжкі, або па абзацах, калі артыкул іншага падзелу ня мае. Пры гэтым карысна трымацца такога прыкладна, парадку: конспэктуемая частка прачытваецца, устанаўляецца, што з яе падлягае ўнясеньню ў конспэкт, а б а в я з к о в а ўстанаўляецца ўзаемная сувязь з раней праконспэктаванаю часткаю; толькі пасьля гэтага выконваецца самы запіс конспэкту.

Дзеля паказу, як укладаюцца конспэкты, прыводзім ніжэй узор конспэктаваньня добра вядомага нам артыкулу т. Сталіна „Стыль у рабоце“, па якім даецца тэкстуальны і вольны конспэкт.

Узор:

**Тэкстуальны і вольны конспэкт артыкулу І. Сталіна „Стыль у рабоце“.**

Увага: 1 Тэкст артыкулу глядзі ў заданьні 2-м, стар. 33; плян просты—у заданьні 4-м, стар. 40; плян складаны—заданьне 6-е.

2. Узор конспэкту цалкам узяты з кнігі „Техника развития устной и письменной речи“ И. В. Устинов.

| Тэкст | Тэкстуальны конспэкт | Конспэкт вольны |
|---|---|---|
| 1 абзац | Справа ідзе не аб літаратурным стылі, а пра Ленінскі стыль у рабоце. У чым-жа характэрныя рысы гэтага стылю? Гэтых асаблівасьцяй дзьве: а) рускі рэволюцыйны размах і б) амэрыканская дзелавітасьць. | Ленінскі стыль у рабоце вызначаецца дзьвюма асаблівасьцямі: рускім рэволюцыйным размахам і амэрыканскаю дзелавітасьцю. |
| 2 абзац | Рускі рэволюцыйны размах зьяўляецца анты-атрутаю супроць закаранеласьці, руты-ны, консэрватызму. Без яго немагчымы ніякі рух наперад. Але ён мае ўсе шансы вырадзіцца на практыцы ў пустую „рэволюцыйную“ манілаўшчыну. Каму невядома хвароба „рэволюцыйнага аўтарства“ і „рэволюцыйнае“ „плянатворчасьці“, якая мае сваёю крыніцаю веру ў сілу дэкрэту, што здолее ўсё наладзіць і ўсё перарабіць? | Рускі рэволюцыйны размах—жыватворчая сіла, без якой ня можа быць руху на перад. Аднак, калі яго не аб‘яднаць з амэрыканскаю дзелавітасьцю, дык ён можа выразіцца ў хворую плянатворчасьць. |
| 3 абзац | „Гэта комуністычная чванлівасьць“, так трэтыраваў Ленін веру ў такое аўтарства і дэкрэта-творчасьць. „Рэволюцыйнаму“ пустазвонству Ленін звычайна супроцьставіў простыя і будзённыя справы: „Паменш пышных фраз,— гаварыў Ленін, — пабольш простае будзённае працы“. | Веру ў дзейнасьць надобнае творчасьці Ленін называў „комуністычнаю чванлівасьцю“; апошняй ён супроцьставіў жывыя факты комуністычнага будаўніцтва. |

| Тэкст | Тэкстуальны конспэкт | Конспэкт вольны |
|---|---|---|
| 4 абзац | Амэрыканская дзелявітасьць зьяўляецца, наадварот, анты-атрутаю супроць „рэволюцыйнай“ манілаўшчыны і фантастычнае творчасьці. Але амэрыканская дзелавітасьць мае ўсе шансы вырадзіцца ў вузкае і бяспрынцыпнае дзяляцтва, калі не аб'яднаць яе з рускім рэволюцыйным размахам. | Амэрыканская дзелавітасьць — нястрымная сіла, якая сваёю настойлівасьцю забясьпечвае посьпех пачатае справы. Але па-за сувязьзю з рускім рэволюцыйным размахам яна можа ператварыцца ў бяспрынцыпнае дзяляцтва. |
| 5 абзац | Аб'яднаньне рускага рэволюцыйнага размаху з амэрыканскаю дзелавітасьцю— у гэтым істота Ленінізму ў партыйнай і дзяржаўнай рабоце. Толькі такое аб'яднаньне дае нам закончаны тып працаўніка-Ленінца. стыль Ленінізму ў працы. | Аб'яднаньне першага з другім дае закончаны тып працаўніка-Ленінца. |

Увага: З параўнаньня тэкстуальнага конспэкту з вольным выразна бачна перавага аднаго з іх перад другім.

*ЗАДАЧА 155.*

Праконспэктаваць артыкул т. Сталіна „Партыя, як вышэйшая форма клясавае організацыі пролетарыяту“. (Гл. зад. 6-е, зад. 135).

**Выслаць на рэцэнзію.**

з § 106 задачу — 137
„ § 107 „ — 139
„ § 109 „ — 141
„ § 110 „ — 143, 144, 146, 147
„ § 111 „ — 148, 149, 150, 151, 152 і 153
„ § 112 „ — 154
„ § 113 „ — 155




# ГІСТОРЫЯ РЭВОЛЮЦЫЙНАГА РУХУ

## Ў ЗАХОДНЯЙ ЭЎРОПЕ І ПАЎНОЧНА-АМЭРЫКАНСКІХ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАХ.

## ЗАДАНЬНЕ СЁМАЕ.

### Тэма: I Інтэрнацыянал.

#### Эпоха I Інтэрнацыяналу.

Паражэньне рэволюцыі 1848 года пацягнула за сабой працяжны застой у грамадзка-політычным жыцьці Заходняй Эўропы і панаваньне самай нястрыманай рэакцыі. Рабочы рух перажывае пэрыод глыбокага заняпаду. Зусім іншы малюнак наглядаецца ў экономічнай галіне. З 50-х гг. XIX ст. Заходняя Эўропа ўваходзіць у паласу надзвычайна магутнага прамысловага ўздыму. Гэты ўздым распаўсюджваецца ня толькі на такія перадавыя краіны, як Англія і Францыя. Капіталізм урываецца ў адсталыя краіны і хутка разьвіваецца там, ломячы, выцясьняючы і падпарадкуючы сабе дакапіталістычныя формы вытворчасьці, разбураючы масы сялянства і гарадзкой дробнай буржуазіі, ствараючы там капіталістычную прамысловасьць і рабочую клясу.

Англія ў сваім капіталістычным разьвіцьці значна выпераджае астатнія краіны.

Ужо да 50-х гг. колькасьць гарадзкіх жыхароў раўняецца палове ўсяго яго насельніцтва. Здабыча вугалю з 10 млн. т. у 1800 г. дасягае 61 млн. т. у 1855 г. Вытап чыгуну з 1.390 тыс. т. у 1840 г. да 1855 г. узрастае больш чым у 2 разы—да 3.218 тыс. т. Асабліва шырокі размах набывае ангельская тэкстыльная прамысловасьць. У 1832 г. на ангельскіх тэкстыльных фабрыках налічвалася 2 млн. верацён, у 1858 г. колькасьць верацён узрасла ўжо да 28 млн. Даўжыня чыгуначнай сеткі за дзесяць год (1854—1864) з 8.034 міль узрасла да 12.789. Англія 50—70-х гадоў зьяўляецца бясспрэчным гегемонам капіталістычнага сьвету.

У Францыі эпоха Наполеона III была эпохай бесьперапыннага росту капіталізму.

Здабыча каменнага вугалю ў 1852 г. раўнялася 4.904 тыс. т. У 1862 г. яна ўзьнімаецца да 10.347 тыс. т. Вытап чыгуну з 522 тыс. т.

за гэтыя самыя гады ўзрастае да 1.091 тыс. т. Колькасьць прадпрыемстваў з паравымі рухавікамі, якая раўнялася ў 1840 г. 3.200, у 1851 г. узьнімаецца да 6,5 тыс., а ў 1862 г.—да 15 тыс. Даўжыня чыгуначнай сеткі ў 1840 г. раўнялася 1.832 *км*, а ў 1860 г.—ужо 9.439 *км*.

Аднак, француская прамысловасьць па ступені сваёй канцэнтрацыі значна адстае ад ангельскай, і дробныя і сярэднія прадпрыемствы займаюць у ёй яшчэ значнае месца.

Вялікія посьпехі робіць капіталізм і ў Германіі, якая канчаткова ўступіла на капіталістычны шлях пасьля рэволюцыі 1848 г.

Разьвіцьцё капіталізму не абмяжоўваецца заходня-эўропэйскімі рамкамі. Іменна ў гэту эпоху капіталізм складаецца як сусьветная сыстэма, якая ўключае ў сябе і Заходнюю Эўропу, і Паўночную Амэрыку, і Расію. У гэту-ж гістарычную эпоху Заходняя Эўропа перажывае рад нацыянальных войнаў, якія завяршаюць нацыянальнае аб'яднаньне Германіі і Італіі.

Рабочы рух, які быў замёр у першыя гады пасьля разгрому рэволюцыі, з сярэдзіны 50-х г.г. пачынае паступова папраўляцца ад заняпаду. Першапачаткова рабочыя організацыі выступаюць вельмі слабымі, раздробленымі, мала аформленымі, што зьяўляецца няўхільным вынікам паражэньняў, панесеных пролетарыятам у 1848 г. Але з цягам часу рабочы рух вызваляецца ад перажыткаў цяжкіх гадоў і ўступае ў паласу новага ўздыму.

### Рабочы рух у Англіі.

Ангельскі рабочы рух 50-х г.г. знаходзіцца пад наймацнейшым уплывам паражэньня чартызму. Надзвычайная раздробненасьць, цэхавая вузкасьць і сэктанства ангельскіх пролетарскіх організацый, боязьнь палітычных выступленьняў, імкненьне зачыніцца ў вузкія рамкі экономічнай барацьбы тлумачацца ў першую чаргу гэтым уплывам. У гэты пэрыод у Англіі растуць толькі ніжэйшыя формы пролетарскіх організацый. Шырока распаўсюджваюцца такія організацыі, як антыалькагольныя таварыствы „тытотэлераў“ (г. зн. тых, хто п'юць толькі гарбату), коопэратывы, касы ўзаемадапамогі, у якіх у 1859 г. налічвалася да 3 млн. членаў. Гэтыя організацыі адцягваюць увагу пролетарыяту ад палітычнага жыцьця, ад карэнных яго задач, адводзяць яго ў бок ад шырокай дарогі клясавага змаганьня. Затое амаль ане растуць профэсыйныя саюзы. Прамысловы росквіт, перажываем Англіяй, якая іменна ў гэты пэрыод становіцца „фабрыкай сьвету“, суправаджаемы адносна высокай заробнай платай і нязначным беспрацоўем, з свайго боку не стварае спрыяючых умоў для ажыўленьня ангельскага рабочага руху.

Ангельскія трэд-юніёны прасякаюцца духам цэхавай вузкасьці. Усю іх увагу прыцягвае барацьба за дробныя экономічныя ўступкі.

У політычных адносінах трэд-юніёны не займаюць якіх-небудзь самастойных позыцый, ідуць на повадзе ў буржуазных партый, звычайна падтрымліваючы лібэралаў.

Такое становішча пачынае зьмяняцца толькі ў канцы 50-х гадоў, калі крызіс 1857 г. прынёс з сабою абвастрэньне клясавай барацьбы і ўліў сьвежы струмень у ангельскі рабочы рух. Наступленьне капіталістых, якія хацелі ўзваліць увесь цяжар крызісу на плечы рабочых, выклікае хвалю стачак, з якіх асабліва важны вялікія стачкі будаўнікоў 1859 і 1861 г.г. Гэтыя стачкі ўскалыхнулі ўсю ангельскую рабочую клясу і ясна паказалі, што з старымі формамі організацыі, з тэй раздробненасьцю і малааформленасьцю, якая панавала ў ангельскім рабочым руху, нельга пасьпяхова змагацца супроць буржуазіі. Важнейшымі вынікамі стачак зьявілася стварэньне першага Лёндонскага савету профсаюзаў і рост цягі да стварэньня буйных „амальгамаваных“ трэд-юніёнаў.

## Рабочы рух у Францыі. Прудонізм.

Рабочаму руху Францыі нанесьлі мацнейшыя ўдары чэрвеньская разьня 1848 г. і надыйшоўшая сьледам за ёю паласа рэпрэсій. Ад гэтых удараў францускі рабочых рух доўга ня можа паправіцца. Пануючай ідэйнай плыньню сярод францускае рабочае клясы робіцца мірнае, пазбаўленае ўсялякай рэволюцыйнасьці, на скрозь дробнабуржуазнае вучэньне Прудона.

Прудон адносіцца да капіталізму рэзка адмоўна. Але яго ўяўленьне аб крыніцы соцыяльных бед капіталістычнага грамадзтва—тыповае ўяўленьне дробнага буржуа—заключаецца ў тым, што ён бачыць корань усяго зла ня ў сфэры вытворчасьці, а ў галіне абмену. Адсюль выцякаюць тыя сродкі змаганьня з капіталізмам, якія рэкомэндуе Прудон: танны крэдыт, організацыя крэдытных таварystваў узаемадапамогі, крэдытнага банку і да таго падобныя захады.

Прудон ня быў соцыялістам. Грамадзкая ўласнасьць на сродкі вытворчасьці здаецца яму „грубай тыраніяй“, комуністычнае грамадзтва ён лічыць стадным, рабскім грамадзтвам.

Ён палкі прыхільнік прыватнай уласнасьці на зямлю і дробнай уласнасьці наогул. Соцыяльныя рэформы, якія ён пропагандуе, разьлічаны наператварэньне ўсіх у дробных буржуа, яго грамадзкім ідэалам зьяўляецца грамадзтва, складзенае з дробных уласьнікаў—самастойных таваравытворцаў, якое ня ведае соцыяльных язваў капіталізму.

Прудон выступае супраціўнікам політычнага змаганьня рабочае клясы, супраціўнікам рабочых саюзаў. Стачка прызнаецца ім недапушчальнай зброяй змаганьня пролетарыяту.

Адмоўна адносячыся да дзяржавы, будучы прыхільнікам бязуладнага грамадзтва,—свабоднага саюзу вольных грамад, Прудон заклікае сваіх прыхільнікаў заняць позыцыі пасыўнага адмаўленьня дзяржавы,

трымацца ў баку ад політычнага змаганьня і змагацца за свой грамадзкі ідэал танным крэдытам, будаўніцтвам таварыстваў узаемадапамогі і іншымі сродкамі падобнага роду.

Прудонізм выражаў інтарэсы рамесьнікаў, якія разбураліся, але марылі яшчэ ўстаць на ногі і аднавіць сваю экономічную самастойнасьць. Той посьпех, які мела гэтае рэакцыйнае, наскрозь дробнабуржуазнае вучэньне, у асяродзьдзі францускіх рабочых, павінен тлумачыцца клясавай нясьпеласьцю францускага пралетарыяту і адсутнасьцю выразных межаў паміж наёмным рабочым і рамесьнікам у цэлым радзе важнейшых галін францускай прамысловасьці (вытворчасьць прадметаў раскошы, вопраткі, мэблі і г. д.), што стварала спрыяючую глебу дзеля жывучасьці адсталых дробнабуржуазных поглядаў у асяродзьдзі рабочае клясы.

Сярод вельмі невялікай часткі рабочых карыстаўся ўплывам Бланкі, рашучы рэволюцыянэр, комуніст, які імкнуўся стварыць вузкую консьпірацыйную групу рэволюцыянэраў, якая здолела-б у ўдалы момант зрабіць пераварот, устанавіць сваю дыктатуру і распачаць ператварэньне грамадзкага ладу. Бланкізм амаль не займаўся соцыяльна-экономічнымі пытаньнямі і ня лічыў важнай работу ў масах, чым і тлумачылася яго малая распаўсюджанасьць.

## Рабочы рух у Германіі. Ласальянства.

І на германскім рабочым руху вельмі цяжка адбілася паражэньне рэволюцыі 1848 г. Аж да 60-х гадоў працягваецца глыбокі застой у рабочым руху, існуючыя рабочыя організацыі (пераважна, адукацыйныя фэрэйны) у політычных адносінах цягнуцца ў хвосьце ў лібэральнай буржуазіі. Але быстры рост капіталізму ў Германіі, іменна ў 60—70 гг. які ператварае яе ў краіну высокаразьвітай індустрыі, прыводзіць да ўздыму рабочага руху і вызваленьню яго з-пад лібэральна-буржуазных уплываў. У 1862 г. па ініцыятыве саксонскіх рабочых ствараецца ў Лейпцыгу цэнтральны камітэт па скліканьню агульна-германскага рабочага зьезду. Лейпцыгскі ЦК, падрыхтоўваючы зьезд, зьвярнуўся з просьбай да Ласаля выказаць сваю думку пра задачы рабочае клясы. Адказ Ласаля славутае Offenes Antwortsschreiben, у якім Ласаль падкрэсьліваў неабходнасьць разьмежаваньня з прогрэсыстамі і стварэньня самастойнай пролетарскай організацыі, і быў зацьверджан Лейпцыгскім ЦК у якасьці плятформы германскага рабочага руху. 23 мая 1863 г. у Лейпцыгу быў заснованы агульны германскі саюз, на чале якога стаў абраны на пяць год яго прэзыдэнтам Лассаль, а пасьля сьмерці Ласаля—Швэйцэр.

Ласаль пакінуў пасьля сябе глыбокі сьлед у германскім рабочым руху.

Яму бясспрэчна належыць тая заслуга, што ён дапамог абуджэньню клясавае сьвядомасьці і самастойнай організацыі германскага пролетарыяту. Але ня ў меншай ступені Ласалю належыць і гонар

быць прабацькам опортунізму ў Германії. Германская социял-дэмократыя зьяўляецца сапраўдным наступнікам Ласаля, а ня Маркса.

І тактыка Ласаля і яго погляды былі рэзка воражы марксызму. У сваёй барацьбе супроць лібэральнай буржуазіі Ласаль імкнуўся заключыць саюз з юнкерствам і ў абмен за падтрыманьне Бісмарка дамагчыся ўступак для рабочае клясы. Гэтая тактыка ў канчатковым рахунку вяла да пeратварэньня рабочага руху ў апору прускага абсолютызму. Маркс з усёй няпрымірнасьцю пролетарскага рэволюцыянэра асуджаў гэту „рэальную політыку“ Ласаля як здраду справе пролетарыяту. Ня менш варожыя марксызму і тэорэтычныя асновы ласальянства [1]).

Ласаль не стаяў на позіцыях гістарычнага матэрыялізму, яго філёзофскія погляды былі чыста ідэялістычнымі. Ласалю было чужым разуменьне клясавай прыроды буржуазнае дзяржавы: мэтай дзяржавы, паводле яго думкі, зьяўляецца „станоўчае разьвіцьцё і паступовае ўдасканаленьне чалавека“, нават поліцэйска-пруская дзяржава „несьвядома, разумнай сілай рэчаў ажыцьцяўляе разьвіцьцё свабоды“. Выходзячы з гэтага буржуазна-ідэалістычнага погляду на дзяржаву Ласаль колёсальна пераацэньваў ролю і значэньне ўсеагульнага выбарчага права, лічачы, што „толькі ўсеагульнае выбарчае права можа даць здавальняючае прадстаўніцтва социяльным інтарэсам германскага рабочага стану і сапраўды зьнішчыць усе існуючыя ў грамадзтве клясавыя супярэчнасьці“ (вытрымка з уставу ўсеагульнага германскага рабочага саюзу). Сучасная германская социял-дэмократыя ў поўнай меры падзяляе погляды Ласаля і яго фэтышызацыю буржуазнай дэмократыі. Лясаль ня быў інтэрнацыяналістам: „У процілегласьць Комуністычнаму маніфэсту ў супярэчнасьці з усім разьвіцьцём социялізму Ласаль разглядаў рабочы рух з вузка нацыянальнага пункту гледжаньня“ (Маркс, „Крытыка Готскай програмы“). Ласаль займаў социял-патрыётычную позіцыю ў важнейшых пытаньнях (аб'яднаньне Германії пад пруской гегемоніяй, ухваленьне прымусовай германізацыі Польшчы і анэксыоністкіх плянаў Бісмарка і г. д.). Ласаль

---

[1]) *Няправільная ацэнка Ласаля зьяўляецца* важнейшай памылкай „Гісторыі германскай социял-дэмократыі“ Мэрынга. Мэрынг затушоўвае цёмныя бакі ласальянства і несправядліва абвінавачвае Маркса ў прыхільнасьці да Ласаля. Ня так даўно сталі вядомы матэрыялы, якія ўстанаўляюць бясспрэчны факт заключэньня *Ласалем* саюзу з Бісмаркам, атрыманьня Швэйцэрам ад Бісмарка сродкаў на падтрыманьне газэты Агульнага германскага саюзу. Лісты Ласаля да Бісмарка і да графіні Гацфельд, якія цяпер сталі вядомы, цалкам пацьвярджаюць правату *Маркса*, які пісаў у 1865 г. Кугельману (гэты ліст Маркса хаваўся Каўцкім доўгія гады, пакуль ня быў агалошаны Каўцкім у 1918 г. у момант яго разыходжаньня з правай социял-дэмократыяй): „...На справе Ласаль здрадзіў партыі. Ён заключыў формальны дагавор з Бісмаркам (пры гэтым, вядома, *бяз усялякіх гарантый з яго боку*). У канцы верасьня 1864 г. ён павінен быў накіравацца ў Гамбург і там (разам з шалёным Шромам і прускім поліцэйскім шпэгам Маррам) „прымусіць“ Бісмарка інкорпоравацъ Шлезьвіг-Голштынію, г. зн. агаласіць гэта ад імя „рабочых“, за што Бісмарк абяцаў усеагульнае выбарчае права і некаторае социялістычнае шарлатанства“.

зьмешваў пролетарыят з „працоўнымі клясамі“ наогул. Яго пагляд на сялянства, як на консэрватыўную масу, за якую пролетарыят не павінен змагацца з буржуазіяй, яго разуменьне Вялікай сялянскай вайны XVI ст. як зьявішча глыбока рэакцыйнага таксама блізка соцыял-дэмократычным поглядам.

І калі Ласаль адыграў, ня гледзячы на гэтыя антырэволюцыйныя бакі свайго вучэньня, пэўную станоўчую ролю ў гісторыі германскага рабочага руху, дык гэта тлумачыцца тым, што ён папулярызаваў рад ідэй Маркса ў германскім пролетарыяце, але-ж ніводнага слова ня кажучы аб іх крыніцы [1]).

Усеагульны германскі саюз па організацыі І інтэрнацыяналу ня раз заяўляў, што ён прызнае асноўныя прынцыпы Інтэрнацыяналу, але ў больш цесную сувязь з Інтэрнацыяналам не ўваходзіў, бо гэта не дазвалялася прускімі законамі. Другой організацыяй германскага пролетарыяту была соцыял-дэмократычная рабочая партыя (эйзэнахцы), якая стварылася ў 1869 г. з саюзу рабочых фэрэйнаў, што раней знаходзіўся ў блёку з дробнабуржуазнай Саксонскай народнай партыяй і ў 1868 г. разарваў гэты блёк. На чале соцыял-дэмократычнай рабочай партыі стаялі Лібкнэхт і Бэбэль. Эйзэнахцы, ня гледзячы на тое, што яны падзялілі рад памылковых палажэньняў Ласаля, стаялі бліжэй да марксызму і больш цесна былі зьвязаны з Інтэрнацыяналам.

Гэтыя дзьве організацыі разыходзіліся па раду пытаньняў, галоўнымі з якіх былі: розныя адносіны да аб'яднаньня Германіі—ласальянцы былі прыхільнікамі аб'яднаньня Германіі пад гегемоніяй Прусіі айзэнахцы былі прыхільнікамі фэдэрацыйнага аб'яднаньня Германіі; тактычныя разыходжаньні — эйзэнахцы абвінавачвалі ласальянцаў, у прыватнасьці Швэйцэра, у саюзе з абсолютызмам і Бісмаркам спрэчкі ўнутрыорганізацыйнага характару. Спрэчкі паміж эйзэнахцамі і ласальянцамі набывалі іншы раз вельмі рэзкія формы. Але пасьля таго, як у выніку франка-прускай вайны адбылося аб'яднаньне Германіі, і пасьля выключэньня Швэйцэра з агульна-германскага саюзу паміж ласальянцамі і эйзэнахцамі намячаецца зьбліжэньне, якое прыняло ў 1875 г. на Готскім кангрэсе да зьліцьця абедзьвюх організацый і стварэньня соцыял-дэмократычнай партыі.

## Утварэньне Інтэрнацыяналу.

У 60-х гадох у рабочым руху Англіі і Францыі пануе вялікае ажыўленьне. Грамадзянская вайна ў Амэрыцы пацягнула за сабой бавоўняны голад, які цяжка ўдарыў па тэкстыльнай прамысловасьці

[1]) „Ласаль ведаў Комуністычны маніфэст напамяць таксама цьвёрда, як ведаюць прававерныя ласальянцы сьвятое пісаньне, выйшаўшае з-пад яго пяра. Калі ён яго такі груба скажаў, дык гэта для таго, каб мець апраўданьне свайму саюзу з абсолютыстымі і фэўдаламі супроць буржуазіі“ (Маркс, „Готская програма“).

У лісьце Кугельману Маркс выражаецца яшчэ больш рэзка, гаворачы пра „бяссорамнае плагіяваньне“ Ласалем твораў Маркса.

ўсіх краін. На вуліцу былі выкінуты дзесяткі тысяч рабочых. Карыстаючыся спрыяючымі абставінамі, капіталісты іншых галін прамысловасьці робяць спробу перайсьці ў наступленьне на рабочых і пагоршыць умовы іх працы. Вядома, гэтыя спробы націску на рабочую клясу не застаюцца безадказнымі і прымушаюць рабочыя організацыі знаходзіцца ў стане заўсёднага напружаньня.

Другім здарэньнем, якое ўсхвалявала эўропэйскі пролетарыят, было польскае паўстаньне, што адбывалася ў Расіі ў 1863 г., сустрэнутае гарачым спачуваньнем рабочае клясы. У Францыі і Англіі сярод рабочых шырока разгарнуўся рух, які меў на мэце падтрыманьне паўстаньня: склікаліся мітынгі, дэмонстрацыі, урадам прад'яўляліся патрабаваньні ісьці на дапамогу Польшчы. У 1863 г. у Лёндане адбыўся міжнародны мітынг спачуваньня польскім паўстанцам, у якім прынялі ўдзел ангельскія трэд-юніёністы і прадстаўнікі францускіх рабочых. На другі дзень, па ініцыятыве трэд-юніёністаў, была зроблена сумесная нарада ангельцаў і французаў, на якой першы раз паставілі пытаньне аб неабходнасьці сталай сувязі паміж ангельскімі рабочымі і рабочымі контынэнту. Патрэбнасьць у міжнароднай сувязі выклікалася тым, што перад рабочым рухам абедзьвюх краін стаяла шмат агульных задач (у прыватнасьці, для ангельскіх трэд-юніёнаў вострае значэньне набыло пытаньне аб конкурэнцыі танных замежных рабочых, якія выпісваліся з Францыі, Бэльгіі, Германіі ангельскімі капіталістамі, змагацца з якой магчыма было толькі пры сувязі рабочых організацый гэтых краін).

Парашылі, што ангельскія рабочыя зьвернуцца з адпаведнай адозвай—адрасам да францускіх. У гэтым адрасе, напісаным хутка пасьля нарады, у наступных словах знайшлі яркі адбітак тыя практычныя патрэбнасьці, якія прымушалі ангельцаў шукаць сувязі з рабочымі контынэнту.

„Братэрства народаў,—гаворыцца там,—вельмі неабходна ў інтарэсах рабочых. Бо кожны раз, калі мы робім спробу палепшыць сваё становішча шляхам скарачэньня рабочага дню і падвышэньня заработку, капіталісты пагражаюць нам прыцягненьнем францускіх, бэльгійскіх, нямецкіх рабочых, якія могуць выконваць нашу работу за больш нізкую плату...На жаль, гэта пагроза часта выконваецца".

Адказ з боку францускіх рабочых быў пасланы толькі праз год, бо рабочыя організацыі Францыі ў гэты прамежак усю сваю ўвагу аддалі выбарам у палату дэпутатаў, на якіх яны выступілі першы раз зусім самастойна. У верасьні 1864 г. спэцыяльная дэлегацыя францускіх рабочых прыехала ў Англію з адказам на адрас ангельскіх рабочых. 28 верасьня 1864 г. у Лёндоне адбыўся гістарычны сход, які паклаў асновы Інтэрнацыяналу. Сход заслухаў ангельскі адрас і адказ французаў і пастанавіў стварыць міжнароднае аб'яднаньне рабочых. Быў абраны камітэт, якому было даручана выпрацаваць програму і ўстаў новай організацыі і склікаць міжнародны конгрэс пролетарскіх організацый.

У гэты камітэт увайшлі прадстаўнікі ангельскіх і францускіх рабочых, нямецкія і італьянскія эмігранты, якія жылі ў Лёндоне. У ліку абраных членаў камітэту быў і Карл Маркс.

Склад камітэту быў вельмі неаднастайным і добра адбіваў тую рознастайнасьць формаў організацыі і ідэёвых плыняў, якая наглядалася ў рабочым руху. У ім былі трэд-юніёністы, оуэністы, чартысты, прудоністы, бланкісты, нямецкія комуністы, польскія і італьянскія рэволюцыянэры—людзі з самымі рознастайнымі і часам рэзка супроцьлеглымі поглядамі па ўсіх карэнных пытаньнях рабочага руху. Таму, калі камітэт даручыў Марксу скласьці проэкт програмы і ўставу, перад ім стаяла вельмі цяжкая задача: яму трэба было, не адступаючы ні ў чым ад сваіх рэволюцыйных поглядаў, скласьці іх так, каб яны былі прыймальны для ўсіх адценьняў думак, прадстаўленых у камітэце. І Маркс дасканала справіўся з гэтай задачай—напісаныя ім і прынятыя комітэтам установучы адрас і ўстаў І Інтэрнацыяналу паклалі ідэёвыя асновы міжнароднага пролетарскага змаганьня за комунізм і сталі клясычнымі дакумантамі комунізму.

## Програма і ўстаў Інтэрнацыяналу.

Установучы адрас станавіў сабою маніфэст—уводзіны да програмы Інтэрнацыяналу. Абрысаваўшы становішча рабочае клясы і прыйшоўшы да таго вываду, што, ня гледзячы на колёсальны рост прамысловасьці і гандлю, беднасьць рабочае клясы не зьмяншаецца і што становішча ня зможа радыкальна палепшыцца, пакуль існуе капіталізм, адрас адзначае два посьпехі рабочае клясы, дасягнутыя ёю за апошні час: закон аб дзесяцігадзінным рабочым дні ў Англіі і коопэратывы, якія перш за ўсё ўзьнiклi таксама ў Англіі. Заваёва дзесяцігадзіннага рабочага дню зьяўляецца ня толькі практычным посьпехам, але і перамогай самога прынцыпу, перамогай політычнай экономіі рабочае клясы над буржуазнай політычнай экономіяй. Падобнай-жа прынцыповай перамогай зьяўляюцца і коопэратывы, якія ўпяршыню давялі магчымасьць існаваньня і нормальнага ходу буйное вытворчасьці, што організавана і вядзецца без буржуазіі. Аднак ня трэба пераацэньваць коопэратываў, якія ва ўмовах капіталістычнага грамадзтва ніколі ня здолеюць ні спыніць разьвіцьця капіталізму, ні вызваліць рабочую клясу.

Вызваленьне пролетарыяту патрабуе заваяваньня ім політычнай улады. Такая ў сучасны пэрыод важнейшая задача рабочае клясы. Рабочая кляса павінна стварыць згуртаваную політычную партыю, якая будзе кіраваць яе політычным змаганьнем. Посьпех змаганьня рабочае клясы патрабуе міжнароднага аб'яднаньня ўсіх яе сіл, што і зьяўляецца задачай Міжнароднага таварыства рабочых. Міжнародная політыка буржуазных дзяржаў, заснованная на прыгнечаньні і захопах, якая прыводзіць да злачынных разбойніцкіх войнаў, разьядноае рады рабочых. Пролетарыят павінен рашуча змагацца з гэтай політыкай уціску і прыгнечаньня. Такія былі асноўныя ідэі ўстаноўчага адрасу

Програма Інтэрнацыяналу заяўляла, што „вызваленьне рабочае клясы павінна быць справай самой рабочай клясы“, што канчатковай мэтай пролетарыяту павінна быць зьнішчэньне ўсякага клясавага панаваньня, і выкладала агульныя задачы рабочага руху ў розных краінах.

„Прымаючы пад увагу“, гаварыла програма: „... што экономічнае падпарадкаваньне монопольнаму ўладару сродкаў вытворчасьці, г. зн. крыніц жыцьця складае асноўную прычыну рабства ва ўсіх яго відах, соцыяльнай патрэбы, духоўнага зьневажаньня і політычнай залежнасьці.

Што з гэтай прычыны экономічнае вызваленьне рабочае клясы ёсьць вялікая мэта, якой кожны політычны рух павінен быць падпарадкаваны як сродак.

Што ўсе патугі, накіраваныя на дасягненьне гэтай вялікай мэты, заставаліся дагэтуль непасьпяховымі ў выніку недахопу адзінадушша паміж рабочымі розных галін працы ў кожнай краіне і адсутнасьці братэрскага саюзу паміж рабочымі клясамі розных краін.

Што вызваленьне рабочае клясы ёсьць не мясцовая толькі ці нацыянальная, але спэцыяльная задача, ахопліваючая ўсе краіны, у якіх існуе сучаснае грамадзтва, задача, якая можа быць вырашана толькі шляхам узаемнага практычнага і тэорытычнага садзейнічаньня найбольш перадавых краін... засноўваецца міжнародиае таварыства рабочых“.

Організацыйная структура Інтэрнацыяналу, устаноўленая ўставам, была наступная:

Члены Інтэрнацыяналу ў кожнай краіне аб'ядналіся ў сэкцыю Інтэрнацыяналу, якой кіраваў нацыянальны (фэдэральны) савет. Міжнародныя конгрэсы, пэрыодычна склікаемыя, абмяркоўвалі важнейшыя пытаньні рабочага руху і абіралі кіруючы орган усяго Інтэрнацыяналу—Генэральны Савет. Генэральны савет павінен быў зьвязваць пролетарскія організацыі розных краін, абагульваць іх вопыт і кіраваць міжнародным рабочым рухам. І Інтэрнацыянал не станавіў сабою стройнай, строга цэнтралізаванай і моцна згрупаванай організацыі. У яго організацыйнай структуры было шмат нявызначанага, расплывістага. Нацыянальныя сэкцыі ня былі організацыйна аформлены. Ніколі нельга было дакладна ўстанавіць: якую колькасьць членаў аб'ядкае Інтэрнацыянал. Дрэнна абстаяла справа з членскімі ўзносамі, з прычыны чаго фінансавае становішча Інтэрнацыяналу заўсёды было дрэнным. Хоць Генэральны савет і быў надзелены вялікімі поўнамоцтвамі—аж да права выключэньня сэкцый з складу Інтэрнацыяналу, на практыцы ён ня мог стаць організацыйна-кіруючым цэнтрам, і яго функцыі зьвяліся, галоўным чынам, да ідэёвага кіраваньня міжнародным пролетарскім рухам.

**І пэрыод гісторыі Інтэрнацыяналу. Барацьба з прудонізмам.**

Першы конгрэс Інтэрнацыяналу адбыўся ў Жэнэве ў верасьні 1868 г.—толькі праз два гады пасьля заснаваньня Інтэрнацыяналу. Да гэтага ўдалося склікаць толькі конфэрэнцыю, якая насіла падрых-

тоўчы характар, і выпрацавала парадак дня конгрэсу. Большасьць конгрэсу складалі французы і швэйцарцы, якія схіляліся да прудонісцкай позыцыі. Ім процістаялі ангельцы, якія прыехалі на конгрэс з загадзя распрацаванымі матэрыяламі па пытаньнях парадку дня, складзеных Марксам. Адсталыя погляды прудоністаў нямінуча павінны былі стыкнуцца з рэволюцыйнымі ідэямі Маркса.

Ужо пры зацьверджаньні ўстава прудоністы выступілі з патрабаваньнем зачыніць дзьверы Інтэрнацыяналу для ўсіх, хто не займаецца фізычнай працай. Калі ўсьлед за гэтым стала на абмеркаваньне пытаньне аб міжнароднай узаемадапамозе і змаганьні працы з капіталам, прудоністы выказалі адмоўныя адносіны да стачак, рэкомэндуючы замест іх організацыю таварыстваў узаемадапамогі, як асноўную зброю клясавага змаганьня пролетарыяту. Асабліва-ж рэакцыйную позыцыю занялі яны ў пытаньні аб жаночай працы. Выходзячы з таго погляду, што прызваньнем жанчыны зьяўляецца сям'я, прудоністы рэзка выступілі супроць удзелу жанчын у грамадзкім жыцьці і ў вытворчасьці. Лічачы, што ўцягненьне жанчын у вытворчасьць нямінуча пацягне за сабою разбурэньне сям'і, псаваньне звычаяў, яны стаялі за „сьвятасьць хатняга ачага жанчыны" і патрабавалі ад конгрэсу, каб іх заскарузлыя мяшчанскія погляды былі зроблены праграмай усяго міжнароднага пролетарыяту. Аднак і тут, як і ў вышэйпералічаных пытаньнях, конгрэс адхіліў іх прапановы.

Па пытаньню аб профэсыйных саюзах конгрэс адзінадушна прыняў прапановы, распрацаваныя Марксам і разглядаючыя профсаюзы як організуючыя цэнтры рабочае клясы, патрэбныя пролетарыяту не толькі для яго штодзённага экономічнага змаганьня, але неабходныя і для больш важнай мэты—для рэволюцыйнага зьнішчэньня капіталізму. Праўда, прудоністы ўхітрыліся дадаць у гэту рэзолюцыю пышную фразу, якая гаварыла, што ў будучым „рабочы будзе адначасна вытворцам, капіталістым і спажыўцом" і гэтым крыху сапсаваць яе, але, ня гледзячы на гэта, пастановы конгрэсу аб профсаюзах застаюцца і да нашых дзён узорам сапраўды рэволюцыйнага разуменьня ролі і задач профэсыянальных саюзаў.

Жэнэўскі конгрэс сустрэў жывы водгук ва ўсіх краінах. Рабочыя організацыі горача віталі ўтварэньне Інтэрнацыяналу і работы яго першага зьезду. Прыкладам адносін пролетарскіх організацый да Інтэрнацыяналу можа служыць рэзолюцыя Шэфільдзкай конфэрэнцыі ангельскіх трэд-юніёнаў (1865 г.), якая выказала „поўную ўдзячнасьць Інтэрнацыяналу за яго імкненьне зьвязаць рабочых усіх краін агульнымі вузамі братэрства і вельмі рэкомэндавала ўсім профэсыйным саюзам далучацца да Інтэрнацыяналу". У Інтэрнацыянал уступае рад ангельскіх трэд-юніёнаў. У Францыі ўтвараюцца яго сэкцыі. Інтэрнацыянал набывае вялікую популярнасьць у рабочых масах Швэйцарыі, Італіі, Германіі, Бэльгіі. Цікава заўважыць, што грамадзкая думка буржуазіі спачатку аднеслася да Інтэрнацыяналу досыць зычліва. Але калі ўдзел Інтэрнацыяналу ў стачках і пастановы яго конгрэсаў зрабілі

буржуазію больш дасьведчанай аб сапраўдным характары гэтай організацыі, Інтэрнацыянал адразу-ж ператварыўся ў „шайку падбухторшчыкаў“, у людзей, для якіх ня было нічога сьвятога, якія імкнуліся да анархіі, да разбурэньня цывілізацыі і да т. п.

Наступны конгрэс Інтэрнацыяналу адбыўся ў Лёзане ў верасьні 1868 г. Большасьць на конгрэсе належала прудоністам, што паклала адпаведны адбітак на яго пастановы. Конгрэс вынес прудонісцкую рэзолюцыю па пытаньню аб крэдыце і народных банках, якая рэкомэндавала профсаюзам паставіць перад сабою мэту стварэньня „нацыянальнай сыстэмы крэдыту“ і ўкладаць свае сродкі ў організацыю вытворчых таварыстваў.

Пры абмеркаваньні пытаньня аб ролі дзяржавы адным дэлегатам была ўнесена прапанова, паводле якой зямля павінна была стаць колектыўнай уласнасьцю. Францускія дэлегаты горача пярэчылі супроць гэтай думкі. Конгрэс ня прыняў ніякай пастановы па гэтым пытаньні, прызнаўшы неабходным больш глыбока вывучыць яго і паставіць на наступным конгрэсе. Лёзанскі конгрэс, як і папярэдні, выступіў з протэстам супроць войнаў, якія падрыхтоўваліся ўсёй політыкай буржуазных урадаў.

Да часу Лёзанскага конгрэсу і пасьля яго ўплыў Інтэрнацыяналу ў рабочых масах бесьперапынна ўзрастае. Асабліва вялікае значэньне меў той удзел, які прыняў Інтэрнацыянал у стачачным змаганьні. Інтэрнацыянал падтрымліваў баставаўшых рабочых, організоўваў зборы на карысьць забастоўшчыкаў у іншых краінах і перашкаджаў капіталістам, калі тыя рабілі спробы дастаць замежных рабочых—штрэйкбрэхераў, каб прыдушыць стачкі.

У Францыі агульныя сымпатыі рабочых да Інтэрнацыяналу выклікала падтрыманая ім і выйграная дзякуючы гэтаму стачка парыскіх бранзыроўшчыкаў. Калі сьледам за гэтым наполеонаўская паліцыя накінулася на парыскую сэкцыю Інтэрнацыяналу і разбурыла яе, аўторытэт Інтэрнацыяналу ў вачох рабочых мас узрос яшчэ больш і да яго далучылася шмат новых пасьлядоўцаў.

Вялікі рост сэкцый Інтэрнацыяналу можна адзначыць у Бэльгіі і ў Швэйцарыі. Ствараюцца першыя сэкцыі Інтэрнацыяналу і ў Італіі. Нарэшце, уплыў Інтэрнацыяналу пранікае ў Аўстрыю і Германію. Які вялікі моральны ўплыў меў Інтэрнацыянал на рабочыя масы, добра паказвае наступны факт, які прыводзіцца Генэральным саветам у адным лісьце да ангельскіх трэд-юніёнаў: „Калі ў Германіі Бісмарк прапанаваў тарыфную рэформу, Гандлёвая палата Бармэн-Эльбэрфэльда — прускага Манчэстэра — адказала, што прускія фабрыканты не маглі-б конкураваць з ангельскімі, ня зьніжаючы заработку, а гэта немагчыма пры быстрым пашырэньні і значным уплыве Інтэрнацыяналу“. Так Інтэрнацыянал ужо ў першыя гады свайго існаваньня робіцца ўплывовай організацыяй, атуленай гарачымі сымпатыямі пролетарскіх мас, якая надавала страх буржуазіі.

III Конгрэс Інтэрнацыяналу адбыўся ў Брусэлі ў верасьні 1868 г. Сярод 96 дэлегатаў конгрэсу было 55 бэльгійцаў, 18 француза̃ў, 11 ангельцаў, некалькі швэйцарцаў, немцаў і адзін італьлянец. Конгрэс у першую чаргу заняўся пытаньнем аб вайне. Тая выключная ўвага, якую зьвяртаў Інтэрнацыянал на пытаньне аб ваеннай небясьпецы, якая ня выходзіла з парадку дня конгрэсаў Інтэрнацыяналу, выклікалася вастратой міжнароднага становішча ў той гістарычны пэрыод. Толькі што скончылася вайна паміж Аўстрыяй і Прусіяй, насоўвалася франка-пруская вайна. Міжнароднае становішча было вельмі няўстойлівым. Вайны можна было чакаць з дню на дзень. Конгрэс выразіў гарачы протэст супроць вайны і заклікаў рабочых забаставаць у выпадку вайны.

Разгледзеўшы пытаньне аб стачках, конгрэс прыняў рэзолюцыю, якая прызнавала стачкі неабходнай зброяй клясавага змаганьня пролетарыяту. Прудоністы павінны былі адмовіцца ад сваёй ранейшай позыцыі—адмоўных адносін да стачак. Яны галасавалі за рэзолюцыю.

Абмеркаваньне пытаньня аб організацыі крэдыту выклікала палкія спрэчкі, у якіх ангельцы і немцы змагаліся з прудонісцкімі ідэямі, што разьвіваліся французамі і бэльгійцамі, якія далучаліся да іх. Конгрэс у выніку прыняў прудонісцкую рэзолюцыю, якая абвяшчала зыск процантаў крыніцай усялякай несправядлівасьці і няроўнасьці і рэкомэндавала організацыю менавых банкаў. Аднак гэта рэзолюцыя была апошняй перамогай прудонізму ў Інтэрнацыянале.

Яшчэ больш палкія спрэчкі разгарэліся вакол пытаньня аб уласнасьці. Дакладчык унёс колектывісцкую рэзолюцыю, якую прудонісцкая частка конгрэсу сустрэла ў штыхі. Аднак, у даным пытаньні бэльгійцы адкалоліся ад французаў, і конгрэс 30 галасамі супроць 4 пры 15, якія ўстрымаліся, прыняў рэзолюцыю, якая заяўляла, што „экономічнае разьвіцьце сучаснага грамадзтва робіць соцыяльнай неабходнасьцю пэратварэньне зямлі ў грамадзкую ўласнасьць і што дзяржава павінна здаваць зямлю ў арэнду земляробчым таварыствам на такіх самых умовах, як руднікі і чыгункі“; што „шляхі зносін павінны быць у колектыўнай уласнасьці грамадзтва“ і што „каменаломні, каменнавугольныя копі і іншыя руднікі, таксама як і чыгункі, у нормальным грамадзтве будуць належаць грамадзкаму колектыву, прадстаўленаму дзяржавай“. Гэтая пастанова азначала, што Інтэрнацыянал адкрыта становіцца на комуністычныя позыцыі.

Паводле прапановы нямецкіх дэлегатаў конгрэс вітаў Маркса, які выпусьціў 1 том „Капітала“, заявіўшы, што „Карл Маркс зрабіў неацэнёную ўслугу тым, што ён першы сярод экономістаў падвергнуў капітал навуковаму аналізу“ і рэкомэндаваў „Капітал“ увазе ўсіх народаў.

Брусэльскі конгрэс нанёс прудонісцкім ідэям такі ўдар, ад якога прудонізм ужо ніколі ня здолеў паправіцца. Але ў радох Інтэрнацыяналу не ўстанавілася ідэёвага адзінства—на зьмену прудонізму прыйшлі ідэі Бакуніна, змаганьне з якімі ўнутры Інтэрнацыяналу было яшчэ больш упартым і жорсткім, чымся змаганьне з прудонізмам.

## Бакунізм.

Расійскі рэволюцыянэр-эміграпт, буйнейшы правадыр і тэорэтык анархізму Міхаіл Бакунін, па ўсіх важнейшых пытаньнях рабочага руху меў погляды, якія рэзка адрозьніваліся ад поглядаў Маркса.

Галоўнай задачай соцыяльнай рэволюцыі Бакунін лічыў разбурэньне і зьнішчэньне дзяржавы, у якой ён бачыў вінавайцу ўсіх соцыяльных бед капіталізму і першакрыніцу экономічнай няроўнасьці Дзяржава, паводле думкі Бакуніна, стварыла капітал, клясавую няроўнасьць; яна зьяўляецца першапрычынай усіх язваў капіталістычнага грамадзтва. Таму перш за ўсё павінна быць зруйнавана дзяржава— тады аўтоматычна гіне капіталізм, і на яго зломках узьнікне новы бездзяржаўны грамадзкі лад.

З такога погляду на дзяржаву выцякалі адмоўныя адносіны Бакуніна да політычнага змаганьня. Які-б там ні было ўдзел у політычным змаганьні Бакунін лічыў недапушчальным опортунізмам. Задачай рэволюцыянэра зьяўляецца пропаганда, якая растлумачвае масам мэты соцыяльнай рэволюцыі, і падрыхтоўка бунтаў, якія павінны зьмесьці сучаснае грамадзтва з твару зямлі.

Бакунін прыхільнік колектыўнай уласнасьці на зямлю, руднікі і прамысловыя прадпрыемствы. Яго грамадзкім ідэалам зьяўляецца бязуладны саюз аўтономных земляробскіх і прамысловых асоцыяцый. Але ён не разьбіраўся глыбока ў экономічных пытаньнях. Таму ён мог злучаць свае колектывісцкія погляды з дробнабуржуазным утопічным патрабаваньнем „політычнага, экономічнага і соцыяльнага ўраўненьня клясаў“, пачаткам якога павінна быць скасаваньне права насьледваньня— ідэя, узятая Бакуніным у Сэн-Сымона. У Бакуніна ня было колькінебудзь яснага ўяўленьня аб шляхох ажыцьцяўленьня свайго грамадзкага ідэалу — раней трэба дашчэнту зруйнаваць дзяржаву і існуючы лад, а там на яго руінах само сабой узьнікне і расьцьвіце новае грамадзтва. Своеасаблівае ўяўленьне Бакуніна аб рухаючых сілах соцыяльнай рэволюцыі. Бакуніну чужое разуменьне кіруючай ролі рабочае клясы і рэволюцыі; ён лічыў, што Маркс значна пераўвялічваў значэньне пролетарыяту. Асноўнай сілай рэволюцыі зьяўляюцца тыя слоі насельніцтва, пакуты якіх асабліва вострыя, каго сучаснае грамадзтва даводзіць да адчаю: беднае, разбуранае сялянства, люмпэн-пролетарыят і інтэлігентная моладзь, якая чутка ўспрыймае рэволюцыйныя ідэі.

З іншых асаблівасьцяй бакунізму трэба адзначыць асабліва падкрэсьлены атэізм, які тлумачыцца тым, што Бакуніну ў Італіі давялося доўга змагацца з уплывам Мадзіні, славутага італьлянскага рэволюцыянэра, які выступаў пад лёзунгам „бог і народ“.

Погляды Бакуніна не зьяўляліся поглядамі прамысловага пролетарыяту і знаходзіліся ў няпрымірных супярэчнасьцях з марксызмам— ідэолёгіяй прамысловага пролетарыяту. Соцыяльныя карэньні бакунізму іншыя. Разбураемы разьвіцьцём капіталізму селянін, гінучы

рамесьнік, „дробны гаспадарчык... адчуваючы пры капіталізьме заўсёды прыгнечаньне і вельмі часта неверагодна рэзкае і быстрае пагоршаньне жыцьця і разбурэньне, лёгка пераходзіць да крайняй рэволюцыйнасьці, але няздольны праявіць вытрыманасьці, організаванасьці дысцыпліны, стойкасьці“ (Ленін). „Звар'яцеўшы“ ад жахаў капіталізму дробны буржуа, з аднаго боку; тыя слоі рабочых, якія толькі што адарваліся ад дробнай буржуазіі і першы раз трапілі ў фабрычны кацёл—з другога боку,—вось тыя соцыяльныя слоі, настроі якіх выражаў бакунізм. Таму ўплыў Бакуніна быў асабліва моцны ў такіх краінах, як Італія, Швэйцарыя, Гішпанія, Бэльгія, у якія ў 60-х г.г. уварваўся капіталізм і быстра разбураў дакапіталістычныя формы вытворчасьці, ствараючы спрыяючую глебу для ўспрыйманьня бунтарскай агітацыі Бакуніна шырокімі масамі разбураных дробных таваравытворцаў і рабочымі, якія ўпяршыню трапілі на капіталістычныя прадпрымствы і не пасьпелі яшчэ выварыцца ў фабрычным катле.

### Пачатак змаганьня з бакунізмам. Базэльскі конгрэс.

У 60-х гадох Бакунін прымаў удзел у работах буржуазна-пацыфісцкай організацыі „Лігі міру і свабоды“, з якой парваў толькі ў 1868 г. Ён заснаваў „Міжнародны саюз соцыялістычнай дэмократыі“ (Альянс), програма якога разьвівала ўсе істотныя бакунінсцкія ідэі. У лісьце да Маркса, напісаным у гэты час, Бакунін пісаў: „я раблю цяпер тое, што ты пачаў рабіць дваццаць год назад. Разьвітаўшыся канчаткова з буржуазіяй на бэрлінскім конгрэсе Лігі міру і свабоды, я ня маю цяпер справы з буржуазным грамадзтвам, але толькі з мірам рабочых. Мая бацькаўшчына цяпер—Інтэрнацыянал, а ты адзін з галоўных яго заснавальнікаў. Ты бачыш, дарагі сябра, што я твой вучань і я ганаруся гэтым“.

Альянс зьвярнуўся ў Генсавет з просьбай прыняць яго ў рады Інтэрнацыяналу, як асобнае таварыства. Генэральны савет Інтэрнацыяналу ня мог згадзіцца на тое, каб унутры Інтэрнацыяналу існаваў асобны саюз, які-б меў міжнародны характар, свае асобныя програмы і ўстаў, і адмовіў у прыёме Альянсу. Тады Альянс формальна быў распушчаны, і яго сэкцыі былі прыняты ў Інтэрнацыянал на агульных асновах. Аднак, фактычна Альянс працягваў таемнае існаваньне, як той організацыйна-ідэёвы цэнтр, які павінен быў заваяваць для Бакуніна Інтэрнацыянал.

Чацьверты конгрэс Інтэрнацыяналу, які адбыўся ў Базэлі ў 1869 г., праходзіў у пэрыод вышэйшага разьвіцьця Інтэрнацыяналу. Уплыў Інтэрнацыяналу ў Англіі, Бэльгіі, Францыі бязупынна ўзрастаў. На Базэльскім конгрэсе ўпяршыню зьявіліся прадстаўнікі Германіі, Гішпаніі і Паўночна-амэрыканскіх штатаў.

Конгрэс, прымаючы пад увагу рост Інтэрнацыяналу, пашырыў поўнамоцтвы Генэральнага савету, даўшы яму права выключаць з Інтэрнацыяналу сэкцыі, якія будуць адхіляцца ад лініі Інтэрнацыя-

налу, а таксама права прыйма ці адмаўленьня ў прыйме новых сэкцыі. Гэтыя пастановы былі цалкам ухвалены Бакунінам і яго прыхільнікамі. Разгледзеўшы пытаньне аб зямельнай уласнасьці, конгрэс пераважнай большасьцю галасоў выказваўся за аграмаджаньне зямлі і тым самым канчаткова пацьвердзіў свой разрыў з прудонізмам.

Але на гэтым-жа самым конгрэсе адбылася першая сутычка з Бакунінам, які высунуў патрабаваньне скасаваньня права насьледваньня, бо яно „робіць нязьдзейсьнімай палітычную і экономічную справядлівасьць і перашкаджае ўстанаўленьню соцыяльнае роўнасьці.

Пярэчыўшыя Бакуніну члены Генэральнага савету даводзілі, што права насьледваньня ня прычына, а вынік эконамічнага ладу, што пачынаць соцыяльнае ператварэньне скасаваньнем права насьледваньня—значыць пачынаць справу з канца, і прапанавалі ў якасьці пераходных мер рэкомэндаваць павялічэньне падаткаў на насьледзтва і абмежаваньне права тэстамэнту. Хоць ні адна з прапаноў пры галасаваньні і не атрымала абсолютнай большасьці, трэба адзначыць, што большая частка конгрэсу была настроена бакуніцкі.

Змаганьне, што распачалося на конгрэсе паміж бакуністамі і прыхільнікамі Генэральнага савету, была перанесена ў сэкцыі Інтэрнацыяналу. Асаблівай вастраты гэтае змаганьне дасягнула ў Швэйцарыі, у якой яна ўжо ў красавіку 1870 г. выклікала раскол. Бакуністы атрымалі большасьць на конгрэсе швэйцарскіх сэкцый Інтэрнацыяналу і сваімі паводзінамі прымусілі прыхільнікаў Генсавету пакінуць конгрэс, які вынес пастановы ў бакуніцкім духу, у прыватнасьці рэкомэндаваўшыя „ўсім сэкцыям Інтэрнацыяналу адмовіцца ад якой бы там ні было дзейнасьці, якая мае сваёй мэтай соцыяльнае ператварэньне пры дапамозе палітычных рэформаў“.

### Франка-пруская вайна і Парыская Комуна.

Між тым на міжнароднай арэне насьпявалі падзеі, якія мелі на лёс Інтэрнацыяналу мацнейшы ўплыў.

Чарговы конгрэс Інтэрнацыяналу павінен быў адбыцца ў Германіі. Гэтаму перашкодзіла выбухнуўшая ў 1870 г. вайна паміж Францыяй і Прусіяй.

Францускія і германскія рабочыя—члены Інтэрнацыяналу—выступілі з рэзкім протэстам супроць вайны і заявілі, што пролетары ня маюць з ёю нічога агульнага. Генэральны савет Інтэрнацыяналу зьвярнуўся да ўсіх сэкцый з адозвай, у якой кляйміў палітыку кіруючых колаў бонапартыцкай Францыі і юнкерскай Прусіі, якая прывяла да вайны; заяўляў, што вайна зьяўляецца злачынствам, якое прывядзе да ўзмацненьня дэспотызму па абодвы бакі Рэйну і супроцьставіў шовіністычнай палітыцы буржуазіі солідарнасьць і адзінства францускіх і нямецкіх рабочых. У другой адозьве выпушчанай праз некалькі месяцаў, калі ваенны крах францускай арміі пацягнуў за сабой крушэньне імпэрыі і абвяшчэньне Францыі рэспублікай, Генсавет

проэставаў супроць захопніцкіх пляпаў германскай буржуазіі, пака-ваючы, што іх ажыцьцяўленьне кіне Францыю ў абдымкі Расіі і н-мінуча стане крыніцай новых яшчэ больш забойных войн, і заклік рабочую клясу актыўна змагацца з політыкай пануючых клясаў.

Германскія інтэрнацыяналісты ў сваю чаргу мужна змагалі супроць вайны і захопу Эльзас-Лётарынгіі. Бэбэль і Лібкнэхт бы абвінавачаны за гэта ў дзяржаўнай здрадзе і асуджаны на 2 гад цытадэлі. Сэкцыі Інтэрнацыяналу ў Швэйцарыі, Бэльгіі, Аўстрыі та сама горача протэставалі супроць заваёўных пляпаў Германіі. Та І Інтэрнацыянал і яго сэкцыі сваімі адносінамі да франка-пруска вайны далі ўзор вытрыманай, чужой усякаму нацыяналізму, сапраўд інтэрнацыянальнай політыкі.

Калі паўстаньне 18 сакавіка прывяло да стварэньня Парыска Комуны, Інтэрнацыянал выступіў на абарону Комуны, абвясьціўш яе справу справай міжнароднага пролетарыяту. Генэральны саве выключыў з радоў Інтэрнацыяналу Толена за здраду французскам пролетарыяту і пераход на бок вэрсальцаў і заявіў, што цяпер месц кожнага французскага члена Інтэрнацыяналу ў радох Комуны.

Цікава адзначыць, што ў той час, як Маркс бачыў галоўна значэньне Комуны ў тым, што яна была „ўрадам рабочае клясы... тэй політычнай формай, якую даўно шукалі і ў якой магло-б адбыцца эко-номічнае вызваленьне працы“, для Бакуніна: „Комуна 1871 г.—гэта, перш за ўсё, адмаўленьне дзяржавы“, і ён лічыў галоўнай памылкай Комуны яе захады па ўстанаўленьню рэволюцыйнай дыктатуры ў Парыжы.

Разгром Комуны аказаў мацнейшы ўплыў на далейшае разьвіцьцё Інтэрнацыяналу. Францускі рабочы рух, на які наваліўся надзвычайна жорсткі тэрор буржуазіі, быў зьнякрываўлены і замёр на некалькі год. Германскі рабочы рух таксама ўступіў у паласу ганеньняў з боку ўраду, які помсьціў дзеячом руху за іх мужныя паводзіны ў час вайны і за іх солідарнасьць з Комунай. Такім парадкам Францыя і Германія выпалі з сфэры ўплыву Інтэрнацыяналу.

І ў Англіі ўплыў Інтэрнацыяналу на ангельскія трэд-юніёны з кожным днём падаў. Дамагчыся некаторых політычных уступак ад буржуазіі (скасаваньне раду абмежаваньняў адносна профсаюзаў і г. д.) правадыры ангельскіх трэд-юніёнаў падпадаюць пад усё большы ўплыў лібэральнай буржуазіі, некаторыя з іх парываюць з Інтэрнацыяналам з-за яго солідарнасьці з Комунай, другія паступова адыходзяць ад Інтэрнацыяналу. Экономічны ўздым, перажываемы Англіяй у 70-х г. г., які даваў магчымасьць ангельскай буржуазіі выдзяляць частку сваіх звышпрыбыткаў на подкуп верхавінкі рабочае клясы, спрыяе ўзмацненьню буржуазных уплываў у кіруючых колах трэд-юніёнаў і на-рэшце, ператварае трэд-юніёны ў надзейную апору існуючага ладу і ў найвялікшую перашкоду для разьвіцьця клясавае сьвядомасьці ангельскага пролетарыяту.

Да ўсяго гэтага далучалася жорсткае ўнутранае змаганьне паміж марксыстамі і бакуністамі, якое асабліва разгарэлася пасьля падзеньня Комуны. Інтэрнацыянал уступіў у паласу заняпаду.

### Змаганьне з бакунізмам. Лёндонская конфэрэнцыя і Гаагскі конгрэс.

У верасьні 1871 г. у Лёндоне адбылася конфэрэнцыя Інтэрнацыяналу, на якой прысутнічала 23 дэлегаты. З тэй прычыны, што пытаньне аб адносінах да палітычнага змаганьня было адным з карэнных пунктаў разыходжаньня з бакуністамі, пры чым бакуністы абвінавачвалі Генсавет у падробцы програмы Інтэрнацыяналу, конфэрэнцыя вынесла рашэньні, якія далі самы ясны адказ на гэтыя абвінавачаньні. Рэзолюцыя конфэрэнцыі пацьвярджае, што „організацыя пролетарыяту ў *палітычную партыю неабходна, каб палегчыць перамогу* сацыяльнай рэволюцыі і яе канчатковай мэты: зьнішчэньне клясаў“ і „напамінае ўсім членам Інтэрнацыяналу, што ў баявым пляне рабочае клясы, яго экономічны рух і палітычная дзейнасьць зьвязаны між сабой непарыўна“. Гэтым самым рашуча адкідваліся бакуністцкія ідэі аб няўмешваньні рабочае клясы ў палітычнае жыцьцё.

Апрача таго конфэрэнцыя асобнай пастановай забараніла існаваньне ўнутры Інтэрнацыялу організацый, якія мелі асобную програму і ўстаў.

Пасьля Лёндонскай конферэнцыі наступіла яшчэ большае абвастрэньне змаганьня з бакуністамі.

У Швэйцарыі, у якой раскол сярод сэкцый Інтэрнацыяналу быў фактам, які адбыўся яшчэ ў пачатку 1870 г., бакуністцкія сэкцыі цяпер аформіліся ў зусім самастойную організацыю, так званую „Юрскую фэдэрацыю“, якаяператварылася ў галоўны організацыйны цэнтр для барацьбы супроць Генсавету. Юрская фэдэрацыя зьвярнулася з адозвай да астатніх сэкцый Інтэрнацыяналу, абвінавачваючы Генсавет Інтэрнацыяналу ў дыктатарстве, у падтасоўцы Лёндонскай конфэрэнцыі і заклікала да рашучага змаганьня з ім. Гэта адозва знайшла спрыяючую глебу ў Італіі, Гішпаніі, Бэльгіі, сэкцыі якіх у большасьці далучаліся да кампаніі супроць Генсавету, якую разгарулі бакуністы і тайна накіроўваў Альянс.

Раскол ахапіў увесь Інтэрнацыянал.

У такіх абставінах сабраўся ў верасьні 1872 г. у Гаазе пяты конгрэс Інтэрнацыяналу, які павінен быў падвесьці ітогі барацьбе марксызму і бакунізму. Бакуністы былі ў меншасьці на конгрэсе. Разгледзеўшы пытаньне аб поўнамоцтвах Генсавету, конгрэс адхіліў патрабаваньні бакуністаў, якія прапанавалі ператварыць Генсавет у „паштовую скрынку“ для сэкцый Інтэрнацыяналу, які-б ня меў права ўмешвацца ва ўнутранае жыцьцё сэкцый. Конгрэс падкрэсьліў неабходнасьць цэнтралізаванасьці і дысцыпліны ў організацыі Інтэрнацыяналу і надаў Генсавету паўнамоцтвы кантролю над дзейнасьцю

сэкцый, аж да права роспуску сэкцый у выпадку парушэньня ўстава ці непадпарадкаваньня Генсавету. Гэта пастанова прайшла пры жорсткім супраціўленьні бакуніцкае меншасьці конгрэсу.

Конгрэс спыніў сваю ўвагу і на пытаньні аб палітычнай дзейнасьці. Рэзолюцыя конгрэсу адзначае неабходнасьць стварэньня пролетарыятам самастойнай палітычнай партыі, пад кіраўніцтвам якой рабочая кляса павінна прымаць сталы ўдзел у палітычным жыцьці і змагацца за заваёву палітычнай улады.

Раскольніцкая дзейнасьць бакуністаў была разгледжана асобнай камісіяй конгрэсу. Камісія прышла да вываду, што Бакунін толькі формальна распусьціў Альянс, захаваўшы яго як патаемны цэнтр, які рассылаў свае дырэктывы і кіраваў змаганьнем з Генсаветам. Конгрэс пастанавіў выключыць Бакуніна з радоў Інтэрнацыяналу.

Паводле прапановы Маркса і Энгельса конгрэс пастанавіў перанесьці месцапрабываньне Генсавету з Лёндону ў Нью-Ёрк. Гэта пастанова была выклікана імкненьнем Маркса захаваць Генсавет ад уплыву як бакуністаў, так і ад ангельскіх трэд-юніёнаў, якія ўсё больш збліжаліся з буржуазіяй. Яно было прынята конгрэсам 26 галасамі супроць 23 пры 9, якія ўстрымаліся, пасьля вялікіх спрэчак і выклікала дэмонстрацыйны выхад з конгрэсу францускіх бланкістаў, якія заявілі, што Інтэрнацыянал уцёк ад рэволюцыі за Атлянтычны акіян.

Гаагскі конгрэс быў апошнім конгрэсам І Інтэрнацыяналу. Яго пастановы ня здолелі стрымаць нястрыманы распад Інтэрнацыяналу. Бакуністы ў тым самым годзе стварылі свой, анархісцкі інтэрнацыянал, да якога далучылася большасьць італьлянскіх, гішпанскіх, швэйцарскіх і бэльгійскіх сэкцый Інтэрнацыяналу і які праіснаваў да 1877 г.

У Францыі і Англіі Інтэрнацыянал таксама не знаходзіў спрыяючай глебы. Спробы скліканьня конгрэсаў Інтэрнацыяналу і аднаўленьня яго міжнароднай організацыі ня прыводзілі да посьпехаў; рабочы рух уступіў у такі пэрыод свайго разьвіцьця, калі ўсе яго сілы накіроўваліся на стварэньне і аформленьне моцных нацыянальных пролетарскіх організацый. Таму філадэльфскі конгрэс Інтэрнацыяналу ў ліпені 1876 г. вынес рашэньне аб роспуску Інтэрнацыяналу.

### Прычыны распаду І Інтэрнацыяналу. Гістарычнае значэньне І Інтэрнацыяналу.

Першы Інтэрнацыянал узьнік у 60-х г. г.—пэрыодзе, які своеасабліва паўтараў рэволюцыйную эпоху 1848—1849 г. г. Грамадзянская вайна ў Амэрыцы, рэформа 1861 г. у Расіі, нацыянальныя войны, якія скончылі процэс стварэньня сучасных капіталістычных дзяржаў—з аднаго боку; бурнае разьвіцьцё капіталізму, ахапіўшае ня толькі перадавыя, але і адсталыя краіны, для якіх наступіў час свайго „прамысловага перавароту"—з другога: такія былі ўмовы, у якіх складаўся І Інтэрнацыянал. Са зьменай гэтых умоў і зьвязан распад Інтэрнацыяналу.

Інтэрнацыянал правясьціў неабходнасьць стварэньня клясавай пролетарскай організацыі ў эпоху, калі рабочы рух у розных краінах стаяў на розных ступенях свайго разьвіцьця. Можна сказаць, што агульным для ўсіх краін быў толькі той адбітак ідэёвай нясьпеласьці сэктанства, чужых клясавых уплываў, які ляжаў на пролетарскіх організацыях.

Інтэрнацыянал, які аб'яднаў у сваіх радох усе гэтыя організацыі, меў такім парадкам, пярэсты, неаднастайны склад. Але гэты неаднастайны склад можна разьбіць у асноўным на дзьве вялікія групы: першую, якой належала ініцыятыва стварэньня Інтэрнацыяналу і якая складалася з рабочых разьвітых прамысловых краін (французы, ангельцы), і групу, створаную ўвайшоўшымі пазьней у Інтэрнацыянал рабочымі краін, якія перажывалі пэрыод прамысловага перавароту (Італія, Гішпанія, Бэльгія).

У 70-х г. г. першая група адыходзіць ад Інтэрнацыяналу. Рабочы рух у Францыі быў зруйнаваны, ангельскія-ж трэд-юніёністы пакідаюць Інтэрнацыянал, бо дамагліся частковых уступак з боку буржуазіі і сталі на шлях клясавага супрацоўніцтва з ёю. Рабочы-ж рух у такіх краінах, як Італія, Швэйцарыя, Гішпанія, Бэльгія перажываў свой пэрыод „дзіцячай хваробы лявізны" і павінен быў прайсьці паласу анархісцкіх ілюзій, перш чым зрабіцца ўспрыймальным да ідэй навуковага соцыялізму.

Інтэрнацыянал не знаходзіць для свайго існаваньня цяпер спрыяючай глебы. І патрэбен быў некаторы пераходны пэрыод, у часе якога ўзмацніліся, аформіліся і атрымалі-б неабходны вопыт нацыянальныя пролетарскія організацыі, каб зноў адрадзілася міжнародная організацыя рабочае клясы.

У 1874 г., праз 10 год пасьля заснаваньня І Інтэрнацыяналу Энгельс пісаў:

„Дзесяць год Інтэрнацыянал кіраваў адным бокам эўропэйскай гісторыі і іменна тым, у якім закладзена ўсё будучае, і ён мае поўнае права з гордасьцю азірнуцца на пройдзены ім шлях.

Але ў сваёй старой форме ён сябе пережыў. Я думаю, што наступны Інтэрнацыянал, пасьля таго, як творы Маркса на працягу некалькіх год зробяць свой уплыў, будзе чыста комуністычным і паставіць сваім сьцягам іменна нашы прынцыпы".

І Інтэрнацыянал зрабіў мацнейшы ўплыў на гісторыю міжнароднага рабочага руху. Ён шырока распаўсюдзіў ідэі навуковага соцыялізму ў масах. Ён скончыў ідэёва з прудонізмам і бакунізмам і з усімі сэктанцкімі спробамі адцягнуць рабочую клясу з шырокай дарогі клясавага змаганьня. Ён пакінуў міжнароднаму пролетарыяту клясычныя ўзоры рэволюцыйнай вытрымана пролетарскай, сапраўды інтэрнацыяналісцкай політыкі ва ўсіх карэнных пытаньнях рабочага руху. Ён падрыхтаваў усе прадпасылкі для разьвіцьця масавага пролетарскага руху, які ідзе пад сьцягам навуковага соцыялізму, комунізму.

„I Інтэрнацыянал паклаў фундамант міжнароднай арганізацыі рабочых для падрыхтоўкі іх рэволюцыйнага націску на капітал, фундамант пролетарскага міжнароднага змаганьня за соцыялізм“ (Ленін).

II Інтэрнацыянал стаў няздольным працягваць справу I Інтэрнацыяналу. Яго опортунізм у практычных пытаньнях рабочага руху, яго ганебныя паводзіны ў часе сусьветнай вайны—становяць сабою простую супроцьлегласьць усёй лініі I Інтэрнацыяналу.

Комуністычны Інтэрнацыянал, зьяўленьне якога прароцкі прадбачыў Энгельс, зьяўляецца сапраўдным наступнікам першага Інтэрнацыяналу і прадоўжнікам яго запаветаў.

## Мэта заданьня.

Гэтае заданьне ставіць сабе мэтай:

1) Высьветліць экономічныя і політычныя абставіны, у якіх адбывалася ўзьнікненьне першага Інтэрнацыяналу.

2) Вылучыць прынцыпы організацыі і програмы першага Інтэрнацыяналу.

3) Усьвядоміць барацьбу плыняў у асяродзьдзі першага Інтэрнацыяналу і высьветліць іх соцыяльную сутнасьць

4) Вызначыць ролю і тактыку Маркса ў I Інтэрнацыянале.

5) Вывучыць прычыны распаду I Інтэрнацыяналу і вызначыць яго гістарычнае значэньне.

## Плян тэмы.

I. Гістарычныя ўмовы ўзьнікненьня I Інтэрнацыяналу.
   1. Экономічны ўздым у Заходняй Эўропе пасьля 1848 г.
   2. Крызіс 1857 г.
   3. Політычныя ўмовы і рабочы рух у Францыі, Англіі і Германіі.

II. Утварэньне I Інтэрнацыяналу.
   1. Непасрэдныя прадпасылкі ўзьнікненьня Інтэрнацыяналу.
   2. Організацыйная структура I Інтэрнацыяналу.
   Програма Інтэрнацыяналу і першыя крокі да яе ажыцьцяўленьня.

III. Тактыка Інтэрнацыяналу і барацьба плыняў у ім.
   1. Марксызм у барацьбе з прудонізмам.
   2. Адносіны Інтэрнацыяналу да вайны, рэволюцыі і буржуазнае дзяржавы.
   3. Марксызм і бакунізм.

IV. Распад Інтэрнацыяналу і яго гістарычная спадчына.
   1. Прычыны роспуску I Інтэрнацыяналу.
   2. Роля Маркса ў Інтэрнацыянале.
   3. Гістарычнае значэньне I Інтэрнацыяналу.

---

### Мэтод прапрацоўкі матэрыялу.

Да I разьдзелу пляну: *Гістарычныя ўмовы ўзьнікненьня I Інтэрнацыяналу.*

Прапрацоўка гэтага матэрыялу мае на мэце азнаямленьне з агульнымі ўмовамі экономічнага і політычнага разьвіцьця Эўропы ў пэрыод 50-х гадоў XIX ст.

Тут перш за ўсё трэба разглядзець экономіку гэтай эпохі да 1857 г. стан капіталістычных адносін выяўляе ўсе адзнакі ўздыму і росквіту, але ўсьлед за гэтым, як вынік супярэчнасьцяй капіталістычнай сыстэмы, надыходзіць пэрыод краху—крызісаў.

У адпаведнасьці з гэтым вызначаецца і рабочы рух у Эўропе: да 1857 г. рабочыя, засіленыя і прыдушаныя рэакцыяй, выяўляюць малую актыўнасьць, рэволюцыйная хваля спадае. Крызіс 1857 г. служыць новым штуршком да адраджэньня політычнай актыўнасьці пролетарыяту: узьнікаюць масавыя рабочыя організацыі, абуджаюцца політычныя тэндэнцыі ў пролетарскіх радох. Рух у розных краінах неаднолькавы, што тлумачыцца няроўнамернасьцю экономічнага разьвіцьця і спэцыфічнымі ўмовамі кожнай краіны. Аднак, наогул, з узмацненьнем экономічных сувязяй узрастае і міжнародная салідарнасьць пролетарыяту, які адчувае, што аб'яднанай сіле капіталістычнай эксплёатацыі ён можа толькі проціпаставіць у сэнсе свайго вызваленьня сілы аб'яднаных у міжнародным маштабе організацый.

Тут, такім чынам, вы павінны сказаць, чаму стала магчымай інтэрнацыянальная організацыя рабочае клясы, хоць спробы такога роду рабіліся яшчэ ў 30-х і 40-х г. г.

Дзеля канчатковага высьненьня гэтага разьдзелу вам належыць адказаць на наступныя пытаньні: 1) якія экономічныя ўмовы характарызавалі Эўропу 50-х гадоў XIX ст.? 2) Чым тлумачыўся дэпрэсыўны стан рабочага руху ў гэты час? 3) Які ўплыў меў крызіс 1857 г. на рабочы рух? 4) Якія тыпы рабочага руху мы наглядаем у гэты час у перадавых капіталістычных краінах? 5) Якую ролю адыгралі Брацкія Дэмократы і Саюз Комуністаў у справе падрыхтоўкі I Інтэрнацыяналу і чаму яны скончылі няўдачай?

### Літаратура.

Апрача зьмешчанага ў даным заданьні артыкулу аб I Інтэрнацыянале і навучальна-дапаможнага матэрыялу да яго для прапагандысцкага аддзяленьня трэба прачытаць яшчэ: *А. Бенэдыктава* „Первый Интернационал“ ці *Эссена* „Три Интернационала“ (разьдз. I і II да ст. 20); у якасьці максымума можна прачытаць кнігу *Фр. Меринга* Карл Маркс „История моей жизни“, разьдз. XI—XIV, ст. 254—404.

Да II разьдзелу: *Стварэньне Інтэрнацыяналу.*

Па гэтаму пытаньню таварышы павінны перш за ўсё высьветліць непасрэдныя прычыны стварэньня І Інтэрнацыяналу. У гэтых адносінах баваўняны голад, выкліканы адсутнасьцю падвозкі бавоўны з ПАЗШ (грамадзянская вайна, якая там адбывалася ў 1861—65 г. г., перашкаджала гандлёвым зносінам з імі) зьявіўся штуршком у сэнсе рэволюцыянізацыі ангельскіх рабочых: крызіс, які выбухнуў у тэкстыльнай вытворчасьці, балюча ўдарыў па рабочай клясе і прымусіў выступіць на шлях актыўнай барацьбы з капіталам.

Вам неабходна азнаёміцца з тымі патрабаваньнямі і надзеямі, якія рабочыя розных краін ускладалі на новую міжнародную організацыю. Аналіз прадстаўленых ангельскімі і францускімі рабочымі маніфэстаў паказвае, што яны не разумелі мэт і задач Інтэрнацыяналу, бачачы ў ім організацыю дзеля абароны ад замежнай конкурэнцыі на рынку працы або рэзультатаў капіталістычнага разьвіцьця.

Сапраўднае значэньне Інтэрнацыяналу, як органу барацьбы пролетарыяту супроць міжнароднага капіталу, разумеў толькі Маркс і яго прыхільнікі. Ім і была складзена афіцыйная програма Інтэрнацыяналу—Установчы маніфэст і Устаў. З гэтымі дакумантамі вельмі важна пазнаёміцца, іх належыць уважліва прачытаць і абмеркаваць, бо яны намячаюць асноўныя лініі тактыкі Інтэрнацыяналу, паказваюць, што Маркс, улічваючы адсталасьць некаторых рабочых, не пайшоў ні на якія ўступкі ў сэнсе зьмякчэньня рэволюцыйнага зьместу напісаных ім дакумантаў, ён надаў ім толькі больш асьцярожную форму, каб не парушаць адзінага фронту рабочых усіх краін. Такім чынам Маркс зьяўляўся ідэйным творцом Інтэрнацыяналу.

Дзеля больш паглыбленага разуменьня Установчага Маніфэсту і Уставу Інтэрнацыяналу было-б карысна параўнаць іх з адпаведнымі дакумантамі Комінтэрну, каб высьветліць прыймальнасьць ідэй I і III Інтэрнацыяналу. У мэтах больш глыбокага засваеньня пытаньня, адкажэце на наступныя пытаньні: 1) Якія патрабаваньні прад'яўлялі Інтэрнацыяналу і як яго расцэньвалі ангельскія і францускія рабочыя? 2) Якія задачы выстаўляў Установчы маніфэст I Інтэрнацыяналу? 3) У чым зьмест Уставу I Інтэрнацыяналу? 4) Ці адпавядала організацыйная пабудова яго мэтам і задачам пролетарыяту? 5) Якім чынам Маркс знайшоў агульную пляцформу для агульных дзеяньняў рабочых розных краін?

Літаратура.

Навучальна-дапаможны матэрыял да гэтага заданьня № 5.

Для пропагандысцкага аддзяленьня, акрамя таго, *Фр. Меринг*—„Карл Маркс, история его жизни“, разьдз. XI—XIV і програма Комінтэрну, *А. Эссен.*—„Три Интернационала“, ст. 20—25.

Да III разьдзелу: *Тактыка Інтэрнацыяналу і змаганьне плыняў у ім.*

Гэты разьдзел зьяўляецца самым асноўным і важным у нашым заданьні. Тут трэба разабрацца ў ідэолёгічных карэньнях існаваўшых у Інтэрнацыянале груповак. Высьветліць, якія элемэнты падтрымлівалі ў Інтэрнацыянале Маркса, набыць уяўленьне аб клясавай сутнасьці прудоністаў і бакуністаў. У даным выпадку належыць вызначыць, што было агульнага паміж імі: іменна адносіны да дзяржавы і палітычнай барацьбы і асабліва да дыктатуры пролетарыяту. Яшчэ больш важным будзе ўстанаўленьне прычын рознагалосьсяў паміж Марксам і анархістамі, высьветліць, па якіх пунктах яны ішлі і ў чым памыляліся.

На падставе барацьбы плыняў у Інтэрнацыянале трэба зразумець тактыку яго, вызначыць адносіны да вайны, буржуазнай дзяржавы, рэволюцыі, да профсаюзнага і забастовачнага руху. Пазнаёмцеся з тым, якія пастановы выносілі Конгрэсы Інтэрнацыяналу і кім яны праводзіліся. У заключэньне трэба цалкам уявіць сабе вялізарную ролю Маркса ў Інтэрнацыянале, зразумець яго погляды на тактыку міжнароднай організацыі рабочае клясы, практычны ўдзел у яе работах і ў міжнародным рабочым руху наогул.

Дзеля канчатковага высьвятленьня гэтага пытаньня адкажэце на наступныя пытаньні: 1) Якія былі клясавыя карані прудонізму і бакунізму? 2) На каго апіраўся Маркс у Інтэрнацыянале? 3) З якімі лёзунгамі выступалі марксысты, прудоністы і бакуністы? 4) Чаму Маркс з такой сілай выступаў супроць бакуністаў? 5) Якія былі адносіны І Інтэрнацыяналу да вайны, дзяржавы і рэволюцыі? 6) Якая была роля Маркса ў І Інтэрнацыянале?

Літаратура.

3. Навучальна-дапаможны матэрыял да гэтага заданьня №№ 6—10. Для пропагандысцкага аддзяленьня, акрамя таго, *А. Венедиктов* „Первый Интернационал“ (апошняя частка) ці *Эссен* „Три Интернационала“ (ст. 25—35). У якасьці максымума Фр. Меринг „Карл Маркс“, разьдз. XI—XIV.

Да IV разьдзелу: *Распад І Інтэрнацыяналу і гістарычная спадчына.*

Тут мы павінны падыйсьці да пытаньня аб прычынах хуткай гібелі Інтэрнацыяналу. Для гэтага трэба мець на ўвазе ступень організаванасьці пролетарыяту. Хуткі росквіт ангельскай прамысловасьці дазволіў буржуазіі кінуць падачку пролетарыяту, дазволіў рабочай арыстократыі палепшыць сваё становішча ў вялікай ступені. Пасьля гэтага ангельскія рабочыя організацыі перайшлі канчаткова да рэ-

формізму, рэволюцыйныя дзеяньні палохалі іх, а да Парыскай Комуны яны аднесьліся нават нязычліва. Францускі пролетарыят таксама ня мог больш прыймаць актыўнага ўдзелу ў Інтэрнацыянале: зруйнаваньне Комуны і надышоўшая рэакцыя падарвалі яго сілу і зрабілі немагчымым хуткае аднаўленьне руху.

Рабочыя-ж романскіх краін, прамысловасьць якіх яшчэ недастаткова разьвілася, знаходзіліся пад уплывам анархізму.

У гэтым-жа разьдзеле нам трэба ўстанавіць цалкам, якую ролю адыграў Маркс у Інтэрнацыянале, які ўплыў ён аказаў на яго дзейнасьць.

Нарэшце, апошнім пытаньнем, якое нам належыць тут высьветліць, зьяўляецца пытаньне аб ідэёвай спадчыне І Інтэрнацыяналу. Паспрабуйце ў гэтых адносінах разабрацца ў рэволюцыйных яго мэтодах, зьвярнеце ўвагу на няпрымірную позыцыю ў пытаньні організацыі барацьбы за соцыялізм, што дала той фундамант, на якім у далейшым гэта барацьба магла разгарнуцца больш пасьпяхова. Нарэшце, ён пакінуў рад паказаньняў, формуляваных Марксам, адносна будучай організацыі дзяржаўнай улады пасьля захопу яе рабочай клясай, паказаў, па якіх шляхох павінен ісьці будучы рабочы рух для канчатковай сваёй перамогі.

Дзеля засваеньня гэтага разьдзелу адкажэце на наступныя пытаньні: 1) Чаму распаўся І Інтэрнацыянал? 2) Якую ролю адыграў Маркс у ім? 3) У чым выражаліся запаветы І Інтэрнацыяналу? 4) Якое падабенства паміж І і ІІІ Інтэрнацыяналам?

### Літаратура.

3. Навучальна-дапаможны матэрыял да гэтага заданьня № 11.

Для пропагандысцкага аддзяленьня, акрамя таго, *А. Венедиктов* „Первый Интернационал“ ці *Эссен* „Три Интернационала“, разьдзел чацьверты.

### Тэма для пісьмовай работы.

**І Інтэрнацыянал і яго месца ў гісторыі рабочага руху.**

**Плян.**

1. Прычыны стварэньня Інтэрнацыяналу.
2. Організацыя і програма Інтэрнацыяналу.
3. Марксызм у барацьбе з анархізмам.
4. Прычыны распаду І Інтэрнацыяналу.
5. Гістарычнае значэньне І Інтэрнацыяналу.

## НАВУЧАЛЬНА-ДАПАМОЖНЫ МАТЭРЫЯЛ.

### 1. Экономічны ўздым Заходняй Эўропы.

Каштоўнасьць золата, здабытага на працягу некалькіх год, з 1848 г. да 1856 г. больш чым на 1/6 перавышае каштоўнасьць усёй колькасьці золата і срэбра, што была дагэтуль ва ўсім сьвеце. Адкрыцьцё новых рынкаў, выкліканае знаходжаньнем і эксплёатацыяй залатаносных мясцовасьцяй, вельмі стымулявала вываз капіталу і нават рабочых рук; у выніку гэтага попыт на фрахт павялічыўся і цэны апошняга быстра падвысіліся... У Англіі з 1851 г. новыя майстэрні караблёў закладаюцца амаль усюды. Тое самае адбываецца ў Амэрыцы. Ня менш, чым суднабудаўніцтва, працьвітала і будаўніцтва чыгунак; чыгункі мелі для ўздыму непараўнальна больш важнае значэньне, чым судны, асабліва ў Францыі... З 1852 г. па 1856 г. Францыя патраціла на свае чыгункі 1.270 млн. фр., а іменна:

У 1852—1864 г.г. — 250 млн.
„ 1855 „ — 500 „
„ 1856 „ — 520 „

Тое самае адбылося ў Германіі: за 3 гады пабудова чыгунак праглынула там больш 1 мільярда марак... У Англіі, Францыі, Амэрыцы з аднолькавым захапленьнем узяліся за пабудову новых заводаў і за адчыненьне новых горных прадпрыемстваў.

(Ж. Лескюр. „Общие и периодические промышленные кризисы“.

### 2. Крызіс 1857 г.

Крызіс выбухнуў у 1857 г. Так, у Францыі, пачынаючы з 1858 г. вытворчасьць пачала быстра скарачацца.

| Гады | Здабыча мінэральнага паліва | | Здабыча жалезн. руды (у тон.) | Вытворч. чыгуну (у тонах) | Вытворч. жалеза і сталі (у тон.) |
|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць у тонах | Лік рабоч. | | | |
| 1857 . . . . . | 1.902.000 | 69.856 | 3.074.000 | 158.570.000 | 586.000 |
| 1858 . . . . . | 1.353.000 | 64.336 | 2.790.000 | 124.750.000 | 553.000 |
| 1859 . . . . . | 1.483.000 | 67.361 | 2.740.000 | 116.658.000 | 556.000 |

Ня менш пацярпелі амэрыканская і ангельская прамысловасьць. У Злучаных Штатах было патушана 120 гісэрных пячэй, і ў выніку гэтага 40 тысяч рабочых апынуліся выкінутымі на вуліцу. У Манчэстэры, у Бірмінгаме працавалі толькі скарочаны лік гадзін, г. зн. па 36 гадзін у тыдзень; у лістападзе 1857 г. павінны былі спыніць работы заводы, якія вырабляюць поўапрацаваныя продукты, на якіх былі заняты 30.000 рабочых... 31 сьнежня было патушана 68 гісэрных пячэй, на якіх было занята 68.000 рабочых.

У гэты-ж дзень патушылі ў Шотляндыі 41 печ і зволілі 16.000 рабочых. У паўднёвай частцы Уэльса $^1/_4$ частка гісэрных пячэй зусім не працавала; заработная плата была зьніжана на 20 проц... Такую самую эволюцыю прарабілі і галіны, якія вырабляюць прадметы спажываньня.

(Ж. Лескюр. „Общие и периодические промышленные кризисы).

## 3. Рабочы рух у Англіі.

Разьвіцьцё капіталізму пацягнула за сабой надзвычайны рост гарадзкога насельніцтва, а значыцца і попыт на кватэры. Адгэтуль— надзвычайны росквіт будаўнічай прамысловасьці... Дык вось крызіс 1857-8 г.г. асабліва моцна адбіўся на гэтых новых галінах капіталістычнае вытворчасьці. Ён пакінуў бяз працы вялізарныя масы рабочых. Прадпрыемцы рашылі скарыстаць гэта і з свайго боку зрабіць націск на рабочых, зьнізіць заработную плату і павялічыць рабочы час... На вялікае іх зьдзіўленьне рабочыя адказалі на гэта ў 1859 г. масавай забастоўкай. На яшчэ большае зьдзіўленьне прадпрыемцаў забастоўка будаўнічых рабочых сустрэла падтрымку з боку іншых катэгорый рабочых усіх зноў узьнікшых галін прамысловасьці... У выніку гэтай забастоўкі, якая праз некаторы час скончылася компрамісам, у Лёндоне стварыўся ўпяршыню савет профэсыйных саюзаў. На чале гэтага саюзу стаялі тры галоўныя асобы: Оджэр, Крэмэр, Гоўэль. Ужо ў 1861 г. лёндонскі савет профсаюзаў зьяўляецца аднэй з найбольш уплывовых організацый. Ён у той самы час ператвараецца ў палітычную організацыю. Ён імкнецца адклікацца на ўсе тыя падзеі, якія займаюць рабочых. Па яго прыкладу, у некаторых мясцох Англіі і Шотляндыі стваряюцца адпаведныя саветы профсаюзаў, так што ў 1862 г. у Англіі маюцца ўжо зноў клясавыя рабочыя організацыі. У першым радзе стаяць, як палітычныя і экономічныя цэнтры, саветы профэсыйных саюзаў.

(Рязанов „Маркс и Энгельс", стар. 135-6).

## 4. Прудонізм.

### а) Агульная характарыстыка.

Прудоністы думалі, што каб пазбавіць рабочага неабходнасьці прапаноўваць свае ўслугі капіталісту, павінны быць створаны банкі з дармовым крэдытам: гэткія банкі маглі-б, паводле думкі прудоністаў,

ня толькі даваць крэдыт дробным самастойным вытворцам, але і забясьпечваць іх усім неабходным адпаведна каштоўнасьці вытвараных імі продуктаў, інакш кажучы, маглі-б арганізаваць безграшовы памен... Прудоністы адхілялі стачкі, якія, паводле іхняй думкі, толькі ўзмацняюць беспрацоўе і парушаюць „свабоду працы і бакоў, што дамаўляюцца"... Большасьць прудоністаў была супроць бясплатнай дзяржаўнай асьветы: паводле іхняй думкі, адукацыя павінна была мець сямейны характар, а з тэй прычыны што навучаньне дзяцей— справа маткі, то недапушчальна, каб жанчына працавала на фабрыцы; наогул лёс жанчыны—сям'я, незамужняя жанчына—ненормальнае зьявішча. Парыская група нават пастанавіла не дапушчаць жанчын-работніц у сваю арганізацыю: „прырода зрабіла яе карміліцай і гаспадыняй, ня будзем-жа адхіляць яе ад гэтых грамадзкіх функцый. *Мужчыне—працу і вывучэньне чалавечых проблем; жанчыне—клопаты* аб дзецях і аздабленьне жыльля работніка".

(Н. Лукин, Парижская Коммуна, ст. 47-8).

б) Вынняткі з маніфэсту 60-ці.

„...Паны опозыцыянэры, калі мы з вамі згаджаемся ў галіне політычнай, то гэта яшчэ ня значыць, што мы згодны з вамі ў галіне социяльнай экономіі. Нам кажуць, што ў Францыі няма больш клясаў пасьля 1789 г., што ўсе французы роўныя перад законам; але мы, ня маючыя ніякай уласнасьці, апрача нашых рук; мы, якія адчуваем на сабе адвольны ўціск капіталістычнага ладу; мы, якія жывем пад *выключнымі законамі*,—мы гэтаму сьцьверджаньню ня верым...

Мы, дзеці якіх растуць і праводзяць свае маладыя гады ў распуснай атмосфэры фабрык; чые жонкі прымушаны пакідаць дом для таго, каб займацца цяжкаю працай, мы сьцьвярджаем, што роўнасьць, напісаная ў законе, ня існуе ў жыцьці... Пролетары не патрабуюць для зьмены сучаснага парадку рэчаў аграрных законаў, ні падзелу маемасьці: яны хочуць *толькі волі, права саюзаў* і ўзаемадапамогі. Але ў іх няма прадстаўнікоў у Законадаўчай Палаце, якія абаранялі-б іх інтарэсы; таму рабочыя і павінны пасылаць у парлямант сваіх дэпутатаў"...

(Фридлянд и Слуцкий. Хрестоматия по истории рев. движения Зап. Европы XIX и XX ст. ст., стар. 327-8).

## 5. *Устаў І Інтэрнацыяналу.*

„Прымаючы пад увагу, што вызваленьне рабочае клясы павінна быць справай самой рабочай клясы, што барацьба за вызваленьне рабочых ні ў якім выпадку не павінна быць барацьбой за клясавыя прывілеі і монополіі, але за ўстанаўленьне роўных для ўсіх правоў і абавязкаў і за зьнішчэньне ўсялякага клясавага панаваньня;

што экономічнае падпарадкаваньне працоўных уласьнікам прыладаў вытворчасьці, г. зн. усіх крыніц жыцьця, зьяўляецца прычынай нявольніцтва, ва ўсіх яго відах, соцыяльнага ўбоства, разумовага выраджэньня і політычнай залежнасьці;

што экономічнае вызваленьне рабочае клясы ёсьць, значыцца, вялікая мэта, якой усялякі політычны рух павінен быць падпарадкаваны, як сродак;

што ўсе патугі да дасягненьня гэтай вялікай мэты да гэтага часу заставаліся беспасьпяховымі за недахопам солідарнасьці паміж рабочымі розных профэсый у кожнай краіне і ў выніку адсутнасьці братэрскага адзінства і саюзу паміж працоўнымі клясамі розных краін;

што вызваленьне працы не зьяўляецца мясцовай ці нацыянальнай задачай, але соцыяльнай проблемай, якая ахоплівае ўсе краіны, дзе існуе сучасны лад, і вырашэньне гэтага пытаньня залежыць ад практычнага і тэорэтычнага садзейнічаньня найбольш перадавых краін;

што сучаснае адраджэньне рабочае клясы ў найбольш прамысловых краінах Эўропы, выклікаючы новыя надзеі, урачыста папярэджвае ад паўтарэньня старых памылак і заклікае да безадкладнага аб'яднаньня ўсіх пакуль што раскіданых рухаў;

— у выніку гэтага:

ніжэйпадпісаўшыяся члены камітэту, абранага паводле пастановы публічнага мітынгу, які адбыўся 28-IX 1864 г. у Сэнт-Мартынс Хольле, у Лёндоне, ужылі неабходныя захады, каб заснаваць Міжнародную Рабочую Асоцыяцыю;

яны заяўляюць, што гэтая Міжнародная Асоцыяцыя і ўсе таварыствы і асобы, якія ўваходзяць у яе склад, прызнаюць ісьціну, справядлівасьць і моральнасьць, як аснову паводзін у адносінах адзін да аднаго і да ўсіх людзей без адрозьніваньня расы, веравызнаньня і нацыянальнасьці;

яны лічаць сваім абавязкам патрабаваць правоў чалавека і грамадзяніна ня толькі для сябе, але для ўсіх асоб, якія выконваюць свой абавязак. Няма правоў без абавязкаў, няма абавязкаў без правоў.

І ў гэтым дусе яны склалі наступны часовы устаў міжнароднай Асоцыяцыі.

Артыкул першы: Гэтае таварыства заснавана з мэтай стварыць цэнтральны пункт для зносін і сумеснага дзеяньня паміж рабочымі розных краін, якія імкнуцца да аднэй і тэй-жа мэты: да ўзаемнага падтрыманьня, прогрэсу і аднаго вызваленьня рабочае клясы.

Артыкул другі: Гэтае таварыства прымае назву „Міжнароднае Таварыства Рабочых".

Артыкул трэці: Галоўны Савет Таварыства складаецца з рабочых прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяй, якія ўваходзяць у склад Міжнароднага Таварыства рабочых.

Галоўны Савет абірае з свайго асяродзьдзя членаў Прэзыдыума, г. зн. старшыню, галоўнага сакратара, скарбніка і сакратара для паасобных краін.

Агульны конгрэс Таварыства вызначае штогодна месца прабываньня Галоўнага Савету, абірае яго членаў і прызначае месца і час для наступнага конгрэсу...

Дэлегаты конгрэсу зьбіраюцца ў вызначаны конгрэсам тэрмін, не чакаючы асобых запрашэньняў. У выпадку немагчымасьці склікаць конгрэс у прызначаным папярэднім конгрэсам месцы, Галоўны Савет мае права зьмяніць месца паседжаньняў конгрэсу, але зусім ня час яго склі̇каньня.

Артыкул чацьверты: Галоўны Савет павінен прадстаўляць на кожны гадовы конгрэс Таварыства падрабязную справаздачу аб сваіх работах за мінулы год. У выпадку крайняй неабходнасьці ён можа склікаць агульны конгрэс раней прызначанага тэрміну.

Артыкул пяты: Галоўны Савет Таварыства ўстанаўляе сувязь паміж паасобнымі сэкцыямі і саюзамі рабочых для таго, каб рабочыя кожнай краіны заўсёды ведалі пра рух рабочых у іншых краінах, каб яны маглі прадпрыняць адначасова ў тым самым дусе дасьледваньне аб социяльным становішчы рабочае клясы ў сваёй краіне.

Дзеля палягчэньня сваіх зносін з рознымі сэкцыямі Таварыства Галоўны Савет выдае пэрыодычны бюлетэнь.

Артыкул шосты: З прычыны таго, што посьпех рабочага руху можа быць забясьпечаны ў кожнай краіне толькі шляхам аб'яднаньня і організацыі рабочых, і, што, з другога боку, карыснасьць Галоўнага Савету залежыць ад яго больш ці менш шчыльнай сувязі з рабочымі таварыствамі, нацыянальнымі і мясцовымі, то члены МТР усімі сваімі сіламі павінны імкнуцца, кожны ў сваёй краіне, да аб'яднаньня існуючых у ёй розных рабочых таварыстваў у адзін нацыянальны саюз.

Зразумела, што ўжываньне гэтага артыкулу ўставу будзе залежаць ад існуючых у кожнай краіне законаў, але кожнае мясцовае таварыства абавязана ўваходзіць у непасрэдныя зносіны з Галоўным Саветам, калі гэтаму няма перашкод з боку мясцовых законаў.

Артыкул сёмы: Кожны член МТР пры пераезьдзе на жыхарства ў іншую краіну, мае права на братэрскае падтрыманьне з боку мясцовых членаў таварыства; яму даюцца ўсе зьвесткі, якія адносяцца да яго профэсыі ў той мясцовасьці, куды ён накіроўваецца і яму даецца крэдыт, на ўмовах, вызначаных уставам яго сэкцыі і пад гарантыяй апошняй.

Артыкул восьмы: Кожны, хто прымае і падзяляе прынцыпы МТР, можа стаць яго членам, але толькі з парукай прымаючай яго сэкцыі.

Артыкул дзевяты: Кожная сэкцыя мае права абіраць сваіх членаў карэспондэнтаў у Галоўны Савет Таварыства.

Артыкул дзесяты: Рабочыя сэкцыі, якія складаюць Міжнароднае Таварыства рабочых, хоць і аб'яднаны адзін з адным братэрскімі вузамі солідарнасьці і ўзаемнага падтрыманьня, захоўваюць тым ня менш уласьцівыя ім віды організацыі.

Артыкул адзінаццаты: Усё, што не прадугледжана гэтым уставам, будзе дапоўнена асобнымі пастановамі, якія падлягаюць пераглядy на кожным гадовым конгрэсе Таварыства".

(Фридлянд и Слуцкий, ук. соч. 332—4).

## 6. Карл Маркс і прудоністы.

„Я ня мог і не хацеў паехаць на конгрэс, але напісаў програму лёндонскіх дэпутатаў. Я наўмысьля абмежаваў яе такімі пунктамі, на якіх рабочым можна непасрэдна згадзіцца і дзейнічаць разам і якія даюць патрэбам клясавай барацьбы і організацыі рабочых у клясу непасрэдны матэрыял і штуршок да іх разьвіцьця.

Паны парыжане набілі сабе галовы пустымі прудоніцкімі фразамі. Яны гавораць пра навуку, а самі нічога ня ведаюць. Яны зьневажальна адносяцца да ўсякага рэволюцыйнага дзеяньня, г. зн. вынікаючага з самой клясавай барацьбы, да ўсякага концэнтраванага грамадзкага руху, г. зн. такога, які можа быць праведзены політычнымі сродкамі, як, напрыклад, законадаўчае скарачэньне рабочага дню.

Пад повадам свабоды і анты-гувэрнамэнталізму (адмаўленьне ўсялякага ўраду) ці індывідуалізму, варожага ўсім аўторытэтам, гэтыя паны, якія 16 год так спакойна зносілі і зносяць самы ганебны дэспотызм, правяшчаюць на справе толькі прудоніцкі-ідэялізаваную, звычайную буржуазную гаспадарку. Прудон прынёс вялізарную шкоду. Спачатку яго зданьнёвая крытыка і яго зданьнёвая розьніца ад утопістаў (сам ён зьяўляецца дробна-буржуазным утопістам, бо ва ўтопіях такіх людзей, як Фур'е, Оўэн і інш. ёсьць прараканьне і фантастычнае выбражэньне новага сьвету), яго ілжэ-крытыка захапіла і падкупіла бліскучую моладзь, студэнтаў, потым рабочых, асабліва царскіх, якія будучы заняты вытворчасьцю прадметаў раскошы, моцна цягнуцца, самі гэтага не разумеючы, да старога ладу. Цёмныя, ганарыстыя, прэтэнцыёзныя, гаварлівыя, надзьмутыя памыльным патосам, яны ледзь не папсавалі ўсё, зьявіўшыся на конгрэс у такой вялікай колькасьці, якая зусім не адпавядала колькасьці іх членаў. У спрваздачы, не называючы іх проста, я ім аддам належнае".

(Фридлянд и Слуцкий, ук. соч. ст. 332).

## 7. Інтэрнацыянал і вайна.

Рэзолюцыя Брусэльскага конгрэсу па пытаньню аб вайне казала: „Конгрэс Міжнароднай Асоцыяцыі Рабочых, якія сабраліся ў Брусэлі, выражае свой энэргічны протэст супроць вайны. Ён запрашае ўсе сэкцыі Асоцыяцыі, кожную ў адпаведнай краіне, роўна як і ўсе рабочыя таварыствы і групы, незалежна ад іх характару, выявіць найвялікшую актыўнасьць для недапушчэньня вайны паміж народамі, якая ў сучасны момант павінна разглядацца проста, як грамадзянская

вайна, бо стыкаючы паміж сабою вытворцаў, яна будзе нічым іншым, як барацьбой паміж братамі і грамадзянамі. Конгрэс асабліва рэкомэндуе працоўным спыніць усялякую работу ў выпадку, калі ў іх краінах успыхне вайна. Конгрэс разьлічвае таксама на дух салідарнасьці, якая натхняе рабочых усіх краін, спадзяючыся, што яны падтрымаюць гэтую вайну народаў супроць вайны.

(Г. Іекк — Интернационал).

## 8. Інтэрнацыянал і забастовачны рух.

*(Рэзолюцыя Брусэльскага конгрэсу).*

„Конгрэс заяўляе, што забастоўка не зьяўляецца зброяй поўнага вызваленьня рабочага, але яна зьяўляецца часта неабходным сродкам барацьбы паміж працай і капіталам у сучасным грамадзтве.

„Што неабходна падпарадкаваць стачкі пэўным правілам з тым, каб яны маглі абвяшчацца толькі ў спрыяючых выпадках і пры наяўнасьці пэўнай організацыі.

„З пункту гледжаньня організаванасьці стачак, неабходна, каб ва ўсіх профэсыях існавалі рабочыя саюзы супраціўленьня; і што гэтыя профэсыйныя саюзы павінны фэдэрыравацца з усімі профэсыйнымі саюзамі ўсіх краін.

„Для вызначэньня сваячасовасьці і законнасьці стачкі неабходна стварыць у кожнай мясцовасьці асобную комісію, якая зьяўлялася-б свайго роду саветам, каб рашаць ці сваячасова і ці законна стачка, якая прадпрынімаецца".

(Фридлянд и Слуцкий, ук. соч. 335—336).

## 9. Програма бакуністаў: рэзолюцыі Юрскай фэдэрацыі.

1. Прымаючы пад увагу, што па сэнсу агульных статутаў, агульны конгрэс Інтэрнацыяналу зьбіраецца штогодна па праву, для чаго не патрэбен ніякі заклік Генэральнага Савету; Юрская фэдэрацыя прапануе ўсім фэдэрацыям Інтэрнацыяналу сабрацца на агульны конгрэс у панядзелак 1 верасьня 1873 г. у адным з гарадоў Швэйцарыі.

Прымаючы, апрача таго, пад увагу, што для дабра Інтэрнацыяналу важна перашкодзіць агульнаму конгрэсу 1873 г. пераймаць згубны кірунак Гаагскага конгрэсу.

Яна прапануе фэдэрацыям, якія не прызнаюць аўторытарнай улады Нью-Іоркскага Генэральнага савету, паслаць сваіх дэлегатаў у горад, дзе будзе мець месца агульны конгрэс, з чацьверга 28 жніўня, каб скласьці анты-аўторытэтны конгрэс з мэтай наладзіць згоду паміж фэдэрацыямі для дасягненьня перамогі фэдэральнага прынцыпу на агульным конгрэсе.

2. Прымаючы пад увагу, што сумная практыка давяла згубны ўплыў на Інтэрнацыянал існаваньня ў ім цэнтральнай выканаўчай улады.

Што нават існаваньне простай цэнтральнай комісіі для корэспондэнцыі і для статыстыкі магло-б быць небясьпечным, цэнтралізуючы ў руках некалькіх чалавек усе зьвесткі, выцякаючыя з розных фэдэрацый і даючы гэтым выгодную глебу інтрызе.

Што, з другога боку, карысна цэнтралізаваць некаторыя зьвесткі.

Што падзел работы паміж рознымі комісіямі, абранымі ў розных фэдэрацыях, складае неабходную гарантыю супроць небясьпекі стварыць цэнтральны фокус інтрыг і становіць сабою ў той самы час прылажэньне пачатку фэдэралізму.

Юрская фэдэрацыя прапануе ўсім фэдэрацыям Інтэрнацыяналу: скасаваць усе пункты і распараджэньні агульных статутаў, якія датычацца ўстанаўленьня цэнтральнага савету.

Увесьці ў агульныя статуты распараджэньні, якімі ўстанаўляюцца:

1) Міжнародная комісія корэспондэнцыі, якая павінна палегчыць *перапіску паміж фэдэрацыямі і спэцыяльна цэнтралізаваць перапіску* аб скліканьні і організацыі агульнага конгрэсу.

2) Міжнародная комісія статыстыкі, якая павінна цэнтралізаваць статыстычныя даныя, якія ёй будуць перадаваць фэдэрацыі.

3) Міжнародная комісія супраціўленьня, якая павінна зьбіраць зьвесткі, што датычацца стачак, і служыць пасярэдніцай між рабочымі саюзамі, якія захочуць зьвярнуцца да яе садзейнічаньня.

Гэтыя тры комісіі павінны будуць знаходзіцца ў розных фэдэрацыях. Конгрэс прызначыць штогодна фэдэрацыі, дзе будуць знаходзіцца комісіі. Клопаты аб выбары пэрсоналу комісій будуць ускладзены на фэдэрацыі, у якіх будуць знаходзіцца комісіі.

## 10. Маркс і Бакунін пра дзяржаву.

У той час, як масы соцыял-дэмократычных рабочых таксама як і мы трымаюцца такога пагляду, што дзяржаўная ўлада ёсьць ня што іншае, як організацыя, якую далі сабе пануючыя клясы—земляўласьнікі і капіталісты,—для таго, каб абараняць свае грамадзкія прывілеі, Бакунін сьцьвярджае: дзяржава стварыла капітал, капіталіст уладае сваім капіталам толькі праз ласку дзяржавы. Таму што дзяржава зьяўляецца галоўным злом, трэба перш за ўсё зьнішчыць дзяржаву, тады і капітал сам сабою загіне. Мы-ж гаворым наадварот: зьнішчыце капітал — згрупаваньне ўсіх сродкаў вытворчасьці ў руках нямногіх, тады сама сабой адпадзе дзяржава. Тут істотная розьніца: адмена дзяржавы без соцыяльнага перавароту — бяссэнсіца. Зьнішчыце капітал — гэта ёсьць грамадзкі пераварот і ўключае ў сябе ператварэньне ўсіх спосабаў вытворчасьці. Але таму што для Бакуніна дзяржава ёсьць асноўнае зло, дык нічога ня трэба рабіць, што магло-б падтрымаць жыцьцё якой-бы там ні было дзяржавы—рэспублікі, монар-

хіі і г. д. Таму бязумоўнае ўстрыманьне ад якой-бы там ні было палітыкі. Зрабіць палітычнае дзеяньне, асабліва прыняць удзел у выбарах—гэта здрада прынцыпу. Трэба весьці пропаганду, ганьбіць дзяржаву, організоўвацца і, калі, нарэшце, будзеш мець на сваім баку ўсіх рабочых, значыцца, большасьць, тады зьнішчацца, нарэшце ўсе дзяржаўныя ўстановы і на іх месца становіцца організацыя Інтэрнацыяналу. Гэта вялікае дзеяньне, якім кладзецца пачатак тысячагадовага царства, называецца соцыяльнай ліквідацыяй. Паколькі, згодна Бакуніну, Інтэрнацыянал павінен быць створаны не для палітычнай барацьбы, а для таго, каб ён мог пры соцыялістычнай ліквідацыі адразу-ж заняць месца старой дзяржаўнай організацыі... то ён (Інтэрнацыянал) павінен наколькі магчыма больш набліціцца да бакунінскага ідэалу будучага грамадзтва. У гэтым грамадзтве перш за ўсё ня існуе ніякай улады, таму што ўлада—дзяржава—бязумоўна ад д'ябала.

(Ліст Энгельса да Куно ад 24 студзеня 1872 г.).

### 11. Ф. Энгельс пра ролю І Інтэрнацыяналу.

„Ён (Інтэрнацыянал) належаў да пэрыоду другой імпэрыі, калі панаваўшыя па ўсёй Эўропе перасьледваньні абуджаўшагася рабочага руху дыктавалі солідарнасьць пролетарыяту і яго няўмяшальнасьць ва ўнутраную палітыку. Гэта быў момант, калі ўсеагульныя космополітычныя інтарэсы пролетарыяту былі высунуты на першы плян: калі Германія, Гішпанія, Італія і Данія толькі што ўступілі ў рух ці яшчэ толькі ўступалі. У 1864 г. тэорэтычны характар руху заставаўся ва ўсёй Эўропе, г. зн. у масах далёка яшчэ не зразумелы. Нямецкі комунізм яшчэ ня выліўся ў форму рабочага руху; прудонізм-жа ня быў настолькі моцны, каб выжджаць на сваім спэцыяльным коніку; бакунінская новая бязглузьдзіца яшчэ не набыла пэўнай формы і ва ўласнай галаве яе аўтара; і нават правадыры ангельскіх трэд-юніёнаў лічылі магчымым уступленьне іх у рух на падставе програмы, складзенай у тлумачальнай запісцы да ўставу. І першы-ж буйны посьпех павінен быў зруйнаваць гэта несумяшчальнае супрацоўніцтва розных фракцый. Такім посьпехам і была Комуна, якая зьявілася няволным духоўным дзіцем Інтэрнацыяналу, хоць апошні і пальцам не варушыў для таго, каб выклікаць яе да жыцьця; такім парадкам, Інтэрнацыянал у пэўнай ступені зусім справядліва лічыцца віноўнікам Комуны. Але як толькі ён, дзякуючы ёй, набыў у Эўропе моральную сілу, то адразу-ж узьнікла спрэчка паміж паасобнымі палітычнымі кірункамі, якія спрачаліся адзін з адным за выключнае права на выкарыстаньне рэзультатаў, дасягнутых Комунай. Даўно высьпеўшы момант распаду Інтэрнацыяналу надышоў. Зайздрасьць на ўзрастаючую сілу элемэнтаў, якія засталіся вернымі і старой шырокай програме—нямецкіх комуністаў—штурхнула бэльгійскіх прудоністаў у абдымкі бакунінскіх авантурнікаў. Гаагскі-ж зьезд быў, у сапраўднасьці, канцом для абедзьвюх партый. Амэрыка была адзінай краінай, дзе імя

Інтэрнацыяналу яшчэ карысталася некаторай папулярнасьцю, чаму здаровы інстынкт і падказаў, што мэтазгодна перанесьці туды яго праўленьне. Але нарэшце, і ў Амэрыцы гонар Інтэрнацыяналу паў і ўсялякая спроба ўдыхнуць у яго новае жыцьцё была-б бязглуздай і лёгкадумнай тратай энэргіі. Дзесяць год Інтэрнацыянал кіраваў адным бокам эўропэйскай гісторыі і іменна тэй, у якой закладзена ўся будучыня..."

(Маркс і Энгельс. „Лісты". З лісту Энгельса да Зорге ад 12-IX 1874 г).

# ПОЛІТЫЧНАЯ ЭКОНОМІЯ

Курс першы

*Курс вядзе ЛУР'Е.*

## ЗАДАНЬНЕ ПЕРШАЕ

*(для самастойнай прапрацоўкі з прадстаўленьнем пісьмовай работы на рэцэнзію).*

## ТАВАР.

### Уводзіны.

Мы распачынаем вывучэньне вытворчых адносін капіталістычнага грамадзтва, г. зн. вывученьне політычнай экономіі ў вузкім сэнсе, у адзнаку ад політычнай экономіі ў шырокім сэнсе, якая вывучае вытворчыя адносіны розных грамадзка-экономічных формацый. Задача наша, значыцца, складаецца з таго, каб вывучыць „экономічны закон руху капіталістычнага грамадзтва", г. зн. „дасьледваньне вытворчых адносін данага гістарычна вызначанага, грамадзтва, у іх узьнікненьні, разьвіцьці і заняпадзе" (Ленін).

У капіталістычным грамадзтве мы сутыкаемся, аднак, з складанай сыстэмай і спляценьнем розных вытворчых адносін. З чаго трэба распачаць дасьледваньне? Маркс сваё дасьледваньне распачынае з аналіза тавару, як першаістай самай агульнай, самай простай зьявы, як экономічнай клетачкі буржуазнага грамадзтва.

„Багацьце грамадзтва, у якім пануе капіталістычны спосаб вытворчасьці,—пачынае Маркс свой „Капітал"—прадстаўляе „вялізарнае накапленьне тавараў", а паасобны тавар—яго элемэнтарную форму (яго выходную форму). Наша дасьледваньне пачынаецца таму аналізам тавару".

Сьледуючы дыялектычнаму мэтоду, Маркс разглядае тавар, як адзінства процілегласьцяй, адзінства спажывецкай вартасьці і вартасьці, а далейшае разьвіцьцё таварных адносін, як вырашэньне гэтае ўнутранае супярэчнасьці тавару.

„У Маркса ў „Капітале",—кажа Ленін,—спачатку аналізуюцца самыя простыя, звычайныя, асноўныя, самыя масавідныя, самыя штодзенныя, якія мільярд разоў сустракаюцца, *адносіны* буржуазнага

(таварнага) грамадзтва: абмен тавараў. Аналіз выкрывае ў гэтай прасьцейшай зьяве (у гэтай „клетачцы“ буржуазнага грамадзтва) *усе* супярэчнасьці (зародак *усіх* супярэчнасьцяй) і гэтага грамадзтва, і яго паасобных частак, ад яго пачатку да яго канца“.

Такім парадкам, правільнае разуменьне капіталізму і яго супярэчнасьцяй залежыць ад правільнага дыялектычнага аналізу тавару, ад правільнага разуменьня ўнутранай супярэчнасьці тавару, які адбівае асноўную супярэчнасьць таварнага грамадзтва, супярэчнасьць паміж *грамадзкім характарам вытворчасьці і прыватнай уласнасьцю на сродкі вытворчасьці*.

Гэтую задачу павінны ставіць перад сабою завочнікі, распачынаючы вывучэньне тэорії вартасьці Маркса. У першую чаргу неабходна ўявіць сабе дыялектычную сутнасьць тавару, як адзінства спажывецкай вартасьці і вартасьці, зразумець значэньне гэтае супярэчнасьці, уявіць дваісты характар працы, які ляжыць у аснове гэтае супярэчнасьці, значэньне супярэчнасьці паміж працай прыватнай і грамадзкай і характар ствараючай вартасьць працы, уявіць неабходнасьць формы вартасьці і яе разьвіцьцё, і, урэшце, зразумець тэорыю таварнага фэтышызму, і на яе аснове—гістарычную характарыстыку закону вартасьці.

Згрупаваўшы сваю ўвагу на аналізе супярэчнасьцяй тавару, завочнікі павінны адразу-ж унікаць тэй памылкі, якая характарна для ўсіх падручнікаў політ-экономіі, іменна, перанясеньня цэнтру цяжкасьці проблемы вартасьці на пытаньне аб роўнавазе, пытаньне аб рэгулятары. Марксыцкая тэорыя вартасьці ня ёсьць толькі тэорыя пропорцыянальных працоўных затрат, вартасьць мае ня толькі *колькаснае*, але і *якаснае* азначэньне, якое заключаецца ў тым, што „індывідуальная праца шляхам свайго адчужэньня павінна праяўляцца як абстрактна-ўсеагульная, грамадзкая праца“ (Маркс „Тэорыі“ т. II.), што вартасьць ёсьць асобная форма праяўленьня грамадзкае працы. Тэорыя вартасьці дапушчае і павінна дапушчаць роўнасьць попыту і прапановы, хоць яна зусім не сьцьвярджае, што ў капіталістычным грамадзтве заўсёды наглядалася і магла наглядацца такая роўнасьць. Такім парадкам, проблема рэгулятара ня ёсьць асноўная проблема тэорыі вартасьці, рэгулятар ёсьць прыватны момант руху супярэчнасьцяй. Проблема стыхійнага рэгуляваньня можа быць з посьпехам разгледжана ў сувязі з тэорыяй цэн вытворчасьці, калі ў дасьледваньне ўводзіцца і проблема конкурэнцыі.

Разам з тым, такі аналіз вартасьці дае магчымасьць завочнікам выкрыць розныя скажэньні марксавай тэорыі вартасьці як мэханістычнага, гэтак і меншавіцка-ідэалістычнага характару.

Вучэньне аб тавары і таварнай вартасьці ляжыць у аснове ўсёй экономічнай сыстэмы Маркса-Леніна. І зусім натуральна, што той, хто памыліцца ў пытаньнях аналіза тавару ў тэорыі вартасьці К. Маркса, той нямінуча і далей будзе адступаць ад марксызму і рэвізаваць вучэньне Маркса. Нядзіўна, што рознагалосьсі між экономістамі—марксы-

стамі па пытаньнях тэорыі вартасьці перарасьлі ў двухгадовую жорсткую дыскусію па шырокім коле асноўных проблем політычнай эканомії, якая скончылася толькі нядаўна.

У гэтай дыскусіі выявіліся дзьве рэвізіяніцкія плыні, якія заблудзіліся ў нетрах схолястыкі і зыйшлі з вернага шляху марксыцка-ленінскага мэтода. Рад таварышоў, выступаўшых у эканомічных спрэчках, правільна вялі барацьбу на два фронты супроць абудвых відаў сучаснага рэвізіянізму, выкрываючы іх антыленінскую сутнасьць.

Першая з гэтых плыняў—багданаўска-бухарынская, мэханістычная—мела моцны ўплыў на т.т. Бяссонава, Кона і інш. Гэтыя таварышы безагаворачна прызналі ў выніку дыскусіі свае памылкі, якія перарасталі ў сыстэму мэханістычных поглядаў, характэрную для антыдыялектычнай концэпцыі Бухарына. Але памылкі, пушчаныя імі ў ход, далёка ня ўсюды і ня ўсімі зжыты. Гэта тым больш небясьпечна, што т. Бухарын цалкам адстойвае свае антыдыялектычныя ўстаноўкі ў эканомічнай тэорыі, якія прывялі яго на практыцы і да права-опортуністычнай лініі. А рад эканомістаў, якія пробуюць выдаць сябе за марксыстаў, як Фін-Енотаеўскі, Кажанаў і інш. нават адкрыта імкнецца адрадзіць багданаўшчыну ў політычнай эканоміі. Мэханістычныя тэндэнцыі ў нашай навуцы далёка яшчэ ня выкарчаваны, для іх перамогі патрабуецца настойлівая і ўпартая барацьба з прыхільнікамі мэханістычных поглядаў.

Другая плынь—ідэалістычная, на чале якой стаіць І. І. Рубін, Тав. Барылін, Леонцеў, Гр. Дэборын, Грэбліс, Каравай, Сьцяпанаў, і інш. апынуліся ў палоне ў гэтай плыні, падзяляючы рад памылак І. І. Рубіна і фактычна спрыяючы пашырэньню яго поглядаў[1]). Ім давялося прызнаць свае памылкі і выступаць з крытыкай апошніх, але шмат хто з таварышоў, захопленых рубінскай плыняй, усё яшчэ ня могуць перамагчы да канца сваіх памылковых поглядаў, аб чым сьведчаць іхнія апошнія выступленьні ў друку [2]). Сам Рубін цалкам падтрымлівае сваю антыдыялектычную концэпцыю, як і рад адкрытых ідэалістаў у політычнай эканоміі (Кушын, Давыдаў).

Барацьба на два фронты працягвае заставацца актуальнай задачай у галіне політычнай эканоміі, бо вывучэньне асноўных проблем эканомічнай тэорыі ня можа быць поўным бяз крытыкі і перамаганьня як мэханістычнай, гэтак і адкрыта ідэалістычнай рэвізіі эканомічнага вучэньня Маркса-Леніна.

Прапрацоўваючы гэта заданьне, вывучаючы тэорыю вартасьці, завочнікі павінны ўявіць сабе, у чым памылкі абодвух відаў рэвізіянізму ў гэтым выходным пункце марксавага эканомічнага вучэньня.

---

[1]) Гл „Большевик", 2 за 1930 г. артыкул „К разногласиям в политэкономии", заўвага да яго рэдакцыі „Большевика".

[2]) Гл. заяву ад рэдакцыі часопісі „Проблемы экономики" у 2 гэтай часопісі за 1930 г., дзе паказваецца на артыкулы Борыліна, Ільлюхова, Гр. Дэборына, і М. Чарніна, апублікаваныя ўжо пасьля падвядзеньня вынікаў дыскусіі.

Багданаўска-бухарынская школа разглядае вартасьць тавару, як натуральны вынік простай затраты фізыолёгічнай энэргіі чалавека. Працу, якая стварае вартасьць, гэта школа разумее, як працоўную затрату наогул, уласьцівую ўсім часом і народам, а затрату працы—як натуральна-фізыолёгічную зьяву, як затрату фізыолёгічнай энэргіі. Тым самым абгрунтоўваецца багданаўскі „пункт гледжаньня" на вартасьць, як нешта ўласьцівае ўсім эпохам і формам грамадзкага разьвіцьця. Зммазваецца асаблівы гістарычна-пераходзячы характар законаў капіталізму і сьціраюцца розьніцы паміж рознымі ступенямі, рознымі пэрыодамі жыцьця чалавечага грамадзтва. Перад існуючай цяпер політычнай экономіяй багданаўцамі фактычна высоўваецца не задача навукова абгрунтаваць *гібель капіталізму і нямінучасьць* соцыялістычнай рэволюцыі, а знайсьці агульныя для ўсіх грамадзтваў законы разьвіцьця якія паводле іх думкі, толькі зьмяняюць гарнітур пры пераходзе ад аднэй формы грамадзтва да іншай. Супярэчнасьці капіталізму, якія цягнуць яго да згубы затушоўваюцца і застаюцца для мэханістых не раскрытымі таму, што разуменьне гэтых супярэчнасьцяй закладзена ў правільным разуменьні тавараў і формаў вартасьці. Трэба цьвёрда памятаць паказаньне Леніна, што форма вартасьці зьмяшчае ў зародку ўсе супярэчнасьці капіталістычнага спосабу вытворчасьці. Сваяцтва бухарынскіх поглядаў з багданаўскімі ўстаноўкамі ў тэорыі вартасьці знаходзіць сабе толькі далейшае разьвіцьцё ў тым, што т. Бухарын, паланёны вучэньнем Багданава, ня здолеў выкрыць супярэчнасьцяй сучаснага імпэрыялізму і трапіў у палон да соцыял-дэмократычнай тэорыі „організаванага капіталізму".

Такім парадкам, мэханістычная плынь у політычнай экономіі, адышоўшы ад марксызму ў тэорыі вартасьці, разьвіваючы і *разгаліноўваючы* свае памылкі, прыйшла да антыленінскіх позыцый па асноўных пытаньнях сучаснай экономікі.

Але рэвізіяніцкі характар багданаўска-бухарынскай школы і барацьба з ёю ні ў якай ступені не павінна паслабляць нашай увагі да другой—меншавіцка-ідэалістычнай, чужой і варожай марксызму плыні ў політычнай экономіі, на чале якой стаіць І. І. Рубін.

Гэтая плынь таксама займае ў тэорыі вартасьці Маркса няверныя выходныя позыцыі. Школа І. І. Рубіна лічыць, што абстрактная праца, якая стварае вартасьць, не зьяўляецца затратай аднэй і тэй-жа фізыолёгічна аднастайнай чалавечай рабочай сілы. Яна адмаўляе, насупярэкі, Марксу, матэрыяльны характар абстрактнае працы, заяўляючы, што яна, гэта праца, нібы не зьмяшчае „ніводнага атома матэрыі".

Роўнасьць і аднастайнасьць чалавечае працы, якая стварае вартасьць тавараў, школа Рубіна разглядае як выяўленьне формальнае роўнасьці і незалежнасьці (аўтономнасьці) паасобных таваравытворцаў, г. зн. як вынік прававога ладу, законадаўства.

Адмаўляючы матэрыяльны характар зьместу (субстанцыі) вартасьці ідэалістычная рэвізія вучэньня Маркса фактычна адмаўляецца будаваць экономічную навуку на аснове аналізу таго ладу адносін па вытвор-

часьці паміж яго ўдзельнікамі, які складаецца незалежна ад волі і сьвядомасьці людзей. Экономічнае разьвіцьцё капіталістычнага грамадзтва страчвае ў руках Рубінскай школы сваё матэрыялістычнае абгрунтаваньне; супярэчнасьці капіталізму ня могуць быць ёю выкрыты і асьветлены як сіла, закладзеная ў самым матэрыяльным ладзе грамадзкае вытворчасьці і пануючая над воляй, сьвядомасьцю, пастановамі, законадаўствам і ўсімі ідэолёгічнымі адносінамі ўдзельнікаў таварнае гаспадаркі.

Разьвіцьцё капіталізму і яго гібель пад ціскам росту супярэчнасьцяй капіталістычнага ладу ня можа зразумець і абгрунтаваць рубінская школа. Яна зьяўляецца няздольнай зразумець разьвіцьцё формаў вартасьці, грошай, капіталу, накапленьне апошняга і зьвязаных з гэтым накапленьнем крызісаў.

Антырэволюцыйны характар вучэньня І. І. Рубіна знаходзіць сваё закончанае выражэньне ў тым, што тэорыя пролетарскай рэволюцыі ня можа быць пабудавана на аснове рубінскага „аналізу“ экономічных адносін капіталізму. Яно, гэтае вучэньне, яўна паказвае свае меншавіцкія карэньні ўсюды, дзе яму даводзіцца стаць перад пытаньнем аб рухаючых сілах пролетарскай рэволюцыі, аб супярэчнасьці паміж неабходнасьцю разьвіць вытворчыя сілы грамадзтва і тымі адносінамі людзей па вытворчасьці, у якіх гэта разьвіцьцё грамадзкага багацьця павінна адбывацца пры капіталізьме; рубінскае вучэньне выяўляе сваё бясьсільле ўсюды, дзе экономічная навука павінна даць адказ на пытаньне аб ролі новых соцыялістычных вытворчых адносін, ствараемых пролетарскай рэволюцыяй для ўздыму вытворчых сіл.

Прапрацоўваючы гэтае заданьне, завочнікі павінны засвоіць, у адзнаку ад мэханістычнай і проста ідэалістычнай рэвізіі Маркса, яго сапраўднае вучэньне аб вартасьці і працы, якая стварае яе. Яны павінны зразумець, чаму роўнасьць і роўны характар чалавечае працы, паколькі гэтая праца зьяўляецца затратай аднэй і тэй-жа фізыолёгічна аднолькавай чалавечай рабочай сілы, толькі ў таварнай гаспадарцы робіцца грамадзкай формай працы. Яны павінны ўявіць, што толькі ў таварнай гаспадарцы розная праца паасобных людзей павінна быць грамадзкі выяўлена, як затрата аднэй і тэй-жа чалавечай рабочай сілы, як затрата аднэй і тэй-жа працы, якая адрозьніваецца ў паасобных таваравытворцаў толькі сваёй вялічынёй, сваёй працягласьцю; завочнікі павінны таксама прадумаць, чаму такі спосаб выражэньня працы, затрачанай на вытворчасьць продуктаў, зьяўляецца ўмовай, без якой ня можа ажыцьцявіцца сувязь паасобных таваравытворцаў паміж сабою, ня можа жыць усё грамадзкае цэлае пры таварнай гаспадарцы.

Калі гэта зробіцца зразумелым, дык будзе засвоена таксама і далейшае, а іменна, што такі спосаб выражэньня працы можа быць ажыцьцяўлён толькі пры дапамозе менавых адносін паміж таварамі, якія Маркс дасьледуе ў сваім вучэньні аб форме вартасьці, раскрываючы ўсе іх супярэчнасьці. Тут ключ да разуменьня таго, што існа-

ваньне вартасьці тавараў і тэй працы, якая ў ёй прадстаўлена, непарыўна зьвязана з асобым ладам матэрыяльных адносін людзей па вытворчасьці, уласьцівых толькі таварнай гаспадарцы. Адсюль гістарычны характар законаў палітычнай эканоміі, пераходзячы характар капіталізму з яго нямінучымі супярэчнасьцямі, якія растуць па меры разьвіцьця капіталістычнае вытворчасьці і нямінуча прыводзяць буржуазнае грамадзтва да рэволюцыйнага выбуху, да пролетарскай рэволюцыі.

### ПЛЯН ТЭМЫ:

#### I. Аналіз тавару.

1) Асноўная супярэчнасьць таварнае гаспадаркі.
2) Тавар, як адзінства вытворчай вартасьці і вартасьць.
3) Вартасьць і менавая вартасьць.
4) Соцыяльная роля і значэньне тавараабмену.

#### II. Праца, ствараючая вартасьць.

1) Дваісты характар заключанай у тавары працы: праца конкрэтная і абстрактная.
2) Мэханістычнае і ідэалістычнае тлумачэньні абстрактнае працы.
3) Грамадзка-неабходная праца.
4) Вартасьць і продукцыйнасьць працы.
5) Простая і складаная праца.

#### III. Форма вартасьці.

1) Простая форма вартасьці.
2) Адносная і эквівалентная форма вартасьці.
3) Поўная і разгорнутая форма вартасьці.
4) Усеагульная форма вартасьці.
5) Грашовая форма вартасьці.

#### IV. Таварны фэтышызм. Гістарычны характар закону вартасьці.

1) Сутнасьць таварнага фэтышызму.
2) Об'ектыўная прычына таварнага фэтышызму.
3) Вартасьць, як грамадзкія адносіны.

### Літаратура

Асноўная: 1. *І. Лапідус і К. Астравіцянаў* „Политическая экономия" выд. VI, вып. I, разьдзелы I, II, III, IV і V п., 6—21.

Увага: Пры распрацоўцы матэрыялу па падручніку Лапідуса і Астравіцянава трэба мець на ўвазе, што, ня гледзячы на больш правільнае тлумачэньне пытаньняў тэорыі вартасьці ў VI выданьні і выпраўленьня раду ідэалістычных памылак, аўтары ў некаторых мясцох тлумачаць закон вартасьці, як закон роўнавагі, і недастаткова падкрэсьліваюць ролю прыватнай уласнасьці ў супярэчлівасьці таварнае гаспадаркі.

2. Навучальна-дапаможны матэрыял, які дадаецца да заданьня.

Дадатковая (для паглыбленай прапрацоўкі). *Маркс* „Капитал" т. I, разьдз. I, п. 1 і 2 „Два фактора товара: потребительная стоимость и стоимость", „Двойственный характер заключающегося в товаре труда". Каб палегчыць сябе працу над „Капиталом" можна скарыстаць у якасьці дапаможніка кнігу *Д. Розэнбэрга* „Комментарии к первому тому Капитала Карла Маркса".

## Мэтодычныя ўказаньні да самастойнай прапрацоўкі

### Да 1 разьдзелу—*аналіз тавару.*

Прапрацоўку першага разьдзелу „Аналіз тавару" трэба распачаць з дапаможнага матэрыялу № 1 (з Леніна) і № 2 (з „Теории" Маркса), а потым прыступіць да чытаньня першага і другога разьдзелу падручніка Лапідуса і Астравіцянава (VI выданьне), заканчваючы вывучэньне гэтага разьдзелу дапаможным матэрыялам № 3 (з „Введения в политическую экономию" Р. Люксембург).

Завочнікі павінны зразумець асноўныя рысы таварнага грамадзтва ў адзнаку ад натуральнае замкнутае гаспадаркі, дзе *ўсе* свае патрэбы задавальняюцца самімі членамі данага грамадзтва. Тут высьветліцца значэньне грамадзкага падзелу працы ў таварнай гаспадарцы для прогрэсыўнага разьвіцьця вытворчых сіл, высьветліцца, што імкненьне да таго, каб замыкацца ў вузкія рамкі натуральнае гаспадаркі, да стварэньня „самаедзкага тыпу" гаспадаркі, скараціць сваю таварнасьць у некаторых колгасах, ці, грунтуючыся на „тэорыі нацыянальнай самабытнасьці" да гаспадарчай аўтаркіі (замкненасьці) нацыянал-дэмократаў, зьяўляецца імкненьнем *рэакцыйным*, якое вядзе да зьніжэньня вытворчасьці працы, адбівае варожыя нам контррэволюцыйныя ўплывы. Такі падыход да пытаньня дае магчымасьць унікнуць з самага пачатку работы тэй вельмі распаўсюджанай у падручніках політэкономіі памылкі, процістаўленьня розных грамадзкіх формацый адна аднэй, на организаваныя і неорганізаваныя грамадзтвы, грамадзкага і тэхнічнага падзелу працы. Такі падзел грамадзтваў вядзе да адмаўленьня політычнай экономіі ў шырокім сэнсе і мае сваёй крыніцай няленінскую, немарксыцкую тэорыю Багданава-Бухарына. Таму *правільнае разуменьне грамадзкага падзелу працы і яго гістарычнага значэньня* зьяўляецца адным з асноўных момантаў данага разьдзелу. Але трэба цьвёрда засвоіць, што калі ў адзнаку ад натуральнае гаспадаркі таварнае грамадзтва вызначаецца тым, што праца ў ім грамадзкі падзелена, то ў адзнаку ад соцыялістычнага грамадзтва, асновай таварнага грамадзтва зьяўляецца прыватная уласнасьць на сродкі вытворчасьці, якая азначае прыватную форму грамадзкае працы. Адсюль завочнікі павінны зрабіць вывад аб асноўнай супярэчнасьці таварнага грамадзтва, аб супярэчнасьці паміж грамадзкім характарам вытворчасьці і прыватнай формай прысваеньня.

Высьветліўшы асноўную супярэчнасьць таварнага грамадзтва, трэба перайсьці да пытаньня аб тым, як адбіваецца супярэчнасьць у „эканомічнай клетачцы“ грамадзтва—у тавары, да пытаньня аб дваістай супярэчнай прыродзе тавару, аб супярэчнасьці паміж спажывецкай вартасьцю тавару і яго вартасьцю. Тут трэба зьвярнуць увагу на тую памылку, якую зрабілі абодвы бакі ў эканомічнай дыскусіі, зводзячы спажывецкую вартасьць тавару да здольнасьці рэчаў задавальняць якую-небудзь патрэбу наогул, адмаўляючы гістарычны характар паняцьця спажывецкай вартасьці і адрываючы яго ад вытворчасьці. Трэба добра засвоіць і зразумець наступную вынятку з „Капитала“: „Рэч можа быць спажывецкай вартасьцю, ня будучы вартасьцю. Гэта мае месца, калі яе карысьць для чалавека ня зьвязана з працай. Такія: паветра, цаліна, натуральныя сенажаці, дзікарастучы лес і г. д. Рэч можа быць карыснасьцю і продуктам чалавечае працы, ня будучы таварам. Той, хто продуктам сваёй працы, задавальняе сваю ўласную патрэбу, стварае толькі спажывецкую вартасьць, а не тавар. Каб стварыць тавар, ён павінен стварыць ня проста спажывецкую вартасьць, але спажывецкую вартасьць для іншых, грамадзкую спажывецкую вартасьць“. Такім чынам спажывецкая вартасьць тавару ня ёсьць наогул карысная рэч, а катэгорыя гістарычная, зьвязаная з грамадзкім падзелам працы, „спажывецкая вартасьць для іншых“. Для разуменьня тавару як процілеглага адзінства многа дае завочніку ўрывак з „тэорыі дадатковае вартасьці“ Маркса, дадзены як дапаможны матэрыял.

Вывучаючы вартасьць тавару, трэба мець на ўвазе, што Маркс „выходзіць з менавой вартасьці, каб напасьці на сьлед вартасьці, якая хаваецца пад ёю“. Таму надзвычайна важна зразумець розьніцу паміж вартасьцю і менавой вартасьцю. Неабходна перш за ўсё цьвёрда ўясьніць сабе, што толькі на першы погляд вартасьць тавару прадстаўляецца ў выглядзе пэўнай сумы грошай ці колькасьці іншых тавараў, якія можна атрымаць у абмен на яго. На першы погляд, вартасьць ботаў, напрыклад, ёсьць ня што іншае, як тыя тавары (напрыклад, цэнтнэр пшаніцы ці 20 мэтраў паркалю), на якія магчыма памяняць боты. Але калі разабрацца больш уважліва, то будзе ясна, што розныя тавары (у нашым прыкладзе пшаніца і паркаль) прадстаўляюць кожны раз адну і тую самую вартасьць—вартасьць пары ботаў. Цэнтнэр пшаніцы і 20 мэтраў паркалю ёсьць толькі знадворнае праяўленьне вартасьці ботаў, накшталт таго, як жалезныя гіры, пакладзеныя на адну чашку вагі, ёсьць толькі знадворная праява цяжару ўзважваемага продукту. Такім парадкам, менавая вартасьць ёсьць толькі форма праяўленьня адзначанага ад яго зьместу вартасьці.

У сувязі з гэтым трэба перайсьці да распрацоўкі пытаньня аб значэньні абмену ў таварнай гаспадарцы. Абмен павінен разумецца, як форма вырашэньня ўнутранае супярэчнасьці тавару, як закон руху таварнага грамадзтва. Неабходна заўважыць, што па гэтым пытаньні ў падручніку Лапідуса і Астравіцянава, ня гледзячы на ўнесеныя знач-

ныя зьмены ў VI выданьні, усё-ж маецца скатваньне на пункт гледжаньня роўнавагі, але закон вартасьці і абмен, як закон роўнавагі (сказана пропорцыянальнасьці) таварнага грамадзтва, хоць падкрэсьліваецца, што гэта імкненьне да пропорцыянальнасьці праяўляецца ў бесьперапынным парушэньні гэтай пропорцыянальнасьці". Такое тлумачэньне абмену і закону вартасьці зьбліжае аўтараў з Бухарыным і яго тлумачэньнем закону вартасьці толькі як рэгулятара, як форму праяўленьня закону працоўных затрат і з Рубіным, які таксама лічыў, што задача марксавай тэорыі вартасьці зводзіцца да таго, каб „выкрыць пад законамернасьцю прыраўненьня рэчаў законы роўнавагі працы". У сапраўднасьці абмен ёсьць форма руху разьвіцьця ўласьцівае тавару супярэчнасьці паміж спажывецкай вартасьцю і вартасьцю.

Да II разьдзелу — *праца, стваруючая вартасьць.*

Прапрацоўку гэтага разьдзелу трэба распачаць з чытаньня дапаможнага матэрыялу № 4 (Маркс „Капітал", т. I), потым перайці да разьдзелу трэцяга падручніка Лапідуса і Астравіцянава, канчаючы работу чытаньнем навучальна дапаможнага матэрыялу № 5 (Маркс, — „Зьвядзеньне складанае працы да простай) і № 6 (Энгельс, —„Аб простай і складанай працы").

Гэты разьдел надзвычайна цяжкі і патрабуе асобнай уважлівасьці пры вывучэньні і прадумваньні матэрыялу. Ад двaістасьці тавару трэба перайсьці да двaістасьці працы, заключанай у тавары, да супярэчнасьці паміж абстрактнай і конкрэтнай працай. Конкрэтная праца, заключаная ў тавары, зьяўляецца адбіткам таго, што ў таварным грамадзтве існуе грамадзкі падзел працы, што кожны ўдзельнік таварнае вытворчасьці вытварае адзін пэўны тавар, ужываючы асобныя сродкі вытворчасьці і сыравіну, задавальняе асобную конкрэтную патрэбнасьць. Таму конкрэтная праца стварае спажывецкую вартасьць тавару. Але кожны з ўдзельнікаў таварнае вытворчасьці можа задаволіць свае патрэбы і працягваць далей сваю вытворчасьць толькі шляхам сталага абмену продуктаў сваёй працы на рознастайныя продукты, што вырабляюцца іншымі таваравытворцамі. Праца кожнага таваравытворца зьяўляецца яго прыватнай працай і толькі ў форме абстрактнае працы; г. зн. зьвядзеньне працы да затраты аднолькавай аднастайнай рабочай сілы яго прыватная праца робіцца грамадзкай працай. Вось чаму праца, заключаная ў тавары, мае двaістую форму конкрэтнае і абстрактнае працы. Конкрэтная праца стварае спажывецкую вартасьць і зьяўляецца адбіткам факту грамадзкага падзелу працы, а абстрактная праца стварае вартасьць тавару і зьяўляецца адбіткам таго факту, што грамадзтва аснована на прыватнай уласнасьці і праца мае форму прыватнае працы. Значыцца, як субстанцыя вартасьці, праца таваравытворцы ёсьць ня што іншае, як роўная, абыякая, аднолькавая праца, простая затрата чалавечай рабочай сілы і гэта затрата ў вартасьці выступае як грамадзкая форма працы. Толькі ў таварнай гаспадарцы гэта затрата робіцца абстрактнай працай.

Пытаньне пра абстрактную працу было адным з цэнтральных пытаньняў у эканомічнай дыскусіі. Мэханісты (напрыклад, Кон, Бяссонаў) разглядалі абстрактную працу як затрату фізыолёгічнай энэргіі і толькі, а таму гэту катэгорыю разглядалі не як гістарычную катэгорыю. Рубін згодна сваёй ідэалістычна-меншавіцкай концэпцыі, даваў ідэалістычную трактоўку абстрактнай працы. Ён сьцьвярджаў, што абстрактная праца ствараецца ў абмене і ня мае ў сабе ні атома матэрыі. Азнаямленьне з эканомічнай дыскусіяй па артыкулу Барыніна і Мілюціна („Бальшавік“ № 2 за 1930 г.) павінна ня толькі даць разуменьне варожых марксызму поглядаў на вартасьць, але і павінна прывесьці да лепшага больш выразнага ўяўленьня марксыцкай позыцыі! Зусім ясна, што праца ня можа існаваць без затраты фізыолёгічнай энэргіі, але азначаючым момантам для абстрактнае працы зьяўляецца тое, што яна зьяўляецца гістарычна абумоўленай ф о р м а й г р а м а д з к а е п р а ц ы.

Пазнаёміўшыся з якаснай характарыстыкай працы, якая ляжыць у аснове вартасьці, трэба перайсьці да колькаснай вартасьці, г. зн. да таго, як адбываецца вымярэньне працы. Тут завочнікі спаткаюць паняцьце грамадзка-неабходнае працы. На характарыстыцы грамадзка-неабходнае працы і на *фактарах, яе вызначаючых*, трэба *спыніцца для* высьвятленьня колькаснай характарыстыкі вартасьці. Гэтым самым і зробіцца ясным пытаньне аб суадносінах паміж вартасьцю і вытворчасьцю працы, паколькі апошняя мае ўплыў на фактары, вызначаючыя грамадзка-неабходную працу. Трэба зьвярнуць увагу, што правільнае разуменьне грамадзка-неабходнае працы мае вялікае значэньне ў сучасны момант для вучоту працы на соцыялістычных фабрыках і асабліва ў колгасах.

У заключэньне завочнікі павінны пазнаёміцца з проблемай прывядзеньня складанае працы да простай, з пытаньнем аб розьніцы паміж кваліфікаванай і некваліфікаванай працай. Пазнаёміўшыся з прамовай т. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў 23 чэрвеня 1931 г. трэба высьвятліць для сябе ўсю актуальнасьць гэтага пытаньня для нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

### Да III разьдзелу — *форма вартасьці.*

Прапрацоўку трэцяга разьдзелу трэба распачаць з чытаньня чацьвёртага разьдзелу падручніка Лапідуса і Астравіцянава і скончыць прапрацоўку навучальна-дапаможным матэрыялам № 7 (І. Розенбэрг — эволюцыя формаў вартасьці). Пры распрацоўцы гэтага разьдзелу трэба зьвярнуць галоўную ўвагу на асноўнае пытаньне, адказ на якое даецца вывучэньнем формы вартасьці.

Чаму вартасьць тавару, якая прадстаўляе пэўную колькасьць ператворанай у матэрыю абстрактнай працы, можа быць выяўлена і можа праявіцца толькі ў менавых адносінах аднаго тавару да другога?

Правільны адказ на гэтае пытаньне прывядзе да далейшага разуменьня, чаму такое простае выражэньне вартасьці тавару, як мена-

выя адносіны аднаго тавару да другога, разьвіваюцца да падзелу таварнага сьвету на тавар і грошы, чаму абстрактная праца знаходзіць сваё сапраўднае ажыцьцяўленьне і мае трывалае існаваньне толькі ў грошах.

Тут важна ўясьніць, што з прыроды самой таварнай вартасьці, з таго, што яна ёсьць ператварэньне ў матэрыю пэўнай колькасьці абстрактнае працы, выцякае спосаб яе выражэньня ці форма вартасьці. Захаваная ў тавары ўнутраная супярэчнасьць ляжыць у аснове руху яго, у аснове разьвіцьця яго формы і разам з разьвіцьцём таварных адносін разьвіваецца і форма вартасьці.

Пры вывучэньні формы вартасьці неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на адносную і эквівалентную форму вартасьці, якія зьяўляюцца ўзаемна адна адну абумоўліваючымі, непадзельнымі момантамі, але ў той самы час узаемна выключаючымі полярнымі крайнасьцямі.

Таварная форма, форма вартасьці разьвіваецца ад простай формы да грашовай. Вывучаючы гэтыя формы вартасьці, трэба высьвятліць, якім парадкам адна форма ператвараецца ў іншую на аснове руху ўнутранае супярэчнасьці тавару, які атрымлівае сваё знадворнае выражэньне. Пераходзячы ад аднэй формы вартасьці да другой, ад больш простай да больш складанай, мы заўважваем, як адна форма выцякае з разьвіцьця іншае. Гэта ня толькі лёгічны пераход ад аднэй формы да другой, але гэта і сапраўдны шлях разьвіцьця саміх формаў, разьвіцьця абмену. Тут ход лёгічны адпавядае ходу гістарычнага разьвіцьця. Для таго, каб палегчыць разуменьне гэтага мы прапануем завочнікам прадумаць адказы на наступныя пытаньні:

1. Што такое форма вартасьці?
2. Якім парадкам простая форма вартасьці выражае супярэчнасьць, якая заключаецца ў тавары, і двaісты характар працы?
3. Што становіць сабою эквівалентная і адносная форма вартасьці, на якія распадаецца кожная форма вартасьці?
4. Якім парадкам супярэчнасьць тавару і процілегласьць паміж адноснай і эквівалентнай формай вартасьці разьвіваецца па меры пераходу ад простай формы вартасьці да разгорнутай, па меры пераходу ад разгорнутай да ўсеагульнай і грашовай формы вартасьці?

### Да IV разьдзелу—*таварны фэтышызм.*

Прапрацоўку гэтага разьдзелу належыць пачынаць з чытаньня разьдзелу ў падручніках Лапідуса і Астравіцянава і дапоўніць чытаньнем дапаможнага матэрыялу № 8 (Д. Розенбэрг „Комментарии“) і скончыць прапрацоўку ўсёй тэмы дапаможным матэрыялам № 9 (Ленін, брашура „Карл Маркс“).

Пры распрацоўцы таварнага фэтышызму асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на тое, што „містычны характар тавару“ параджаецца не „спажывецкай вартасьцю“, ня „зьместам пэўнай вартасьці“, што ляжыць у аснове азначэньня вялічыні вартасьці, не грамадзкім характарам

працы, а ўзьнікае з самай таварнай формы. Толькі разуменьне гэтага дасьць магчымасьць разуменьня сутнасьці таварнага фэтышызму і яго об'ектыўнай асновы. Гэта папярэдзіць таксама ад скатваньня да вульгарнага разуменьня таварнага фэтышызму, што таварны фетышызм нібы толькі выдумка буржуазных вучоных.

Аднача́сна з гэтым належыць зьвярнуць увагу на тое, што закон вартасьці Маркса мае гістарычна-абумоўлены і абмежаваны характар, што таму форма вартасьці і матэрыяльнае выражэньне грамадзкіх адносін становіць сабою нешта ўласьцівае толькі аднэй пэўнай грамадзкай формацыі, імена таварнаму грамадзтву. Маркс лічыў вельмі ўдалай характарыстыкай сваёй працы наступную ацэнку „Капітала" у аднэй з старых расійскіх часопісяў:

Для Маркса важна толькі адно: знайсьці закон зьяў, дасьледваньнем якіх ён займаецца. І пры гэтым для яго важны ня толькі закон, які кірує імі, пакуль яны маюць пэўную форму і пакуль яны знаходзяцца ў тых узаемаадносінах, якія наглядаюцца ў гэты час. Для яго яшчэ звыш таго важны закон і зьмяняемасьці і разьвіцьця, г. зн. пераходу ад аднэй формы да другой, ад аднаго парадку ўзаемаадносін да другога. Паколькі ён знайшоў гэты закон, ён разглядае больш падрабязна вынікі, у якіх закон праяўляецца ў грамадзкім жыцьці... У адпаведнасьці з гэтым Маркс клапаціцца толькі аб адным: каб дакладным навуковым дасьледваньнем давесьці неабходнасьць пэўных парадкаў грамадзкіх адносін і каб па магчымасьці бездакорна констатаваць факты, якія служылі яму выходнымі пунктамі і апорай. Для яго зусім дастаткова, калі ён, давёўшы неабходнасьць сучаснага парадку, давёў і неабходнасьць іншага парадку, да якога абавязкова павінен быць зроблен пераход,—усё роўна, думаюць пра гэта ці ня думаюць, сузнаюць гэта ці не сузнаюць. Маркс разгледае грамадзкі рух як натуральна-гістарычны процэс, якім кіруюць законы, што ня толькі не знаходзяцца ў залежнасьці ад волі, сьвядомасьці і намераў чалавека, але і самі яшчэ вызначаюць яго волю, сьвядомасьць і намеры...

...Калі сьвядомы элемэнт у гісторыі культуры адыгрывае такую падпарадкаваную ролю, то вядома, што крытыка, якая мае сваім прадметам самую культуру, менш за ўсё можа мець сваёй асновай якую-небудзь форму ці які-небудзь рэзультат сьвядомасьці, г. зн. ня ідэя, а знадворная зьява адна толькі можа ёй служыць выходным пунктам. Крытыка будзе заключацца ў параўнаньні, супастаўленьні факта ня з ідэяй, а з іншым фактам. Для яе важна толькі, каб абодвы факты былі магчыма больш дакладна дасьледваны і сапраўды станавілі сабою розныя ступені разьвіцьця, ды звыш таго важна, каб ня менш дакладна былі дасьледваны парадак, пасьлядоўнасьць і сувязь, у якіх праяўляюцца гэтыя ступені разьвіцьця.

Іншаму чытачу можа пры гэтым прыйсьці на розум і такое пытаньне: агульныя-ж законы экономічнага жыцьця адны і тыя самыя,—усё роўна, ці дапасоўваюцца яны да сучаснага або мінулага

жыцьця? Але іменна гэтага Маркс і не прызнае. Такіх агульных законаў для яго не існуе. Паводле яго думкі, наадварот кожны гістарычны пэрыод мае свае законы..., але як толькі жыцьцё пражыло даны пэрыод разьвіцьця, выйшла з данай стадыі і ўступіла ў другую, яно пачынае кіравацца ўжо іншымі законамі. Словам, экономічнае жыцьцё становіць сабою ў даным выпадку зьяву, зусім аналёгічную таму, што мы наглядаем у іншых разрадах біолёгічных зьяў...

Уважлівы аналіз унутранага ладу і ўласьцівасьцяй дзейнасьці стану зьяў (экономічнага) жыцьця неаднокраць пераконваваў шмат якіх дасьледвальнікаў ужо з саракавых гадоў у немагчымасьці таго погляду старых экономістаў на прыроду экономічнага закону, паводле якога апошні аднастайны з законамі фізыкі і хэміі... Больш глыбокі аналіз зьяў паказаў, што соцыяльныя організмы адрозьніваюцца адзін ад аднаго ня менш глыбока, чымся організмы ботанічныя і зоолёгічныя... Адна і тая-ж зьява, з прычыны розьніцы ў ладзе гэтых організмаў разнастайнасьці іх органаў, розьніцы ўмоў, сярод якіх органам даводзіцца функцыянаваць і г. д., можа таму на розных ступенях разьвіцьця падпарадкавацца зусім розным законам. Маркс адмаўляецца, напрыклад, прызнаваць, што закон павялічэньня народанасельніцтва адзін і той самы заўсёды і ўсюды, для ўсіх часоў і для ўсіх месц. Ён сьцьвярджае наадварот, што кожная ступень разьвіцьця мае свой закон размнажэньня...

Тое, што ў экономічным жыцьці адбываецца, залежыць ад ступені вытворчасьці экономічных сіл... Пры розьніцы ў вытворчасьці і вынікі яе будуць розныя, а з імі і законы, што імі кіруюць.

Ставячы такім парадкам сабе мэтай дасьледаваць і растлумачыць капіталістычны парадак гаспадаркі, Маркс толькі строга навукова формуляваў мэту, якую можа мець дакладнае дасьледваньне экономічнага жыцьця. Яго навуковая мэта заключаецца ў высьвятленьні тых прыватных законаў, якім падпарадкуюцца ўзьнікненьне, існаваньне, разьвіцьцё, сьмерць і данага соцыяльнага організму і замена яго іншымі вышэйшым. І гэту каштоўнасьць сапраўды мае кніга Маркса.

### Заданьне для пісьмовай работы

Даць пісьмовыя адказы на наступныя пытаньні:

1. Якія асаблівасьці таварнае гаспадаркі?
2. У чым заключаецца асноўная супярэчнасьць тавару?
3. У чым заключаецца двайсты характар працы, зьмешчанай у тавары?
4. Што такое абстрактная праца і ў чым памылковасьць мэханістычнага і ідэалістычнага тлумачэньняў абстрактнае працы?
5. Якія фактары азначаюць грамадзка-неабходную працу?

6. Што такое форма вартасьці і якая характарыстыка розных формаў вартасьці?

7. Якая розьніца паміж менавой вартасьцю і вартасьцю?

8. У чым сутнасьць таварнага фэтышызму?

---

Ад завочніка патрабуецца даць кароткія адказы на пытаньні, на падставе чаго магчыма было-б судзіць аб ступені засваеньня тэмы. Работа павінна заняць ня звыш пяці старонак сшытка. Тым таварышом, якія *на першы раз ня* здолеюць справіцца з задачай даць пісьмовыя адказы на ўсе пытаньні, можна абмежавацца адказам на 3-5 пытаньняў.

## НАВУЧАЛЬНА-ДАПАМОЖНЫ МАТЭРЫЯЛ

### № 1. Грамадзкі падзел працы

Асновай таварнае гаспадаркі зьяўляецца грамадзкі падзел працы. Прамысловасьць апрацоўчая аддзяляецца ад здабываючай, і кожная з іх падзяляецца на дробныя віды і падвіды, якія вытвараюць у форме тавару асобныя продукты і абменьваюць іх з усімі іншымі вытворчасьцямі. Разьвіцьцё таварнае гаспадаркі вядзе такім чынам да павялічэньня ліку паасобных і самастойных галін прамысловасьці; тэндэнцыя гэтага разьвіцьця складаецца з таго, каб пэратварыць у асобную галіну прамысловасьці вытворчасьць ня толькі кожнага паасобнага продукту, але нават кожнай паасобнай часткі продукту;—і ня толькі вытворчасьць продукту, але нават паасобныя опэрацыі па падрыхтаваньню продукту да спажываньня. Пры натуральнай гаспадарцы грамадзтва складалася з масы аднастайных гаспадарчых адзінак (патрыярхальных сялянскіх сем'яў, прымітыўных сельскіх грамад, фэўдальных сядзіб), і кожная такая адзінка рабіла ўсе віды гаспадарчых работ, пачынаючы ад здабываньня розных відаў сыравіны і канчаючы канчатковай падрыхтоўкай іх да спажываньня. Пры таварнай гаспадарцы ствараюцца рознастайныя гаспадарчыя адзінкі, павялічваецца лік паасобных галін гаспадаркі, зьмяншаецца лік гаспадарак, вытвараючых адну і тую-ж гаспадарчую функцыю. Гэты прогрэсыўны рост грамадзкага падзяленьня працы і зьяўляецца асноўным момантам у процэсе стварэньня ўнутранага рынку для капіталізму, „...у таварнай вытворчасьці і яго абсолютнай форме—*капіталістычнай* вытворчасьці...—кажа Маркс,—продукты толькі пасколькі зьяўляюцца таварамі, г. зн. карыснасьцямі, якія маюць менавую вартасьць, падлягаючую рэалізацыі,—пэратварэньню ў грошы,—пакольні іншыя тавары зьяўляюцца эквівалентам для іх, паколькі іншыя продукты процістаўляюцца ім, як тавары і як вартасьці; іншымі словамі, пастолькі, паколькі гэтыя продукты вытвараюцца не як непасрэдныя сродкі існаваньня для тых, хто вытварыў іх, а як тавары, як продукты, што пэратвараюцца ў спажывецкія вартасьці толькі пры дапамозе пэратварэньня ў менавую вартасьць (грошы), пры дапамозе адчужэньня. Рынак для гэтых тавараў разьвіваецца ў выніку грамадзкага падзелу працы; падзел вытворчых работ пэратварае іх продукты ўзаемна ў тавары, у эквіваленты адзін для аднаго, прымушаючы іх служыць адзін для аднаго рынкам („Das Kapital“. III, 2, 177-8. Рас. пер. 526. Курсыў наш, як і ўсюды ў вынятках, дзе не агаворана адваротнае).

*Само сабою разумецца, што паказанае аддзяленьне прамысловасьці* апрацоўчай ад здабываючай, мануфактуры ад земляробства, ператварае і само земляробства ў прамысловасьць, г. зн. у галіну гаспадаркі, якая вытварае тавары. Той процэс спэцыялізацыі, які аддзяляе адзін ад аднаго розныя віды апрацоўкі продуктаў, ствараючы ўсё большы і большы лік галін прамысловасьці,—праяўляецца і ў земляробстве, ствараючы раёны земляробства (і сыстэмы земляробчае гаспадаркі), якія спэцыялізуюцца, выклікаючы абмен ня толькі паміж продуктамі земляробства і прамысловасьці, але і паміж рознымі продуктамі сельскае гаспадаркі. Гэта спэцыялізацыя гандлёвага (і капіталістычнага) земляробства праўляецца ва ўсіх капіталістычных краінах, праўляецца ў міжнародным падзеле працы, праяўляецца і ў параформенай Расіі, як мы пакажам падрабязна ніжэй.

Такім парадкам, грамадзкі падзел працы ёсьць аснова ўсяго процэсу разьвіцьця таварнае гаспадаркі і капіталізму. Зусім натуральна таму, што нашы тэорэтыкі народніцтва, абвяшчаючы гэты апошні процэс вынікам штучных мер, вынікам „адхіленьня з шляху“ і г. д. і г. д., імкнуліся затушаваць факт грамадзкага падзелу працы ў Расіі ці паслабіць значэньне гэтага факту. Пан В. Б. у сваім артыкуле „Падзел працы земляробчай і прамысловай у Расіі“ („Вестн. Евр.“, 1884, № 7) „адмаўляў“ „панаваньне ў Расіі прынцыпу грамадзкага падзелу працы“ (ст. 347), абвяшчаў, што ў нас грамадзкі падзел працы „ня вырас з глыбіні народнага жыцьця, а імкнуўся ўціснуцца ў яго з боку“ (ст. 338), г. зн.—ён у сваіх „нарысах“ разважаў наступным чынам аб павялічэньні колькасьці хлеба, паступаючага ў продаж: „Гэта зьява магла-б азначаць, што выпрацаваны хлеб разьмяркоўваецца больш роўнамерна па дзяржаве, што архангельскі рыбалоў есьць цяпер самарскі хлеб, а самарскі земляроб прыпраўляе свой абед архангельскай рыбай. У с а п р а ў д н а с ь ц і - ж н і ч о г а п а д о б н а г а н е а д б ы в а е ц ц а („Очерки нашего пореформенного общественного хозяйства“, Спб. 1893, ст. 37). Без якіх-бы там ні было даных, насупярэкі грамадзкім фактам, тут проста дэкрэтуецца адсутнасьць грамадзкага падзелу працы ў Расіі! Народніцкую тэорыю аб „штучнасьці капіталізму ў Расіі і нельга было пабудаваць інакш, як адмаўляючы, ці абвяшчаючы „штучнай“ самую аснову ўсялякае таварнае гаспадаркі—грамадзкі падзел працы.

(Ленін, збор твораў т. III, разьдз. 1, п. 1).

---

## НАВУЧАЛЬНА-ДАПАМОЖНЫ МАТЭРЫЯЛ.

### № 2.

Пачнем з *прапановы*. Што я прапаную, гэта тавар, адзінства спажывецкай і менавой ценнасьці; напрыклад, пэўную колькасьць жалеза, роўную 3 ф. ст. (што раўняецца пэўнай колькасьці рабочага часу). Я зьяўляюся, напрыклад, фабрыкантам жалеза. Я прапаную

спажывецкую цэннасьць, жалеза, і прапаную цэннасьць, іменна выражаную ў цане жалеза, у 3 ф. ст. Але тут маецца наступная маленькая розьніца. Пэўная колькасьць жалеза сапраўды выкінута мною на рынак. Цэннасьць тавару, наадварот, існуе толькі як яго цана, якая павінна быць толькі рэалізавана пакупнікам жалеза, які для мяне прадстаўляе попыт на жалеза. Попыт прадаўца жалеза заключаецца ў попыце на менавую цэннасьць жалеза, якая хоць і зьмяшчаецца ў жалезе, але не рэалізавана. Магчыма, што тая самая менавая цэннасьць прадстаўлена ў вельмі розных колькасьцях жалеза. Прапанова спажывецкай цэннасьці і прапанова цэннасьці, якая павінна быць рэалізавана, значыцца, зусім не аднолькавы, бо зусім розныя колькасьці спажывецкай цэннасьці могуць прадстаўляць адну і тую-ж вялічыню менавой цэннасьці.

Адна і тая самая цэннасьць у 3 ф. ст. *можа быць прадстаўлена* ў 1,3 ці 10 тонах. Паміж колькасьцю жалеза (спажывецкай цэннасьці), якую я прапаную, і вялічынёй цэннасьці, якую я прапаную, ня існуе, значыцца, зусім ніякіх адносін, бо апошняя можа застацца нязьменнай, як-бы ні зьмяняліся першыя. Якая-б вялікая ці малая ні была колькасьць прапанованага мною жалеза, я хачу, у нашым прыкладзе, заўсёды рэалізаваць цэннасьць жалеза, незалежную ад гэтае яго ўласнай колькасьці—яго існаваньня, як спажывецкай цэннасьці наогул. Паміж прапанаванай (але яшчэ не рэалізаванай) цэннасьцю і прапанаванай колькасьцю жалеза, якая рэалізавана, значыцца, ня існуе ніякіх адносін. Таму няма ніякай падставы думаць, што здольнасьць тавару быць праданым паводле сваёй цэннасьці, знаходзіцца ў якіх-небудзь адносінах да прапанаванай мною масы тавару. Для пакупніка мой тавар існуе перш за ўсё, як спажывецкая цэннасьць. Ён купляе яе як гэтакую. Але што яму патрэбна, гэта пэўная колькасьць жалеза. Яго патрэба ў жалезе таксама не вызначаецца вытваранай мною колькасьцю як і цэннасьць майго жалеза сама па сабе ня мае адносін да гэтае колькасьці.

Ва ўсякім выпадку, той, хто купляе, мае толькіператвораную форму тавару, грошы—тавар у форме менавой цэннасьці,—і ён можа выступіць толькі як пакупнік, бо ён ці іншыя выступалі раней, як прадаўцы тавару, які цяпер існуе ў форме грошай. Але гэта зусім ня служыць падставай для таго, каб ён зноў абменьваў свае грошы на тавар, ці каб яго патрэба ў маім тавары вызначалася колькасьцю, у якой я яго вытварыў. Паколькі ён выступае з попытам на мой тавар, ён можа жадаць ці меншае колькасьці, чым я прапаную, ці ўсёй колькасьці, але ніжэй яго цэннасьці. Яго попыт таксама не павінен адпавядаць маёй прапанове, як колькасьць, якую я прапаную, і цэннасьць па якой я яго дастаўляю, не аднолькавыя.

Паколькі я прапаную *жалеза*, я *шукаю* не жалеза, а *грошай*. Я прапаную асобную спажывецкую цэннасьць і прашу яе цэннасьць. Мая прапанова і попыт, значыцца, таксама розныя, як спажывецкая цэннасьць і менавая цэннасьць. Паколькі я ў жалезе сам прапаную

*цэннасьць*, я пытаюся *рэалізацыі гэтай цэннасьці*. Мая прапанова і попыт, значыцца, таксама розныя, як рэальнае і ідэальнае. Далей паміж колькасьцю, якую я прапаную, і яе цэннасьцю няма ніякіх адносін. Але попыт на прапануемую мною колькасьць спажывецкай цэннасьці вызначаецца ня цэннасьцю, якую я хачу рэалізаваць, а колькасьцю, якая патрабуецца пакупніку за пэўную цану.

(Маркс, „Теории прибавочной стоимости“, ст. 86).

### № 3. Абмен, як асноўная сувязь таварнага грамадзтва.

*Умовы таварнага абмену.*

Каб вывучыць структуру капіталістычнай бабілёнскай вежы, уявім сабе зноў на момант грамадзтва з плянамернай арганізацыяй працы. Мы пасьля праверым, ці дапушчальна і ў якой ступені дапушчальна падобная гіпотэза. Няхай гэта будзе грамадзтва з разьвітым падзелам працы, дзе ня толькі сельская гаспадарка аддзелена ад прамысловасьці, але дзе ўнутры і тэй і іншай кожная галіна зрабілася спэцыяльнасьцю асобных груп працоўных. У гэтым грамадзтве маюцца значыцца, сельскія гаспадары і лясьнікі, рыбакі і садоўнікі, шаўцы і краўцы, сьлесары і кавалі, прадзільшчыкі, ткачы і г. д. Грамадзтва цалкам забясьпечана ўсімі відамі працы і ўсімі відамі продуктаў. Гэтыя продукты ў большай ці меншай колькасьці дастаюцца ўсім членам грамадзтва, бо праца зьяўляецца агульнай, загадзя разьмеркаванай і плянамерна арганізаванай якім-небудзь аўторытэтам, будзь гэта дэспотычны закон ураду, прыгоньніцтва ці якая-небудзь іншая форма організацыі. Для прастаты ўявім сабе, што гэта камуністычная грамада з грамадзкай уласнасьцю, якую мы бачылі ўжо на прыкладзе Індыі. Уявім сабе яшчэ на адзін момант, што падзел працы ў гэтай грамадзе пайшоў значна далей уперад, чым гэта гістарычна адпавядае сапраўднаму становішчу, і што частка грамадаўцаў займаюцца выключна сельскай гаспадаркай, між тым як усе іншыя работы выконваюцца спэцыялістамі-рамесьнікамі. Малюнак гаспадаркі гэтай грамады нам зусім ясны: усе члены грамады супольна ўладаюць зямлёй і ўсімі сродкамі вытворчасьці. Іх агульная воля вызначае, што, калі, і колькі павінна вытварацца кожнага продукту. Уся маса вытвараных продуктаў, належачы ў аднолькавай ступені ўсім, разьмяркоўваецца паміж усімі адпаведна патрэбам. Цяпер уявім сабе, што ў адзін добры дзень у пабудаванай такім парадкам комуністычнай грамадзе зьнішчаецца грамадзкая ўласнасьць, а разам з тым зьнішчаецца і грамадзкая праца і агульная воля, якія рэгулявалі вытворчасьць. Дасягнутае да гэтага моманту высокае падзяленьне працы, само сабой зразумела, застаецца. Шавец застаецца пры сваіх калодках, пекар ведае толькі сваю печку, каваль мае толькі кузьню і ведае як абыходзіцца толькі з молатамі г. д., але ланцуг, які зьвязваў раней усе гэтыя работы ў грамадзкую гаспадарку, абарваўся. Кожны адданы цяпер самому сабе: сельскі

гаспадар, шавец, сьлесар, пекар, ткач і г. д. Кожны цяпер зусім вольны і незалежны чалавек. Грамада ня можа цяпер умешвацца ў яго справы, ніхто ня можа яму загадваць працаваць для ўсіх, але ніхто не клапаціцца і пра яго патрэбы. Грамада, якая станавіла сабою нешта цэлае, распалася на паасобныя атомы, на паасобныя частачкі, як люстэрка, якое распалася на тысячу асколкаў. Кожны чалавек нібы ператвараецца ў адасобленую пылінку, якая носіцца ў паветры, і павінен сам прабівацца. Што зробіцца з гэтай грамадой, на якую раптоўна абвалілася такая катастрофа? Што будуць рабіць на наступны дзень усе гэтыя самі сабе адданыя людзі? З упэўненасьцю можна сказаць толькі адно, што яны на наступны дзень перш за ўсё будуць працаваць таксама, як яны гэта рабілі раней, бо паколькі чалавечыя патрэбы ня могуць задавальняцца бяз працы, кожнае чалавечае грамадзтва павінна працаваць. Якія-б пераварoты і зьмены ні адбыліся ў грамадзтве, праца ня можа спыніцца ні на адну мінуту. Ранейшыя члены комуністычнага грамадзтва будуць таму— і пасьля таго як парвалася сувязь паміж імі і кожны апыніўся адданым самому сабе— перш за ўсё працягваць сваю работу. І таму што мы меркавалі, што праца ўжо дасягнула спэцыялізацыі, кожны здолее працаваць толькі ў аднэй галіне, якая зрабілася яго профэсыяй, і пры дапамозе тых сродкаў вытворчасьці, якімі ён уладае; шавец будзе рабіць боты, пекар пячы хлеб, ткач вырабляць тканіны, селянін сеяць жыта і г. д. Але тут-жа адразу ўзьнікаюць цяжкасьці: кожны з гэтых вытворцаў вырабляе, праўда, надзвычайна важныя і вельмі неабходныя рэчы ўжытку, кожны з гэтых спэцыялістых—шавец, пекар, каваль, ткач— учора яшчэ лічыўся карысным членам грамадзтва, без якога апошняе ня можа існаваць. Кожны з іх займаў важнае месца ў гэтым грамадзкім цэлым. Цяпер-жа само цэлае перастало існаваць, і кожны як быццам існуе сам для сябе. Але ніхто ня можа існаваць продуктам сваёй працы. Шавец ня можа спажыць усіх сваіх ботаў, пекар ня можа задаволіць хлебам усе свае патрэбы, селянін мог-бы пры напоўненых жытам сьвірнах загінуць з голаду і холаду, калі-б ён меў адно толькі зерне. Кожны мае рознастайныя патрэбы, але сваёй уласнай працай можа задаволіць толькі адну адзіную з іх. Кожны таму, бязумоўна, адчувае патрэбу ў пэўнай меры ў продуктах усіх астатніх. Яны ўсё залежаць адзін ад аднаго. Але як ажыцьцявіць гэтую залежнасьць, калі мы ведаем, што паміж паасобнымі вытворчасьцямі ня існуе больш ніякіх адносін і ніякай сувязі. Шавец мае вялікую патрэбу ў хлебе пекара, але ён ня мае ніякіх сродкаў набыць гэты хлеб, ён ня можа прымусіць пекара дастаўляць яму хлеб, бо абодва яны— вольныя, роўныя, незалежныя людзі. Калі ён хоча выкарыстаць продукт працы пекара, то гэта, відавочна, магчыма толькі на пачатках узаемнасьці, г. зн. калі ён з свайго боку даставіць пекару патрэбны яму продукт. Але пекар з свайго боку, мае патрэбу ў продуктах шаўца і знаходзіцца у такім самым становішчы, як апошні. Глеба для ўзаемнасьці гэтым самым дадзена. Шавец дае пекару боты, каб

атрымаць ад яго хлеб. Шавец і пекар узаемна выменьваюць свае продукты і могуць цяпер абодва задавальняць свае патрэбы. Такім парадкам выходзіць, што пры высока разьвітым падзеле працы, пры поўнай незалежнасьці вытворцаў адзін ад аднаго і пры адсутнасьці якой-бы там ні было організацыі ў іх—адзіным шляхам разьмеркаваньня продуктаў рознага роду працы паміж усімі зьяўляецца абмен. Шавец, пекар, сельскі гаспадар, прадзільнік, ткач, сьлесар,—усе яны ўзаемна выменьваюць свае продукты і такім парадкам задавальняюць свае розныя патрэбы. Такім парадкам абмен стварыў новую сувязь паміж раскіданымі, адарванымі адзін ад аднаго прыватнымі вытворцамі. Вытворчасьць і спажываньне,—усё жыцьцё разбуранай грамады можа распачацца зноў, бо абмен даў ім магчымасьць зноў працаваць адзін на аднаго, г. зн. ён зрабіў зноў магчымым грамадзкае супрацоўніцтва, грамадзкую вытворчасьць, хоць і пад абалонкай раздробленай прыватнай вытворчасьці.

*Аматэрыялізаваньне грамадзкіх адносін людзей.*

Але гэта—зусім новая, своеасаблівая форма грамадзкага супрацоўніцтва, з якой мы павінны пазнаёміцца бліжэй. Кожны працуе на сваю рызыку і страх, кожны вытварае за свой кошт па ўласнаму погляду. Ён павінен цяпер, каб існаваць, вытвараць продукты, у якіх ён сам ня мае патрэбы, але якія патрэбны іншым. Кожны работае такім чынам для іншых. Гэта само па сабе не зьяўляецца чымсьці асаблівым і новым. І ў комуністычнай грамадзе ўсе працавалі адзін на аднаго. Асаблівасьцю зьяўляецца толькі тое, што цяпер кожны аддае свой продукт толькі шляхам абмену і толькі ў такім самым парадку можа атрымаць продукты іншых. Кожны павінен такім парадкам цяпер, каб атрымаць патрэбныя яму продукты, вытвараць сваёй працай продукты, прызначаныя дзеля абмену. Шавец павінен нясупынна шыць боты, якія яму самому не патрэбны, бескарысны, зьяўляючыся для яго дарэмнай працай. Іх карысьць заключаецца для яго толькі ў тым, што ён можа памяняць іх на іншыя продукты, у якіх ён адчувае патрэбу. Ён такім парадкам загадзя шые свае боты для абмену, г. зн. вытварае іх як тавар. Кожны можа цяпер задаволіць свае патрэбы, г. зн. атрымаць продукты, вытвараныя іншымі, толькі ў тым выпадку, калі ён мае продукты, у якіх адчуваюць патрэбу іншыя, і якія ён стварыў сваёй працай. Іншымі словамі, кожны атрымлівае частку продуктаў іншых, г. зн. долю грамадзкага продукту, толькі ў тым выпадку, калі ён сам зьяўляецца на рынак з таварам. Продукт, выраблены чалавекам для абмену дае яму права патрабаваць пэўнай долі агульнага грамадзкага продукту. Супольны грамадзкі продукт ня існуе цяпер, праўда, у тэй форме, якой ён уладаў у комуністычнай грамадзе, дзе ён непасрэдна ўсёй сваёй масай прадстаўляў усё багацьце грамады і потым толькі разьмяркоўваўся, дзе ўсе працавалі супольна за кошт грамады і пад яе кіраваньнем, і продукт вытворчасьці зьяўляўся на сьвет ужо як

грамадзкі продукт і потым толькі паступаў у прыватнае спажываньне паасобных членаў грамады. Цяпер справа адбываецца як раз наадварот. Кожны вытварае як прыватная асоба за свой страх і рызыку, і гатовыя продукты толькі ў процэсе абмену ствараюць пэўную суму, якую магчыма разглядаць, як грамадзкае багацьцё. Доля кожнага як у грамадзкай працы, так і грамадзкім багацьці прадстаўлена тым спэцыяльным таварам, які ён вырабіў уласнай працай і прынёс для абмену з іншымі. Удзел кожнага ў супольнай грамадзкай працы не прадстаўлен цяпер пэўнай колькасьцю загадзя паказанай яму працы, а гатовым продуктам, таварам, які ён дастаўляе паводле ўласнага вольнага погляду. Цяпер кожны чалавек—свой уласны, нічым не абмежаваны пан. Аўторытэт грамады ня існуе больш. Але калі ён не працуе, ён і не атрымае нічога ў абмен з продуктаў працы іншых. З другога боку, кожны паасобку цяпер, як-бы старанна ён ні працаваў, зусім ня можа быць упэўненым у тым, што ён атрымае неабходныя яму жыцьцёвыя прыпасы, бо ніхто-ж не абавязан даваць яму іх, хоць-бы ў абмен. Абмен адбываецца толькі тады, калі маецца ў наяўнасьці ўзаемная патрэба. Цяпер гутарка ідзе не аб грамадзе, як аб цэлым, з якім даводзіцца мець справу і якое заўсёды адчувае патрэбу продукту, але аб паасобных членах грамады. Калі ў даны момант у грамадзе няма попыту на боты, то як-бы старанна шавец ні працаваў, і які-б добры тавар ён ні вырабляў, ніхто ў яго ня возьме яго і ня дасьць яму ў абмен хлеба, мяса і г. д., і ён такім парадкам застанецца бяз самага неабходнага для жыцьця. Цяпер ён атрымлівае толькі ў тэй меры, у якой патрэбна яго праца, г. зн. якраз у той самай, у якой яго продукт прымаецца ў абмен іншымі. Кожны, значыцца, працуе, колькі ён хоча і над чым ён хоча. Адзіным пацьверджаньнем таго, што ён вытвараў тое, што грамадзтву патрэбна, што ён фактычна выканаў грамадзка-неабходную работу, зьяўляецца той факт, што яго продукт бярэцца ў абмен іншымі. Значыцца, ня ўсякая праца, якая-б старанная і пасьпяховая яна ні была, загадзя ўладае цэннасьцю і мэтазгоднасьцю з грамадзкага пункту гледжаньня: цэннасьць мае толькі той продукт, які ідзе ў абмен, продукт-жа, які нікім ня прымаецца ў абмен, які-б добры ён ні быў, не прадстаўляе цэннасьці і зьяўляецца дарэмнай працай.

Цяпер кожны павінен для таго, каб карыстацца продуктамі грамадзкае вытворчасьці і, значыцца, удзельнічаць у грамадзкай працы, вытвараць тавары. Але ніхто яму ня кажа загадзя, ці прызнаецца яго праца сапраўды грамадзка-неабходнай працай і ён даведваецца аб гэтым толькі па тым, ці бярэцца яго тавар у абмен. Яго ўдзел у грамадзкай працы і продукце забясьпечаны толькі ў тым выпадку, калі яго продукт атрымае пячатку грамадзка-неабходнае працы, г. зн. пячатку менавой цэннасьці. Калі яго продукт не бярэцца ў абмен, гэта значыць, што ён вытварыў продукт, які ня мае ніякай цэннасьці і значыцца, яго праца была з грамадзкага пункту гледжаньня лішкавай. Нашага шаўца зьвязваюць такім парадкам з грамадзтвам у кожным паасобным

выпадку абмененыя ім боты, наогул кажучы, тавар, які ўладае менавой цэннасьцю. Але ў такім самым становішчы, як наш шавец, знаходзіцца і пекар, і ткач, і сельскі гаспадар. Грамадзтва, якое то прызнае шаўца, то сурова адштурхоўвае, зьяўляецца толькі сумай усіх гэтых паасобных тавараватворцаў, якія ўзаемна працуюць для абмену. Сума грамадзкае працы і грамадзкіх продуктаў, што атрымліваюцца пры гэтым зусім не адпавядае таму суме ўсіх работ і продуктаў паасобных членаў, як гэта раней мела месца ў грамадзкай комуністычнай гаспадарцы. Цяпер той ці іншы можа старанна працаваць, а яго продукт, калі ніхто не бярэ яго ў абмен, зьяўляецца лішкавым і ня ідзе ў лік. Толькі абмен вырашае пытаньне аб тым, якая праца і якія продукты былі неабходны і прадстаўляюць значэньне для грамадзтва.

*Роля абмену ў таварнай гаспадарцы.*

Калі мы аб'яднаем усе гэтыя паасобныя моманты, дык выявіцца, што ўжо адзін факт таварнага абмену без якога-б там ні было *ўмешваньня і рэгуляваньня азначае траякага роду важныя адносіны:*

1. Удзел кожнага члена грамадзтва ў грамадзкай працы. Гэты ўдзел колькасна і якасна не вызначаўся для яго загадзя грамадой, а пацьвярджаецца ці абвяргаецца задні́м лікам пры прадстаўленьні ім гатовага продукту. Раней кожная пара ботаў, якую вырабляў наш шавец, ужо загадзя на калодцы станавіла сабою непасрэдна грамадзкую працу. Цяпер яго боты зьяўляюцца ў першую чаргу прыватнай працай, якой ніхто не датычыцца. Потым толькі на таварным рынку боты гэтыя прасейваюцца, і, толькі паколькі іх бяруць у абмен, затрачаная на іх праца шаўца прызнаецца грамадзкай працай, у адваротным выпадку яны застаюцца продуктам яго прыватнай працы і ня маюць цэннасьці.

2. Доля кожнага члена грамадзтва ў грамадзкім багацьці. Раней шавец атрымліваў сваю долю з вытвараных грамадой продуктаў шляхам разьмеркаваньня. Яна вызначалася, па-першае, ступеньню грамадзкага дабрабыту, даным станам маемасьці грамады, а, па-другое, патрэбаю членаў. Больш шматлікая сям'я павінна была атрымаць болей, чымся менш шматлікая. Пры разьмеркаваньні заваёваных германскімі плямёнамі земляў у часе іх перасяленьня ў Эўропу і іх засяленьня развалін Рымскае імпэрыі адыгрывала таксама ролю вялічыня сям'і. Расійская грамада яшчэ ў 80-х г.г. прадпрыймала пэрыодычныя перадзелы, прыймала пры гэтым пад увагу колькасьць „едакоў" у кожнай сям'і. Пры ўсеагульным панаваньні абмену адпадаюць усялякія суадносіны паміж патрэбнасьцю данага члена грамадзтва і яго доляй багацьця, роўна як і паміж гэтай апошняй і разьмерам грамадзкага багацьця. Цяпер пытаньне аб удзеле кожнага ў грамадзкім багацьці вырашаецца толькі на аснове тых продуктаў, якія ён выносіць на таварны рынак, і толькі пастолькі, паколькі яны бяруцца ў абмен і прызнаюцца грамадзка-неабходнымі.

3. І ўрэшце, мэханізмам абмену рэгулюецца і самы грамадзкі падзел працы. Раней грамада пастанаўляла, што ёй патрэбна столькі-та сельскагаспадарчых батракоў, столькі-та шаўцоў, пекараў, сьлёсараў, кавалёў і г. д. клопаты аб правільных суадносінах паміж паасобнымі промысламі, роўна як і аб тым, каб усе гэтыя патрэбныя галіны працы функцыянавалі, ляжалі на абавязку грамады і абраных ёю пасадавых асоб. Пры вольным і неабмежаваным абмене гэтыя суадносіны рэгулююцца самім абменам. Цяпер ніхто не прымушае шаўца рабіць боты. Калі ён хоча, ён можа рабіць мыльныя пузыры ці папяровыя зьмеі. Але ён можа таксама, калі яму прыдзе ў галаву, замест шавецкага рамяства заняцца ткацтвам, прадзеньнем ці залатых спраў майстрам. Ніхто яму не гаворыць, ці мае патрэбу ў ім грамадзтва наогул і ў прыватнасьці ці мае патрэбу ў ім як у шаўцы. Праўда, наогул кажучы, грамадзтва мае патрэбу ў абутку, але ніхто цяпер не вызначае, колькі шаўцоў трэба для таго, каб задаволіць гэтую патрэбу. Ці патрэбен даны шавец, ці ня будзе больш патрэбным ткач або каваль,— гэтага ніхто нашаму шаўцу ня скажа. Але чаго яму ніхто не гаворыць, пра тое ён даведваецца выключна на таварным рынку. Калі яго боты бяруцца ў абмен, ён ведае, што грамадзтва адчувае патрэбу ў ім, як у шаўцы, і наадварот—ён можа вырабіць найлепшы тавар, але калі іншыя шаўцы дастаткова задаволілі попыт, дык яго тавар лішкавы. Калі гэта паўтараецца, ён павінен пакінуць сваё рамяство. Лішкавы шавец таксама мэханічна выкідваецца грамадзтвам, як, напрыклад, лішкавыя матэрыі выкідаюцца жывёлінным організмам: у той момант, калі яго праца не прызнаецца грамадзкай працай, ён робіцца асуджаным на галодную сьмерць. Тая самая неабходнасьць вырабляць продукты для іншых як прадпасылку свайго ўласнага існаваньня нарэшце штурхае нашага выйшаўшага ў тыраж шаўца да іншага рамяства, дзе маецца моцны, недастаткова задаволены попыт, скажам, да ткацтва ці ізвознага рамяства, і такім чынам тут будзе пакрыт недахоп у рабочай сіле. Такім парадкам, ня толькі захоўваецца правільная пропорцыя паміж промысламі, але і самыя промыслы то зьнікаюць, то зноў узьнікаюць. Калі якая-небудзь патрэба ў грамадзтве зьнікае ці задавальняецца іншымі продуктамі, чым дагэтуль, дык гэта не ўстанаўляецца, як у ранейшай комуністычнай грамадзе, самімі членамі, і працоўныя не пераводзяцца з аднаго промысла ў другі. Гэта праяўляецца проста ў тым, што застарэлыя продукты не знаходзяць збыту.

Бяз умешваньня якой-небудзь вышэйшай сілы, без папярэдняга зговару між паасобнымі членамі паасобныя асколкі—ці дрэнна ці добра—зноў зьвязаліся ў адно цэлае. Сам абмен рэгулюе цяпер мэханічна, накшталт вадзяное помпы, усю гаспадарку. Ён стварае сувязь паміж паасобнымі вытворцамі, прымушае іх працаваць, рэгулюе іх падзел працы, вызначае іх багацьце і яго разьмеркаваньне. Абмен кіруе грамадзтвам. Праўда, парадак, узьнікшы на нашых вачох, некалькі своеасаблівы. Грамадзтва выглядае зараз зусім іначай, чымся раней пры комуністычным ладзе грамады. Раней яна была кампакт-

ным цэлым, свайго роду вялікай сям'ёй, члены якой зрасьліся між сабой і былі моцна спаяны. Гэта быў трывалы і нават, калі хочаце, акасьцянелы, нярухомы організм. Цяпер-жа грамадзтва становіць сабою толькі слаба зьвязанае ўтварэньне, паасобныя часткі якога штомінутна распадаюцца і зноў злучаюцца. Сапраўды, мы бачылі, што ніхто ня кажа нашаму шаўцу, што ён павінен працаваць, што іменна і колькі ён павінен вытвараць. Ніхто яго ня пытаецца, з другога боку, ці мае патрэбу ён у жыцьцёвых прыпасах, у якіх іменна і ў якой колькасьці. Нікому няма справы да яго, ён ня існуе для грамадзтва. Ён заяўляе грамадзтву пра сваё існаваньне толькі ў той момант, калі ён зьяўляецца на таварным рынку з продуктамі сваёй працы. Яго існаваньне прымаецца, калі прымаецца яго тавар. Яго праца прызнаецца грамадзка-неабходнай, і ён сам—неабходным членам грамадзтва толькі паколькі яго боты прыймаюцца ў абмен. Ён атрымлівае жыцьцёвыя прыпасы з грамадзкага багацьця зноў-жа толькі пастолькі, паколькі яго боты прыймаюцца ў якасьці тавару. У якасьці прыватнае асобы, ён, значыцца, не зьяўляецца членам грамадзтва, і яго праца, як прыватная праца, яшчэ не зьяўляецца грамадзкай. Ён зьяўляецца членам грамадзтва толькі тады, калі ён вытварае продукты, годныя для абмену, тавары, і толькі да тэй пары, пакуль ён можа іх збыць. Кожная вымененая пара ботаў робіць яго членам грамадзтва і кожная непрададзеная пара ботаў зноў выключае яго з радоў грамадзтва. Шавец, як такі, як чалавек не стаіць у сувязі з грамадзтвам: толькі яго боты даюць яму сувязь з грамадзтвам і толькі ў тых выпадках, калі яны маюць менавую цэннасьць і могуць быць прадалы як тавар. Гэта, значыцца, ня сталая сувязь, а бесьперапынна аднаўляемая, якая зноў распадаецца. У такім самым становішчы знаходзяцца акрамя нашага шаўца і ўсе іншыя таваравытворцы. Усе ў гэтым грамадзтве зьяўляюцца таваравытворцамі, бо толькі шляхам абмену можна атрымаць жыцьцёвыя прыпасы, і кожны, значыцца, павінен выступаць з сваім таварам. Вытворчасьць тавараў стала ўмовай існаваньня людзей; перад намі такі грамадзкі парадак, пры якім усе людзі жывуць адасоблена як ізоляваныя індывідуумы, якія ня існуюць адзін для аднаго, якія толькі праз свае тавары паперамення зьвязваюцца з грамадзкім цэлым ці выцясьняюцца з яго. Перад намі ў вышэйшай ступені рухомае і нятрывалае грамадзтва, члены якога знаходзяцца ў якімсьці бесьперапынным віры.

Мы бачым, што зьнішчэньне плянамернае гаспадаркі і ўвядзеньне абмену выклікала цэлы пераварот у грамадзкім жыцьці людзей, зьмяніўшы самае грамадзтва з ног да галавы.

(Роза Люксембург „Введение в политическую экономию).

### 4. Абстрактная і конкрэтная праца.

Як вартасьці сурдут і палатно ёсьць рэчы, якія маюць адну і тую-ж субстанцыю, адну і тую істоту, ёсьць об'ектыўныя выражэньні аднастайнае працы. Але кравецтва і ткацтва—якасна featуstyle

віды працы. Існуюць аднак такія станы грамадзтва, пры якіх адзін і той-жа чалавек шые і тчэ, а значыцца, абодвы гэтыя віды працы зьяўляюцца толькі відазьменамі працы аднаго і таго-ж самага індывідума, а ня функцыямі, якія цьвёрда адасобіліся, розных індывідуумаў— зусім таксама як сурдут, які кравец шые сёньня, і штаны, якія ён робіць заўтра, прадстаўляюць толькі варыяцыі аднэй і тэй самай індывідуальнай працы. Далей штодзенная практыка паказвае, што ў нашым капіталістычным грамадзтве, у залежнасьці ад напрамку попыту на працу, які зьмяняецца, даная колькасьць чалавечае працы прапануецца пераменна то ў форме кравецтва, то ў форме ткацтва. Гэта зьмена працы не адбываецца, вядома, бяз пэўнага церця, але яна павінна адбывацца. Калі адхіліцца ад пэўнага характару вытворчай дзейнасьці і, значыцца, ад карыснага характару працы, то ў ёй застаецца толькі адно,—што яна зьяўляецца затратай чалавечай рабочай сілы. Як кравецтва, так і ткацтва, ня гледзячы на якасную розьніцу гэтых відаў вытворчай дзейнасьці, прадстаўляюць вытворчую затрату чалавечага мозга, мускулаў, нэрваў, рук і г. д. і ў гэтым сэнсе зьяўляюцца аднэй і тэй-жа чалавечай працай. Гэта толькі дзьве розныя формы затрат чалавечай рабочай сілы. Вядома, сама чалавечая рабочая сіла павінна быць больш ці менш разьвіта, каб затрачвацца ў тэй і іншай форме...

... Такім парадкам, разглядаючы сурдут і палатно як вартасьці, мы тым самым адхіляемся ад рознасьці іх спажывецкіх вартасьцяй; таксама разглядаючы затраты працы, якія выражаюцца ў гэтых вартасьцях, мы павінны адхіліцца ад розьніцы іх карысных формаў, як кравецтва і ткацтва. Спажывецкія вартасьці—сурдут і палатно—зьяўляюцца толькі злучэньнем мэтазгоднай продукцыйнай дзейнасьці з сукном і прадзівам, у той час як вартасьці—сурдут і палатно—проста аднастайныя згусткі працы; таксама і ў затратах працы, што заключаецца ў гэтых вартасьцях, маюць значэньне не продукцыйныя іх адносіны да сукна і прадзіва, а толькі расходваньне чалавечай рабочай сілы. Элемэнтамі, якія ствараюць спажывецкія вартасьці, сурдут і палатно, кравецтва і ткацтва, зьяўляюцца іменна ў сілу сваіх якасна розных асаблівасьцяй, субстанцыяй, асноваю вартасьці сурдута і палатна яны зьяўляюцца толькі пастолькі, паколькі мы адхіляемся ад іх якасна розных асаблівасьцяй, паколькі яны ўладаюць тэй самай якасьцю—якасьцю чалавечае працы.

Але сурдут і палатно ня толькі вартасьці наогул, але і вартасьці пэўнай велічыні: паводле нашых меркаваньняў сурдут мае ў два разы большую вартасьць, чымся 10 аршын палатна. Адкуль гэта розьніца ў вялічыні іх вартасьці? Прычына ў тым, што 10 аршын палатна заключаюць у сабе толькі палову тэй працы, якая заключаецца ў сурдуце, так што для вытворчасьці апошняга трэба затрачваць рабочую сілу на працягу ўдвойчы большага пэрыоду часу, чымся для вытворчасьці першага.

Таму, калі ў адносінах да спажывецкай вартасьці тавару мае

значэньне толькі якасьць працы, што зьмяншчаецца ў ім, то ў адносінах да велічыні вартасьці мае значэньне толькі колькасьць працы, прычым апошняя павінна быць ужо прыведзена да чалавечай працы без якой-бы там ні было далейшае якасьці. У першым выпадку справа ідзе аб тым, як і якая іменна праца затрачваецца, у другім выпадку аб тым, колькі работы затрачваецца, аб яе працягласьці. Таму што велічыня вартасьці тавару выражае толькі колькасьць працы, якая заключаецца ў ім, то ўзятыя ў пэўнай пропорцыі тавары заўсёды павінны прадстаўляць роўнавялікія вартасьці.

Усякая праца ёсьць, з аднаго боку, затрата чалавечай рабочай сілы ў фізыолёгічным сэнсе слова,—і ў якасьці гэтай аднолькавай ці абстрактна-чалавечай працы стварае вартасьць тавараў. Усякая праца ёсьць, з другога боку, затрата чалавечай рабочай сілы ў асобнай мэтазгоднай форме, і ў якасьці гэтай конкрэтнай карыснай работы праца стварае спажывецкія вартасьці.

(К. Маркс— „Капітал“, т. I, разьдз. 1).

### 5. *Прывядзеньне складанай працы да простай.*

Каб можна было вымяраць вартасьць тавараў рабочым часам, які ў іх зьмешчаны, трэба спачатку зьвесьці розныя формы працы да аднастайнай, якая ня мае ніякіх адзнак, простай працы, карацей—да працы, якая якасна аднолькава і мае толькі колькасныя адрозьненьні.

Гэтае прывядзеньне зьяўляецца абстракцыяй; аднак, гэта—абстракцыя, якая ў грамадзкім процэсе вытворчасьці адбываецца штодзенна. Ператварэньне ўсіх тавараў у рабочы час нікольні ня большая, але і менш рэальная абстракцыя, чымся пэратварэньне ўсіх органічных матэрыялаў у паветра. Праца, вымяраемая такім парадкам часам, выступае ў сапраўднасьці не як праца розных індывідаў, але скарэй розныя працоўныя індывіды выступаюць як простыя органы гэтае працы. Іншымі словамі—паколькі праца зьяўляецца ў менавых вартасьцях, яна можа быць прадстаўлена як усеагульная чалавечая праца. Гэта абстракцыя ўсеагульнае чалавечае працы існуе ў сярэдняй працы якую можа выконваць кожны сярэдні індывід данага грамадзтва; гэта—пэўная вытворчая трата чалавечых мускулаў, нэрваў, мозгу і г. д. Гэта—простая праца, якой можа быць навучаны кожны сярэдні індывід, і якую ён у тэй ці іншай форме павінен выконваць. Характар гэтае сярэдняе працы розны ў розных краінах і ў розныя эпохі чалавечае культуры, але ў даным грамадзтве ён зьяўляецца пэўным. Простая праца складае найвялікшую частку агульнай масы працы ў буржуазным грамадзтве, як у гэтым магчыма ўпэўніцца з статыстыкі. Ці вытварае А на працягу 6 гадзін палатно і на працягу 6 гадзін жалеза і В таксама прысьвячае па 6 гадзін для вытворчасьці палатна і жалеза, або А вытварае на працягу 12 гадзін жалеза, а В на працягу 12 гадзін палатно, з першага-ж погляду відаць, што справа ідзе толькі аб розных ужываньнях аднаго і таго-ж рабочага часу. Але як

зрабіць з складанай працай, якая ўзьнімаецца вышэй сярэдняга ўзроўню як праца большай жывасьці, большай удзельнай вагі?—Праца гэтага роду зводзіцца да памножанае простае працы: гэта—простая праца, узьведзеная ў вышэйшую ступень, так, напрыклад, адзін дзень складанае працы роўны тром дням простае працы. Тут яшчэ ня месца разглядаць законы, кіруючыя гэты, прывядзеньнем. Аднак, што гэта прывядзеньне адбываецца, зусім відавочна таму, што продукт самае складанае працы як менавая вартасьць эквівалентны ў пэўных дносінах да продукту простае, сярэдняе працы, значыцца роўны пэўнай колькасьці гэтай простай працы.

(К Маркс, „К критике политической экономии").

## 6. Простая і складаная праца.

Пан Дзюрынг знайшоў у Маркса грубую экономічную памылку якая дапушчаецца для вучня малодшае клясы і ў той самы час заключае ў сабе грамадзка-небясьпечную соцыялістычную ерась. Тэорыя вартасьці Маркса „ня больш, як звычайнае... вучэньне аб тым, што праца ёсьць прычына ўсіх вартасьцяй, а рабочы час—мерыва іх". Зусім няясным застаецца тут уяўленьне аб тым, як належыць мысьліць розную вартасьць так званай кваліфікаванае працы. Праўда, і па нашай тэорыі вымяраць натуральныя выдаткі і тым самым абсолютную вартасьць гаспадарчых прадметаў можна толькі затрачаным рабочым часам, з тэй розьніцаю, аднак, што мы прымаем рабочы час кожнага індывідуума за роўныя вялічыні, ня выпускаючы пры гэтым з віду, што пры кваліфікаваных работах да індывідуальнага рабочага часу аднэй асобы далучаецца работа іншых асоб... напрыклад, пры ўжываньні розных прылад вытворчасьці. Справа, значыцца, ідзе ня так, як туманна ўяўляе сабе пан Маркс, нібы чый-небудзь рабочы час сам па сабе каштуе больш, чымся рабочы час іншага, таму што ў першым нібы згушчана больш сярэдняга рабочага часу. Усякі рабочы час, бяз выключэньня і прынцыпова, значыцца, без неабходнасьці прымаць у разьлік які небудзь сярэдні ўзровень,—аднолькава і зусім роўнацэнна, і пры работах якой-небудзь асобы, таксама, як і ў кожным гатовым продукце, трэба толькі высьвятліць, колькі рабочага часу іншых асоб захована ў затраце, відавочна, толькі яго ўласнага часу. Ці будзе гэта прылада вытворчасьці, якая прыводзіцца ў дзеяньне рукой, або сама рука, нават галава, якая без рабочага часу іншых людзей ня можа атрымаць спэцыяльнай уласьцівасьці і працаздольнасьці, гэта ня мае ні малейшага значэньня для строгага прыстасаваньня тэорыі... Пан-жа Маркс у сваіх разважаньнях аб вартасьці ня волен ад здані кваліфікаванага рабочага часу, якая мітусіцца перад ім. Адмовіцца ад яе яму перашкодзіў атрыманы ў спадчыну мэтод мышленьня адукаваных клясаў, якім павінна здавацца жудасным прызнаньне рабочага часу тачачніка і рабочага часу архітэктара—зусім экономічна роўнацэннымі".

Тое месца ў Маркса, якое выклікала гэты „страшэнны гнеў“ пана Дзюрынга, вельмі кароткае. Маркс дасьледуе, чым вызначаецца вартасьць таварaў, і адказвае: чалавечай працай, якая зьмяшчаецца ў іх. „Апошняя,—працягвае ён,—ёсьць затрата простай рабочай сілы якою ўладае ў сваім фізычным організьме кожны звычайны чалавек без асобнага разьвіцьця... Больш складаная праца мае значэньне толькі як узьведзеная ў ступень ці скарэй памножаная простая праца, і таму меншая колькасьць складанае працы раўняецца большай колькасьці працы простай. Што гэта прыраўненьне аднэй працы да другой адбываецца заўсёды, паказвае досьлед. Пэўны тавар можа быць продуктам самае складанае працы, але вартасьць яго прыраўніваецца да продукту простае працы, а таму сам ён становіць сабою толькі пэўную колькасьць простае працы. Розныя пропорцыі, у якіх розныя віды працы прыводзяцца да працы простай, як да іх адзінкі, устанаўляюцца грамадзкім процэсам за сьпіной вытворцаў і здаюцца ім таму існуючымі паводле звычаю“.

Тут у Маркса гутарка ідзе бліжэйшым чынам толькі пра вызначэньне вартасьці *тавараў*, г. зн. прадметаў, якія вытвараюцца ўнутры грамадзтва, што складаецца з прыватных вытворцаў, вытвараюцца гэтымі вытворцамі за прыватны кошт і выменьваюцца адзін на адзін. Тут значыцца, гаворыцца зусім не пра „абсолютную вартасьць“, дзе-б апошняя ні цягнула сваё існаваньне, але пра вартасьць, якая існуе ў пэўнай грамадзкай форме. Гэта вартасьць у гэтай яе пэўнай гістарычнай форме, ствараецца і вымяраецца чалавечай працай, згрупаванай у паасобных таварах, а гэта чалавечая праца аказваецца далей затратай простай чалавечай сілы: вельмі шмат якія віды працы ўключаюць у сябе ўжываньне лоўкасьці і ведаў, набываемых з большай ці меншай цяжкасьцю і з затратай часу і грошай. Ці ствараюць гэтыя віды складанае працы ў роўныя пэрыоды часу такую самую таварную вартасьць, як і праца простая, г. зн. адна толькі затрата рабочай сілы? Відавочна, не. Продукт гадзіны складанае працы прадстаўляе тавар вышэйшай вартасьці, падвойнай ці патройнай, у параўнаньні з продуктам гадзіны простае працы. Вартасьць продуктаў складанае працы вызначаецца, дзякуючы такому параўнаньню, у пэўных колькасьцях простае працы, а гэта прывядзеньне складанае працы да простай адбываецца грамадзкім процэсам, за сьпіной вытворцаў,—процэсам, які тут, пры абмеркаваньні тэорыі вартасьці, можа быць устаноўлены, але яшчэ не растлумачаны.

Іменна гэты просты факт, які штодзенна адбываецца ў сучасным капіталістычным грамадзтве, на нашых вачох, і констатуе тут Маркс. Ён такі бясспрэчны, што сам пан Дзюрынг не адважыцца супярэчыць гэтаму ні ў сваім „Курсе“, ні ў „гісторыі Політычнай Экономіі“. Выкладаньне Маркса такое простае і яснае, што ніхто напэўна, апрача пана Дзюрынга, не застанецца пры гэтым „у поўнай няяснасьці“. Дзякуючы гэтай „поўнай няяснасьці“, пан Дзюрынг, захапляючыся сваёй гіпотэзай аб „натуральных выдатках“ і аб „абсолютнай вартасьці“, пра якую ніколі

нічога ніколі не гаварылася ні ў адным курсе політычнай эканоміі,— праглядзеў сапраўдны сэнс тэорыі Маркса аб таварнай вартасьці, якая і складала галоўным чынам прадмет вывучэньня для апошняга. Што-б пан Дзюрынг ні разумеў пад „натуральнымі выдаткамі“ і якое значэньне ні надаваў сваім пяці розным родам вартасьці, каб абгрунтаваць разуменьне аб „абсолютнай вартасьці“, адно можна з упэўненасьцю сказаць, што ў Маркса не магло быць і гутаркі пра ўсе гэтыя рэчы; ён заўсёды гаварыў толькі пра таварную вартасьць, і ва ўсім разьдзеле „Капіталу“ аб вартасьці няма ні малейшага намёку на тое, ці лічыў Маркс і ў якім аб'ёме сваю тэорыю аб таварнай вартасьці, дапасоўваемай да іншых грамадзкіх формаў.

„Але,—працягвае пан Дзюрынг,—справа ідзе зусім ня так, як гэта туманна ўяўляе сабе Маркс, нібы чый-небудзь рабочы час сам па сабе каштуе больш, чымся рабочы час іншае асобы, таму што ў першым выпадку нібы згушчана больш сярэдняга рабочага часу. Наадварот, усякі рабочы час без выключэньня і прынцыпова, значыцца, без неабходнасьці прымаць у разьлік які-небудзь сярэдні ўзровень,—зусім роўнацэнны“. Так думае пан Дзюрынг і таму ён можа лічыць сябе шчасьлівым, што лёс не зрабіў яго фабрыкантам і тым самым захаваў ад ацэнкі яго тавараў паводле гэтага новага правіла, а, значыцца, і ад неабходнасьці зрабіцца банкрутам. Аднак! Няўжо мы знаходзімся яшчэ ў грамадзтве фабрыкантаў? Зусім не. Навязваючы нам свае гіпотэзы аб натуральных выдатках і абсолютнай вартасьці, пан Дзюрынг прымушае нас, разам з тым, зрабіць скачок, сапраўдны „сальто мортале“ з сапраўднага дрэннага сьвету, дзе пануе эксплёатацыя—у яго ўласную гаспадарчую комуну будучага, у сфэру нябеснае роўнасьці і справядлівасьці. Мы павінны крыху заглянуць, хоць і крыху загадзя, у гэты новы сьвет.

Бяз усякага сумненьня, паводле тэорыі пана Дзюрынга, у яго будучай комуне вартасьць гаспадарчых прадметаў можа вымярацца толькі затрачаным рабочым часам, з тэй, аднак, умовай, што рабочы час кожнага індывідуума будзе загадзя лічыцца роўнацэнным, бяз выключэньня і прынцыпова, і, значыцца, без неабходнасьці прымаць у разьлік якую-небудзь сярэднюю норму дзеля вымярэньня і ацэнкі рабочага часу. І вось параўнайце гэты радыкальны раўнавальны соцыялізм з туманным уяўленьнем Маркса аб тым, нібы нейчы рабочы час сам па сабе каштуе даражэй, чымся рабочы час іншай якой-небудзь асобы, на тэй падставе, што ў першай з іх нібы згушчана больш сярэдняга рабочага часу, чымся ў другой,—туманнае ўяўленьне, узьнікшае ў пана Маркса, дзякуючы атрыманаму ў спадчыну ад адукаваных клясаў спосабу мышленьня, якому павінна здавацца жудасным прызнаньне рабочага часу тачачніка і рабочага часу архітэктара зусім экономічна роўнацэннымі.

Бяда толькі ў тым, што Маркс ва ўвазе, зробленай да вышэй прыведзенай выняткі з „Капіталу“, кажа: „Чытач павінен зьвярнуць увагу на тое, што тут ідзе гутарка не пра *заработкую плату*, якую

атрымлівае працаўнік за рабочы дзень, але аб *вартасьці тавараў*, у якія ператвараецца яго працоўны дзень". З гэтых слоў можна заключыць што Маркс, быццам прадугледжваючы паход пана Дзюрынга, накіраваны супроць яго, сам протэстуе супроць прыстасаваньня прыведзенай вышэй выняткі з „Капіталу" хоць-бы нават да тлумачэньня заработнай платы, якая выплачваецца за складаную працу ў сучасным грамадзтве. І калі пан Дзюрынг, не задавальняючыся гэтым, надае прыведзенай вышэй вынятцы з „Капіталу" значэньне асноўных палажэньняў, якія Маркс нібы хацеў дапасаваць да разьмеркаваньня жыцьцёвых сродкаў у социялістычным організаваным грамадзтве, то гэта проста бяссорамная падтасоўка, якая дапушчацца можа толькі ў асяродзьдзі разбойнікаў друку.

Нам усё-такі неабходна некалькі бліжэй пазнаёміцца з вучэньнем пана Дзюрынга аб роўнацэннасьці. Усякі рабочы час,—кажа ён,—зусім роўнацэнны, як рабочы час тачачніка, гэтак і рабочы час архітэктара. Такім парадкам выяўляецца, што рабочы час, а значыцца і самая праца, мае пэўную вартасьць. Але-ж праца ёсьць творца ўсіх вартасьцяй. Толькі яна адна і надае вартасьць, у экономічным сэнсе, здабываемым продуктам прыроды. Значыцца, вартасьць ёсьць ня што іншае, як выражэньне ператворанай у матэрыю ў якім-небудзь прадмеце грамадзка-неабходнай чалавечай працы, і праца сама па сабе ня можа мець ніякай вартасьці.

Гаварыць пра вартасьць працы і вызначаць яе—гэта тое самае, што гаварыць аб вартасьці самой вартасьці ці жадаць вызначыць вагу ня толькі фізычных цел, але і самага цяжару. Пан Дзюрынг расплачваецца з такімі людзьмі, як Сэн-Сімон, Оуэн і Фур'е, называючы іх социяльнымі алхімікамі. Але, фантазуючы над вартасьцю рабочага часу, г. зн. працы, ён даводзіць, што ён сам стаіць значна *ніжэй, чымся сапраўдныя алхімікі*. І падумаць толькі, з якой вольнасьцю пан Дзюрынг навязвае Марксу сьцьверджаньне, нібы нейчы рабочы час сам па сабе каштуе больш, чымся рабочы час іншых асоб, і нібы рабочы час, г. зн. праца, мае вартасьць,—таму самаму Марксу, які ўпяршыню заявіў, што праца ня можа мець ніякай вартасьці, і давёў чаму іменна.

Для социялізму, які хоча эмансыпаваць чалавечую рабочую сілу ад яе ролі тавару, вельмі важнае значэньне мае тое меркаваньне, што праца ня мае вартасьці і ня можа мець яе. Разам з гэтым меркаваньнем трацяць сваё значэньне ўсе трапіўшыя ў спадчыну пану Дзюрынгу ад стыхійнага рабочага социялізму спробы рэгуляваць у будучым разьмеркаваньне сродкаў існаваньня як свайго роду вышэйшую заработную плату. З яго, далей, сьледуе той вывад, што разьмеркаваньне, паколькі яно кіруецца чыста экономічнымі мотывамі, будзе рэгулявацца інтарэсамі вытворчасьці, а разьвіцьцю вытворчасьці найбольш спрыяе такі спосаб разьмеркаваньня, які дазваляе ўсім членам грамадзтва магчыма ўсебакова разьвіць, захаваць і прыстасаваць свае здольнасьці. Атрыманаму-ж у спадчыну панам Дзюрынгам образу

мышленьня адукаваных клясаў павінна, зразумела здавацца жудасным, што надыйдзе час, калі ня будзе ні тачачнікаў, ні архітэктараў па профэсіі, і што чалавек, які распараджаўся на працягу поўгадзіны, як архітэктар, будзе потым некаторы час штурхаць тачку, покуль не зьявіцца зноў неабходнасьць у яго дзейнасьці як архітэктара. Добры быў-бы соцыялізм, які ўвечнівае работу тачачніка, як спэцыяльную профэсію!

Калі роўнацэннасьць рабочага часу павінна мець той сэнс, што кожны работнік у роўныя прамежкі часу вытварае розныя вартасьці і што няма неабходнасьці для вызначэньня вартасьці прымаць у разьлік якую-небудзь сярэднюю норму, дык гэта, відавочна, няверна. Вартасьць продукту аднэй гадзіны працы двух работнікаў хоць-бы аднэй і тэй самай галіны прамысловасьці, заўсёды будзе розная у залежнасьці ад інтэнсыўнасьці працы і ўмеласьці работніка; гэтай бядзе, якая, аднак, можа здавацца такой толькі паном á la Дзюрынг,—ня можа дапамагчы ніякая гаспадарчая комуна, прынамсі на нашай плянэце. Што-ж застаецца значыцца ад усёй роўнацэннасьці ўсялякае працы? Ня больш як хвасьлівая фраза, якая ня мае іншай экономічнай асновы, апрача няздольнасьці пана Дзюрынга правесьці розьніцу паміж вызначэньнем вартасьці працай і вызначэньнем вартасьці—заработнай платай. Ён, па сутнасьці, напісаў указ, асноўны закон новай гаспадарчай комуны: заработная плата за роўную працу павінна быць роўная. Але-ж старыя францускія рабочыя—комуністы і Вейтлінг прыводзілі значна лепшыя довады ў карысьць такой роўнасьці заработнае платы.

Як-жа вырашаецца ўсё важнае пытаньне аб вышэйшай аплаце складанае працы? У грамадзтве прыватных вытворцаў выдаткі па навучаньню кваліфікаванага рабочага падаюць на прыватных асоб ці іх сямейства; таму і прыватным асобам бліжэйшым чынам дастаецца вышэйшая плата за вывучаную рабочую сілу; як раней вывучаны раб прадаваўся даражэй, гэтак цяпер вывучаны наёмны рабочы аплачваецца па вышэйшай цане. У грамадзтве, організаваным соцыялістычна, гэтыя выдаткі аплачвае грамадзтва, таму яму належаць і вынікі іх, г. зн. створаныя больш складанай працай вышэйшыя вартасьці. Сам рабочы ня можа прэтэндаваць ні на які лішак. З чаго, між іншым, сьледуе вывад, што і ўлюбёнае дамаганьне работніка на ўвесь продукт працы", таксама іншы раз зьяўляецца ня зусім непаражальным.

(Фр. Энгельс „Анти-Дюрынг", ч. II, разьд. VI).

## 7. Эволюцыя формы вартасьці.

Вартасьць праяўляецца толькі ў менавых адносінах тавараў, у іх менавой вартасьці, бо „менавая вартасьць ёсьць неабходны спосаб выражэньня, неабходная форма праяўленьня таварнай вартасьці", і гэта адбываецца *іменна таму, што „грамадзкі падзел працы робіць*

працу такой-жа аднабокай, як рознастайны яго патрэбы. Іменна таму продукт зьяўляецца толькі менавой вартасьцю...“

Пачынаючы дасьледваньне складаных зьяў з іх самых простых элемэнтарных формаў і, пераходзячы потым да далейшых ускладненьняў, Маркс тут пачынае з элемэнтарных зьяў. „Прасьцейшыя адносіны вартасьцяй ёсьць відавочна адносіны паміж вартасьцямі данага тавару і адзінкавага тавару іншага гатунку—усё роўна, якога іменна“. Гэта „простая, адзінкавая ці выпадковая форма вартасьці“ заключаецца ў вартасным выражэньні двух тавараў, якія ўзаемна абменьваюцца і таму адзін аднаго ўзаемна абумоўліваюць, і паказвае, што ў абодвых прадстаўлена агульная, а таму і супольнамерная велічыня вартасьці. Аднак гэтыя „два рознастайныя тавары... адыгрываюць тут відавочна дзьве розныя ролі. Першы тавар адыгрывае актыўную, другі—пасыўную ролю. Вартасьць першага тавару прадстаўлена як адносная вартасьць ці знаходзіцца ў адноснай форме вартасьці. Другі тавар функцыянуе як эквівалент ці знаходзіцца ў эквівалентнай форме“.

Сэнс і значэньне гэтай формы вартасьці зьяўляецца іменна ў тым, што яна выражае велічыню вартасьці першага тавару; гэта ажыцьцяўляецца дзякуючы таму, што другі, неаднолькавы з ім тавар, служыць для яго меркай. Пры гэтым другі тавар выступае тут не як конкрэтны тавар, але толькі як пeратварэньне пэўнай велічыні субстанцыі вартасьці, як матэрыялізацыя абстрактна-чалавечай грамадзкай працы.

Гэта—простая форма вартасьці, пры якой кожнаму простаму тавару, што знаходзіцца ў адноснай форме, адпавядае тавар, які знаходзіцца ў эквівалентнай форме,— „на практыцы сустракаецца відавочна толькі *пры першых пачатках абмену, калі продукты працы* ператвараюцца ў тавары толькі ў выключных, выпадковых актах абмену“. Але гэтым самым дадзена магчымасьць больш поўнай формы, бо „*пакольні адзін і той-жа самы тавар уступае* ў менавыя адносіны з кожным з гэтых двух відаў тавару, узьнікаюць розныя простыя выражэньні яго вартасьці. Лік магчымых выражэньняў яго вартасьці абмежаваны толькі лікам неаднолькавых з ім відаў тавараў“.

Такім парадкам, мы атрымліваем поўную ці разгорнутую форму вартасьці. Дзякуючы абменьваемасьці (вартаснаму выражэньню) аднаго тавару на ўсе іншыя „тавар робіцца грамадзянінам гэтага сьвету... У той самы час бесканечны рад яго выражэньняў паказвае, што таварная вартасьць адносіцца з поўнай абыякасьцю да ўсялякай асобнай спажывецкай формы, у якой яна праяўляецца“. „Разгорнутая форма вартасьці ўпяршыню ажыцьцяўляецца фактычна тады, калі адзін які-небудзь продукт працы... ужо ня ў выглядзе выключэньня, а як агульнае правіла абменьваецца на шмат якія іншыя тавары“.

Але і гэтая форма мае вялікія недахопы, бо „рад, што выражае вартасьць, неабмежаваны...“ і становіць сабою пярэстую мозаіку ў вышэйшай ступені рознастайных выражэньняў вартасьці, якія пераплятаюцца між сабой; не хапае, значыцца, яснасьці і аднастайнасьці. Але горш за ўсё тое, што яна не дае магчымасьці параўнаць вартасьць

розных тавараў між сабою. Паколькі натуральная форма кожнага пасобнага таварнага віду зьяўляецца тут асаблівай эквівалентнай формай побач з нязьлічонымі іншымі асаблівымі эквівалентнымі формамі, то існуюць наогул толькі абмежаваныя эквівалентныя формы, з якіх кожная выключае ўсе іншыя". Маецца аднак вельмі просты сродак зьнішчыць усе гэтыя недахопы. Паколькі ў гэтай форме першы тавар можа быць абменены на ўсе іншыя (у сапраўднасьці гэта абменьваемасьць прадстаўляецца як „сума простых адносных выражэньняў вартасьці"), то даволі толькі перавярнуць рад. Замест таго, каб проціпаставіць адзін тавар у адноснай форме ўсім іншым таварам у эквівалентнай форме, значна мэтазгодней проціпаставіць адзін гэты тавар у эквівалентнай форме ўсім іншым таварам, якія знаходзіліся-б у адносінах да яго ў адноснай форме. Тады мы атрымліваем агульную форму вартасьці. Гэтым самым адразу зьмяняецца ўся справа. „Цяпер тавары выражаюць свае вартасьці: 1) проста, г. зн. у адным адзінкавым тавары і 2) аднастайна, г. зн. у адным і тым-жа тавары. Форма іх вартасьці простая і агульная ім усім, значыцца ўсеагульная". Адзін гэты тавар набывае дзякуючы гэтаму характар усеагульнай эквівалентнай формы, ён „знаходзіцца ў форме, якая дае яму здольнасьць непасрэдна абменьвацца на ўсе іншыя тавары". Усеагульная эквівалентная форма можа ўласна належаць кожнаму тавару, і толькі тады, калі гэтая форма канчаткова зьвязваецца з якім-небудзь спэцыфічным таварам, „адзіная адносная форма вартасьцяй таварнага сьвету набывае об'ектыўную трываласьць і ўсеагульнае грамадзкае значэньне. Спэцыфічны таварны від... робіцца грашовым таварам, ці функцыянуе ў якасьці грошай. Адыгрываць у таварным сьвеце ролю ўсеагульнага эквіваленту робіцца яго спэцыфічнай функцыяй, а значыцца яго грамадзкай монополіяй. Гэтае прывілейнае месца сярод тавараў... заваяваў у гісторыі пэўны тавар, а іменна золата". Так мы атрымалі грашовую форму.

Што гэтая грашовая форма пануе ў грамадзтве таваравытворцаў, вядома кожнаму. „Кожны ведае... што тавары ўладаюць агульнай формай вартасьці... грашовай формай". Нам трэба таму дакладней дасьледваць і ўявіць рэзультаты, да якіх прыводзіць увядзеньне гэтае формы.

Па сутнасьці ўвядзеньне грошай нічога не зьмяняе ў прынцыпе вартасьці і ў адносінах вартасьці абменьваемых тавараў; яны як і раней абменьваюцца ў адносінах грамадзкага рабочага часу, які заключаецца ў іх і „золата-ж толькі таму проціставіць іншым таварам як грошы, што яно раней проціставіла ім як тавар", а „яго (золата) уласная вартасьць вызначаецца рабочым часам неабходным дзеля яго вытворчасьці, і выражаецца ў тэй колькасьці кожнага іншага тавару, у якім крышталізавалася столькі-ж рабочага часу".

Наадварот, з пункту гледжаньня формы ўвядзеньне грошай прыносіць з сабою пэўны пераварот у грамадзкім процэсе абмену. На месца непасрэднага абмену продуктаў, дзе кожны акт продажу свайго

тавару азначае адначасова куплю чужога, неабходнага для спажываньня тавару, і дзе ўвесь процэс цыркуляцыі канчаецца з пераменай месца і ўладара спажывецкай вартасьці,—з увядзеньнем грошай выступае значна больш складаны, але разам з тым значна больш вольна, ня зьвязаная таварная цыркуляцыя, якая ажыцьцяўляецца праз форму цаны.

(Д. Розенбэрг „Теория стоимости у Рикардо и Маркса").

### 8. Таварны фэтышызм і яго таямніца.

*Сутнасьць таварнага фэтышызму.*

Тавар, як „экономічная клетачка буржуазнага грамадзтва", падупаў усебаковаму аналізу—цяпер чарга за сынтэзам, за абагульненьнем атрыманых рэзультатаў у адзінае цэлае. І гэтае адзінае цэлае даецца Марксам у таварным фэтышызьме.

Такое разуменьне тэорыі фэтышызму—лічым патрэбным падкрэсьліць—зусім не зьмяншае яе значэньня, не ператварае яе толькі ў дадатак да тэорыі вартасьці. Не, яна зьяўляецца завяршэньнем і найбольш глыбокім абагуленьнем гэтай тэорыі. І мы ня згодны з І. І. Рубіным, які піша: Гэтае зьнешняе разьмяшчэньне (г. зн., што тэорыі фэтышызму адведзены апошні разьдзел.—Р.) не адпавядае аднак унутранаму парадку і сувязі ідэй Маркса".

Паводле азначэньня Маркса таварны фэтышызм зводзіцца да наступных асноўных трох момантаў: 1) Роўнасьць розных чалавечых работ набывае матэрыяльную форму ў продуктах працы, як прадстаўляючых адну і тую-ж субстанцыю вартасьці"; 2) „Вымярэньне затрат чалавечае рабочае сілы, іх працягласьць набывае форму велічыні вартасьці продукту працы"; 3) „Урэшце, тыя адносіны між продуктамі, у якіх праяўляюцца гэтыя грамадзкія азначэньні іх работ, набываюць форму грамадзкіх адносін продуктаў працы" (ст. 31).

Але ўсе гэтыя моманты складаюць зьмест тэорыі вартасьці, якія ёю былі выкрыты і дасьледваны. Аналіз „экономічнай клетачкі буржуазнага грамадзтва" паказаў, што роўнасьць, напрыклад, працы ткача і краўца выражаецца не непасрэдна, а выражаецца ў тым, што і палатно і сурдут, як тавары зьяўляюцца „крышталямі агульнай ім усім грамадзкай субстанцыі". Гэты-ж аналіз таксама выкрыў, што грамадзканеабходная праца, патрачаная, скажам, на 15 м. палатна, набывае выгляд велічыні вартасьці апошняга і выражаецца *ў адным* сурдуце. І ўрэшце, тэорыяй-жа вартасьці вынайдзена было, што за менавой вартасьцю, за адносінамі рэчаў хаваецца вартасьць, рэчавістыя адносіны людзей. У тэорыі-ж таварнага фэтышызму рэзультаты, здабытыя, так сказаць, тэорыяй вартасьці, абагульняюцца і ўся таварная гаспадарка набывае сваю закончаную характарыстыку як асобны тып гістарычнай пэўнай грамадзкай формацыі, якая рэзка адрозьніваецца ад іншых грамадзкіх формацый.

### *Об'ектыўная прычына таварнага фэтышызму.*

Таварны фэтышызм—зьява об'ектыўная, а не суб'ектыўная, не ілюзія розуму, што памыляецца. Таварны фэтышызм абумоўлены асаблівасьцямі таварна-капіталістычнае гаспадаркі.

Праца ў гэтай сыстэме, як і кожнай грамадзкай формацыі, як па свайму прызначэньню, гэтак і па сваёй абумоўленасьці зьяўляецца грамадзкай тым, што таваравытворца вытварае не для сябе, а для іншых, задавальняючы грамадзкі лад, грамадзкую патрэбу. Таксама праца кожнага таваравытворца знаходзіцца ў поўнай залежнасьці ад працы іншых, па-першае,—па лініі вытворчасьці, па-другое, па лініі спажываньня. Значныя масы і сродкаў вытворчасьці і сродкаў спажываньня адна гаспадарка атрымлівае з іншых. Усё гэта ўключаецца ў паняцьце „грамадзкі падзел працы". „Комплекс (злучнасьць),—піша Маркс,—гэтых прыватных работ стварае злучную працу грамадзтва" (ст. 32).

Але, з другога боку—а ў гэтым асноўная асаблівасьць імення таварнае гаспадаркі—праца зьяўляецца прыватнай. Кожны таваравытворца бярэцца, формальна, зусім вольна, за працу, якую лічыць для сябе карыснай, і організуе яе таксама паводле свайго пагляду. Вынікам гэтае супярэчнасьці, супярэчнасьці між двума бакамі працы—прыватнай і грамадзкай—зьяўляецца, па-першае, тое, што продукты працы робяцца таварнымі. „Прадметы спажываньня робяцца наогул таварамі толькі таму, што яны ёсьць продукты незалежных прыватных работ" (там-жа). Па-другое: „Паколькі вытворцы грамадзка сутыкаюцца між сабою толькі ў абмене продуктамі свае працы, то і спэцыфічны грамадзкі характар іх прыватных работ *праяўляецца* (падкрэсьлена намі) толькі ў рамках гэтага абмену" (там-жа). Мы падкрэсьлілі „праяўляецца", каб унікнуць памылковага тлумачэньня, нібы ў абмене праца робіцца грамадзкай, а да гэтага яна была толькі прыватнай. Грамадзкай яна была і раней, таму што яна зьяўляецца часткай усяе грамадзкае працы. Але *выяўляецца* як грамадзкая, у выніку спэцыфічнасьці яе організацыі, праца таваравытворцы можа толькі „ў рамках гэтага абмену".

І ўрэшце, па-трэцяе, такая форма організацыі грамадзкае працы абумоўлівае анархію і стыхійнасьць таварнае гаспадаркі, і „рэгулюючы ўплыў рабочага часу грамадзка неабходнага для вытворчасьці продуктаў, выяўляецца сярод менавых адносін апошніх, якія заўсёды хістаюцца ў выглядзе гвалтоўных дзеяньняў закону прыроды" (ст. 34).

### *Таварны фэтышызм і форма вартасьці.*

Значыцца таварны фэтышызм абумоўліваецца ня зьместам працоўнай дзейнасьці людзей, ня сумеснай іх работай для задавальненьня агульных патрэб, а тэй формай, у якой працоўная дзейнасьць людзей працякае ў таварнай гаспадарцы. Продукты працы ў таварнай гаспа-

дарцы набываюць форму тавараў, а „разьвіцьцё тованай формы продукту працы супадае з разьвіцьцём формы вартасьці“ (ст. 23).

Іменна формай вартасьці, выяўленьнем вартасьці аднаго тавару ў другім адносіны людзей фэтышызуюцца. Таксама фэтышызацыя адносін людзей разьвіваецца з разьвіцьцём таварнай формы продукту і, значыцца таварнай формы вартасьці. У грошах таварны фэтышызм дасягае найбольшага свайго разьвіцьця, робячыся грашовым фэтышызмам. А з ператварэньнем грошай у капітал, са зьяўленьнем новага тыпу адносін—адносін паміж рабочымі і капіталістамі—апошнія фэтышызуюцца ў капітале, г. зн. абумоўліваюцца *тэй формай*, якую набываюць сродкі вытворчасьці і існаваньне пры капіталістычным способе вытворчасьці.

Ня людзі пануюць над сваімі адносінамі, не яны іх рэгулююць, а наадварот—апошнія ў форме адносін рэчаў пануюць над людзьмі. Рэгулятарам таварнае гаспадаркі зьяўляецца закон вартасьці: вытворчасьць рэгулюецца хістаньнем цэн вакол вартасьці (модыфікацыі вартасьці ў цэны вытворчасьці для нас пакуль што ня існуе, гэта тэма III тому „Капіталу“). Высокія цэны, г. зн. цэны вышэй вартасьці, служаць стымулам да пашырэньня вытворчасьці, нізкія цэны—ніжэй вартасьці—вядуць да звужэньня вытворчасьці. Рост продукцыйных сіл грамадзтва і зьвязанае з ім пераразьмеркаваньне працы і сродкаў вытворчасьці—як паказана было раней—між рознымі галінамі гаспадаркі таксама адбываюцца паводле „указкі“ рынку, але загадваючага толькі на адзіна даступнай яму мове—на мове цэн.

Таму... „грамадзкія адносіны іх (таваравытворцаў—Р.) здаюцца тым, чым яны зьяўляюцца на самай справе, г. зн. не непасрэдна грамадзкімі адносінамі самых асоб і іх работ, але наадварот—матэрыяльнымі адносінамі асоб і грамадзкімі адносінамі рэчаў“ (ст. 32).

### *Іншыя грамадзкія формацыі.*

Быцьцё вызначае сузнаньне, об'ектыўны фэтышызм нараджае і суб'ектыўную фэтышысцкую форму мышленьня. І Маркс паказвае, як доўга таварны фэтышызм, панаваньне рэчаў над людзьмі, трымае ў палоне розумы экономістаў, якія сапраўды бачыць у рэчах, як грошы і інш., якіясьці надзвычайныя ўласьцівасьці. Але „ўвесь містыцызм, усе цуды і здані, якія ахутваюць продукты працы пры панаваньні таварнае вытворчасьці,—усё гэта безадкладна зьнікае, як толькі мы пераходзім да іншых формаў вытворчасьці“. І Маркс процістаўляе іншыя формы організацыі вытворчасьці таварнай формы, што яшчэ яскравей адцяняе ўсе асаблівасьці таварнае гаспадаркі і чаму яно нараджае таварны фэтышызм.

Маркс таварнай гаспадарцы процістаўляе і адзінкавую гаспадарку Робінзона, і „цёмнае эўропэйскае сярэднявечча“, і „саюз вольных людзей, якія працуюць пры дапамозе сваіх сродкаў вытворчасьці і сьвядома затрачваюць свае розныя індывідуальныя рабочыя сілы як

адну грамадзкую рабочую сілу“ (ст. 37). Ва ўсіх тыпах арганізацыі гаспадаркі праца зьяўляецца асновай існаваньня людзей, пры гэтым яна павінна быць падзелена і разьмяркована так, каб гэта адпавядала існуючым у грамадзтве патрэбам і інтарэсам. Ня менш ясна, што „пры ўсялякіх умовах той рабочы час, які каштуе вытворчасьць сродкаў існаваньня, павінен быў цікавіць людзей, хоць і не ў аднолькавай ступені на розных ступенях разьвіцьця“ (ст. 31). „Урэшце,— працягвае тут-жа Маркс, — паколькі людзі так ці інакш працуюць адзін на аднаго (за выключэньнем, зразумела, гаспадаркі Робінзона.—Р.), іх праца набывае тым самым грамадзкую форму“. Але ва ўсім гэтым няма нічога загадкавага, адносіны людзей не хаваюцца за адносінамі рэчаў. Апошняе мае месца толькі ў таварнай гаспадарцы, у гэтым яно характарызуецца гістарычна як гістарычна пэўная форма арганізацыі гаспадаркі, якая мае свае законы руху, разьвіцьця і зьнікненьня.

Тут — на што належыць зьвярнуць асаблівую ўвагу — перад намі адна з асноўных асаблівасьцяй Марксава мэтоду. Мы гаворым пра гістарызм, г. зн. пра разгляданьне экономічных зьяў і іх законамернасьцяй, як гістарычна абумоўленых. Вось як ахарактызаваў гэты мэтод адзін з рэцэнзэнтаў I тому „Капіталу“, а з гэтай ацэнкай зусім згаджаецца Маркс (гл. прадмову да 2 выд., ст. XXXIX).

„Іншаму чытачу можа пры гэтым прысьці на розум і такое пытаньне: агульныя законы экономічнага жыцьця адны і тыя самыя,— усё роўна, ці дапасоўваюцца яны да сучаснага ці мінулага жыцьця. Але іменна гэтага Маркс і не прызнае. Такіх агульных законаў для яго ня існуе. Па яго думцы наадварот—кожны гістарычны пэрыод мае свае законы... але як толькі жыцьцё пераджыло даны пэрыод разьвіцьця, выйшла з данай стадыі і ўступіла ў іншую, яно пачынае кіравацца іншымі законамі“.

Маркс папракае політычную экономію свайго часу ў тым, што ў яе гэта гістарычнае разуменьне адсутнічае „Дабуржуазныя формы грамадзка-вытворчага організму гнібуюцца ёю (політэкономіяй. — Р.) прыблізна ў такім самым духу, як дахрысьціянскія рэлігіі айцамі царквы“ (ст. 39). Але затое буржуазны лад яна лічыла зусім натуральным, уласьцівым чалавечай прыродзе, а таму і законы гэтага ладу—вечнымі і нязьменнымі.

(Д. Розенберг „Комментарии к первому тому „Капитала“ Карла Маркса).

## 9. Вартасьць.

Тавар ёсьць, па-першае, рэч, якая задавальняе якія-небудзь па трэбы чалавека; па-другое, рэч, якая абменьваецца на іншую рэч. Карыснасьць рэчы робіць яе **спажывецкай вартасьцю**. Менавая вартасьць (ці проста вартасьць) зьяўляецца перш за ўсё адносінамі, прапорцыяй пры абмене пэўнага ліку спажывецкіх вартасьцяй аднаго віду на пэўны лік спажывецкіх вартасьцяй другога віду. Штодзенная

практыка паказвае нам, што мільёны і мільярды такіх абменаў прыроўніваюць пастаянна ўсе і ўсялякія, самыя розныя і непараўнальныя, адна з аднэй, спажывецкія вартасьці адну да аднэй. Што-ж ёсьць агульнага між гэтымі рознымі рэчамі, якія пастаянна прыроўніваюцца адна да аднэй у пэўнай сыстэме грамадзкіх адносін? Агульнае між імі тое, што яны—продукты працы. Абменьваючы продукты, людзі прыроўніваюць самыя розныя віды працы. Вытворчасьць тавараў ёсьць сыстэма грамадзкіх адносін, пры якой паасобныя вытворцы ствараюць рознастайныя продукты (грамадзкі падзел працы), і ўсе гэтыя продукты прыроўніваюцца адзін да аднаго пры абмене. Значыцца, тым агульным, што ёсьць ва ўсіх таварах зьяўляецца не конкрэтная праца пэўнай галіны вытворчасьці, ня праца аднаго віду, але абстрактная чалавечая праца, чалавечая праца наогул. Уся рабочая сіла данага грамадзтва, прадстаўленая ў суме вартасьцяй усіх тавараў, зьяўляецца аднэй і тэй самай чалавечай рабочай сілай: мільярды фактаў абмену даводзяць гэта. І, значыцца, кожны паасобны тавар прадстаўляецца толькі пэўнай доляй грамадзка-неабходнага рабочага часу. Велічыня вартасьці вызначаецца колькасьцю грамадзка-неабходнае працы, ці рабочым часам, грамадзка-неабходным для вытворчасьці данага тавару, данай спажывецкай вартасьці. „Прыроўніваючы свае розныя продукты пры абмене адзін да аднаго, людзі прыроўніваюць свае розныя віды працы адзін да аднаго. Яны не ўсьведамляюць гэтага, але яны гэта робяць". Вартасьць ёсьць адносіны паміж дзьвюма асобамі, як сказаў адзін стары экономіст; яму належала толькі дадаць: адносіны, пакрытыя матэрыяльнай абалонкай. Толькі з пункту гледжаньня сыстэмы грамадзкіх вытворчых адносін аднэй пэўнай і гістарычнай формацыі грамадзтва, прытым адносін, якія праяўляюцца ў масавай, што мільярды разоў паўтараецца, зьяве абмену, можна зразумець, што такое вартасьць. „Як вартасьць, тавары ёсьць толькі пэўныя колькасьці застыўшага рабочага часу". Праанالізаваўшы дэталёва дваісты характар працы, згрупаванай у таварах, Маркс пераходзіць да аналізу формы вартасьці і грошай. Галоўнай задачай Маркса зьяўляецца пры гэтым вывучэньне паходжаньня грашовай формы вартасьці, вывучэньне гістарычнага процэсу разгортваньня абмену, пачынаючы з паасобных выпадковых актаў яго („простая, паасобная ці выпадковая форма вартасьці": даная колькасьць аднаго тавару абменьваецца на даную колькасьць другога тавару) аж да ўсеагульнай формы вартасьці, калі рад розных тавараў абменьваецца на адзін і той самы пэўны тавар, і да грашовай формы вартасьці, калі гэтым пэўным таварам, усеагульным эквівалентам, зьяўляецца золата. Будучы вышэйшым продуктам разьвіцьця абмену і тарнае вытворчасьці, грошы затушоўваюць, прыкрываюць грамадзкі характар прыватных работ, грамадзкую сувязь паміж паасобнымі вытворцамі, якія аб'ядноўваюцца рынкам. (Ленін, т. XII, ч. II, ст 327—328).



# ГЕОГРАФІЯ.

*Курс вядуць Т. А. ЕЗАВІТ, М. Т. ЛОЙКА.*

## ЗАДАНЬНЕ 7-ое (З дасылкаю пісьмовае працы).

## ТЭМА: „Пазаэўропэйскія дзяржавы“.

Мэтаю сёмага заданьня зьяўляецца:

1. Вывучыць політычную карту Амэрыкі і Далёкага Ўсходу.
2. Пазнаёміцца з прыродна-географічнымі асаблівасьцямі і гаспадаркай Паўночна-Амэр. Злучаных штатаў, Японіі і Кітаю.

Матэрык Амэрыкі часта дзеляць на тры часткі: Паўночную Амэрыку, Цэнтральную [1]) і Паўднёвую. У Паўночнай Амэрыцы раскінулася адна з найбольш магутных імпэрыялістычных дзяржаў Паўночна-Амэрыканскія Злуч. Шт. і даміньён Англіі—Канада. Цэнтральная Амэрыка ляжыць на паўдня ад Паўночнай. На яе тэрыторыі знаходзіцца Мэксыка і шэсьць дробных буржуазных Рэспублік (Гватэмала, Гандурас, Сальвадор, Нікарагуа, Каста-Рыка, Панама). Тэрыторыю Паўднёвай Амэрыкі займаюць дзесяць рэспублік, з якіх найбольшымі па абшарах і ліку насельніцтва зьяўляюцца [2]) Бразілія, Аргентына.

Па многіх відах прыродных багацьцяў (каменны вугаль, нафта, жалезная руда, медзь, салітра і інш.), Амэрыка займае адно з першых мейсц між іншымі часткамі сьвету. Праўда, большасьць гэтых багацьцяў прыпадае на долю Паўночна-Амэрыканскіх Злуч. Штатаў. Але шмат іх маецца на тэрыторыі Цэнтральнай і Паўднёвай Амэрыкі, як, напрыклад, у Мэксыцы—нафта, срэбра; Венэцуэле, Калюмбіі—нафта; Бразіліі — жалезная руда; Балівіі — волава, здабыча якога складае $1/4$ частку сусьветнай здабычы; Чылі—салітра, якою яна амаль цалкам забясьпечвае сусьветны рынак, медзь і г. д.

Акрамя таго па вытворчасьці такіх сельска-гаспадарчых продуктаў, як кукуруза (Паўднёв. Амэрыка, Злучаныя Штаты, Аргентына), хлапок (П. А. Злуч. Шт.), кофе, какао (Бразілія, Калюмбія і інш). Амэрыка таксама займае першае мейсца між іншымі часткамі сьвету.

---

[1]) Цэнтральную і Паўднёвую Амэрыку завуць яшчэ Лацінскай Амэрыкай.

[2]) Акрамя Бразіліі і Аргентыны ў Паўднёвай Амэрыцы знаходзяцца рэспублікі: Венэцуэля, Калюмбія, Экуадар, Перу, Балівія, Чылі, Парагвай, Уругвай, і калёнія Эўропэйскіх дзяржаў (Англіі, Галяндыі, Францыі—Гвіяна).

Зараз у часы эканомічнага крызісу пры адсутнасьці рынкаў збыту шмат гэтых багацьцяў капіталістамі нішчыцца: у Бразіліі мільёны кілёграмаў кофе выкідваюцца ў мора, а ў Канадзе і Злуч. Шт. П. А. кукурузаю паляць у топках паравозаў.

Капіталісты Паўночн. Амэрык. Злучан. Штат. глядзяць на Цэнтральную і Паўднёвую Амэрыку як на сваю калёнію, як на рынак для вывазу сваіх капіталаў, адкуль яны выціскаюць свайго конкурэнта—Англію. Усе тыя „Рэволюцыі"—зьмены ўрадаў, якія адбываліся ў апошнія два-тры гады (Мэксіка, Балівія, Бразілія, Аргэнтына і г. д.), ёсьць вынік эканомічнай барацьбы, якая заўсёды можа перайсьці ў крывавую вайну між імпэрыялістамі Злучаных Штатаў і Англіяй за багаты колёніяльны рынак Паўднёвай і Цэнтральнай Амэрыкі.

*Пад Далёкім Усходам мы разумеем краіны, якія прылягаюць да* басэйну Ціхага акіяну. Да краін гэтых акрамя тэрыторыі СССР (Далёка-Ўсходняя вобласьць РСФСР) належаць такія краіны, як імпэрыялістычная Японія з сваімі калёніямі, паўкалёніямі імпэрыялістых Кітай, прызная нам Мангольская народная рэспубліка, колёнія Францыі—Інда-Кітай ці Анам, колёнія Паўн. Ам. Зл. Шт.—Піліпінскія вастравы, Індванэзія ці Галяндзкая Індыя (востравы між Азіяй і Аўстраліяй) як Ява, Суматра, Барнэо і шмат іншых. Належаць яны ў большасьці Галяндыі.

Дзякуючы вялікім прыродным багацьцям, таннай рабочай сіле, ёмкаму рынку, Далёкі Ўсход зьяўляецца арэнай барацьбы між імпэрыялістамі: Японіяй, Паўн. Амэрыкай, Злучанымі Штатамі, Велікабрытаніяй і Францыяй.

Імкненьне імпэрыялістых да захопу Далёка-Ўсходніх рынкаў ці так званая „Ціхаакіянская проблема", мае непасрэдныя адносіны да нашае краіны, бо тэрыторыя нашага Саюзу на берагох Ціхага акіяну мае вялізарныя прыродныя багацьці і зьяўляецца прынадай для імпэрыялістых. Тут заўсёды магчымы провокацыі, каб вызваць нас на вайну. Адна з такіх провокацый—захоп кітайскімі генэраламі Усходня-Кітайскай чыгункі, як вядома мела мейсца ў 1929 годзе. Гэты провокацыйны манэўр імпэрыялістам ня ўдаўся толькі дзякуючы тераічнаму адпору Асобнай Далёка-Усходняй Чырвонай арміі і тэй рашучай гатоўнасьці да абароны, якая была выказана пролетарыятам і працоўным сялянствам.

## ПЛЯН ТЭМЫ:

1. Політычная карта Амэрыкі і Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты.
2. Краіна Далёкага Ўсходу.

**Літаратура і дапаможнікі:**

1. Вучэбна-дапаможны матэрыял у канцы заданьня.
2. Даклад тав. Якаўлева на XVI парт. зьезьдзе—разьдз. I і II.
3. „Географический атлас" под редакцией Шокальского.

## Мэтодычныя парады да самастойнай распрацоўкі.

### Да разьдзелу І пляну—Політычная карта Амэрыкі і Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты.

Самы загаловак першага разьдзелу гаворыць, што асноўнай мэтай гэтага разьдзелу зьяўляецца:

1. Вывучыць політычную карту Амэрыкі.

2. Пазнаёміцца з прыродна-географічнымі асаблівасьцямі і гаспадаркай Паўн. Ам. Злучан. Штат.

Для вывучэньня політычнай карты Амэрыкі выканайце наступную працу:

1. На картах атлясу Шокальскага (стар. 8, 9) знайдзеце:

а) Дзяржавы Паўночнай, Цэнтральнай, Паўднёвай Амэрыкі (сьпіс дзяржаў дадзены ва ўступе).

б) Пакажэце партовыя і прамысловыя гарады: Нью-Іёрк, Чыкаго, Філадэльфія, Пітсбург, Вашынгтон, Сан-Францыска (Злуч. Штаты), Рыо-дэ-Жанэйра (Бразілія), Буэнос-Айрас (Аргэнтына).

в) Колёніі П. А. Зл. Шт.: востраў Порта-Рыка, паўвостраў Аляска, Піліпінскія вострава (апошнія глядзі на карце—Азія—стар. 7).

г) Раку Місісіпі з прытокам Місуры, пяць Вялікіх вазёр і раку Амазонку.

д) Горы: Скалістыя, Каскадныя, Сіера-Невада, Сіера-Мадрэ, Аляганскія (Аляганскія горы іначай яшчэ завуцца Апалачскія), Анды.

2. Назвы дзяржаў Амэрыкі падпішэце на контурнай карце.

Для азнаямленьня з прыродна-географічнымі асаблівасьцямі і гаспадаркай П. А. Зл. Шт. прачытайце па вучэбна-дапаможным матэрыяле артыкул: 1) „Злучаныя Штаты“; 2) Даклад тав. Якаўлева на XVI парт. зьезду—разьдзел І і ІІ.

Пасьля прапрацоўкі матэрыялу дайце адказы на наступныя пытаньні:

### ПЫТАНЬНІ ДЛЯ САМАПРАВЕРКІ:

1. У якіх частках Амэрыкі знаходзяцца П. Ам. Зл. Шт.; Мэксыка Бразілія, Аргэнтына?

2. Пералічэце, чым выгодна географічнае палажэньне Злучаных Штатаў.

3. Пералічэце, на якія пяць раёнаў па прыродных асаблівасьцях падзяляецца тэрыторыя Злуч. Шт.

4. Па здабычы якіх выкапняў Злуч. Шт. займаюць першае мейсца ў сьвеце між іншымі краінамі?

5. Дайце агульную характарыстыку прамысловасьці і сельскай гаспадаркі Злуч. Шт.

6. Якімі грамадзка-гістарычнымі ўмовамі тлумачыцца рост гаспадаркі Злучаных Штатаў? (глядзі пачатак артыкулу).

7. Чаму сельска-гаспадарчыя машыны (напрыклад, трактар) у Злуч. Шт. выкарыстоўваецца ў меншай ступені, чымся ў нашых саўгасах і калгасах?

8. Якая роля належыць Злучаным Шт. у нашым вывазе і ўвозе і чым тлумачыцца такая роля?

9. Дайце агульную характарыстыку сучаснага гаспадарчага крызісу Зл. Шт.

10. Якое экономічнае і стратэгічнае значэньне мае Панамскі канал?

11. У чым конкрэтна прычына супярэчнасьцяй між Злуч. Шт. і Вялікабрытаніяй, між Злуч. Шт. і Японіяй?

12. Якія рэспублікі Паўднёвай і Цэнтральнай Амэрыкі даюць на сусьветны рынак шмат хлеба, кофе, салітры, волава? (глядзі ўступ).

## Да II разьдзелу пляну—Краіны Далёкага Ўсходу.

Асноўнымі пытаньнямі гэтага разьдзелу зьяўляюцца:

1. Вывучыць політычную карту Далёкага Ўсходу.

2. Пазнаёміцца з прыродна-географічнымі асаблівасьцямі і гаспадаркай Японіі, Кітаю.

Для вывучэньня політычнай карты Далёкага Ўсходу выканайце наступную працу.

1. Найдзеце на картах (стар 7—8):

а) Японію і яе колёніі: Карэю, в. Фармозу, Паўднёвы Сахалін.

б) Кітай, Мангольскую Народную Рэспубліку, Тувінскую Народную рэспубліку.

в) Рэкі: Амур, Хуан-Хэ, Ян-Цзы-Цзян.

г) Гарады: Такіё, Нанкін, Пэйпін, Шанхай, Учан (Ханькоу), Кантон, Чань-ша, Мукдэн, Харбін, Улан-Батор, Кзыл-Хота (Красны).

Назвы дзяржаў Далёкага Ўсходу, рэкі і гарады падпішэце на контурнай карце ўсіх частак сьвету.

Для азнаямленьня з прыродна-географічнымі асаблівасьцямі і гаспадаркай Японіі і Кітаю прачытайце артыкулы па вучэбна-дапаможным матарыяле: 1) „Японія“, 2) „Кітай“.

Прыводзім кароткую характарыстыку прыроды і гаспадаркі Мангольскай і Тувінскай Народных рэспублік, якія знаходзяцца на мяжы з СССР і пра якія нічога ня сказана ў вучэбна-дапаможным матарыяле.

Мангольская Народная Рэспубліка ўтварылася ў выніку таго нац.-рэволюцыйнага руху, які вызвала Кастрычнікавая рэволюцыя. Паводле дзяржаўнага ладу гэта дэмократычная рэспубліка, прыязная СССР, улада якой імкнецца да зьнішчэньня рэшткаў фэўдалізму і зазнаваньня соцыялістычнага ладу. Паводле паверхні абшары рэспублікі дзеляцца на дзьве часткі: паўночна-заходнюю гарыстую і паўднёва-ўсходнюю—больш роўную. Клімат рэзка контынэнтальны, сухі. Большасьць тэрыторыі Манголіі зьяўляецца стэпам і паўпустыняй, якая на поўдні

пераходзіць у пустыню. Лясы сустракаюцца толькі на поўначы, у горах. Манголія багата вугалем (асабліва бурым), золатам і іншымі мэталямі. Але выкапныя багацьці яе амаль не дасьледаваны і не выкарыстоўваюцца. Галоўную частку насельніцтва складаюць манголы. Насельніцтва займаецца пераважна пасьбішчнай жывёлагадоўляй. З часу заснаваньня Народнай рэспублікі пачынае разьвівацца земляробства і прамысловасьць. Чыгуначных шляхоў няма. Галоўны горад—Улан-Батор.

Тувінская Народная Рэспубліка знаходзіцца на поўнач ад Манголіі. Рэдкае насельніцтва гэтае рэспублікі (тувінцы), як і насельніцтва Манголіі, займаецца пераважна жывёлагадоўляй. Зараз прыкмячаецца быстры пераход да земляробства, для якога тэрыторыя Тувінскай Рэспублікі больш прыгодна, чым тэрыторыя Манголіі. Галоўны горад—Кзыл-Хота (Красны) на рэчцы Янісею.

## ПЫТАНЬНІ ДЛЯ САМАПРАВЕРКІ.

1. Чым географічнае палажэньне Японіі паходзіць на географічнае палажэньне Велікабрытаніі?
2. Чым тлумачыцца рознастайнасьць клімату Японіі?
3. У якой ступені Японія забясьпечана такімі выкапнямі, як каменны вугаль, нафта, жалезная руда?
4. Пералічэце галоўныя тэхнічныя і хлебныя культуры, якія разводзяцца ў Японіі.
5. Якія галіны прамысловасьці найбольш пашыраны ў Японіі?
6. Якая роля Японіі ў нашым замежным гандлі?
7. Чаму нямінуча барацьба між Японіяй і Злучанымі Штатамі за панаваньне на Ціхім акіяне?
8. Па цячэньню якіх рэк знаходзіцца Кітай?
9. Чым прырода Паўночнага Кітаю адрозьніваецца ад прыроды паўднёвага Кітаю?
10. Характарызуйце сельскую гаспадарку і прамысловасьць Кітаю.
11. Якія прычыны гаспадарчага заняпаду Кітаю?
12. У якіх частках Кітаю гаспадараць японскія, ангельскія, францускія імпэрыялісты і чаму амэрыканскія імпэрыялісты прытрымліваюцца ў адносінах да Кітаю так званай політыкі „адчыненых дзьвярэй“?
13. У якіх частках Кітаю заснаваны Саветы; дзе і калі адбыўся першы зьезд Саветаў?
14. Якія ўзаемаадносіны Кітаю з СССР?
15. Якія ўзаемаадносіны паміж СССР і Японіяй?

## ЗАДАНЬНЕ ДЛЯ ПІСЬМОВАЙ ПРАЦЫ.

### ТЭМА: „Амэрыка і Далёкі Ўсход“.

1. На берагох якога акіяну знаходзіцца Амэрыка і Далёкі Усход?
2. Якія імпэрыялістычныя дзяржавы вы ведаеце ў Амэрыкі і на Далёкім Усходзе?

3. Якая з вышэй адзначаных вамі імпэрыялістычных дзяржаў зьяўляецца экономічна моцнай і чым гэта можна давесьці?

4. У чым конкрэтна сутнасьць супярэчнасьцяў між Японіяй і Злучанымі Штатамі?

5. Чаму мы павінны пільна сачыць за імкненьнэм імпэрыялістаў да захопу рынкаў Далёкага Ўсходу?

Просьба адказы на пытаньні пабудаваць так, каб атрымаўся складны расказ.

Разам з пісьмоваю працаю неабхоўна прыслаць для рэцэнзіі контурныя карты ўсіх частак сьвету з надпісамі на іх дзяржаў Амэрыкі і Далёкага Ўсходу.

*ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!*

*Сёмым заданьнем мы закончылі програму па географіі падрыхтоўчага курсу. Для палепшаньня працы на будучы навучальны год просім указаць на тыя недахопы, якія мелі мейсца ў нашых заданьнях. Як прыклад указваем на такія пытаньні:*

*1. Наколькі Вас задавальняе програма па географіі?*

*2. Якія з заданьняў зьяўляліся найбольш цяжкімі для прапрацоўкі і чаму?*

*3. Колькі прыблізна гадзін патрачана Вамі на прапрацоўку кожнага заданьня паасобку?*

*4. Па якіх заданьнях тэмы для пісьмовых прац складзены дрэнна і чаму?*

*5. Чым не здавальняюць Вас нашы рэцэнзіі на пісьмовыя працы і г. д.?*

*Просьба азначаную заметку аб нашай працы даслаць разам з пісьмоваю працаю па гэтаму заданьню.*

**З комуністычным прывітаньнем**—*Аўтары заданьня.*

## ВУЧЭБНА-ДАПАМОЖНЫ МАТЭРЫЯЛ ДА СЁМАГА ЗАДАНЬНЯ.

### I. ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ.

**Н. Баранскі: „Краткий курс экономической географии". Выпуск першы Масква, 1930 г.**

Уласна Злучаныя штаты—7700 тыс. км.$^2$ прасторы і 120 млн. насельніцтва: уладаньні, якія знаходзяцца асобна (Аляска, Гавайскія астравы, Філіпіны ды інш.)—2900 тыс. км.$^2$, прасторы, 12 млн. насельніцтва.

*ПАЗШ—мацнейшая капіталістычная дзяржава.*

Злучаныя штаты Паўночнай Амэрыкі (ПАЗШ) вырасьлі ў самастойную дзяржаву за апошнюю чвэртку XVIII ст. з колёніі ангельскіх эмігрантаў. На поўначы (у Новай Англіі) гэта былі колёніі, засна-

ваныя выгнаньнікамі з Англіі на глебе рэлігійна-палітычнай барацьбы ў пачатку XVIII ст дробнабуржуазнымі сэктантамі пурытанамі, рэлігійнымі „бацькамі-пілігрымамі“. Гэтыя „бацькі“ зрабілі першапачатковае накапленьне капіталу для будучага прамысловага разьвіцьця ня столькі распрацоўкай цаліннае глебы Амэрыкі, як рабаваньнем індыйцаў, пірацтвам, контрабандай і гандлем нявольнікамі. На поўдні пануючае становішча занялі эмігранты-арыстократы, якія ўцяклі з Англіі пры Кромвэлю. Свае багацьці яны стварылі на плянтацыях тутуню і бавоўны, якія апрацоўваліся нявольнікамі-нэграмі.

Пасьля аддзяленьня ад Англіі (1787 г.) пачаўся бязупынны рост новае дзяржавы, якая хутка індустрыялізавалася, асабліва на поўначы. Вялікія послугі росту прамысловасьці зрабіў вялізарны прыток эмігрантаў з Эўропы, які даў сотні тысяч кваліфікаваных рабочых з Англіі і Гэрманіі. Яшчэ хутчэй пашло капіталістычнае разьвіцьцё пасьля вайны поўначы з поўднем, якая скончылася ў 1864 г. перамогай прамысловае капіталістычнае поўначы над земляробчым і нявольніцкім поўднем. Машынізаваная прамысловасьць скарыстала мільёны пролетараў, якія высяляліся ва ўсё большай і большай колькасьці з усіх канцоў Эўропы. Іх праца дала магчымасьць усебакова выкарыстаць самыя рознастайныя прыродныя рэсурсы краіны. Злучаныя штаты занялі перад вайной выгаднае палажэньне ў галіне і сельскае гаспадаркі і здабываючай (горнай) прамысловасьці, і індустрыі, і гандлю, а пасьля сусьветнай вайны яны высунуліся на першае месца сярод капіталістычных дзяржаў.

### *Палажэньне.*

Палажэньне Злучаных штатаў, пасьля таго як узьбярэжжа Атлянтычнага акіяну было злучана з узьбярэжжам Вялікага акіяну транс-




Мал. 1.

контынэнтальнымі дарогамі, і пазьней, калі абодвы акіяны былі злучаны між сабою Панамскім каналам, зрабілася надта выгодным. Палажэньне гэта зрабілася міжакіянскім са зручнымі падыходамі да абодвых акіянаў. Надта спагаднае іх і кліматычнае палажэньне—яны ляжаць у мернацёплым і падтропічным пасе: на поўначы—49° пн. ш. (што паўднёвей Кіева), на поўдні даходзіць амаль да тропіка (паўднёвая часьць Флёрыды пад 25° пн. ш.). Цяплыні скрозь досыць, але ў заходнім пасе паміж Скалістымі горамі і горамі *Сьэра-Нэвада* і *Каснадныліі*, не хапае вільгаці.

### *Паверхня.*

На захадзе знаходзяцца вельмі высокія горы, што ідуць наўкола высокага плоскаўзвышша Юта (Каскадныя Горы, Берагавыя Кордыльеры і Сьэра-Нэвада на захадзе, Скалістыя горы—з усходу). Горы затрымліваюць вільгаць вятроў, што пераважна дзьмуць з Антлянтычнага акіяну, з прычыны гэтага плоскаўзвышша надзвычайна сухое. На ўсход ад Скалістых гор краіна паступова зьніжаецца і пераходзіць у Вялікую нізіну, як завецца нізіна каля ракі *Місысыпі*.

З поўначы нізіна гэтая абкружана пяцьма вялікімі вазёрамі, так званымі Вялікімі. Азёры ляжаць на розных узроўнях з агульным зьніжэньнем з захаду на ўсход. Асабліва вялікі ўступ паміж азёрамі *Эры* і *Онтарыо*; з гэтага ўступу падае *Ніагарскі вадаспад*, які выкарыстаны (часткова) для вялізарнейшых гідрастанцый. Усе парогі і вадаспады абведзены цяпер каналамі. Натуральны выхад з азёр—рака сьв. *Лаўрэна*,—надзвычайна добры, глыбокаводны шлях, які далёка апераджае Місысыпі (рэчышча Місысыпі мае надзвычайна многа мялізнаў). Узімку рака сьв. Лаўрэна замярзае на тры месяцы, што зьяўляецца недахопам гэтага шляху.

На ўсход над нізінай падымаюцца нявысокія *Апалацкія* або *Алегачскія* горы. На поўначы яны вельмі блізка падыходзяць да берага, на поўдні паміж горамі і морам застаецца нізінная прастора да 500 км. ушыркі.

### *Насельніцтва.*

Насельніцтва Злучаных штатаў належыць галоўным чынам да двух рас: белай каля 0,9 (89,7 проц,) і чорнай—нэгры—каля 0,1 (9,9 проц.). Іншыя расы—чырвонаскурыя індыйцы, тубыльнае насельніцтва Амэрыкі, і прышлыя—кітайцы і японцы—складаюць нязначную меншасьць (разам усяго 0,4 проц.). Амэрыканцы запэўняюць, што ў іх усе роўнапраўдныя, але нэгры дагэтуль зьяўляюцца прыгнечанымі. У шмат якіх паўнёвых гарадох (на поўдні асабліва захаваліся старыя прыгоньніцкія звычкі) нэграм недазваляецца заставацца ў горадзе на ноч; нэгры павінны езьдзіць у асобных вагонах, наведваць толькі свае школы, свае тэатры, свае цэрквы, заставацца з белымі ў адным памяшканьні

забараняецца. Але прыгнечаньне белых прымусіла нэграў мацней згрупавацца, прыняць захады да ўзьняцьця свайго культурнага ўзроўню. З нэграў выйшла ўжо шмат дактароў, тэхнікаў, мастакоў, грамадзкіх дзеячоў. Індыйцы быстра вымiраюць. Кітайцы і японцы не карыстаюцца правамі ў Злучаных штатах, прыезду іх робяцца ўсякія перашкоды. Цяпер перашкаджаюць прыезду ня толькі каляровых, але і белых, асабліва малазаможных, ці тых, якія прытрымліваюцца небясьпечнай, па думцы амэрыканскіх капіталістаў, ідэолёгіі, асабліва комуністаў. Спэцыяльнымі законамі, выданымі ўжо пасьля вайны рэзка сьціснуты прыток эмігрантаў з краін паўднёвай і ўсходняй Эўропы.

*Раёны Злучаных штатаў.*

Сваімі прыроднымі асаблівасьцямі ды іх выкарыстаньнем Злучаныя штаты падзяляюцца на пяць вялізарных раёнаў: 1) Паўночны Ўсход, 2) Цэнтр, 3) Поўдзень, 4) Гарысты захад і 5) Ціхаакіянскае ўзьбярэжжа.

Паўночны ўсход карыстаецца надзвычайна зручным палажэньнем для зносін з Эўропай: бераг вельмі зрэзаны і мае шмат надзвычайна добрых гаваняй. Раён багаты на каменны вугаль і нафту; з берагоў Вялікіх азёр водным шляхам па рэчцы *Хэдзону* і па каналах танна прывозяцца медзь і жалеза. Горы канчаюцца ў бок Атлянтычнага акіяну ўступам; сіла вадаспадаў гэтага ўступу выкарыстоўваецца як белы вугаль. Гэта галоўны прамысловы і гандлёвы раён Злучаных штатаў. Ён у надзвычайнай колькасьці вывозіць фабрычныя вырабы, а прывозіць харчовыя прадукты. Найважнейшая гавань—*Нью-Ёрк.*

Цэнтр займае вялікую даліну. Гэта галоўная земляробчая вобласьць Злучаных штатаў (пшаніца на поўначы, кукуруза на поўдні) і вобласьць адкорму жывёлы на мяса. Збожжа мелецца на муку на буйнейшых у сьвеце мукамольнях (Мінэаполіс), а мяса перарабляецца ў мясныя продукты на найвялікшых мясных заводах (Чыкаго, Канзас). На поўначы ў пры азёрнай паласе, дзе шмат жалезных і медных рудаў, разьвілася мэталюргічная прамысловасьць.

Поўдзень, дзе клімат гарачы, вырас на рабскай працы ў баваўняны і тутунёвы раён. Паўднёвы край *Алеганскіх* гор, які заходзіць у паўночна-усходнюю частку раёну, багаты на жалезную руду і вугаль; і ў той-жа час раён гэты мае вялізарную колькасьць тэкстыльнае сыравіны (бавоўна). На гэтай базе, а галоўным чынам на параўнаўча таннай рабочай сіле ў XX ст. на паўдні пачала разьвівацца і прамысловасьць—баваўняная, жалезных вырабаў і сталяліцейная (цэнтр—горад *Бэрмінгем*).

Гарысты захад прывабіў да сябе насельніцтва сваімі мінэральнымі багацьцямі (золата, срэбра, волава, медзь і нафта). Апрача горнай прамысловасьці, тут пашыралася жывёлагадоўля, асабліва гадоўля авечак, а на вучастках, якія штучна абводнены, і земляробства.

Ціхаакіянскае ўзьбярэжжа атрымлівае на паўночным захадзе досыць ападкаў. Паўднёвая частка вобласьці мае клімат, які нагадвае эўрапэйскае міжземнамор'е: Гэта—галоўны садаўніцкі раён Злучаных штатаў (апельсынавыя і лімонавыя дрэвы і вінаграднікі) На поўначы вобласьці—хваёвыя лясы. Вялікія тут і выкапнёвыя багацьці (золата, срэбра, нафта). У водах акіяну вылоўліваецца шмат рыбы (галоўным чынам ласось); дзеля морскіх зносін маецца некалькі добрых гаваняў *(Сан-Францыско, Сіетль* і інш.).

Захад і Ціхаакіянская вобласьць доўга жылі адасобленым жыцьцём і значна адставалі ад агульнага экономічнага разьвіцьця Злучаных Штатаў. Толькі з 70-х г. г. XIX ст., пасьля таго, як была праведзена першая Ціхаакіянская дарога, Далёкі захад пачаў уцягвацца ў кола агульнага разьвіцьця і пачаў быстра засяляцца і экономічна расьці. Па нафце і медзі Захад высунуўся ўжо на бачнае месца. Асабліва быстра расьце Паўднёвы Захад. Горад *Лос-Анжэлос* ужо перагнаў сваім ростам старую гавань *Сан-Францыско.*

*Сельская гаспадарка.*

За выключэньнем сухаземнага захаду Злучаныя штаты—краіна ў вышэйшай ступені—хлебародная. Глеба надзвычайна ўрадлівая—чарназем і жоўтазем; лета гарачае і вільготнае. Паўночная палоса паміж 49 і 45 градусамі дае надзвычайна многа пшаніцы (так званы пшанічны пас). На поўдзень ідзе маісавы пас, які дае яшчэ большы лік кукурузы. Трэцяя выдатная культура—авёс, які сеецца пераважна на паўночным усходзе. Пад гэтыя тры культуры займаецца такая-ж плошча, як і пад збожжавыя культуры СССР—каля 90 млн. *га.*

У сувязі з тым, што ёсьць лішкі збожжа, у ПАЗШ разьвілася буйная харчовая прамысловасьць, асабліва мукамольная ды мясная. Галоўным цэнтрам гэтай прамысловасьці зьяўляюцца гарады *Чыкаго*, *Мінэаполіс-Канзас.* Іх продуктовая біржа вызначае цэны на збожжа і мяса для ўсяго сьвету.

Буйных памераў дасягае таксама *гародніцтва і садоўніцтва,* а таксама загатоўка *гародніны і фруктаў* (фруктовых і гародніных консэрваў вырабляецца ў год больш як на 1 млрд. руб.).

Галоўныя тэхнічныя расьліны Злучаных штатаў—тутун і бавоўна. Злучаныя штаты даюць $^1/_3$ сусьветнага збору тутуну—больш за ўсю Эўропу ўцалку. „Баваўняны пас“ знаходзіцца на поўдні Злучаных штатаў і займае тут прасторы ўтрая больш за плошу Нямеччыны. Як па тутуну, так і па бавоўне Злучаныя штаты займаюць першае месца на зямной кулі. Сусьветнаму гандлю яны даюць $^2/_3$ патрэбнай яму бавоўны, але прадаюць толькі $^3/_5$ свайго збору, а $^2/_5$ пераапрацоўваюць у сябе, галоўным чынам, у прамысловых паўночна-ўсходніх штатах.

Асаблівасьцю амэрыканскае сельскае гаспадаркі зьяўляецца яе капіталістычны характар і машынізацыя, даведзеная до высокай ступені. Усё робіцца машынамі,—трактарамі, камбайнамі і іншымі сель-

ска-гаспадарчымі машынамі. Збожжа абмалочваецца і ачышчаецца тут-жа на полі, пасьля на аўтамабілях адвозіцца на элеватар у бліжэйшы горад, або чыгукачную станцыю. Рабочых рук вельмі мала, каб асіліць вялізарныя прасторы палёў, лясоў, здабываньне карысных выкапнёвых багацьцяў і пераапрацоўку сырцу.

У Злучаных штатах пануюць сярэднія фэрмэрскія гаспадаркі. Разьмер фэрмаў перашкаджае машынізацыі. У нашых саўгасах-волатах, а таксама і ў буйных колгасах яна можа быць праведзена значна лепей. Больш дробныя па зямельнай плошчы фэрмы (фэрмамі тут завуць усе сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы) існуюць на паўночным усходзе. Тут дрэнная глеба і даволі суровы клімат, зернавое земляробства тут нявыгадна; шмат фэрмаў было зусім закінута, застаўшыяся прыстасаваліся да попыту гарадзкога рынку (малако, гародніна і г. д.).




Мал. 2. Бавая́ныя вобласьці і выва́з бавоўны.

Таксама, як земляробства, машынізавана і апрацоўка прадуктаў жывёлагадоўлі. На мясных фабрыках земляробчай паласы пераапрацоўваюцца ў год звыш 60 млн. галоў буйнае рагатае жывёлы, цялят, сьвіньняў і авец. Атрыманае тут мяса, часткова ў замарожаным выглядзе, часткова перагворанае ў кансэрвы, вяндліну і копчанае сала, каўбасы і г. д., прадаецца на мільёны рублёў і ўнутры краіны і вывозіцца за мяжу. Асабліва багаты Злучаныя штаты сьвіньнямі (першае месца на зямлі) і буйнай рагатай жывёлай (другое месца, на першым—Індыя).

Амэрыканскія лясы вялікія, але яны драпежніцкі зьнішчаюцца. Такія-ж драпежніцкія адносіны наглядаюцца ў Злучаных штатах і да іншых прыродных багацьцяў, якія зьнішчаюцца бяз клопату аб будучых пакаленьнях, і да глебы, якая ў параўнаньні з краінамі Заходняй Эўропы мала ўгнойваюцца, а таксама да выкапнёвых багацьцяў.

*Выкапні.*

Выкапнёвыя багацьці Злучаных штатаў рознастайныя і вялікія. Злучаныя штаты займаюць першае месца па здабычы *жалеза і сталі, каменнага вугалю* і *нафты*, а таксама *медзі*, якая зьяўляецца пераважна амэрыканскім мэталем, *сьвінца* і *алюмінія*. Па здабычы *золата* Злучаныя штаты ўступаюць толькі Паўднёвай Афрыцы і Аўстраліі, па здабычы *срэбра*—аднэй Мэксыцы.

*Індустрыя.*

Найбольшая частка насельніцтва Злучаных штатаў занята цяпер ня ў сельскай гаспадарцы, а ў прамысловасьці, транспорце і гандлі. Паводле свайго профэсіянальнага складу насельніцтва ў 1920 годзе




Мал. 3.

падзялялася так: у сельскай гаспадарцы—26,3 проц., у здабычы руды—2,6 проц., на фабрыках і заводах—30,8 проц., у транспарце—7,4 проц., у адміністрацыі і канторах—7,5 проц., хатняя прыслуга і асабістыя паслугі—8,2 проц.

Прамысловасьць пачала быстра разьвівацца ў Амэрыцы з другой паловы XIX ст. Да яе паслуг было вялікае багацьце сыравіны (Амэрыка перапрацоўвае пераважна ўласную, а ня прывозную сыравіну) такое-ж самае багацьцё крыніцамі энэргіі (вугаль, нафта, водная энэргія).

вялізарны прыток рабочых з Эўропы, густая сетка чыгунак і вадзяных шляхоў. Быстры рост прамысловага капіталізму палягчаўся тым, што ў Амэрыцы, за выключэньнем толькі прыгоньніцкага поўдня, яму не даводзілася змагацца, як у Эўропе, з перажыткамі фэўдалізму, які перашкаджаў разьвіцьцю прамысловасьці. Ня было і цяжкае спадчыны ад мінулага ў выглядзе тэхнічна адсталага старога абсталяваньня, якое затрымлівала разьвіцьцё прамысловасьці ў Англіі.

Да сусьветнай вайны, ня гледзячы на гіганцкі рост свае прамысловасьці, Злучаныя штаты ў вывазе сваіх вырабаў уступалі Англіі і Нямеччыне; цяпер яны маюць перавагу над Англіяй і Нямеччынай, але ўступаюць усёй Эўропе ўцалку. Трэба памятаць, што Злучаныя штаты сваімі памерамі роўны контынэнту Эўропы, таму рабіць параўнаньні правільней не з асобнымі дзяржавамі, а з цэлым контынэнтам.




Мал. 4. Продукцыя прамысловасьці буйнейшых гарадоў Злучаных штатаў.

У прамысловасьці занята ў Злучаных штатах звыш 12 млн. чал. Найбольш буйнымі галінамі прамысловасьці зьяўляюцца тыя, якія перапрацоўваюць выкапнёвыя багацьці і сельска-гаспадарчую сыравіну,—*мэталяапрацоўчая, тэкстыльная, выраб адзеньня і абутку, харчовая і дрэваапрацоўчая.*

Мэталёвая прамысловасьць грунтуецца пераважна на паўночным ўсходзе (Новая Англія і Сярэдняатлянтычныя штаты), дзе маюцца багатыя запасы мінэральнага паліва, і куды па танных вадзяных шляхох дастаўляюцца руды з берагоў Верхняга возера. Тут жа ёсьць і іншыя падставы для індустрыялізацыі: прыморскае палажэньне, кадры кваліфікаванай рабочай сілы ня толькі мясцовай, але і прышлай.

У мэталёапрацоўчай прамысловасьці асабліва выдзяляецца паравоза і машынабудаўніцтва, выраб сельска-гаспадарчых машын, электрычная прамысловасьць, аўтомобільная справа (у Злучаных штатах налічваецца 25 млн. аўтомобіляў,—адзін на 5 чал.).

У тэкстыльнай прамысловасьці Злучаныя штаты высунуліся на першае месца па пераапрацоўцы бавоўны: яны пераапра-

цоўваюць яе ў два разы больш, чымся Англія. Быстра высунуліся яны на першае месца таксама па шаўковай вытворчасьці (2/3 сусьветнага вырабу шоўку) і па вырабу штучнага валакна.

У харчовай прамысловасьці, разьвітай галоўным чынам у цэнтральных земляробчых штатах і паўднёвых садоўніцкіх, буйнейшых памераў дасягае выраб мукі і пячэньняў, а таксама тутуню; вельмі пашырана таксама вытворчасьць цукру і розных консэрваў (фруктовых, гароднінных, мясных і рыбных), мясного і каўбаснага тавару. Вялікіх памераў дасягае выраб абутку і рукавіц. Першае месца займаюць Злучаныя штаты па пераапрацоўцы жывёльных і расьлінных тлушчаў і маслаў.

*Трэсты.*

Разам з вялізарным ростам прамысловасьці ішлі канцэнтрацыя капіталу і разьвіцьцё капіталістычных монополій, г. зн. аб'яднаньне вялізарных капіталаў у руках саюзаў прамыслоўцаў-трэстаў. Капіталы трэстаў лічацца мільярдамі доляраў. У руках 9 проц. насельніцтва Злучаных штатаў сконцэнтравана больш 70 проц. усяго народнага багацьця, ацэненага ў 1923 г. у 230 млрд. доляраў. Трэстуецца ўсё, ня толькі прамысловасьць, але і банкі, чыгункі, флёт, тэлеграф, тэлефон, гарадзкое асьвятленьне, тэатры, выдавецтвы падручнікаў, часопісаў і газэт, нават дробны гандаль. Найбольш магутныя трэсты, якія яднаюць ад 70 да 80 проц. вытворчасьці і гандлю адпаведнай галіны,—гэта стальны, нафтавы, медзяны, мясны, цукровы, тутунёвы, фруктовы, скураны, мукамольны, трэст па вырабу жняярак.

Трэсты ня толькі падпарадкавалі сабе ўсё жыцьцё Злучаных штатаў і зрабіліся сапраўдным уладаром стомільённага насельніцтва, але яны накіроўваюць і ўсю замежную політыку.

Інтарэсамі організаванага ў трэсты буйнога капіталу была прадыктавана і вайна з Гішпаніяй у 1898 г., якая аддала ў рукі Злучаных штатаў апошнія рэшткі колёніяльных уладаньняў Гішпаніі ў выглядзе вострава Кубы (у Вест-Індыі) і Філіпінскіх астравоў (ля паўднёва-усходніх берагоў Азіі). Не бяз удзелу нафтавага трэсту пачаліся ў 1915 г. у Мэксыцы нясупынныя хваляваньні.

*Транспорт і замежны гандаль.*

Злучаныя штаты раскінуліся на вялікіх прасторах з поўначы на поўдзень і з усходу на захад. Асобныя часткі іх вызначаюцца вялікай рознастайнасьцю прыродных умоў. У выніку гэтага зьяўляецца надта шмат галін прамысловасьці ў асобных штатах [1]). Паміж апошнімі

---

[1]) Паводле характару гаспадаркі Злучаныя штаты можна падзяліць на пяць ужо зазначаных вобласьцяй, пры чым некаторыя з іх падзяляюцца яшчэ на раёны (разам 9). Вобласьці і раёны гэтыя наступныя:

I. Паўночны ўсход (раёны I—Новая Англія і II—Сярэдня-атлянтычны). Гэта найбольш індустрыял. частка Злучаных штатаў.

наладзілася надзвычайна добрая сувязь па водных шляхох і чыгунках, продукты лёгка могуць быць перавезены на вялікія адлегласьці. Гэта дало магчымасьць асобным раёнам спэцыялізавацца ў пэўных галінах вытворчасьці, і гэта-ж прывяло да буйнога разьвіцьця ўнутранага гандлю, які ў 10 раз перавышае замежны. У 1919 г. кошт продукцыі сельскай гаспадаркі складаў $28^1/_2$ млрд. доляраў, а фабрычнай прамысловасьці—$62^1/_2$ млрд., разам 91 млрд. доляраў.

Вывезена было тавараў толькі на 7 млрд., а ўся рэшта спажыта ўнутры краіны.

Замежны гандаль дасягнуў асабліва буйных памераў у часы вайны і ў часы, якія непасрэда ішлі пасьля вайны. Пазьней замежны гандаль значна зьменшыўся.

Вывозяцца як сельска-гаспадарчыя і выкапнёвая сыравіна, так і продукты яе апрацоўкі: збожжа і мука, мяса, бавоўна, тутун, нафтамэталі, асабліва жалеза і сталь, а таксама вырабы шарсьцяныя, баваўняныя і шоўкавыя тканіны; машыны і мэталёвыя вырабы.

Галоўныя прадметы прывозу—коленіяльныя продукты (цукер, кава, чай), тропічныя плады, асабліва бананы, шоўк-сырэц, воўна, скуры і вырабы, асабліва прадметы раскошы.

Больш паловы ($^3/_5$ прывозу і $^2/_5$ вывазу) ідзе праз галоўную гавань краіны—Нью-Ёрк. Грузазваротам ён выперадзіў Лёндон (як выперадзіў і лікам насельніцтва).

У сувязі з ростам гандлю за час вайны шпарка вырас і флёт Злучаных штатаў: да вайны ён складаў менш $^1/_{10}$ сусьветнага флёту, цяпер—больш $^1/_4$ (27%).

### *Таварапамен з СССР.*

Злучаныя штаты мала купляюць у СССР (галоўны тавар, што купляюць Злучаныя штаты ў СССР—марганцавая руда), але досыць многа прадаюць Саюзу. У вывазе ў СССР яны займаюць другое (пасьля Нямеччыны) месца.

Галоўны з тавараў, які купляецца Саюзам у Злучаных штатах,—гэта бавоўна-сырэц (у 1926-27 г. куплена ўсяго на 143 млн. руб.,

---

II. Цэнтр (III раён—Паўночна-Ўсходні цэнтр і IV—Паўночна-захадні цэнтр)-аграрна-індустрыяльная вобласьць.

III. Поўдзень (раёны V, VI і VII-Паўднёва-атлянтычныя штаты, Паўднёва-ўсходні і Паўднёва-заходні цэнтры)—баваўняная пераважна вобласьць. Ва ўсходняй частцы пачынаюць шпарка разьвівацца тэкстыльная і жалезаапрацоўчая прамысловасьць.

IV. Захад (VIII раён—Горны)—вобласьць горназаводзкай прамысловасьці і экстэнсыўнае жывёлагадоўлі.

V. Ціхаакіянскае ўзьбярэжжа (IX—Ціхаакіянскі раён)—вобласьць гадоўлі лесу і лясное прамысловасьці, садоўніцтва і горнае справы.

у тым ліку бавоўны на 95 млн., машын розных і частак да іх на $19^{1}/_{2}$ млн., каляровых мэталяў на 1 млн., скур на 2 млн. руб. у 1927-28 г. куплена на 181,5 млн. руб.).




Мал. 5. Зьнешні гандаль ПАЗШ (па контынгэнтах і катэгорыях тавараў).

### *Гарады.*

Рост прамысловасьці і гандлю адбіўся і на абліччы паселішчаў. Цяпер пераважае гарадзкое насельніцтва. У адных буйных гарадох (звыш 100 тыс. насельніцтва ў кожным; іх каля 70) жыве звыш $^{1}/_{4}$ насельніцтва Злучаных штатаў. 25 гарадоў маюць звыш 250 тыс. кожны, у тым ліку *Нью-Ёрк*—$5^{1}/_{4}$ млн. (з прыгарадамі—звыш 8 млн.), *Чыкаго*—3 мільёны, *Філядэльфія*—1.800 тыс. (з прыгарадамі—2.400 тыс.). Разам з прыгарадамі звыш мільёна кожны маюць яшчэ гарады: *Бостон*—(з прыгарадамі—каля 1.800 тыс.), *Пітсбург і Дэтройт.* Больш за ўсё буйных гарадоў на паўночным усходзе Злучаных штатаў, найбольш прамысловай і гандлёвай частцы краіны і на паўднёвым беразе Вялікіх азёр, дзе выгодна злучаюцца жалезная і медная руда з Заходніх берагоў Верхняга возера і каменны вугаль з Паўночнай часткі Апалачай.

У выніку вялікай дарагоўлі зямлі ў цэнтральных частках гарадоў будынкі надзвычайна растуць уверх. У „небаскробах"—па некалькі дзесяткаў паверхаў: даўжыня канатаў пад'ёмных машын, што абслугоўваюць розныя паверхі, мераецца кілёмэтрамі. Рух не зьмяшчаецца на вуліцах, значная частка яго пераносіцца пад зямлю на падземныя чыгункі. Між іншым тое-ж самае наглядаецца і ў буйнейшых эўропэйскіх гарадох, асабліва ў Лёндоне і Парыжы.

### *Дзяржаўны лад.*

Па сваёй констытуцыі Злучаныя штаты—саюз самастойных дзяржаў, якімі зьяўляюцца асобныя штаты. У саюзе—48 штатаў і адна сталічная акруга—Колюмбія з горадам *Вашынгтонам.* Кожны

з штатаў карыстаецца поўным самакіраваньнем у сваіх справах, мае свой асобны парлямант і асобную адміністрацыю. Справамі, якія датычаць усіх штатаў, кіруе саюзны парлямант (конгрэс). На чале Злучаных штатаў—прэзыдэнт, які выбіраецца на чатыры гады. З знадворнага боку— народакіраўніцтва, сапраўды-ж усімі справамі кіруе кучка капіталістаў, якія падкупляюць і ў парляманцце і ў гарадзкіх кіраўніцтвах усіх, хто ім патрэбен, а цераз газэты, якія на $^9/_{10}$ знаходзяцца ў руках трэставанага капіталу, „апрацоўваюць“ грамадзкую думку.

*Імпэрыялізм.*

Буйны капітал зьяўляецца галоўным натхніцелем імпэрыялістычнай політыкі Злучаных штатаў. Пакуль амэрыканскі імпэрыялізм накірованы галоўным чынам на захоп паўднёвых частак Амэрыкі, Злучаныя штаты адабралі ўжо каля паловы старой тэрыторыі Мэксыкі, захапілі рад астравоў, якія акаляюць *Караібскае мора і Мэксыканскую затоку*, падпарадкавалі сабе (яны кажуць: „прынялі пад сваю абарону“) нэгрыцянскую і мулацкую рэспублікі на востраве *Гаіці* і рэспубліку Куба, распараджаюцца, як на сваіх землях, у рэспубліках Цэнтральнай Амерыкі і ў рэспубліцы Панаме, праз землі якой правялі Панамскі канал. Канал гэты злучае Вялікі і Атлянтычны акіяны, мае вялізарнейшае значэньне для гандлю і для ваеннай магутнасьці Злучаных штатаў. Калі трэба, яны могуць перакінуць праз гэты канал свой флёт з аднаго акіяну ў другі. Разам з гэтым канал вельмі палягчае гандлёвыя зносіны прамысловага паўночнага ўсходу ПАЗШ з паўднёва-амэрыканскімі рэспублікамі на беразе Ціхага акіяну. Большая частка гэтых рэспублік, як і рэспублік Цэнтральнай Амэрыкі, у нявыплатным даўгу ў Злучаных штатаў. Скарыстаўшы фінансавыя цяжкасьці краін Згоды, якія разарыліся ў часе вайны, Злучаныя штаты шырока адчынілі ім крэдыт і зрабілі іх таксама сваімі даўжнікамі. Дзякуючы гэтаму яны набылі магчымасьць дамагацца пажаданых ім рашэньняў і ў эўропэйскіх справах.

*Крызіс у Злучаных штатах і абвастрэньне клясавых супярэчнасьцяй.*

Сваім экономічным „росквітам“ у параўнаньні з Заходняй Эўропай Злучаныя штаты былі абавязаны злучэньню раду выключна спрыяючых умоў, а іменна—наяўнасьці вольных зямель з цалінай і багатымі непачатымі нетрамі, адсутнасьці дакапіталістычных перажыткаў, мытных перагародак і войнаў, прытоку высокакваліфікаванай рабочай сілы. Галоўная з гэтых умоў—вольная зямля,—зараз ужо выкарыстана; далейшае разьвіцьцё прыходзіцца засноўваць на прамысловасьці, а для яе патрэбен замежны рынак і па лініі забесьпячэньня нехапаючай сыравінай і па лініі збыту. Даводзіцца ўключацца ў агульна-сусьветную сыстэму, залежаць ад замежнай коньюнктуры, прымаць цяжар

выдаткаў па мілітарызму і марынізму і рыскаваць па дагаварох з іншымі дзяржавамі,—адным словам—упрэгчыся ў ярмо, даўно знаёмае ўсім імпэрыялістычным дзяржавам Заходняе Эўропы. У той самы час неабходна несьці цяжар „нявытворчых выдаткаў" загніваючага капіталізму, якія даюць сябе адчуваць у Злучаных штатах, як нідзе ў Эўропе.

Страціўшы сваё „асобнае" палажэньне, Злучаныя штаты страцілі і ўласьцівыя гэтаму палажэньню прывілеі. Крызіс, які разыграўся ў 1929 г. у Злучаных штатах і які яшчэ бушуе там, паклаў канец казкам ідэолёгаў амэрыканскай буржуазіі пра выключныя ўмовы Злучаных штатаў, якія нібы забясьпечваюць на адвечныя часы мірнае сужыцьцё працы і капіталу і робяць магчымым вырашэньне ўсіх соцыяльных проблем у рамках капіталізму.

Разьвіцьцё крызісу рэзка рэволюцыянізуе амэрыканскі пролетарыят і павялічвае ўплыў комуністычнае партыі. Яна яшчэ нешматлікая, але ўжо досыць моцная па свайму ўплыву; па яе закліку 6 сакавіка і 1 мая 1930 г. на вуліцах буйных гарадоў Амэрыкі дэмонстравала пад лёзунгамі компартыі звыш 1 млн. рабочых. Прамысловы крызіс такім парадкам дае моцны штуршок да разгортваньня рэволюцыйнай барацьбы пролетарыяту.

Ня менш цяжкі і значна больш зацяжны крызіс перажывае цяпер і сельская гаспадарка ПАЗШ. Тэхнічныя палепшаньні ва ўмовах капіталізму ідуць на карысьць толькі больш буйным гаспадаркам. Дробныя фэрмэры, зажатыя ў ціскі зямельным банкамі, чыгуначнымі кампаніямі і хлебагандлёвымі організацыямі, якія ўладаюць усёй сеткай элеватараў, масамі разбураюцца і ператвараюцца ў батракоў, ці бягуць у гарады, павялічваючы сабою армію беспрацоўных.

Засуха 1930 г. павінна яшчэ больш абвастрыць крызіс сельскае гаспадаркі ПАЗШ. Абодвы крызісы — сельска-гаспадарчы і прамысловы—будуць падганяць адзін аднаго. Значная частка разбуранага фэрмэрства павінна будзе адстаць ад дробнабуржуазнай ідэолёгіі і далучыцца да рэволюцыйнай барацьбы рабочае клясы.

## ЯПОНІЯ

**Без колёній—385 тыс. км, з 60 млн. насельніцтва. Колёніі (Паўднёвы Сахалін, Корэя, Квантуні, фактычнае ўладаньне ў Паўднёвай Манчжурыі, Формоза, рад дробных выстраваў)—звыш 300 тыс. км, з 20 млн. насельніцтва. Разам каля 700 тыс. км, з 80 млн. насельніцтва.**

### *Характарыстыка.*

Да апошняга часу, яшчэ ў сярэдзіне прайшоўшага стагодзьдзя, Японія была замкнутай, выключна земляробскай краінай з фэўдальным парадкам, які захаваўся з даўніх часоў. Зараз гэта дзяржава сусьветнага значэньня з вялікім замежным гандлем, буйным морскім флётам, з быстра растучай прамысловасьцю. За якія-небудзь 50 гадоў, што

прайшлі з часу рэволюцыі 1868 году, Японія прарабіла тую эволюцыю, на якую ў эўропэйцаў пайшлі цэлыя стагодзьдзі. Аднак, у палітычным парадку Японіі захавалася яшчэ шмат „старорежимных" рысаў. Конституцыя—„куцая": без адказнасьці міністраў перад парлямантам, без агульнага выбарчага права, з царом „божаю міласьцю". Улада падзелена між буржуазіяй і былымі фэўдаламі ў асобе вайскоўцаў і бюрократыі. У сувязі з гэтым у Японіі асабліва моцны дзяржаўны капіталізм, казённых прадпрыемстваў вельмі многа.

### *Палажэньне.*

Японія—астраўная дзяржава, распаложана на трох дугах вульканічных астравоў: 1) *Курыльскія астравы* ад паўвострава Камчаткі да вострава *Іезо* (замыкае Ахоцкае мора); 2) *Паўднёвы-Сахалін* (па японску Карафута) *Іезо, Нiпон, або Гондо, Сікок, Кіу-Сіу* (абкружаюць Японскае мора) і 3) астравы *Рыу-Кіу* і *Формоза* (абкружаюць Усходня-Кітайскае мора).

У адносінах да Азіі Японія займае на Вялікім акіяне такое-ж палажэньне, як Англія ў адносінах да Эўропы на Антлянтычным акіяне. Берагі яе таксама зрэзаны, як і берагі Англіі. Але супроць берагоў Англіі ляжаць больш разьвітыя ў прамысловых і гандлёвых адносінах дзяржавы, як супроць берагоў Японіі. Шлях у Амэрыку з Японіі ўдвая даўжэйшы як з Англіі.

### *Прырода.*

Японскія астравы ляжаць больш на поўдзень ад Англіі—ад 50 да 22 градуса пн. ш., але паўночныя астравы паміж 50 і 40 градусамі (Курыльскія Сахалін і Іезо), хоць і знаходзяцца на 10 градусаў паўднёвей Англіі, маюць значна халаднейшы клімат, і ўзімку тут бываюць досыць вялікія маразы. Берагі Англіі *саграваюцца* цёплым цячэньнем Гольфштрэма, берагі паўночных Японскіх астравоў *ахаладжваюцца* халодным цячэньнем (Ойя-Шыво), якое ідзе з поўночнага полярнага мора. Да паўднёвых астравоў падыходзіць цёплае цячэньне Кура-Шыво, але пасьля яно адганяецца ветрам да берагоў Амэрыкі. У больш паўднёвых гарадох—*Токіо, Нагасакі*—зімы мяккія, але ў студзені цяпла бывае толькі ад двух да пяці градусаў. Толькі Формоза мае зусім тропічны клімат. Тут растуць бананы, пальмы, камфоравае дрэва, у той час як на Сахаліне і востраве Іезо—хвоя, ліственіца, бяроза.

Лета ў Японіі ўсюды цёплае, дажджоў бывае разоў у тры больш як у Маскоўскай губэрні, таму расьліннасьць пры тэй рознастайнасьці, якая пануе на розных астравох, скрозь надзвычайна добрая. Вялікая рознастайнасьць расьліннасьці—адна з асаблівасьцяй Японскіх астравоў. Побач сустракаецца расьліннасьць, якая звычайна прыстасавана да розных кліматычных пасаў: на ўзвышшах, якія знаходзяцца вакол рысавых палёў, растуць хвоі.

Living text:

Рознастайны таксама і жывёльны сьвет. Садавіна вадзяністая, садоўніцтва таму не пашырана, але за тое надзвычайнай прыгожасьці дасягаюць кветкі. Японцы—гэта сапраўдныя артысты квятнярства: у Японіі ня горш пастаўлена справа квятнярства, як у першай кветаводнай краіне Эўропы—Голяндыі.

Астравы гарыстыя, толькі восьмая частка астравоў раўніна. Горы часткаю не пакрыты лесам, а часткаю пакрыты. Лясы і кусткі ў Японіі займаюць 60 проц.; 40 проц.—*пад ворнай зямлёю і гародамі*. Вульканічныя выбухі досыць частыя. Яшчэ часьцей і небясьпечней землятрасеньні: яны звычайна адбываюцца разам з моратрасеньнямі, г. зн. наступленьнямі мора на сухазем'е. Пры гэтым гінуць іншы раз сотні тысяч насельніцтва. Адно з самых жудасных землятрасеньняў—1923 г.—разбурыла рад гарадоў, у тым ліку і значную частку сталіцы Токіо.

У кратэрах вульканаў (што патухлі або проста ня дзейнічаюць) зьбіраецца серка; з шчылін, што стварыліся ў часе гораўтварэньняў, выступае нафта. Яе здабываюць досыць многа ў Японіі. Шмат здабываецца і каменнага вугалю. Але для прамысловасьці ўласнае здабычы не хапае. Недахват пакрываецца прывозам са Злучаных штатаў. Досыць многа медзі, жалеза мала.

### *Насельніцтва.*

Астравы, асабліва паўднёвыя, перанаселены; насельніцтва ўжо ня зьмяшчаецца ў Японіі, высяляецца на контынэнт Азіі і на астравы Вялікага акіяну (на Гавайскіх астравох японцы складаюць звыш палловы насельніцтва), у сярэднім у Японіі 145 чал. на 1 *км*, у больш багатых правінцыях—звыш 300.

Як і ў Кітаі, насельніцтва пераважна сельскае, але гарадзкое жыцьцё ў Японіі больш пашырана, як у Кітаі. Т о к і о мае 2 млн. насельніцтва. Буйнейшы фабрычны цэнтр—О с а к а—звыш 2 млн.

Разбураны землятрасеньнем 1923 г. порт І ё к а г а м а гадоў 70 назад быў звычайным рыбацкім пасёлкам. К пачатку XX ст. ён быў абсталяваны паводле апошняга слова сучаснай тэхнікі, падтрымлівае цясьнейшыя зносіны з Амэрыкай, мае 450 тыс. насельніцтва. Два другія парты—Н а г о я (770 тыс.) і К о б э (640 тыс.)—населены яшчэ больш; порт Н а г а с а к і—275 тыс.; даўнейшая сталіца—К і о т о—680 тыс. Толькі некаторыя Японскі гарады захавалі сваё даўнейшае аблічча, большасьць выглядае па-эўропэйску. Усюды ў вялікіх гарадох—электрычныя трамваі і электрычнае асьвятленьне, тэлефоны і тэлеграф.

### *Сельская гаспадарка.*

Асноўны промысел Японіі *землеробства*, ім займаюцца 60 проц. насельніцтва. Глеба надта ўрадлівая. Японцы угнойваюць яе тукамі з галоў і адкідаў рыбы, вядуць таксама градкавую культуру, як

і кітайцы і (асабліва на поўдні) зьбіраюць ураджаі два-тры разы на год. Тры пятых палёў—пад *рысам*; рыс—надзвычайна добрай якасьці, зьбіраюць яго да 10 млн. тон у год, але яго не хапае для пракармленьня густога несельніцтва і прыходзіцца яшчэ прывозіць. Апрача рысу японцы шмат сеюць *ячменю, пшана, кукурузы, пшаніцы, бабовых расьлін*.

На схілах гор паўднёвай часткі *Нiпону* і на двух паўднёвых астравох шырока разьвіта культура *чайнага і тутавага* дрэва. Па збору *чаю і шаўкоўніцтву* Японія выперадзіла ўжо Кітай. Сеюць таксама *тутун, лякавае і воскавае дрэва, бавоўну, каноплі, цукровы чарот*, на востраве Фармоза—*канфоравае дрэва*.

У народнае харчаваньне ў вялікай колькасьці ўваходзіць *рыба*; рыбацтвам занята звыш 2 млн. чалавек. Жывёлагадоўля пашырана мала, але ўсё-ж больш, чымся ў Кітаі.

### *Індустрыя.*

У апрацоўчай прамысловасьці пераважаюць рамесьніцтва і саматужная вытворчасьць (шаўковыя і баваўняныя тканіны, парцалянавыя, фаянсавыя, папяровыя і лякавыя вырабы). Шпарка расьце *фабрычная прамысловасьць*. Да яе Японія пачала пераходзіць з 70-х гадоў мінулага стагодзьдзя. У процілегласьць Кітаю, дзе спачатку фабрыкі будаваліся толькі чужаземцамі, японскія фабрыкі пабудованы японскім капіталам і кіруюцца японскімі інжынэрамі. Спачатку яны атрымлівалі падрыхтоўку за граніцай, цяпер—у сваіх вышэйшых тэхнічных школах. Найбольш буйнага разьвіцьця дасягнула *баваўняная прамысловасьць*, (Японія пераапрацоўвае бавоўны ўдвая больш за Францыю); амаль таксама разьвіта і *шаўковая прамысловасьць*, па якой Японія займае першае месца ў сьвеце. Шмат *папяровых* фабрык і *кафэльна-плітачных* заводаў, пачынае разьвівацца *мэталюргічная* прамысловасьць. Японцы ўжо самі будуюць неабходныя для іх гандлёвыя і вайсковыя судны, лёкомотывы, вагоны, робяць рэйкі, тэлефоны, тэлеграфны дрот і апараты.

Імпэрыялістычная вайна паскорыла рост японскай прамысловасьці. Асабліва разьвіліся тэкстыльная прамысловасьць і суднабудаўніцтва, а таксама выраб фарбаў у выніку таго, што перасталі прывозіцца нямецкія фарбы.

Японія быстра індустрыялізуецца. Процант сельска-гаспадарчага насельніцтва за час ад 1913 г. да 1929 г. зьнізіўся з 54 да 45. У вывазе першае месца занялі вырабы і паўфабрыкаты, ва ўвозе ўсё больш павялічваецца ўдзельная вага прадуктаў і сыравіны. У прамысловасьці, гандлі і зносінах адбываецца характэрнае для імпэрыялістычнай стадыі капіталізму зрастаньне банкавага капіталу з прамысловым і зьліцьцё ў буйныя аб'яднаньні банкаў, прамысловых, гандлёвых і транспартных прадпрыемстваў.

Як і ўсе індустрыяльныя дзяржавы, Японія з канца 1929 г. увашла ў паласу цяжкага экономічнага крызісу. Паводле вестак біржы працы ў Токіо, беспрацоўя ў Японіі ў пачатку 1930 году ахапіла 1 мільён чалавек; потым гэтая лічба паднялася яшчэ вышэй (паводле вестак буржуазнае прэсы да 1.700 тыс.).

Як гандлёвая астраўная дзяржава, Японія зьвярнула асаблівую ўвагу на разьвіцьцё свайго флёту. Па яго зьмяшчальнасьці яна высунулася цяпер ужо на трэцяе месца, пасьля Англіі і Злучаных штатаў; з 1914 па 1925 г. зьмяшчальнасьць японскага флёту павялічылася ў $2^1/_2$ разы. Яшчэ больш (у тры разы супроць 1913 г.,) вырас к 1924 г. зварот замежнага гандлю Японіі.

У вывазе найбольшае значэньне мае *шоўк* (да 40%), які накіроўваецца галоўным чынам у Паўн. Ам. Зл. Шт., а таксама танныя *тэкстыльныя вырабы* (звыш 20%), якія збываюцца ў Кітаі і іншых краінах паўднёва-ўсходняй Азіі. У прывозе першае мейсца займае *бавоўна* (каля 30%), якая прывозіцца з Паўн. Ам. Зл. Шт., а часткова з Кітаю і Індыі, пасьля гэтага ідуць *харчовыя рэчы* (рыс, бабы, пшаніца, цукер, рыба), *вугаль, нафта, жалеза, жалезныя вырабы і лясныя матэрыялы.*

Галоўнымі ўдзельнікамі гандлю з Японіяй зьяўляюцца Злучаныя штаты, Брытанская імпэрыя (куды ўваходзіць і Гонконг) і Кітай. Гандаль з СССР пакуль што нязначны, але мае вялікія магчымасьці для разьвіцьця. Галоўнымі прадметамі вывазу з СССР у Японію зьяўляюцца лясныя матэрыялы, рыба і вугаль.

Шпаркі рост прамысловасьці выклікаў патрэбу ў рынках для продажу сваіх вырабаў і для забясьпечанасьці сыравінаю. Японія адчувае вострую патрэбу ў вугалі, жалезе і ў нафце. Хуткае павялічэньне насельніцтва выклікае патрэбу ў новых землях дзеля засяленьня і дзеля атрыманьня харчовых прадуктаў, асабліва расьлінных. Перанаселенасьць у Японіі вельмі вялікая; „рысавыя" непарадкі ўсё пачашчаюцца. У такіх умовах захопніцкая політыка мае шмат шансаў на папулярнасьць.

Японія пачала захапляць і астравы (паўднёвая частка Сахаліну, Формоза ды інш.) і землі на контынэнце Азіі—Корэю, Паўднёвую Манчжурыю, Квантунг з Порт-Артурам і Дальнім[1]), Шантунг, ад якога адмовілася толькі на словах. Сахалін цэніцца японцамі асабліва за яго рыбныя багацьці. Корэя зрабілася важным дастаўнікам збожжа для Японіі. Дзякуючы паляпшэньню апрацоўкі палёў, Корэя стала даваць вельмі шмат пшаніцы і рысу. Пашыраюцца шаўкоўніцтва і здабываньне бавоўны. Манчжурыя лічыцца за Кітаем, але сапраўды там гаспадараць японцы. Краіна зьяўляецца ў вышэйшай ступені цэннай для іх дзеля таго, што тут шмат здабываецца бабоў (соі), пшаніцы, кукурузы, рысу.

---

[1]) Зараз гэтыя гарады завуцца Рыо-Джунка і Дайрэн.

Японцы імкнуцца заняць пануючае становішча на Вялікім акіяне. Сваю ранейшую позыцыю—доўгія дугі азіяцкіх астравоў—яны ўзмацнілі, атрымаўшы асколкі нямецкіх ціхаакіянскіх колёній: астравы Марыянскія, Каралінскія, Маршальскія ды інш. Асабліва важны для іх востраў Яп, да якога сходзіцца рад ціхаакіянскіх падводных кабэляў. Японцы старанна засяляюць колёнію Злучаных штатаў—Гавайскія астравы, дзе японцы складаюць ужо больш за палову насельніцтва. Рыхтуючыся да будучай сутычкі са Злучанамі штатамі за панаваньне на Вялікім акіяне, японцы стварылі буйныя вайсковыя сілы, асабліва морскія, пабудавалі вялікія арсэналы (Курэ, Іёкосука). Пакуль Японія—карлік у параўнаньні са Злучанымі штатамі, але яна расьце з надзвычайнай шпаркасьцю. Барацьба яе ў будучым са Злучанымі штатамі няўхільна.

## КІТАЙ

**Уласна Кітай з Манчжурыяй—6,4 млн. км$^2$, насельніцтва—каля 397 млн. Акраінныя, якія сталі самастойнымі краіны: Тыбэт—каля 2 млн. км$^2$, з насельніцтвам ад 2 да 6 млн. чалавек (дакладнага падліку няма), народная рэспубліка Монголія—каля 3 млн. км$^2$, з насельніцтвам ад 2 да 3 млн. чалавек.**

### *Характарыстыка.*

Уласна Кітай аддзелен ад Эўропэйскага сьвету вялізарнымі прасторамі пустынных і паўпустынных зямель Цэнтральнай Азіі. Гэтыя землі пакрыты то пяскамі, то каменем, то высокімі горамі з ледавікамі на вяршынях. Сярод іх ёсьць толькі невялікія вучасткі (у далінах), прыдатныя для аселага жыцьця і крыху большыя прасторы, зручныя для вандроўнай жывёлагадоўлі. Гэтыя землі заняты Тыбэтам і Монголіяй краінамі, далучанымі да Кітаю, але зараз зусім з імі ня зьвязанымі. Усё больш слабее таксама сувязь Кітаю з Манчжурыяй, якая мяжуецца з ім на поўначы. У Паўднёвай Манчжурыі цяпер гаспадараць японцы. Як Манчжурыя, так і асабліва Кітай—краіны пераважна землеробскія.

### *Палажэньне.*

Кітай разьмешчаны паміж 43° і 20° пн. ш., г. зн. у паласе мернага клімату на поўначы, падтропічнага на поўдні. Ён знаходзіцца ў паласе мусонных вятроў, узімку вецер дзьме з контынэнту, улетку з мора. Таму тут зімы бываюць вельмі халодныя і сухія, а ўлетку выпадае шмат ападкаў.

Моры, якія абкружаюць Кітай,—адкрытыя; па іх плаваць невялікім суднам небясьпечна, асабліва з прычыны частых гураганаў. Гэта перашкодзіла разьвіцьцю мараплаўства ў кітайцаў.

*Прырода і натуральныя вобласьці.*

Уся краіна цэлым радам уступаў зьніжаецца ад цэнтральных нагор'яў да Вялікага акіяну. Папярэчным хрыбтом яна падзяляецца на дзьве рознастайныя па прыродзе часткі: паўночную і паўднёвую.




Мал. 6.

Паўночны Кітай—больш раўнінная краіна. Значную частку яго займае нізіна, створаная наносамі рэчкі *Хуанхэ*. Рэчышча Хуанхэ заплывае наносамі і часта мяняе свой кірунак. Для суднаходзтва рака мала прыдатна. Адсутнасьць таннага рачнога шляху вельмі перашкодзіла разьвіцьцю гандлю і прамысловага жыцьця на поўначы. Паўночны Кітай часта называюць таксама *жоўтым* Кітаем, таму што паверхня яго пакрыта тоўстым пластам жоўтазему або лёэсу, які дае

вельмі ўрадлівую глебу. Асабліва тоўсты пласт (месцамі да 800 *м*) жоўтазему на ўсходзе. Гэта вобласьць збожжавых расьлін, асабліва, пшаніцы, кукурузы, пшана, а таксама садовіны і гародніны. Захад пакрыты невялікім пластам лёэсу і менш багаты на ападкі, таму стаў пераважна жывёлагадоўчай краінай. На захадзе—вялікія паклады вугалю. Яны эксплёатуюцца чужаземным капіталам.

Паўднёвы Кітай—гарысты і ўладае вялікімі горнымі багацьцямі—жалезам, медзьдзю, нафтаю і вугалём. Яго называюць чырвоным Кітаем, таму што прасторы паміж горнымі складкамі пакрыты чырвоназемам. Гэта вобласьць рысу, чаю, шаўковічнага дрэва і бавоўны. Апрацоўваюцца нізінныя прасторы, што ляжаць каля вадазбору рэк *Ян-Цзы-Цзяна і Сі-Цзяна* і тэрасы, разробленыя на горных схілах. Абедзьве рэкі зьяўляюцца важнымі суднаходнымі лініямі. У паўднёвым Кітае пачала разьвівацца апрацоўчая прамысловасьць (бавоўняная і шаўковая, мэталюргічная, пабудова суднаў, маслабойная і мукамольная вытворчасьці). На абедзьвюх рэках рад вялікіх гарадоў, у тым ліку тры гарады, якія маюць звыш 1 млн. насельніцтва кожны: *Ханькоу, Шанхай, Кантон.* Насельніцтва ў прыморскай паласе, асабліва каля дэльты Сі-Цзяна, вельмі густое (150—200 чалавек на 1 км $^2$. У дэльце ракі, каля Кантону, каля 100 тыч. чалавек жыве ў плывучых пасёлках, пабудаваных на вялікіх лодках.

Кітай—краіна ня сельска-гаспадарчая наогул, а іменна земляробская. Жывёлы, за выключэньнем сьвіней, невялікага ліку буйвалаў і мулаў амаль зусім няма. Земляробствам займаецца каля $^3/_4$ усяго насельніцтва, якое падзялілася на некалькі мільёнаў гаспадарак. У веданьні кожнай гаспадаркі невялічкі кавалачак зямлі, які ня можа быць адчужаны і перадаецца па спадчыне ад аднаго роду да другога на працягу цэлых тысяч год. Гэтыя кавалачкі ўскопваюцца рыдлёўкай, як грады, дасканала угнойваюцца (галоўным чынам „начным золатам"), пустазельле выполваецца, расьліны паліваюцца. Дзякуючы такой мурашчынай працы атрымліваецца *высокі ўраджай* у адносінах да плошчы, але, вядома, не ў адносінах да патрачанай працы. На поўдні разводзяць пераважна рыс, які дае два ўраджаі на год. На поўначы менш рысу, але ў дадатак да яго сеюць пшаніцу, кукурузу, гаолян, пшано, ячмень і бабовыя расьліны.

Збожжа зьбіраюць надзвычайна многа, але яго не хапае для кадта густога насельніцтва, а таму прыходзіцца ўвозіць досыць многа пшаніцы і асабліва рысу (з Індакітаю, што знаходзіцца на поўдзень ад Кітаю).

Увоз хлеба робіцца за кошт вывазу *шоўку, бабоў, расьліннага алею, бавоўны, чаю і волава.* Чайны куст—галоўная тэхнічная расьліна Кітаю, яго апрацоўкай заняты дзесяткі мільёнаў чалавек. Вялізарная колькасьць чаю спажываецца ў самой краіне (да 2 *кг* на год на аднаго чалавека; у Расіі да вайны прыпадала на аднаго чалавека каля 400 *г*; больш за Кітай спажывае толькі Англія і Аўстралія—па 3 *кг* на чалавека). Шмат вывозіцца чаю з Кітаю і за межы. Але ў апошні час

вываз яго зьменшыўся ў выніку зьмяншэньня вывазу ў СССР і конкурэнцыі японскага і цэйлёнскага чаю.

Як новую расьліну ў Кітаі пачалі сеяць бавоўну. Плошча пад ёй шпарка пашыраецца. Кітай заняў ужо трэцяе месца па бавоўне (пасьля Злучаных штатаў і Індыі). Вялікія прасторы засаджваюцца шаўкавічным дрэвам для разьвядзеньня шаўковічнага чарвяка. Шаўкоўніцтва з незапомных часоў было важным промыслам у Кітаі. Шоўк перапрацоўваўся аж да апошняга часу саматужным спосабам. Саматужная прамысловасьць і зараз займае значнае месца ў Кітаі. Кожная з 18 провінцый Кітаю спэцыялізавалася на якой-небудзь саматужнай вытворчасьці: тканьні, вырабе істужак, дываноў, саламяных пляценьняў, папяровых вырабаў, парцалянавых, мэталёвых, лякіраваных ды іншых. У гарадох саматужнікі выраблююць свае тавары на вачох спажыўцоў і тут-жа прадаюць.

## *Індустрыя. Гарады.*

На працягу тысячагодзьдзяў краіна займалася земляробствам, хатняй і саматужняй, а таксама рамесьніцкай вытворчасьцю. Але ў XIX ст., асабліва ў 80-х гадох, у краіну пачаў пранікаць са сваімі прадпрыемствамі сьпярша ангельскі капітал, а пасьля, французскі, японскі, нямецкі, амэрыканскі, расейскі. Краіна надзвычайна багата на каменны вугаль і жалезную руду, на харчовую і тэкстыльную сыравіну, а таксама багата вялізарнай колькасьцю танных рабочых рук. Усё гэта дапамагло шпаркаму посьпеху эўропэйскіх, амэрыканскіх і кітайскіх фабрычных прадпрыемстваў. Зараз у Кітаі да тысячы фабрык і заводаў, на якіх працуе ня менш аднаго мільёну рабочых. Асабліва віднае месца займаюць шаўковыя і бавоўняныя фабрыкі, мукамольныя і алейныя заводы, тутунёвыя фабрыкі; ёсьць ужо дзесяткі жалезаапрацоўчых і сталяліцейных заводаў, а таксама і заводаў, якія выраблююць электрычныя прылады. Галоўным чынам індустрыялізуецца Паўночны Кітай. Пра індустрыялізацыю сьведчыць і склад цяперашнага прывозу: важнае месца ў ім займаюць машыны, прывоз якіх бесьперапынна павялічваецца.

Хоць Кітай сельская краіна, але ў ім досыць шмат гарадоў; з іх 10 маюць звыш 500 тыс. насельніцтва кожны. У *Пэкіне* (зараз завецца Бэйпін) з прыгарадамі 1300 тыс. насельніцтва, а ў яго гавані *Т'ен-Дзіне*—800 тыс., у найбольшай гавані *Кітаю—Шанхаі* — 1½ млн. Звыш 1600 тыс. мае найбольш горад унутранага Кітаю (*Ханькоў*). *Учан* у Кантоне—1400 тыс. насельніцтва.

## *Барацьба за незалежнасьць.*

Прыгнечаньне народных мас, якое рэзка ўзмацнілася з прыходам замежнага капіталу, прывяло ў 1911 годзе да рэволюцыйнага выбуху ў Кітаі. Імпэратар быў скінуты, і Кітай абвешчаны рэспублікай.

Але ў гэтай рэспубліцы замест аднаго ўраду атрымалася шмат паасобных фэўдальных урадаў у асобе генэрал-губэрнатараў (дзюдзюнаў), якія вядуць вайну адзін з адным. Адначасна з барацьбой супроць фэўдалізму працоўным масам Кітаю даводзіцца весьці барацьбу з замежным прыгнечаньнем. Пасьля сусьветнай вайны і Кастрычнікавай рэволюцыі зьнікла царская Расія з Кітаю, страціла свае арэндныя землі ў Кітаі Германія, але засталіся іншыя імпэрыялісты. У Манчжурыі гаспадарыць Японія, у Сярэднім Кітаі і на поўдні, у Гонконга—Англія; у Паўднёва-заходнім Кітаі, які мяжуецца з Інда-Кітайскімі ўладаньнямі Францыі, гаспадарыць—Францыя. Кожная з гэтых дзяржаў у „сфэры свайго ўплыву“ праводзіць чыгункі, захоплівае капальні і прамысловыя прадпрыемствы. Амэрыка, якая прышла пазьней, ня мае пэўнай „сфэры ўплыву“, але прасякае ўсюды, праводзячы політыку „адчыненых дзьвярэй“ і з посьпехам выціскае сваіх конкурэнтаў.

На чале нацыянальна-вызваленчага руху Кітаю была раней кітайская буржуазія. Але рух гэты хутка набыў характар барацьбы сялян за зямлю і пролетарыята за палепшаньне свайго становішча. Кітайскія сяляне пакутуюць ад надзвычайнага малазямельля, а ў той самы час кітайскія памешчыкі і вясковыя ліхвяры (ростовщики) рабуюць сялян, скупаючы іх землі і ствараючы сабе буйныя маёнткі. Становішча фабрычных рабочых жудаснае. Заробная плата ніжэй пражыцьцёвага мінімуму, рабочы дзень надзвычайна вялікі. Падаткі не пад сілу. Усё гэта ўзьнімае рэволюцыйны настрой мас. Буржуазія спалохалася таго рэволюцыйнага характару, які набыў рух, і перакінулася на бок фэўдалаў і імпэрыялістаў. Пры іх дапамозе яна па зьверску расправілася з забастоўкай у Шанхаі, з паўстаньнем у Кантоне і іншых гарадох.

У сучасны момант пролетарыят парваў з буржуазіяй і пачаў на чале паставўшых сялянскіх мас пад кіраўніцтвам Компартыі барацьбу супроць усіх эксплёататараў сваіх і замежных. Паўднёвы і Сярэдні Кітай усё больш і больш пакрываюцца сеткаю рэволюцыйных саветаў. У чэрвені 1930 г. у Шанхаі сабраўся першы зьезд дэлегатаў ад рэволюцыйных саветаў Кітаю.

Замежны гандаль. Замежны гандаль для краіны з 400-мільённым насельніцтвам нязначны. Але ён вельмі ўзьняўся пасьля вайны. Балянс увесь час застаецца пасыўным.

Вывозіцца сыравіна (шоўк, бабы, земляныя, ці кітайскія, арэхі, расьлінныя маслы, бавоўна, чай, скуры, волава, вугаль). Прывозяцца рыс, тэкстыльныя вырабы, мэталі і машыны, газа.

У таварапамене з Кітаем на першым месцы стаіць Англія з захопленым ёй у Кітая Гонконгам, на другім—Японія.

Па таварапамену з СССР Кітай стаіць на другім месцы сярод азіяцкіх краін (на першым—Японія). Галоўная рэч вывазу з уласна Кітаю ў СССР—чай, з заходняга Кітаю—продукты жывёлагадоўлі (шэрсьць, скуры, жывёла) і бавоўна. Галоўная рэч прывозу з СССР—тканіны.

**Табл. 1. Плошча і насельніцтва земнай кулі, частак сьвету і паасобных краін (даныя 1925 г.).**

| Краіны | Плошча (у тыс. *км*²) | Насельніцтва (у тыс.) | Колькасьць жыхароў на *км*² |
|---|---|---|---|
| Увесь сьвет: сухазем'е | 149800 | 1865000 | 12 |
| вада | 360200 | — | — |
| Разам | 510000 | — | — |
| Эўропа | 10029 | 469000 | 47 |
| Азія | 43865 | 1.027.000 | 23 |
| Афрыка | 30312 | 135000 | 4,5 |
| Паўночная Амэрыка | 24476 | 154000 | 6,3 |
| Паўднёвая Амэрыка | 18155 | 70000 | 3,9 |
| Аўстралія і Акіянія | 8973 | 8800 | 1 |
| Антарктыка | 14000 | 1 | 0 |
| СССР (1926) | 21350 | 146000 | 6,8 |
| Вялікабрытанія | 244 | 45100 | 184 |
| Колёніяльныя ўладаньні Вялікабрытаніі | 36000 | 325000 | 12 |
| У тым ліку | | | |
| Індыя | 4900 | 325000 | 66 |
| Канада | 9650 | 9800 | 1 |
| Аўстралійская фэдэрацыя | 7700 | 6000 | 0,8 |
| Паўднёва-афрыканскі саюз | 1225 | 6900 | 5,6 |
| Нямеччына | 471 | 63300 | 134 |
| Францыя | 551 | 40250 | 73 |
| Французскія колёніі | 12050 | 59300 | 4,9 |
| Італія | 310 | 39400 | 127 |
| Італьянскія колёніі | 2073 | 1900 | 0,9 |
| Польшча | 387 | 28900 | 75 |
| Фінляндыя | 388 | 3500 | 9 |
| Эстонія | 48 | 1115 | 23 |
| Латвія | 66 | 1850 | 28 |
| Літва | 52 | 2200 | 42 |
| Румынія | 294 | 17300 | 59 |
| ПАЗШ | 7997 | 114310 | 14 |
| Колёніі Злуч. штатаў | 1845 | 13265 | 7,2 |
| Бразілія | 8522 | 32800 | 3,9 |
| Аргентына | 2790 | 10090 | 3,6 |
| Кітай (бяз Тыбэту) | 11080 | 445000 | 40 |
| Японія | 836 | 59700 | 154 |
| Японскія колёніі | 298 | 24800 | 83 |

*Курс ведет И. М. БОБЧЕНОК*

## ЗАДАНИЕ № 7

### ПО РУССКОМУ ЯЗЫКУ,

(*рассчитанное на 15 часов*).

**ПОСОБИЕ:**

*С. Бархударов и В. Птицын*—„Русский язык".

В это задание входит весь материал седьмого урока с контрольной работой № 7 (стр. 177—199).

Все три отдела урока предлагаются для проработки с выполнением в меру необходимости письменных упражнений (задач) в рабочих тетрадях, которые для проверки в Комвуз не присылаются.

Для проверки необходимо прислать контрольную работу № 7.

### УРОК СЕДЬМОЙ.

1. Прочитать внимательно „Вступительные замечания" (стр. 177-178).
2. Сначала выполнить работы, относящиеся к 1-му отделу, затем ко второму и третьему.
3. Только после этого приступить к выполнению контрольной работы.

### ОТДЕЛ I.

#### Синтаксис.

| Темы и материал к ним. | Формы проработки. |
|---|---|
| § 82. Косвенная речь.<br>Задачи: № 221, 222, 223. | Материал, относящийся ко всем параграфам задания, проработать так, как это требуется пособием. |
| § 83. Причастные обороты.<br>Задачи: 224, 225, 226. | Если окажется, что изложенное в том или другом параграфе уже известно товарищу, проходящему заочное обучение, то рекомендуется задач такого параграфа письменно не выполнять, а проработать их устно. |
| § 84. Согласование причастий.<br>Задачи: 227, 228. | |
| § 85. Условия обособления причастных оборотов.<br>Задачи: 229, 230, 231. | |

## ОТДЕЛ II.

### Морфология.

§ 86. Наречия.
Задачи: 233, 234 и 235.

§ 87. Правописание наречий с приставками в отличие от склоняемых слов с предлогами.
Задача № 236.

§ 88. Ни и Не с наречиями.
Задача 237.

§ 89. Деепричастия.
Задача № 238.

## ОТДЕЛ III.

### Работа над книгой.

| | |
|---|---|
| § 90. Составление тезисов. Задачи: 239, 240, 241. § 91. Развернутые тезисы: Задачи: 243, 244. | Выполнить задачи, относящиеся к этому отделу. |

### Повторительные вопросы.

| | |
|---|---|
| I. О косвенной речи. II. Причастные обороты. III. О наречиях. IV. О деепричастиях. V. О составлении тезисов. | Продумать и устно сформулировать ответы на все вопросы. |

### Контрольная работа № 7.

| | |
|---|---|
| Задачи: 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8. | Выполнить контрольную работу и прислать ее в Комвуз для проверки. |

*Курс ведет И. М. БОБЧЕНОК.*

## Задание № 8

### ПО РУССКОМУ ЯЗЫКУ,

*(рассчитанное на 15 часов).*

ПОСОБИЕ:

*С. Бархударов и В. Птицын*—„Русский язык".

В это задание входит весь материал восьмого урока с контрольной работой № 8 (стр. 201—217).

Все три отдела этого урока предлагаются для проработки с выполнением в меру необходимости письменных упражнений (задач) в рабочих тетрадях, которые для проверки в Комвуз не присылаются.

Для проверки необходимо прислать контрольную работу № 8.

## УРОК ВОСЬМОЙ.

1. Прочитать внимательно „Вступительные замечания" (стр. 201-202).
2. Сначала выполнить работы, относящиеся к 1-му отделу, затем ко 2-му и 3-му.
3. Только после этого приступить к выполнению контрольной работы.

### ОТДЕЛ I.

**Синтаксис.**

| Темы и материал к ним | Формы проработки |
|---|---|
| § 92. Деепричастные обороты. Задачи: 245, 246, 247, 248, 249.<br>§ 93. Условия употребления деепричастий. Задача № 250. | Материал, относящийся ко всем параграфам задания, проработать так, как это требуется пособием.<br>Если окажется, что изложенное в том или другом параграфе уже известно товарищу, проходящему заочное обучение, то рекомендуется задач такого параграфа письменно не выполнять, а проработать их устно. |

### ОТДЕЛ II.

**Морфология.**

| | |
|---|---|
| § 94. Слитное и раздельное письмо отрицания Не. Задачи: 251, 252.<br>§ 95. Употребление частицы Ни.<br>I. Ни в роли союза при перечислении.<br>II. Ни как усилительно-отрицательная частица.<br>III. Ни как усилительно-утвердительная частица.<br>Задачи: 253 и 254. | |

## ОТДЕЛ III.

### Работа над книгой.

| | |
|---|---|
| § 96. Работа по нескольким пособиям.<br>Задачи: 255 и 256. | |

### Повторительные вопросы.

| | |
|---|---|
| 1. О деепричастных оборотах.<br>2. О частицах Не и Ни.<br>3. О работе по нескольким пособиям. | Продумать и устно сформулировать ответы на все вопросы. |

### Контрольная работа № 8.

| | |
|---|---|
| Задачи: 1, 2, 3, 4 и 5. | Выполнить контрольную работу и прислать ее в Комвуз для проверки. |

Рэдколегія: Рычкаў, Немец, Модэль, Макоўскі

# ЗЬМЕСТ.

